# «Гэты цудоўны край — зямля чэхаў...»

ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ
З ЧЭШСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ XIX СТАГОДДЗЯ



БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ

# *«Гэты цудоўны край — зямля чэхаў...»*

## ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ З ЧЭШСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ XIX СТАГОДДЗЯ

ВУЧЭБНЫ ДАПАМОЖНІК
ДЛЯ СТУДЭНТАЎ
ФІЛАЛАГІЧНАГА ФАКУЛЬТЭТА

Мінск
«Выдавецкі цэнтр БДУ»
2009

УДК 821.162.3.09«18»(075.8)
ББК 83.3(4Чех)я73
Г98

Складальнік, перакладчык з чэшскай мовы і аўтар каментарыяў
Н. Б. Рашэтнікава

Рэкамендавана
Вучоным саветам філалагічнага факультэта
Беларускага дзяржаўнага універсітэта
24 снежня 2008 г., пратакол № 6

Рэцэнзенты:
д-р філал. навук, праф. *Л. Д. Сінькова;*
д-р філал. навук, праф. *Г. К. Тычко*

**«Гэты** цудоўны край — зямля чэхаў...». Выбраныя творы з чэшскай літаратуры XIX стагоддзя : вучэб. дапам. / склад., пер. з чэш. мовы і аўт. камент. Н. Б. Рашэтнікава. — Мінск : Выд. цэнтр БДУ, 2009. — 174 с.
Г98
ISBN 978-985-476-680-5.

Вучэбны дапаможнік утрымлівае сістэматызаваныя звесткі пра чэшскую літаратуру XIX ст.: аглядавы артыкул, біяграфіі пісьменнікаў, пералік іх асноўных твораў, а таксама ўключае творы чэшскай літаратуры ў перакладзе на беларускую мову, якія ўваходзяць у «залаты» фонд сусветнай літаратуры.

Адрасуецца выкладчыкам і студэнтам філалагічных факультэтаў, а таксама ўсім, хто цікавіцца прыгожым пісьменствам чэшскага народа.

**УДК 821.162.3.09«18»(075.8)**
**ББК 83.3(4Чех)я73**

**ISBN 978-985-476-680-5**

# ПРАДМОВА

Вучэбны дапаможнік па чэшскай літаратуры XIX стагоддзя для студэнтаў-філолагаў створаны згодна з праграмай курса "Гісторыя чэшскай літаратуры". Вучэбны дапаможнік змяшчае асноўныя творы чэшскай літаратуры XIX стагоддзя, якое даследчыкі справядліва называюць "залатым".

Дапаможнік складаецца з хрэстаматыйнай часткі – мастацкіх тэкстаў, артыкула, дзе чэшская літаратура разглядаецца як самабытнае нацыянальнае мастацкае слова на фоне культурна-гістарычнага працэсу, а таксама навуковага каментарыя. Перад кожным тэкстам даюцца асноўныя звесткі пра жыццёвы і творчы шлях пісьменнікаў, вызначаецца месца канкрэтнага твора ў творчасці мастака слова.

Адбіраючы тэксты для перакладу, аўтар-складальнік імкнулася паказаць жанравую разнастайнасць прозы ў чэшскай літаратуры XIX стагоддзя, вось чаму ў кнізе прадстаўлены легенды і паданні, казкі, апавяданні і раздзелы з аповесці. П'еса Ёзафа Каетана Тыла "Страконіцкі дудар" – найвышэйшае дасягненне чэшскай драматургіі XIX стагоддзя.

Тэматычна творы блізкія, бо чэшская літаратура XIX стагоддзя ўвабрала ў сябе ідэі нацыянальнага адраджэння – вызваленне Айчыны, свабода і еднасць народа, росквіт роднай мовы, развіццё нацыянальнай культуры.

Значэнне мастацкіх шэдэўраў, створаных пісьменнікамі ў XIX стагоддзі, у гісторыі чэшскага прыгожага пісьменства нельга пераацаніць.

Прыканцы вучэбнага дапаможніка змешчаны каментарый да твораў, уключаных у кнігу.

# РАЗВІЦЦЁ ЧЭШСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ Ў XIX СТАГОДДЗІ

У XIX стагоддзі прыгожае пісьменства чэшскага народа прайшло няпросты шлях развіцця і, як засведчыў чэшскі літаратуразнаўца Алеш Гаман, чэшская літаратура пазбавілася правінцыялізму і стала ўдзельнічаць у еўрапейскім літаратурным працэсе як паўнавартасны партнёр [1, 347].

За адносна невялікі прамежак часу былі створаны мастацкія шэдэўры, якія ўвайшлі ў "залаты фонд" сусветнай літаратуры, а мастакі слова сталі для сваіх суайчыннікаў больш, чым пісьменнікамі, яны – выразнікі думак і спадзяванняў народа.

Новы перыяд у развіцці нацыянальнай культуры і літаратуры ўвайшоў у гісторыю чэшскага народа як нацыянальнае адраджэнне. Існуе некалькі перыядызацый літаратурнага працэсу ў Чэхіі ў XIX стагоддзі, але адной з першых была перыядызацыя, дадзеная Т.Г. Масарыкам у кнізе "Чэшскае пытанне" [1, 23]:

– ад паловы XVIII стагоддзя да 1811 года;
– ад 1811 года да 1848;
– ад 1848 да 1880;
– пасля 1880 года.

Пачатак эпохі нацыянальнага адраджэння быў непасрэдна звязаны з крызісам у феадальнай эканоміцы, а таксама з глыбіннымі зрухамі, што адбываліся ў грамадска-гістарычным і духоўным развіцці Еўропы [2, 132]. Менавіта ў гэты час (другая палова XVIII стагоддзя) у Чэхіі была дадзена свабода веравызнанню і знішчана прыгоннае права, хоць паншчына захоўвалася да 1848 года.

Характэрнай асаблівасцю першага этапа нацыянальнага адраджэння было стварэнне асветніцкіх і патрыятычных таварыстваў, куды ўваходзілі навукоўцы, духавенства і дваранства. Так у Пражскім універсітэце было заснавана навуковае таварыства, якое падзялялася на два лагеры, прыродазнаўчы і гуманітарны.

Пазней, атрымаўшы падтрымку ў караля, яно атрымала назву "Каралеўскае чэшскае таварыства навук" (1771) і стала падмуркам для Акадэміі навук. Моваю навукі былі нямецкая і лацінская мовы. Вось чаму Ёзаф Даброўскі (1753–1829), аўтар нямецка-чэшскага слоўніка і граматыкі чэшскай літаратурнай мовы стаў вядучым дзеячам чэшскай нацыянальнай культуры гэтага перыяду. Навуковыя інтарэсы Даброўскага былі надзвычай шырокімі. Яго цікавіла стараславянская мова, і ён з'явіўся аўтарам вялікай працы "Асновы стараславянскай мовы" (1822). Ёзаф Даброўскі захапіўся літаратуразнаўствам і распрацаваў тэорыю чэшскага вершавання, а першай яго навуковай працай была "Гісторыя чэшскага маўлення і літаратуры" (1792). З 1802 года ён пачаў выдаваць нямецка-чэшскі слоўнік, а ў 1809 годзе выдаў граматыку, якая легла ў аснову наступных граматык, як чэшскай, так і іншых славянскіх моў. У Швецыі Даброўскі знайшоў помнікі чэшскай славеснасці, пасля глыбокага азнаямлення з якімі выдаў "Гісторыю чэшскай мовы ў старажытнай літаратуры" (1792), дзе высока ацаніў навуковую і патрыятычную дзейнасць Яна Гуса, Пятра

Хельчыцкага і Яна Амоса Каменскага. На думку даследчыкаў, Ёзаф Даброўскі паклаў пачатак сістэматычнаму вывучэнню роднай мовы і літаратуры.

У гэты перыяд актыўна вялася дыскусія пра лёс народа, мовы, нацыянальнай культуры. Чэшская мова паступова пашырала арэол свайго ўжывання. Так прыканцы XVIII стагоддзя яна стала мовай паэзіі. Вялікая роля ў развіцці чэшскай паэзіі належала Вацлаву Таму (1768–1816) і Антаніну Пухмайеру (1709–1820). Пухмайер стварыў сваю школу, арганізаваў выхад з друку паэтычных альманахаў.

Вядучай ідэяй наступнага этапа культурнага жыцця эпохі нацыянальнага адраджэння была думка пра нацыянальнае адзінства народа – этнічнае, моўнае, гістарычнае, духоўнае. У 20–40-я гады XIX стагоддзя з'явіліся вялікія навуковыя працы, якія садзейнічалі росту нацыянальнай самасвядомасці чэшскага народа. Гэта "Чэшска-нямецкі слоўнік" (1834–1839) Ёзафа Юнгмана, яго ж "Гісторыя чэшскай літаратуры" (1825), "Славянскія народныя песні", выдадзеныя ў трох тамах (1822, 1825, 1827) Францішкам Ладзіславам Чэлакоўскім, "Гісторыя чэшскага народа ў Чэхіі і Маравіі" (1836–1876) Францішка Палацкага.

Адной з найбольш значных асоб чэшскага нацыянальнага адраджэння гэтага перыяду быў Ёзаф Юнгман, адсюль пакаленне дзеячаў культуры гэтай пары называюць юнгманаўскім. У сваіх праграмных працах ён сцвярджаў думку пра нацыянальную мову як аснову нацыянальнай культуры, патрабаваў ад мастакоў слова высокай якасці мастацкай творчасці, перакладаў лепшыя творы сусветнай літаратуры на чэшскую мову.

Характэрнай з'явай гэтага перыяду стала цікавасць да фальклору. Зварот да вуснай народнай творчасці ўзбагаціў паэзію тэмамі і жанрамі. Так побач з одамі з'явіліся лірычныя песні і балады. У атмасферы цікавасці да старажытнасці і фальклору ўзніклі Краледворскі і Зеленадворскі рукапісы, аўтарамі якіх былі вядомыя філолагі і паэты Вацлаў Ганка (1791–1861) і Ёзаф Лінда (1789–1834). Рукапісы атрымалі шырокую вядомасць у свеце.

Першым чэшскім паэтам, які стварыў буйны мастацкі твор быў славак Ян Колар (1793–1852). Яго паэма "Дачка Славы" (1824–1832) складалася з некалькіх сотняў санетаў.

Першы паэтычны зборнік Яна Колара "Вершы" выйшаў у Празе ў 1821 годзе. Раздзелы зборніка – "Санеты", "Элегіі", "Змешаныя вершы", "Афарызмы" – сведчылі пра паэтычнае майстэрства Колара, які таленавіта тварыў у розных жанрах. Зборнік "Вершы" прадвызначыў з'яўленне "Дачкі Славы", твора, які, нягледзячы на сваю жанравую прыроду (складаўся з санетаў), з'яўляецца ліра-эпічнай паэмай. У цэнтры твора думка пра нацыянальную незалежнасць і свабоду.

У гэты перыяд вызначылася цікавасць да вуснай народнай творчасці, асабліва да песеннага фальклору. Народная паэзія ўспрымалася мастакамі слова як выражэнне нацыянальнага духа і характара народа, як самабытны скарб, які неабходна збіраць і вывучаць. Невыпадкова чэшскія паэты былі фальклярыстамі.

Францішак Ладзіслаў Чэлакоўскі (1793–1852) збіраў народныя песні, апрацоўваў іх, перакладаў песенны фальклор іншых народаў, бачачы ў песнях нацыянальную своеасаблівасць, Ф.Л. Чэлакоўскі выдаў у трох тамах "Славянскія народныя песні" (1822, 1825, 1827). Неабходна адзначыць, што ў гэты час выходзілі і іншыя зборнікі фальклорных песень, напрыклад, у 1825 годзе выйшла кніга фалькларыста Яна з Рытэрсберка (1780–1841) "Чэшскія народныя песні".

Чэлакоўскі не абмяжоўваўся толькі зборам песень, шмат гадоў ён збіраў народныя прыказкі і прымаўкі, якія выдаў у 1851 годзе.

30–40-я гады – гэта ўзлёт рамантызму ў чэшскай літаратуры, дзе на творчым небасхіле з'явілася плеяда надзвычай яркіх талентаў, такіх, як Ёзаф Каетан Тыл, Карэл Ярамір Эрбэн, Бажэна Немцава, Карэл Гаўлічак Бароўскі і іншыя. Ідэолагам рамантызму стаў пісьменнік і літаратуразнаўца Карэл Сабіна (1813–1877).

Адзін з найбольш яркіх прадстаўнікоў маладога пакалення творцаў гэтага часу –Ёзаф Каетан Тыл (1808–1856), паэт, празаік, драматург, рэжысёр, акцёр, кіраўнік тэатра. Ён стварыў у чэшскай літаратуры жанры апавядання і аповесці, заклаў асновы чэшскага нацыянальнага тэатра. Асаблівым чэшскім каларытам вызначаюцца п'есы-казкі "Страконіцкі дудар" (1847), "Трызненне Іржыка" (1849), "Лясная фея" (1831).

Канцэпцыя рамантызму атрымала найбольш поўнае выяўленне у літаратурна-крытычных артыкулах Карэла Сабіны. Сабіна патрабаваў ад творцаў узняцца над пасрэднасцю і паўсядзённасцю і сілаю свайго таленту паказваць шлях да высокіх мэт, ідэалаў.

Сябрам і паплечнікам Карэла Сабіны быў адзін з найбольш яркіх рамантыкаў гэтага перыяду – Карэл Гінэк Маха (1810–1836). Літаратурная творчасць Махі працягвалася нядоўга, але ён адкрыў для чэшскай літаратуры новую праблематыку і новыя формы. Паэзія К.Г. Махі прасякнута пошукам ісціны, ідэалу, адчуваннем дысгармоніі быцця. Паэт напружана шукаў адказы на спрадвечныя пытанні, такія як бясконцасць космасу і месца чалавека ў ім, пра дух і матэрыю, пра сілы, што кіруюць светам, народам і чалавекам, пра прычыны варожасці і канфліктаў паміж людзьмі.

Вяршыня творчасці Карэла Гінэка Махі – рамантычная паэма "Май" (1836), дзе прырода кантрастуе з трагедыйнасцю чалавечых узаемаадносін, а твор прасякнуты марай пра свабоду радзімы, пра разняволенне чалавека.

Карэлу Гаўлічку Бароўскаму і Бажэне Немцавай было дадзена жыць і тварыць у пераломны перыяд. Яны распачалі творчую дзейнасць перад рэвалюцыйнымі падзеямі 1848 года, а працягвалі ў складаны час рэакцыі.

Карэл Гаўлічак Бароўскі (1821–1856) – выдатны паэт, публіцыст, адзін з найбольш яркіх чэшскіх сатырыкаў. У сваіх творах ён выкрываў самую сутнасць тыраніі, палітыку нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту. Акрамя артыкулаў, у якіх звяртаўся да самых балючых праблем, Карэл Гаўлічак Бароўскі пісаў дасціпныя, афарыстычныя эпіграмы, ствараў паэмы востра-сатырычнага гучання – "Цірольскія элегіі" (1852), "Кароль Лір" (1854),

"Хрышчэнне святога Уладзіміра" (1848–1854). Шырокую вядомасць мелі яго "Карціны з Расіі" (1843–46), якія друкаваліся ў часопісах.

Выдатная пісьменніца Бажэна Немцава (1820–1862) у 40-х гадах XIX стагоддзя ярка заявіла пра сябе нарысамі, такімі як "Карціны з ваколіц Дамажліц" (1845–1847), "З Дамажліц" (1847), "Лісты з Францішкавых Лазняў" (1846).

Вяршыняю патрыятычнага ўздыму народа з'явілася рэвалюцыя 1848–1849 гадоў. Асноўныя патрабаванні паўстанцаў былі скіраваны на адмену паншчыны і на набыццё Чэхіяй аўтаноміі ў Аўстрыйскай імперыі. Напружаная палітычная барацьба доўжылася амаль год. Да вясны 1849 года ўрад сілаю задушыў патрыятычны рух, была аб'яўлена новая канстытуцыя, дзе не былі ўлічаны патрабаванні народа. Напярэдадні парламент прыняў закон аб адмене паншчыны. Актыўны ўдзел у рэвалюцыйных падзеях узялі Ёзаф Каетан Тыл, Карэл Гаўлічак Бароўскі, Бажэна Немцава.

Тры галоўныя тэмы хвалююць літаратуру гэтага часу: лёс нацыі, маральнае здароўе народа, сацыяльная няроўнасць і неад'емнае ад яе пытанне пра справядлівыя грамадскія ўзаемаадносіны [2, 406].

У прыгожым пісьменстве вызначыўся пераход ад рамантызму да рэалізму, вялікая ўвага надавалася выхаваўчай ролі літаратуры, ствараліся ўзоры маральных паводзін. Менавіта ўзорным з'яўляецца жыццё бабулі – галоўнай гераіні аповесці "Бабуля" (1855) Бажэны Немцавай. Пісьменніца стварыла сапраўдны народны эпас, у якім узняла лёсавызначальныя для нацыі праблемы. У творчасці Карэла Яраміра Эрбэна сцвярджалася непахіснасць маральных нормаў і адказнасць чалавека за іх парушэнне (паэтычны зборнік "Букет" (1853).

Грамадскі і патрыятычны ўздым у 60-я гады XIX стагоддзя не мог не адбіцца ў культуры народа. Ствараюцца ліітаратурныя таварыствы, група таленавітай моладзі аб'ядналася вакол літаратурнага альманаха "Май" (1858).

Цэнтральнай постаццю чэшскага літаратурнага жыцця, пачынаючы з 50–60-х гадоў становіцца Ян Нэруда (1834–1891), паэт, празаік, журналіст. Нэруда доўгі час працаваў у газеце "Народныя лісты", дзе змяшчаў эсэ, замалёўкі, нарысы, фельетоны. У сваіх апавяданнях і аповесцях "Арабескі" (1864) і "Аповесці маластранскія" (1878) Ян Нэруда звярнуўся да амаль не кранутай у чэшскай літаратуры тэмы – тэмы горада. Новы этап у чэшскай паэзіі – паэтычныя зборнікі Нэруды, прычым кожны са зборнікаў – гэта крок у яго паэтычным асэнсаванні быцця. Першы зборнік "Кветкі на могілках" выйшаў з друку ў 1858 годзе, а потым адпаведна "Кніга вершаў" (1868), "Касмічныя песні" (1878), "Балады і рамансы" (1883), "Простыя матывы" (1883), "Песні Велікоднай пятніцы" (1896).

Да пакалення "маёўцаў" (групы літаратараў, аб'яднаных вакол альманаха "Май") можна аднесці таленавітага паэта, празаіка, журналіста, паплечніка Яна Нэруды Віцезслава Галека (1835–1874). Вершы, змешчаныя ў паэтычных зборніках Галека "Вечаровыя песні" (1859), "Казкі нашай вёскі" (1874) і іншых прасякнуты радасцю жыцця, адчуваннем прыгажосці навакольнага свету.

Акрамя лірычных вершаў В. Галек пісаў паэмы, гістарычныя трагедыі, апавяданні і аповесці. Паэт асабліва вылучаў у сваёй творчасці паэмы байранаўскага і махаўскага тыпу. Адзін з яго першых вершаў "Альфрэд" (1858) быў напісаны пад уплывам паэзіі К.Г. Махі. Пад уплывам творчасці Байрана напісаны паэмы "Мейрыма і Хусейн" (1859), "Гоар" (1864).

Яркая постаць у чэшскай літаратуры другой паловы XIX стагоддзя – Караліна Светла (1830–1899). Пісьменніца распачала сваю творчую дзейнасць рамантычнымі апавяданнямі і аповесцямі, паступова пераходзячы да жанру рамана. Найбольш вядомыя творы Караліны Светлай – "Першая чэшка" (1861), "Вясковы раман" (1867), "Крыж ля ручая" (1868), "Францiна" (1870).

Канец 60-х – пачатак 70-х гадоў XIX стагоддзя – новы этап у развіцці чэшскай літаратуры і культуры. Утварэнне Аўстра-Венгерскай імперыі (1867) выклікала хваляванні ў чэшскім грамадстве. Кожная значная падзея ў культурным жыцці народа (закладка будынка Нацыянальнага тэатра (1868), святкаванне 500-годдзя Яна Гуса (1871) вылівалася ў масавыя маніфестацыі. У 1882 годзе з Пражскага нямецка-чэшскага універсітэта вылучыўся чэшскі універсітэт, які стаў самастойнай вышэйшай навучальнай установай. А ў 1881 адкрыўся Нацыянальны тэатр. У літаратуру прыйшло маладшае пакаленне "маёўцаў", лідэрам якога стаў Святаплук Чэх (1846–1908), выдатны паэт і празаік. Паплечнікам Чэха ў літаратуры быў яркі і арыгінальны паэт Яраслаў Врхліцкі (1853–1912), які не толькі выдаў больш за 85 паэтычных зборнікаў, але і адкрыў чэхам паэзію В. Гюго, Ш. Бадлера, С. Малармэ, Дантэ Аліг'еры, Ф. Петраркі і інш. Ён пераклаў "Фауста" Ё.В. Гётэ, "Дзядоў" А. Міцкевіча, вершы У. Уітмена і шмат іншых выдатных твораў сусветнай літаратуры.

Паэзія Я. Врхліцкага тэматычна блізкая творам Юліуса Зэйера (1841–1901), дзе гучыць туга па ідэальных чалавечых узаемаадносінах. Юліус Зэйер – паэт, празаік, перакладчык – звяртаўся да старажытнай міфалогіі, даследаваў культуру Усхода. Таямнічыя і нават містычныя падзеі, характэрныя для творчасці Юліуса Зэйера, можна назіраць і ў творчасці Якуба Арбеса (1840–1914). Арбес распрацаваў у чэшскай літаратуры жанр раманета, які вызначаецца вастрынёй сюжэта. Сярод найбольш вядомых раманетаў Я. Арбеса "Святы Ксаверый" (1871), "Шэравокі дэман" (1873), "Мозг Ньютона" (1877).

Пачынальнікам жанра гістарычнага рамана ў чэшскай літаратуры з'явіўся Алоіс Ірасек (1851–1930). Пісьменнік стварыў шэраг гістарычных раманаў, у якіх адлюстраваліся розныя перыяды гісторыі Чэхіі. Вяршыня яго творчасці – гістарычныя хронікі "Паміж плынямі" (1887–1890), "Супраць усіх" (1893). Сярод твораў малых форм – апрацоўкі нацыянальных міфаў, легенд, паданняў.

Апошнія дзесяцігоддзі XIX стагоддзя ў культурным жыцці Чэхіі вызначаюцца развіццём драматургіі і тэатра. У канцы 80-х – пачатку 90-х гадоў былі напісаны творы, якія ўслед за п'есамі Ёзафа Каетана Тыла ўвайшлі ў залаты фонд нацыянальнай драматургіі. Раней, у 60-я гады, паспяхова развіваўся жанр оперы. Вядомасць атрымалі оперы Бедржыха Сметаны "Брандэрбуржцы ў Чэхіі", "Прададзеная нявеста" (1866). Вялікая заслуга ў развіцці драматургіі належыць Й. Фрычу, В. Галеку, В. Ержабеку, Я. Нэруду, К. Сабіне, Я. Врхліцкаму, Ю. Зэйеру, А. Ірасеку.

Своеасаблівасць літаратурнага працэсу на схіле XIX стагоддзя ў тым, што сталасць рэалістычных тэндэнцый супала з развіццём мадэрнізму [2, 438]. Іх узаемадзеянне вызначыла асаблівасці тых мастацкіх каштоўнасцей у літаратуры, якія будуць створаны ў першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя.

XIX стагоддзе ў чэшскай літаратуры можна з поўным правам назваць “залатым”, таму што не толькі быў закладзены магутны падмурак для далейшага развіцця мастацкай культуры, але і створаны сапраўдныя шэдэўры, у якіх ва ўсёй паўнаце раскрыліся нацыянальнае светабачанне і светабачанне чэшскага народа.

**Літаратура**

1. Haman Aleš. Tevání´o proměně. Česká Literatura devatenacteho stoleti. Praha. 2007.

2. История литератур западных и южных славян. Том II. М., 1997.

# Ёзаф Каетан Тыл
## (1808–1856)

Заснавальнік чэшскай нацыянальнай драматургіі, "бацька" чэшскага тэатра, паэт, празаік, публіцыст

Пісьменнік нарадзіўся ў горадзе Кутна Гора 4 лютага 1808 года. Гімназію скончыў у горадзе Градзец Кралове, дзе выкладаў вядомы чэшскі празаік і драматург В.К. Кліцпер, які быў для маладога Тыла ідэалам патрыёта, пісьменніка, тэатральнага дзеяча.

У 30-я гады XIX стагоддзя з імем Тыла звязваліся наватарскія тэндэнцыі ў развіцці чэшскага прыгожага пісьменства. Пісьменнік і публіцыст рэдагаваў спачатку часопіс "Iindy", а потым "Květy", пазней (у 1848 годзе) "Пражскага пасла" і "Седліцкі навіны" (з 1849 года).

У 1834 годзе ў Празе на Малай Стране Ёзаф Каэтан Тыл стварыў аматарскі тэатр "У Каэтана" (1834–1837), дзе быў драматургам, рэжысёрам і акцёрам. На сцэне тэатра былі пастаўлены п'есы пачынаючага аўтара "Фідлавачка" (1835), "Чэстмір" (1835). Пазней выдатным драматургам былі створаны п'есы "Пражскі фламендр" (1846), "Банкрот" (1848), гістарычныя драмы "Ян Гус" (1848), "Жыжка з Трохава" (1849), п'есы-казкі "Страконіцкі дудар" (1847), "Трызненне Іржыка" (1849), "Упартая жанчына" (1849), "Лясная фея" (1850). Апошняя п'еса драматурга – гістарычная драма "Стары Горад і Мала Страна" (1851).

У 40–50-я гады XIX стагоддзя Ёзаф Каэтан Тыл стварыў шэраг апавяданняў і аповесцяў, сярод якіх "З жыцця бедных" (1841), "Апошні чэх" (1845), "Бедныя людзі" (1849), "Злодзей" (1849) і інш.

## Страконіцкі дудар, або Баляванне лясных німфаў

*Народная казка ў трох дзеях*

АСОБЫ:

Лесана – гаспадыня лясных фей, вядзьмарак і німфаў

Бе́лена | лясныя феі
Кве́тэна
Лупіна
Ярона
Лескава

Росава – вядзьмарка

Дзівука | лясныя німфы
Мінуліца

Калафуна – вясковы музыка

Кордула – яго жонка

Гонзік | іх дзеці
Францік
Качэнка
Лідушка

Шванда – малады дудар

Томаш – стары дудар

Кодзера – Страконіцкі вясковы староста

Шаўлічка – ваяка ў адстаўцы

Трнка – стары палясоўшчык

Даротка – яго дачка

Налейвачык – шынкар

Франак | вясковыя хлопцы
Ваша
Куба
Мацей

Панталеон Воцылка – былы студэнт, цяпер вандруе

Кароль Аленорас – гаспадар незнаёмай краіны

Зуліка – сумная прынцэса, яго дачка

Аламір – герой і яе жаніх

Мікулі – карчмар

Дуліна – афіцыянтка

Гулінары | прыслуга ў краіне Аленорыса
Ваніка
Дворжэнін

Фрэйліны прынцэсы Зулікі. Каралеўскія пажы. Слугі Аламіра. Вясковая моладзь падчас адпачынку. Лясныя феі. Лясныя німфы.

## ДЗЕЯ I

На вёсцы каля шынка паміж службаю і абедам. Дзеці і дзяўчаты прыліплі да вокнаў. Пэўна, скончыліся танцы. Чуваць галасы, воплескі і тупат.

### З'ява I

Шаўлічка. Кодзера выходзіць з шынка.

Шаўлічка: Грымяць, як тысяча куляў. Гэта не адпачынак, а троху весялосці накшталт лётання праз вуліцу.

Кодзера: Ай-яй-яй, мілы дзядзька! І хто ж з цябе зрабіў пустэльніка? Гулянка – гэта найлепшая аптэка, а танец ваяку не заб'е.

Шаўлічка: Знайшлі танец – ліха яго бяры! У ваяра пасля яго не застанецца ног. Толькі каб пры гэтым тых злашчасных дудаў не было.

Кодзера: Дуды? А якая ж была б без іх гулянка?

Шаўлічка: Прыстойную музыку трэба каб мелі, цэлы хор музыкантаў, скрыпкі, трубы, кларнеты…

Кодзера: І што на цябе найшло! Гэтыя навамодныя свісткі можна сабраць у гарадах. Але мы ставім на дуды, гэта паважаная старачэшская музыка.

Шаўлічка: Каб нават мышы паўцякалі.

Кодзера: Не, мяне гэтая музыка дастаткова загартавала!

Шаўлічка: Веру, таму што вы іншых фанфар не чулі, але хто служыў…

Кодзера: Той ведае іншую музыку – ад яе аж зад нямее, веру.

*(З шынка выйшла некалькі чалавек; адны – ахаладзіцца, іншыя – з халадцом і півам; заляцаюцца да дзяўчат.)*

Шаўлічка: У цябе слюнкі пацяклі б, каб ты ведаў сучасную музыку! Яна з табою размаўляе, шэпча, вішчыць, буркае. Нібы маладыя пры месячыку цалуюцца, нібы хлопца вядуць на шыбеніцу – усё ёсць сёння ў музыцы. Ва ўсякім разе яна надрукавана з вялікай літары, і да таго ж такою чэшскаю мовою, што ты і дзесятага слова не зразумееў бы.

### З'ява II

Калафуна са скрыпкаю ў руцэ. Шванда з дудамі. Падышлі.

Калафуна: І што з вамі здарылася, хлопцы? Ці нехта пальнуў у вас, як у вераб'ёў на гаросе, бо глядзіце на голыя сцены? Пайшлі танцаваць, суседзі! Зайграю вам так, каб усё пайшло ў скокі!

Шаўлічка: Ведай, скрыпун, што цябе ніхто не паслухае!

Калафуна: Скрыпун? Хе-хе! Калі б я цябе, Шаўлічка, не ведаў, то падумаў бы, што ў цябе расцяклася жоўць. Я выдатны музыкант!

Шаўлічка: Ты? То прыходзь да нас майстра паслухаць, калі прыедзе аднекуль здалёк. Той будзе граць так, што кроў хутчэй заходзіць па жылах, а слухачы будуць курчыцца.

Кодзера: Але ідзі ты!

Калафуна: Хе-хе, то, пэўна, была прыгожая музыка!

Шаўлічка: Гэта таксама музыка! Менавіта ў гэтым сёння і ёсць мастацтва. Сёння не можна граць на скрыпцы "тыдлідыты", "тыдліты", цяпер павінна гучаць "шрум", "шрум!", так падаюць талеры!

Кодзера: Талеры?

Шаўлічка: Сёння музыкай зарабляюць "брудныя" грошы!

Калафуна: Што робяць?

Шаўлічка: Ліха яго бяры! Смецце. Той музыкант, што ўмее граць па найноўшых нотах, змяце за вечар тысячу!

Шванда *(уздрыгануўшыся)*: Тысячу?

Калафуна: Гэта пракуда!

Шаўлічка: Сапраўдную тысячу. Наш брат гэта ведае, бо мае пры гэтым падмазку!

Кодзера: Але ідзі!

Шаўлічка: Носіць бубны, пульпіты і гэтак далей. Атрымліваецца, што чалавек і на службе і мае прынос. Тысячу, кажу, за вечар!

Шванда: А на чым такі чалавек грае?

Шаўлічка: На чым? Ну, на чым прыйдзецца...

Шванда: На дудах таксама?

Шаўлічка: На дудах – га-га-га, як бы не так!

Кодзера: Чаму? Гэта заўжды шаноўная музыка. Дуды паходзяць з даўніх часоў...

Шаўлічка: З часу караля Голца, калі за грош давалі авечку.

Кодзера: Каб цябе! Было б добра, каб нам з тых часоў засталося нешта большае, чым дуды. Але гэты чэшскі свет перавярнуўся дагары нагамі, танцуе на галаве. І наш народ пачынае на іншую музыку вастрыць вушы. Але пакуль я тут стараста, у нас будуць граць дуды. А што тычыцца горада, то думаю, што і там маглі б дуды задаволіць густ.

Шаўлічка: Ну, з аднаго боку, маеце амаль праўду. Сённяшні свет жадае дзівосаў – каб давалі канцэрт на дрынкачках, то чаму б не выступіць аднойчы з дудамі? Ліха яго бяры! Але ці павінен чалавек умець нешта рабіць?

Калафуна: І што ж з таго? Шванда пра гэта ведае з маленства. Сёння не трэба звяртаць на гэта ўвагу, бо каханне захапіла яго сэрца – хе-хе – і ад таго мае кароткае дыханне.

Шаўлічка: Ах, навошта дурачыць курыцу як мокрага каплуна – га-га! Ну, безумоўна, каханне – гэта галодны страўнік, але – бачыш, мілы дудар, калі б ты нешта ўмеў, то пайшоў бы ў свет і зарабляў грошы – пазней не меў бы з каханнем ніякіх праблем, бо ўсё б зрабілі грошы. Чаму пра гэта не падумаць! Наш брат гэта ведае, бо ўвесь час на вайне!

ПЕСНЯ

Грошы пануюць у свеце,
Дзе волат дукат,
А што можа зрабіць сотка,
То чалавек наўрад.
Патрэбна быць матавілам,
І асліныя вушы несці:

Бо знойдзеш добрае жытло –
Толькі калі будзеш грошы мець.
Калі стары хоча маладую жонку,
То павінен заплаціць,
Калі фурман хоча ездзіць,
То павінен падмасліць.
Служывы! Машуць муж і жонка
Падчас танца.
І гэтая божая перапёлка
Паўтарае: "Гро-о-ошы дайце".
Чыгунка, паравозы,
Крамы, фабрыкі, заводы –
Усё расце нібы з вады,
Згодна новай прыктыцы.
Арандаваць трэба ўмець,
Ведаць свету ніз і верх,
Шчаслівую шахту трэба мець,
Тады мець грошы не будзе грэх.
Калі хочаш паспрабаваць жаночую вернасць,
Калі хочаш праверыць сябра,
Калі хочаш панскую ласку вымераць
Або свецкія фартэлі
Усё знойдзеш, няма забароны,
Веру на кол не павесіш;
Толькі збірайся на кірмаш свету,
І не ідзі без грошай.
Грошы – абцугі свету
Сілаю сваёю здзіўляюць;
Без іх ніколі не даб'ешся мэты
Пра сто гадоў жыць намаўляюць.
Толькі калі пойдзеш з арміяй
З ціхім сэрцам на нябёсы,
То, у гэтым выпадку
Даб'ешся мэты без грошай.

*(Ідзе ў шынок і іншыя за ім. Застаюцца толькі Калафуна і Шванда.)*

Калафуна: Скажы, Шванда, колькі мы з табою будзем тут бадзяцца? Пайшлі, можа, нехта і заплаціць сёння дзесяць гелераў.

Шванда: Ідзі адзін, мне не хапае паветра, у мяне сёння яно *(паказвае на сэрца)*, нібы хоча разарвацца. Ці ты не чуў, што іншыя музыкаю зарабляюць тысячы?

Калафуна: Магчыма так і патрэбна. Пажадай мне гэтага!

Шванда: Я хачу таксама!

Калафуна: Я іду, бо мне гэтага дастаткова. Хе-хе, а то страўнік будзе сварыцца.

Шванда: Я хачу больш! Паловы талеру мне недастаткова, я не магу дзяўчыне нават набыць гарсет.

Калафуна: Ты хацеў бы набыць ёй і каптур, я пра гэта ведаю. Але думаю, што і без гарсету зможаце кахаць адзін аднаго.

Шванда: Можаце! А што мне дапаможа, калі я бачу на стале поўны жбан, а не магу да яго дакрануцца? Даротчын бацька грозіўся, што атрымаю па заду, як заяц.

Калафуна: Гэта ж так на дурачку, што нельга сказаць бацьку дзяўчыны, што не можа хлопец пакласці на стол мяшэчак поўны грошай. Я буду таксама такі ж ёлупень, калі мае кураняты падрастуць.

Шванда: Але ж я ведаю, што зраблю! Я ўжо больш да таго казла не зазірну, а пайду ў свет і зараблю сабе тысячу.

Калафуна: Хе-хе, калі б гэта былі гнілушкі, чаму ж не! Ты б іх змог назбіраць поўныя кішэні.

Шванда: О, калі будзеш смяяцца далей, я пайду! Без Даротки не маю ніякай радасці ў жыцці. Я павінен быў даўно запалкі цягнуць, сёння пераканаюся. Калі нехта зарабляе грошы на тарцы, паспрабую і я на дудзе, – хоць бы адну тысячу зарабіць.

Калафуна: Гэтая праклятая тысяча дасца табе ў знакі. Паглядзі на мяне. Я ніколі не меў нават ломанага граша – хе-хе – і нічога не атрымаў бы, калі б не майстэрства валачыцца: маці дзяўчыны хацела грошай, а я ўзяў яе дачку задарма. Толькі анёльскім цярпеннем.

Шванда: У мяне няма такога ў крыві!

Калафуна: Гэта недахоп.

Шванда: А тым нашым касматым дуды неяк недаспадобы. Чаму я тут? Гайда ў свет – там талеры! Сам займайся тут музыкай у поўным жабрацтве, а я буду зарабляць тысячы.

Калафуна *(услед яму)*: Пачакай хоць бы пару дзён, – заўтра мы запрошаныя да суседзяў!

## З'ява III

Кордула. Гонзік. Францік. Качэнка. Лідушка. Падышлі.

Кордула: Гэй, мужанёк, Калафуна! Што тут?

Калафуна: Ах, гэта ты, мая курачка, і чаму разам з куранятамі?

Дзеці *(акружылі яго і мацаюць кішэні)*: Татачка, ці маеце на булкі?

Гонзік: Я хацеў бы з макам!

Францік: А я пампушку!

Калафуна: Я таксама, малады Калафуна, я таксама, толькі калі іх дастануць з печы, маці троху пазнавата паставіла.

Кордула: Толькі не трэба да нашага жабрацтва дадаваць дурасці!

Калафуна: Ідзі ты. Навошта казаць сёння пра жабрацтва, калі нам так добра? Шкада толькі, што не можам цяпер з табою кінуцца ў скокі. Мне страшэнна хочацца, але павінен д'ябальскі як вол працаваць.

Кордула: Мне таксама страшэнна хочацца, каб ты не адрываў ад мяне вачэй.

Калафуна: Хе-хе!

Кордула: А чаму ты тут лічыш варон? Ці ў шынку няма жывой душы?

Калафуна: Яшчэ як набіта!

Кордула: Так? А чаму ты тут лічыш камароў, замест таго каб сядзець ля цымбалаў і хапаць грошы?

Калафуна: Хе-хе – галубка, мы не маем ніякіх цымбал, хіба ты зоймеш іх месца.

Кордула: У цябе няма ні рукі, ні кішэні, каб крэйцар зачапіўся.

Калафуна: Але ж душачка!

Кордула: Ты ж добра ведаеш, як я на гэтую гулянку спадзявалася.

Калафуна: Я таксама! Я чатырнаццаць дзён цярпеў смагу як пасля трох пляшак.

Кордула: Мне на зіму патрэбна спадніца, Качэнцы – панчохі, Гонзіку – куртка.

Калафуна: Хе-хе!

Кордула: Калі б ты нешта атрымаў, то змог бы набыць цёплыя рукавіцы.

Калафуна: Хе-хе!

Кордула: Але мабыць не! Толькі я змагла б тут навесці парадак, падумаць пра ўсіх, і, можа, устаючы і кладучыся не думала б, што сёння змагу пакласці ў гаршчок.

Калафуна: Хе-хе!

Кордула: Але гэта павінна быць інакш, скажу табе!

Дзеці: Маці злуецца! *(Схаваліся за бацьку.)*

*Калафуна рагоча. Кордула глядзіць на яго і не мае, што сказаць.*

Калафуна: Старая! *(Цягнецца да яе, каб пацалаваць.)*

Кордула: Цяпер паглядзіце на гэтага вар'ята! *(Ледзьве стрымлівае смех.)* Я ж кажу...

Калафуна: Сёння свята, сёння не трэба павучаць, хадзі да мяне, пацалуемся. Хе-хе!

Кордула: Лепей дзецям дай булку!

Калафуна: Дам, дам! Пойдзем да шынка, а потым па хатах – і будзе булак поўная скрыня. Сёння не будзь сквапнай і пайшлі разам, дазволь зайграць для цябе. Хе-хе! Можа цябе нехта запросіць. Ты сёння, як кветка.

Кордула: І гэта размова з мужам! Хутчэй трэба скакаць у ваду, чым збірацца да шлюбу.

Калафуна: Але ж ні адна з вас не скажа гэта перад шлюбам, а толькі праз дзесяць год, калі абрыдне. Вы – вядзьмаркі! *(Вядзе яе ў шынок, дзеці горнуцца за імі.)*

***Змена дэкарацый***

Мясцовасць бліжэй да лесу. Убаку сядзіба палясоўшчыка.

## З'ява IV

Шванда, пазней Даротка.

Шванда *(з'яўляецца і ўважліва разглядае мясцовасць)*: Яна, пэўна, яшчэ дома, стары яе паслухаць музыку не пусціць, а сам будзе ў лесе. *(Стукае ў акно.)* Даротка!

Даротка *(у хаце)*: Хто гэта?

Шванда: Я! Выйдзі на хвілінку!

Даротка *(выходзіць)*:І хто гэта я? Ах, гэта ты? Адкуль ты ўзяўся? Я думала, што сядзіш у шынку і аглядаеш дзяўчат.

Шванда: Супакойся! Я ўцёк з шынка, таму што хачу табе нешта сказаць.

Даротка: Толькі каб гэта было нешта вясёлае. У мяне сёння зусім няма настрою, гэта значыць, што шмат плачу. Дык што?

Шванда: Я ведаю, што зрабіць, каб твой бацька на мяне не кідаўся!

Даротка: Дык што?

Шванда: Каб дазволіў мне заляцацца да цябе.

Даротка: І што зробіш?

Шванда: Я ведаю, дзе дастаць грошы.

Даротка: Ты?

Шванда: Шмат грошай.

Даротка: Многа?

Шванда: Сёння праскочыла іскра ў мазгу, як у перапоўненай лямпе. Даротка, праз пару тыдняў будзем разам!

Даротка: Праз пару тыдняў? Які ж ты далікатны, добры, прыязны чалавек! Мне і без гэтага ўсё мярзотна. Бацька ўвесь час злуецца, а ■ не магу забыцца на цябе, мне здаецца, што буду думаць пра цябе і тады, калі аднойчы працягну ногі. Ну, зрабі хоць нешта.

Шванда: Зраблю, зраблю, Даротка!

## З'ява V

Трнка з рушнікам на плячах. Падышоў.

Трнка: Бач ты! Ці разыдзецеся калі-небудзь? Можа, у час адпачынку дасцё спакойна жыць? Колькі разоў табе казаць, дурны дудар, каб ты да маёй дзяўчыны не лез? Калі гэта будзе доўжыцца і надалей, то атрымаеш жменю бруку пад калені!

Шванда: Ці можа выслухаеце мяне, шаноўны Трнка…

Даротка: Так, татка, хай выкажацца. Цяпер такі момант…

Трнка: Замоўкні! Я нічога б не казаў, калі б не ведаў, што ты ні бацькі, ні маткі не маеш…

Шванда: Але ж я не зваліўся, як жолуд з дуба!

Трнка: Ну, тады не ведаем. Мяне не цікавілі б людскія плёткі, калі б ты меў кавалак хлеба! Калі б ты быў хоць мізэрным парабкам, такім служкаю, як твой айчым, то меў бы акраец хлеба.

Даротка: Але ж ты не хочаш нас паслухаць, татка!

Трнка: Замоўкні! Я ведаю, чаго ты хочаш, – хадайнічаць, апраўдвацца, дамаўляцца, ведаю, што ты хцівая сарока – гр, гр! Толькі б яго атрымаць марыш. А што потым? Будзеце сушыць губу на ветры.

Шванда *(басавіта)*: Сапраўды, гэта выглядае някепска, пан Трнка, як я бачу…

Трнка: Я ўсё ведаю!

Даротка: Нічога не ведаеце, татка! Шванда здабудзе грошы!

Трнка: Грошы?

Шванда: Ага! Глядзіце, як сініца на сала! Я ўпэўнены!

Трнка: Дудар, не рабі з мяне дурня!

Шванда: Ніякіх дурняў, у мяне будуць тысячы!

Даротка: Ці чуеце? У мяне праз два тыдні вяселле. У мяне будзе новая спадніца. Ці не так? І новы гарсет. Ці не праўда?

Трнка: Але ты, звар'яцелая канаплянка! Дзе возьме гэты дудар грошы? Бацькоў – няма, сяброў – няма, зарабляць не ўмее…

Шванда: Хто ведае! Ведайце толькі, што я іду да свету.

Даротка: Да свету?! Шванда, што на цябе найшло? Як жа можа адбыцца праз восем дзён вяселле? Свет вялікі, да гэтага часу не вернешся!

Шванда: У такім разе мусіш пачакаць. Я сваё сэрца таксама зачыню на замок.

Трнка: Але што ты хочаш убачыць у свеце, ты, стрэляны абібок, ты ж нідзе не быў далей за Страконіцы?

Даротка: Так, а што ты там хочаш?

Шванда: Зарабляць грошы.

Трнка: Якім чынам?

Шванда: Граючы на дудах.

Трнка: На дудках – га-га-га-га!

Шванда: Чаму вы смеяцеся? Сёння найбольш грошай зарабляюць музыканты.

Трнка: І ты стракаты дзяцел! Ты насамрэч такі дурны, ці цяпер выдурняешся? Сёння грошы зарабляюць таглецім *(паказвае на лоб)* і таглецім *(паказвае на руку)*, але павінен чалавек мець нешта за душою. Дуда! Чалавек бы звар'яцеў! Можаш ісці, але толькі па шынках, дзе будзеш зарабляць па крэйцару. У іншых месцах з цябе пасмяюцца, ідзі, ідзі! Але каб у мяне і паху твайго не было, пакуль не будзеш мець дзве паўнюткія талеркі на стале, можа нават у хаце пастуха!

Даротка: Татка! Ах, мілы Шванда, няхай свет будзе светам, застанься дома. Я лепш пачакаю, пакуль табе пашанцуе.

Трнка: Кідай яго, хай ідзе, усё роўна ён хутка вернецца і будзе збіраць сухое галлё.

Шванда: Навошта сухое, лепей калючкі, і калі хочаце ведаць, то і яны будуць лагоднейшымі, чым вы, пан Трнка!

Трнка: Ты, натапыраны цецярук!

Шванда: Я пайду, нават калі прыйдзецца жабраваць.

Даротка: Але ж, Швандачка!

Шванда: Маўчы, нічога не кажы! У мяне і так камень на сэрцы, таму што мусім ад цябе…

Даротка: Я не дазволю!

Шванда: Не плач. Прынясу тысячы і тады паглядзім, што будзе мець твой разумны бацька супраць мяне. Ён нават не разумее, на якога зяця яму пашчасціла, не разумее, што мы кахаем адзін другога, але ён мабыць і не ведае, што гэта такое! Цэлы дзень ходзіць каля пнёў і сам стаў пнём! *(Расчулены адыходзіць.)*

Трнка *(парываецца за ім)*: Бач які багацей!

Даротка *(спыняе яго)*: Татка, бойцеся Бога, ён так дрэнна не думае, вы ж яго ведаеце! Язык стрыму не ведае, але ж у яго самае добрае сэрца з усяго мужчынскага насельніцтва.

Трнка: Замоўкні і марш на кухню!

Даротка *(сумная ідзе, потым вяртаецца)*: Татка, рабіце, што хочаце, але ж я без яго не змагу жыць.

Трнка: Замоўкні і ідзі!

Даротка: Так, я пайду! Сёння нарэшце зразумела, што вы не ведаеце, што такое каханне. Або не мелі сапраўднага, або гэта было так даўно, што ўжо і не памятаеце. Але я вам скажу, татка, я сабе не дам рады. Калі Шванда пойдзе ў свет, то я або памру, або палячу за ім. *(Ідзе.)*

Трнка: І ты вымушаны гэта слухаць: "Не, не, татка, не маеце права злавацца!" Як выхаваў, то і маю, што на сэрцы, то і на языку. Навошта гневацца. Заўсёды ведаеш добра, чаго не стае. А сёння ■ быў такім, якім не хацеў быць. Кахай яго, калі сэрцу не загадаеш. Будзеш разумным да таго часу, пакуль не наробіш дурнога. *(Ідзе ў дом.)*

***Змена дэкарацый***

На самым краі лесу. Пасярод вялікае дрэва, на якім сядзенне з дзёрану, за ім разгалістыя кусты.

## З'ява VI

Шванда адзін.

Шванда *(падыходзіць)*: У мяне нібы дзве душы: адна штурхае, каб ішоў, другая, – каб не ішоў. Адна абяцае залатыя горы, другая – пусты мех. *(Садзіцца пад дрэва.)* Што мне рабіць? Зноў у шынок? Хутчэй гэты мех парвецца. Ісці ў свет? Толькі каб ведаць, што змагу зайграць так, каб людзям падабалася! *(Лёг, паклаўшы далонь пад галаву.)* Тады гэта можа адбыцца недзе ў іншым месцы. *(Здалёк чуваць, як гадзіннік адбівае дванаццаць разоў.)* Ужо поўдзень! А мне здаецца, што поўнач. Перад вачыма ўсё круціцца, галава ідзе кругам. *(На вёсцы малы звон адбівае поўдзень. Разыходзяцца ніжнія галіны дрэва, з-за якіх паказваецца Росава.)*

## З'ява VII

Росава ў шэрай намітцы схіляецца да Шванды. Побач лясныя феі.

Шванда: Ах, як я пачуваюся вольна, як тут чароўна! *(У сне.)*

Лясныя феі *(чуюцца пяшчотныя гукі здалёк, пазней набліжаюцца мацней і мацней)*: Палова дня, яшчэ паспеем убачыць дзень! Прыемныя лёгкія пахі загортваюць дух, мы паспеем убачыць белы дзень!

Між тым разышоўся ствол дрэва і з яго выйшла Росава. У гэты момант, разгарнуўшы кусты, з'явіліся лясныя феі ў доўгіх белых сукенках з распушчанымі валасамі і з зялёнымі вяночкамі на галаве

Росава *(ківае ім, і яны ў момант збіраюцца каля яе)*: Хадзіце, хадзіце, мілыя сёстры, я чакала гэтай хвіліны, каб сваё дарагое дзіця вызваліць з напасцяў і людскіх нягод. І так усцешана, што адвяла яго ў спакойнае месца.

Лясная фея: Дык гэта твой сын?

Росава: То той самы, з-за якога мяне галоўная фея цёмнага лесу не хацела бачыць у краіне сваёй, – такую вар'ятку! Таму што сэрца жанчыны ад болю растання з дзіцем ніякага суцяшэння не мае. Я цярпліва зношу выгнанне, бо маю сына! Яго цяжкасці прыносяць мне пакуты, бо на мне ляжыць віна.

Белена: Цудоўнае было немаўля!

Росава: Так, як бутон ружы ляжала маё дзіця ў беднай калысцы, калі у рукі людзей яго аддала. Расло як прут, і я ў кожнае свята каля яго танцавала, хоць мне было так прыкра, што ён так прыгожа квітнее, а я яго не маю права абдымаць. Падрастаў хлапчук у ласцы, і сам паспрабаваў шмат чарадзейства, што сёння выклікае ў мяне клопат. Жыццё бедных я выбрала для яго, бо ведала галоўнае, што беднае, але шчаслівае жыццё лепш, чым дрэннае з прыхамацямі і пакутамі жыццё князя.

Белена: Як ты пра яго клапацілася?

Росава: Ён хацеў ажаніцца са сваёй каханай, але яе бацька гэты саюз не вітае, таму што жаніх надзвычай бедны – нічога не мае, акрамя сваёй вопраткі. Цяпер няшчасны хлопец хоча стаць на ногі і з гэтаю мэтаю бяжыць у свет, каб знайсці золата, а потым за яго здабыць дзяўчыну. Давядзецца вам дапамагчы яму па меры сіл тым, што маеце ад каралевы.

Белена: Кажы, што нам зрабіць?

Росава: Дыхніце яму ў яго дуды свае салодкія спевы, каб гранне яго ўсюды, дзе ён зробіць крок суцяшала смутак, боль і гнеў, а радасныя слёзы цяклі з вачэй, каб кожнае сэрца ад гэтага грання смяялася, а таму залатую адплату яму жадала!

Белена: Мы тваё пажаданне выканаем, і дуды стануць чароўнымі.

Лясныя феі: Гучыце гукі нашых спеваў, *(пры гэтым цягнуць рукі, нібы блаславляюць інструмент)*, і калі хлопец на ім будзе граць, то смутак зменіцца палёгкаю, і дуда весялосць дасць свету!

Белена: Салодка будуць гучаць дуды, пакуль ён будзе іх любіць, а калі ад іх адмовіцца, то чароўная сіла знікне.

Росава: Дзякую, дарагія сяброўкі! Сыну майму будзьце памочніцамі, каб паспеў да жаданай мэты, каб у салодкай любові знайшоў тое, што жадае.

Здалёк б'е гадзіннік

Белена: Поўдзень прайшоў, вернемся назад, на дні нам даецца ўлада на кароткі час.

Лясныя феі: Схаваемся зноў у лясным кутку! Нас чакае час вячэрніх ценяў.

Між тым гучыць пяшчотная музыка. Раптам кусты і дрэвы разыходзяцца і феі ў іх знікаюць.

### З'ява VIII

Калафуна. Шванда.

Калафуна *(цяжка дыхаючы азіраецца, шукае Шванду)*: Няхай я не магу каламайку скончыць, пакуль не падумаю! Глупства яго месца, і я задаволены, што яго не бачу, асабліва пасля абеду. Палясоўшчык хлопцу даў прыкурыць – хе-хе, і хлопец тут жа праліў некалькі расчуленых слёзак. Тут спіць! Што гэта з ім? І пыхціць так, нібы яго кашмары прымушаюць пакутваць. Гэй, Шванда!

Шванда *(ускочыў)*: Што гэта? Хто гэта?

Калафуна: Я гэта! Прадзяры вочы.

Шванда: А куды падзеліся анёлы?

Калафуна: Тут? Хіба на веніках або нейкія вядзьмаркі. Тут здані робяць свае падкопы.

Шванда: Вядзьмаркі? Ці бачыў ты хоць адну?

Калафуна: Я – не, але матка маёй бабы казала, што яе прабабка аднойчы адну спаткала і што…

Шванда: А хто яны?

Калафуна: Гэта пакалечаныя лясныя феі. Калі раптам лясная фея закахаецца ў чалавека, то яе каралева пакарае і зробіць з яе вядзьмарку, а тыя вядзьмаркі з цягам часу перародзяцца ў німфаў. А цяпер пайшлі!

Шванда: Куды?

Калафуна: Ну куды – граць!

Шванда: Я? Граць? У мяне ў галаве цяпер іншае гранне. Я іду ў свет!

Калафуна: Але хлопча, супакойся! Паглядзі на мяне. Я ніколі не высоўваў нос далей, як кажуць, за панскую стадолу, і чаго мне не стае? Здаровы, жонку маю…

Шванда: Так то так! Але я не, я не змагу атрымаць яе без грошай. Грошы зараблю толькі ў свеце.

Калафуна: Заробіш! Але што зробіш? Свет слізкі, як кажуць, – добры выпадак гэта для злодзея. Памятай, што можаш страціць Даротку!

Шванда: Гэта можа быць праўдай. Я буду глядзець толькі тысячы, а яе ўвядуць. Мне таксама гэта здаецца.

Калафуна: Ну, калі табе так здаецца – хе-хе, гэта шчаслівы выпадак. Заставайся дома!

Шванда: Я быў у прыгожым вялікім замку, там было шмат паноў і пані і ўсе ў золаце. Яны хацелі, каб я ім граў.

Калафуна: Хе-хе, калі б там былі нашыя махначы, то я б не здзівіўся!

Шванда: Спачатку я не ведаў, ці змагу асмеліцца…

Калафуна: Каб цябе не высмеялі.

Шванда: …потым дадаю сабе куражу, бяру козліка ў руку… *(робіць усё, пра што гаворыць)*.

Калафуна: І ў пані заклаліся вушы.

Шванда: ...думаю, што хутчэй вока або зуб! *(Фукнуў у мех і пачаў граць. Грае польку.)*

Калафуна: І паны пабеглі, нібы ты ў іх стрэліў, хе-хе! У нас *(прыслухоўваецца да дзівоснай ігры і падскоквае задаволена)* гэта прыймальна, але ў паноў іншыя ласункі, яны любяць: "Тра-ля-ля-ля!" *(спявае і танцуе пад музыку)*. Але, Шванда, супакойся, хопіць, зрабі перапынак, я больш не магу.

Шванда *(перастае граць)*: Што так?

Калафуна: Чалавеча, ці не сядзіць у тваім мяху злы дух? Гэта ўжо занадта! Адчуванне такое, нібы чалавек ляжыць сярод мурашоў.

Шванда: Паны мне пра гэта таксама казалі і сыпалі потым талеры.

Калафуна: Няхай талеры табе сняцца, а трымайся рэчаіснасці. Пайдзі і зайграй на вёсцы. Прыехалі госці – чужынцы, важныя госці – падумай толькі! Добра было б, каб дуду пачулі, таму я цябе і шукаў. Хадзем, і паляціць талер не ў сне.

Шванда: Толькі дзеля цябе, а так трэба, каб нашыя людзі ведалі, што чалавек не вярблюд. Але потым у свет, каб валіліся тысячы. Шванда не з дрэва, каб ты ведаў.

Калафуна: Хадзем толькі, хадзем толькі!

Шванда: Я як малады верабей, што ў гняздзе доўга курчыўся, пакуль адтуль не вылецеў, а потым – Гэй-ху-ху, мне належыць цэлы свет, усюды клубы, усюды харч, усюды дрыжыкі. Я сёння таксама буду дрыжаць! *(Адыходзіць разам з Калафунам)*

***Змена дэкарацый***

Ля сядзібы палясоўшчыка Трнкі.

## З'ява IX

Даротка выходзіць з хаты.

Даротка: Цяпер я магла б, несумненна, пайсці ў вёску паглядзець на танцы, бацькі няма дома, але ж не, каб не казаў, што знарок руку падстаўляю агню, але яго забароны нічога не каштуюць, я Шванду нікому не аддам, не ведаю чаму, але не павінна. Мне здаецца, што без яго не будзе світання, што без яго я б не змагла дыхаць.

## З'ява X

Шванда з дудамі і невялікім заплечнікам. Падышоў.

Шванда: Добрага здароўя, Даротка!

Даротка: Хай прывітае цябе Бог! Я пра ваўка падумала, а воўк тут. Але што гэта значыць? Што нясеш?

Шванда: Ад'язджаю.

Даротка: Куды?

Шванда: Ужо не маю выбару, Даротка! У вялікі свет.

Даротка: Але Шванда, што гэта табе прыйшло ў галаву?

Шванда: Плач, будзем плакаць, пэўна, дуэтам, але дапамагчы табе не магу. Тут я доўга не вытрымаю.

**Даротка**: Я таксама цяпер не вытрымаю.

**Шванда**: Павінна, Даротка!

**Даротка**: У мяне разарвецца сэрца!

**Шванда**: Зацягні добра гарсет. Праз чатыры тыдні ўсё скончыцца. Я зноў буду дома, у кішэні буду мець тысячы і мы будзем ладзіць вяселле.

**Даротка**: А што будзе, калі не заробіш?

**Шванда**: Я? Калаціцца ля мяне будуць, як сёння на вёсцы ля мяне калаціліся, а былі там паны з горада, з падрыхтаваным слыхам. Я адтуль хутка збег, каб не затрымлівалі і каб заўтра ўжо быць у свеце. Цяпер я ведаю, што я змагу.

**Даротка**: А чаму не пытаешся, што я пачну рабіць? Што я буду пакутваць і мучыцца, пра гэта не думаеш? Калі б ты кахаў, хоць напалову таго, як я, то нікуды б адсюль не пайшоў.

**Шванда**: А далей што было б! Я б хадзіў за табою, пакуль не пакрыўся б поўсцю, а ты цвіллю. Я кахаю, але не ведаю, як быць, таму іду ў свет.

### З'ява XI

Калафуна. Падыходзіць.

**Даротка** *(ледзьве яго заўважыла)*: Ах, уявіце сабе, гэта мілы Калафуна…

**Калафуна** *(у вялікім смутку)*: Хоча паляцець, ці не праўда? Кідай яго, ён стаў невыносным. Ён бы нас тут знішчыў.

**Даротка**: Як гэта?

**Калафуна**: Я да гэтага моманту не ведаю, што здарылася з малым! Чарадзейства, сапраўднае чарадзейства, свет звар'яцее. Не хвалюйцеся, Даротка! Праз чатыры тыдні атрымаеце яго з тысячамі. Калі б я ўмеў на скрыпцы тое, што ён умее на дудах, то паляцеў бы за ім, але маю жонку і чатырох карапузаў на шыі.

**Шванда**: Усяго найлепшага, Даротка!

**Даротка**: Не, я не пушчу.

**Калафуна**: Но-но, пацалуйцеся, заплачце, я для вас зайграю *(грае "Бывай, бывай…")*.

**Шванда**: Праз чатыры тыдні я тут!

**Даротка**: Але абавязкова! Ты мог бы вярнуцца і хутчэй.

**Шванда**: Ну, гэта ўбачым! Толькі калі ўсюды маюць падобны каляндар. Цяпер не плач, усяго табе добрага і рыхтуйся да вяселля! *(Хутка адыходзіць)*

**Даротка** *(за ім)*: Шванда, пачакай!

**Калафуна** *(супакойвае яе)*: Паненка, супакойцеся!

**Даротка** *(Прыхіляецца да яго грудзей)*: О я няшчасная!

### З'ява XII

Кордула з дзецьмі. Падышлі.

**Кордула**: Калафуна!

**Гонзік**: Гляньце, бацька заляцаецца!

**Калафуна**: Д'ябал з'явіўся! Цяпер старая будзе буркаць!

Кордула: Гэта мне падабаецца! Замест таго, каб глядзець сям'ю, ліжацца тут сярод божага дня з кабетаю, я не магу!

Лідушка: Маці злуецца!

Калафуна: Панна, Даротка, апамятайцеся!

Даротка робіць крок і глядзіць удалечыню за Швандам.

Кордула: А вы няшчасная асоба!

Калафуна: Старая!

Кордула: Пасаромеліся б перад Богам і людзьмі...

Калафуна: Старая!

Кордула: Куды схаваеце вочы...

Калафуна: Старая!

Кордула: Ганьбіце сябе з гэтым страшным чалавекам.

Калафуна *(крычыць)*: Старая, з мяне ўжо дастаткова! Я – першая скрыпка ў аркестры – пані Кордула! Я цяпер суцяшаў дзяўчыну, таму што яна сірацінка.

Кордула: Сірацінка?

Калафуна: Так, сірацінка кахання! Яе жаніх насамрэч збег у свет.

Гонзік: У таты кураж!

Кордула: Безумоўна, ты згубіў галаву! За гэта мне патрэбна дзякаваць неба.

Калафуна: Ох, толькі гэтага не рабі! Ты таксама аднойчы распусціла нюні, калі мяне страконіцкая банда хацела забраць з сабой у дарогу. Ці памятаеш?

Кордула: Гэта табе нешта здалося! І да чаго гэтыя пустыя словы? Ідзі ў шынок, людзі хочуць яшчэ танцаваць.

Калафуна: І няхай тут усё неяк замрэ. Я павінен пры такім грукаце нешта жанчыне казаць. Суцешцеся, Даротка! Калі ў вас такая натура, як у Кордулы, тады праз дваццаць чатыры гадзіны ў вас усё будзе добра. *(Адыходзіць са сваімі.)*

Даротка *(адна)*: Добра? Ах, безумоўна, усё павінна быць добра. Калісьці цэлы дзень за ім сачыла, цяпер не сачу *(дзень адыходзіць да вечара, і неба калярова напаўняецца чырванню)*, калісьці цэлы дзень уздыхала, цяпер не ўздыхаю. Ведаю пра гэта, а што мне з таго? Сэрца паспакойнее. Толькі каб ведаць, што з ім нічога не здарыцца!

Куст якраз каля кулісы разыходзіцца, і з яго выходзіць Росава.

## З'ява XIII

Росава. Падышла.

Даротка: Калі б магла з жывою душою пра яго пагаварыць!

Росава: Толькі яго вернеш у думках ухаваных. Пра іншае не клапаціся!

Даротка *(убок)*: Што гэта за асоба? Што вы ведаеце?

Росава: Ведаю тваю трывогу і твае надзеі. Але вернаму каханню магу паведаміць, што твой каханы мэты сваёй дасягне і ў будучым расквітнеюць залатыя кветкі.

Даротка: Так дасягне?

**Росава**: Бачу, як у ночы пры месячыкавым святле натоўп страшных духаў яго вядзе *(схіліўшыся, адыходзіць)*.

Цямнее, музыка, заслона.

### З'ява XIV

Рамантычны пейзаж, асветлены месяцам. Пасярэдзіне невялікі ўзгорак, каля якога праходзіць Шванда. Вакол яго і над ім лётаюць і спяваюць лясныя феі.

**Лясныя феі**: У ясную ноч нам далі моц! Салодкія, ціхія гукі натхняюць сілу духаў у ясную ноч; ідзем на дапамогу!

Даротка стаіць пасярэдзіне з выразам радаснага здзіўлення. Росава з правага боку на заднім плане ў напружанні. Між тым заслона падае.

## ДЗЕЯ II

Бляскам каштоўных камянёў зіхаціць пячора. Пасярод высокі трон.

### З'ява I

Лесана ў дарагой белай вопратцы з залатым вянцом на галаве сядзіць на троне. Лясныя феі каля яе.

**Лесана**: Спачатку смех з сілы маёй тварыць, потым слязою твар крапіць умее легкаважная кабета! Але ваша настойлівая просьба сэрца маё абпаліла, і я дазволіла ёй увайсці праз браму ў маю дзяржаву, каб выказаць свае пажаданні.

**Белена** *(адвярнуўшыся ўбок)*: Уваходзь, Росава, і скажы пані, якая ў цябе да яе просьба.

### З'ява II

Росава. Падыходзіць.

**Росава**: Вяльможная пані, просьба мая – не хачу толькі ўразіць твой слых – тычыцца майго сына. Прызнаюся, я вінаватая, але хачу, каб ты злітавалася і дапамагла мне.

**Лесана**: Кажы! Той, хто каранаваны народам, павінен выслухоўваць просьбы яго.

**Росава**: Сын мой накіраваўся ў віхуры свету, а я цяпер мярцвею, што ў гэтай дзіўнай давільні ён прападзе. Ён не мае вопыту, а я згодна свайго становішча не магу суправаджаць яго на розных тэрыторыях, калі ты мяне не прапусціш праз свой ганак, калі не адорыш сілаю вольных духаў. Дазволь і зрабі так, каб я змагла яго суправаджаць, быць з ім побач і ўдзень і ўначы, магла дапамагчы, калі будзе збочваць з дарогі. Затое, калі з ім разам прайду ўсе выпрабаванні і дасягну мэты, вярнуся, і ты здымеш час з майго веку, асудзіш мяне і змесціш сярод німфаў. Я не баюся жорсткіх зменаў, бо я маці, і шчасце майго сына дапаможа мне знесці ўсе пакуты.

**Лесана**: На многае ты адважылася! Хай так і будзе, бо разумееш, на што ідзеш. Адпушчу цябе з вузкіх межаў вызначанага часу, дадам табе вымеранай мною моцы. Будзь сыну спадарожніцай, будзь яму памочніцаю, але кіраваць ім не маеш права. Калі вернешся, то ўбачыш, што я за гэта патрабую!

Р о с а в а: Дзякую табе, вяльможная пані, схіляюся перад тваёй воляю. *(Адыходзіць.)*

Лясныя феі ствараюць каля трона жывапісную карціну і ўвесь час у руху.

***Змена дэкарацый***

Кароткая вуліца ў горадзе грэчаскага або ідэальнага стылю. З правага боку будынак з дзвярыма і порцікам. На ім надпіс: "Уваходзь, падарожны!"

**З'ява III**

Воцылка ў лёгкім плашчы, доўгія валасы, вусы і барада, ззаду малы заплечнік.

В о ц ы л к а *(спявае)*:

Цэлы свет, як шар,
Цяжка на ім стаяць нагамі,
Калі не хочаш мецъ гузак,
Павінен трымацца рукамі.
Тут слізгатня,
Там завіруха,
Тут лужа,
Там узгорак;
Чалавек павінен спрытна граць,
Калі хоча добра ўзяць;
Хто ўмее круціцца,
Той не будзе журыцца.

Так, хітрыкі – не чары, я ўжо паспрабаваў і зразумеў гэта ў самых мудрагелістых перапляценнях жыцця. Мудрая галава не дасць прапасці. Калі б я ўмеў сачыняць, то я толькі б тварыў – ад той хвіліны, як я як сапраўдны студэўнт апошнюю ноч спаў на більярдзе… Калі б умеў сачыняць, то гэта была б хроніка таўсцейшая, чым Гайкава і больш стракатая, чым Эншпігл[1]. Цяпер паспрабую яшчэ адно. Буду сакратаром або касірам або нешта падобнае на гастралёра. Чаму не? Я заўсёды так і выглядаю, а сёння столькі праблем, бо ўжо даўно не маю пашпарту, а цяпер вельмі баюся. Тут нас, магчыма, пачастуюць! Пабачым! *(Чытае надпіс.)* Уваходзь далей, падарожны! Ах – гэта мудрэц карчмар! Толькі калі скажуць яшчэ: "Ідзі спакойна далей!" – значыць падарожны не меў грошы.

**З'ява IV**

Мікулі. Падыходзіць.

В о ц ы л к а: Трымаеце службу, шаноўны. Калі не памыляюся, то кіруеце гэтаю цела і душаспакойнаю ўстановаю?

М і к у л і *(важна)*: Я карчмар.

В о ц ы л к а: Вельмі ўсцешаны. Я даўно марыў пра пасаду карчмара. Ці не дазволіце тут спыніцца славутаму канцэртмайстру?

М і к у л і: А хто гэта?

---

[1] Постаць блазна з XIV стагоддзя, які стаў героем вясёлых прыгодаў, сабраных пазней фальклярыстамі ў адну кніжку.

**Воцылка**: Звер, які можа граць.

**Мікулі**: Ах, гэта, пэўна, той чэшскі дудар?

**Воцылка**: Так, гэта той страконіцкі гонар.

**Мікулі**: Гэты тут.

**Воцылка**: Ці не мог бы я з ім пагаварыць?

**Мікулі**: Чаму ж не? Я бачу: ты за словам у кішэню не палезеш.

**Воцылка** *(убок)*: Ну пачакай, пазнаеш ліха, калі я цябе вазьму ў кулак. Вы павінны ведаць, што я яго суайчыннік.

**Мікулі**: Таксама чэх? *(Разглядае яго з усіх бакоў.)* Гэта, мабыць, цікавая краіна – тая чэшская.

**Воцылка**: Гэта казала шмат баранаў! А казак у вас пра чэшскую краіну больш, чым пра Чырвоны Каптурок.

**Мікулі**: Ну, пэўна, там не вельмі добра, бо інакш так шмат вас з яе не ад'язджала.

**Воцылка**: Мой мілы сустрэчны, што дбае пра харчаванне, ведайце, што свет ужо настолькі стары, што стаў зусім дзіравым. Гасподзь Бог не можа гэтыя дзіры цярпець, і калі пачынае з імі нешта рабіць, то бярэ для кожнай чэха і заўсёды ім гэтую дзірку заткне, каб столь не абвалілася. Вось чаму мы і ходзім тут і там па свеце.

**Мікулі** *(глядзіць на яго і круціць галавою)*: Ну, калі вы думаеце, што вы абраныя, то пабачым, як тут праявіце сваё ўмельства.

**Воцылка**: Тут?

**Мікулі**: Твой суайчыннік хоча граць перад нашай прынцэсаю.

**Воцылка**: Прынцэсаю?

**Мікулі**: Ужо даўно жыве яна ў такім глыбокім смутку, што ажно не гаворыць. Усё, што рабілася, каб развесяліць яе, дарэмна. І тут да яе даляцела чутка пра дзівосную музыку твайго суайчынніка. Бацька сумнай прынцэсы накіраваў да яго прыдворных запытацца, ці не змог бы ён сваім граннем пацешыць яе. Ён прыйшоў, і я цяпер іду да яго спытаць, калі б я змог яго правесці ў палац *(адыходзіць)*.

**Воцылка**: Развесяліць прынцэсу? Вікторыя, пшаніца ў квецені! Тут можна нешта атрымаць. Воцылка, студэнт, цяпер збярыся і добра сябе прэзентуй. Гардэроб, праўда, трохі спарахнеў; тут, фалда з левага боку хутка будзе як друшляк, а калена з дзіркаю на свежым паветры, але заўсёды маеш белыя пальчаткі. Май густ і думай пра сакратарства. Безумоўна, павінен сам сабе прызнацца, ці падыходзіш ты на гэтую пасаду? Ба, а чаму не. Ты не будзеш першым на свеце, хто хоча больш, чым заслугоўвае. Трэба на дурня толькі знешне бліснуць, а ўнутры – дым.

ПЕСНЯ

Шмат хто, устаўшы з ложка,
Адразу кажа: "Пан Божа!"
Калі пачне добра цяміць,
То на вуліцы будзе падаць,
Каб дабрадзейным быць,
Беднага заўсёды гоняць з дому,

Ды пашлюць яму мноства грому.
Кватаранта прыгнятаюць,
Парабка зневажаюць,
Гора, калі захочаш варухнуцца,
Таму што
Зверху блішчыць,
А ўнутры дым.

Майстар дашле твор
На выставу, ах, як міла,
Дастане медалі,
Як у нейкім баі.
Потым з імі ён, як пава,
Дома пільна кантралюе.
Бо зусім ён не малюе,
А работнік уздыхне,
Бо рэч ён зрабіў,
Гаспадара свайго ўзбагаціў,
А сам ледзьве жывы і здаровы,
А ўсё таму, што тое,
Што зверху блішчыць,
Унутры мае дым.

Крытыкаваць сёння модна,
І ўсё цячэ, як вада;
І калі нешта заходзіць за вуха,
Тады раздаюць аплявухі,
І гэта духа сапраўдны квет.
Адны са схаванымі рагамі
Хутка перабіраюць нагамі,
І калі аднекуль спіша,
То адразу ж і напіша,
Што здзівіў цэлы свет.
Таму што зверху
Блішчыць, а ўнутры
Яго – дым.

Шмат хто ставіць новую краму,
Нібы сабе залатую раму,
Напіша пазней на франтоне,
Што тавару там на многа тысяч,
Да таго ж у краме газ!
Праз год прыйдуць крэдытары,
І калі раней яго не зморадь,
Краму замкнуць, тавары забяруць,

Лямпы згасуць, а пан уцячэ
Так скончыцца гэты дарагі жарт,
Таму што зверху шмат ззяння,
А ўнутры – дым.

Шмат хто кажа: "Мілыя браты,
Мілуем вас мы, як сябры,
Галечы мы дапамагаем,
Ад смутку слёзы выціраем,
Бо любіць бліжніх нам кажа Бог".
Потым дзяруць, ашукваюць,
Тлусцеюць, і з бедных людзей
Сотню са ста патрабуюць,
Свіраны свае напаўняюць,
А з галоднага выйдзе дух.
Таму што
Зверху блішчыць,
А ўнутры дым.
*(Ідзе да гатэлю.)*

**З'ява V**

Росава ў падарожным адзенні. За ёю Даротка з трумарынаю[2], у хустцы. Калафуна з футлярам са скрыпкаю, спыняюцца ля гатэлю.

Росава: Мы дайшлі. Калі зойдзеце, то знойдзеце таго, хто вам патрэбны.

Даротка: А вы нас пакінеце?

Росава: Буду бліжэй да вас, чым вы думаеце, бо я прывязана да вас моцна *(адыходзіць)*.

Калафуна: Дзіўная асоба! Раптам з'явілася перад намі і павяла, а мы не ведаем куды. Дзе мы? Уражанне такое, нібы знаходзімся ў нейкай казцы пра заклятую прынцэсу.

Даротка: Ідзем далей, каб зведаць, ці сапраўды дайшлі *(Вядзе яго ў гатэль)*.

***Змена дэкарацый***

Вестыбюль у гатэлі.

**З'ява VI**

Шванда ў чорным фраку з белым гальштукам і каўнерам, усё як мае быць. Адсюль і яго паводзіны. Ходзіць, пацягваецца і пазяхае.

Шванда: Ах, якое тут вясёлае жыццё, як на Шчодры вечар у пустой стадоле. Самая доўгая хвіліна. Некалі мяне знясе плынню. Тут я толькі ем і п'ю, але потым, нібы выпалена. А самае цікавае ў тым, што не маю да сёння ніякіх тысяч. Гэтыя грошы ляцяць у мяне скрозь пальцы.

---

[2] Стары народны смычковы інструмент.

## З'ява VII

Воцылка. Падыходзіць.

Воцылка: Служывы, сеньёр музыкант, цалую вашыя рукі.

Шванда: У чым справа? Што гэта на вас найшло?

Воцылка: Я даўно марыў пра хвіліну, калі б змог свайму славутаму суайчынніку перадаць глыбокі паклон.

Шванда *(жыва)*: Вы чэх?

Воцылка: О, а як жа! Дома не маглі мяне цярпець і раілі мне, каб паехаў паглядзець збольшага свет.

Шванда: А што вы тут робіце?

Воцылка: Хаджу за вамі і слухаю вашую нябесную музыку. Парваў, як гэта кажуць, свае апошнія боты і ўсё з-за любові да мастацтва.

Шванда: Дык вы вар'ят.

Воцылка: Я ведаю, але сёння шмат такіх звар'яцелых на музыцы людзей, гэта як халера. Прычым звяртаю вашу ўвагу, што няма ў вас ніводнага чалавека, які б пра ваш камфорт дбаў, вашыя канцэрты арганізоўваў, рэцэнзентам білеты разносіў, і пры гэтым лічыў бы сябе шчаслівым, бо змог вам свае мізэрныя магчымасці ахвяраваць.

Шванда: Гэта было б занадта.

Воцылка: Яно так звычайна і бывае: кожная славутасць мае свайго сакратара, камердзінера, даверaную асобу або як яшчэ можна назваць, і такі чалавек робіць для яго насамрэч дабрадзейства.

Шванда: Так? Я сабе заўсёды дапамагаў сам або мог звярнуцца за дапамогаю да працаўніка з шынка; бясспрэчна, мяне гэта ўсё падтрымлівала, як мне здаецца.

Воцылка: Ну, магу сабе ўявіць, што там за працаўнікі! Гэта злодзеі! Але сёння ўсё зменіцца. Калі я буду ў вас, то вы адчуеце жыццё! Без усялякіх клапот. Я буду клапаціцца пра паездкі, пра канцэрты, пра касу – пра ўсё! Убачыце, як вам пры гэтым будзе лёгка пачувацца.

Шванда: Ну, калі так кажаце, то можаце ў мяне застацца, можа, мне не будзе так тужліва.

Воцылка: О, яснавяльможны пан, цалую вашую руку.

Шванда: Ці сумленны вы чалавек?

Воцылка: Я? Як бачыш ты, далікатнасць, я сама сумленнасць, калі б добра падумаў, то зразумеў бы, я сама пачцівасць, а калі б ты захацеў перайсці са мною на ты, то атрымаў бы нешта.

Шванда: Скажыце мне, як да вас звяртацца?

Воцылка: Панталеон Воцылка.

Шванда: Прыгожае імя.

Воцылка: Англійскае, інакш не было б мілагучным. Я раблю яму таксама гонар.

Шванда: Тады, мілы Воцылка, можаш у мяне застацца, але колькі гэта будзе каштаваць?

Воцылка: Ах, ах, навошта казаць пра такія дробязі, для мяне гэта гонар, я таксама ведаю, што не будзеце ніколі нейкую жменьку банкавых білетаў

шкадаваць, каб мая кішэня дастала паперкі. Што я для вас зраблю! Праз пару гадоў будзеце мець мільёны.

**Шванда**: Праз пару гадоў? *(Шкрабе за вушамі.)* Я павінен табе сказаць, што праз два гады я мушу быць дома.

**Воцылка**: І наведаеце дом, чаму не, але потым зноў паедзем па свеце. Цяпер вы будзеце кіраваць, цяпер вы будзеце здымаць вяршкі. Праз чатырнаццаць дзён будзеце выглядаць так, што вас захочуць у касцёле паставіць. О, толькі нічога не кажыце, яснавяльможны! Гэта будзе жыццё! Гэй, бармены! Прыслужнікі! Дзяўчаты!

## З'ява VIII

Дуліна, потым Гулінары і Ваніка. Падышлі.

**Дуліна**: Хто тут кліча!

**Воцылка**: Пра яснавяльможнага пана бутэльку найлепшага віна і дзве шклянкі, потым нешта добрае на закуску, каб усё добра лілося і елася.

Дуліна адыходзіць.

**Шванда**: Што на цябе найшло? Я ўжо снедаў.

**Воцылка**: Ніколі не зашкодзіць! Сапраўдны ўмелец павінен мець добры апетыт. А паколькі кожная дамова нечым замацоўваецца, то павінны, яснавяльможны пане, зрабіць тое ж самае, а то нас у свеце не зразумеюць.

Гулінары і Ваніка прыносяць бутэльку віна, дзве шклянкі, на талерках закуску, і ўсё кладуць на стол.

**Воцылка**: Звар'яцець можна! Якія прыгожыя цацаркі! *(Разглядае іх.)* Сапраўдныя індыянкі!

**Шванда** *(ідзе за ім і цягне яго за фалду)*: Слухай, Воцылка, тая, з краю, во дзяўчына!

**Воцылка**: Геніяльна, яснавяльможны пане, выглядае, як марцыпан! Але тая, другая, таксама далікатэс. Адным словам, іншаземкі! *(Бярэ яе за руку.)*

**Гулінары** *(адымае руку)*: Іншаземка? Я б не сказала.

**Воцылка**: Гэта файная дзяўчына!

**Гулінары** *(падыходзіць да Шванды)*: Ці падабаецца вам нешта, пан?

**Шванда**: О, так! Ты! *(Бярэ яе сарамліва за руку.)*

**Гулінары**: Ажэнішся са мною?

**Шванда** *(напалохана і заікаючыся)*: Навошта…

**Воцылка**: Ну і племя!

**Гулінары**: Дык не? Чаму тады кажаш, што табе падабаюся *(афіцыянткі адыходзяць)*.

**Воцылка**: Ну, шчыры дзякую! Тут мужчыны жывуць, мабыць, як у пекле, бо мусяць ажаніцца з кожнаю, якой кажуць, што яна ім падабаецца *(між тым разлівае віно)*.

**Шванда**: Мне нібы нехта нож усадзіў! За жанчыну! Але ж магло б і пашчасціць!

**Воцылка**: Я не маю, яснавяльможны пан, пустых прыхамацяў і пайду піць! Гэта будуць лепшыя лекі ад тых пакут *(ставіць крэсла)*.

Шванда *(ідзе да стала і садзіцца)*: Я цэлы дзень на нервах, буду лячыцца *(абодва п'юць і ядуць)*.

Між тым на вуліцы гучыць народная песня "Толькі ты мне, дудар, дадудзі" на скрыпцы і на трумарыне.

Шванда *(прыслухаўся, жахнуўся, ускочыў)*: Што гэта? Ці мне здаецца? Гэта музыканты з Чэхіі! Гэта са Страконіц! *(бяжыць да дзвярэй)* Гэта ты, мая салодкая пакута! Даротка! Калафуна! Ці гэта мажліва?

## З'ява IX

Даротка. Калафуна. Уваходзяць.

Даротка: Божа нябесны, як я табе ўдзячная! Мой каханы Шванда! Ах, як я ўсцешана, што мы цябе знайшлі, мы абышлі амаль цэлы свет, праз горы і даліны, праз лясы і рэкі, а калі б не незнаёмая жанчына, сядзелі б мы недзе далёка адсюль і выглядалі цябе! Ну, як справы? Што робіш? Ці ўспамінаў мяне? Ці добра пачуваешся? Ну, так кажы!

Воцылка *(між тым сядзіць за сталом і выпівае)*: Ну і лапатуха!

Шванда: Але што я скажу, калі ты прагнеш выпытаць у мяне ўсё аж да суднага дня? Мне добра, думаю пра цябе, але што на цябе найшло, чаму ты выбралася ў свет?

Калафуна: Так, падумай, Шванда, якая гэта жанчына! Калі ты не вярнуўся праз чатыры тыдні, павесіла галаву, а калі прайшло восем тыдняў, то ўжо зусім галаву страціла.

Даротка: Я табе казала раней, што без цябе не вытрымаю, а потым увесь час думала пра тое, што з табою нешта здарылася.

Воцылка: Чорта з два, добра вядомая песня, ну трэба ж!

Калафуна: А калі б яе напаткала няшчасце…

Даротка: Ах, я ледзьве не памерла!

Шванда: Здарылася няшчасце?

Калафуна: Яе бацька лёг і больш не падняўся…

Шванда: Твой бацька?

Даротка: Ах, так! *(выцірае слёзы)*

Воцылка: Магла б там пакласціся замест яго.

Калафуна: Ты, пэўна, вярнуўся б, калі б мы раней не прыйшлі за табою. Я думаў, што ты ад яе вачэй не адарвеш. Я на гэта і разлічваў. Хе-хе! Скажу табе шчыра, старая бурчыць бясконца на малых, эканоміць цяпер на едаках. Магчыма, у свеце ты нешта зможаш адарваць, але заўсёды знойдзецца нейкі халтуршчык, які цябе апярэдзіць. Для мяне гэта быў доўгі шлях, і старая будзе сварыцца, калі я вярнуся, але нічога зарабіць дома не змог. Гэтая дзяўчына цябе кахае так, ажно мяне цалкам выматала.

Даротка: Ну, цяпер больш не буду, цяпер усё добра, цяпер мы разам, цяпер возьмеш тысячы і вернемся дахаты.

Воцылка: Ну і сойка!

Шванда: Тысячы? Каханая Даротка, пра тысячы няма гаворкі.

Даротка: Ну хай будуць сотні! Я з гэтага праблему рабіць не буду.

Шванда: Лялечка, у мяне нічога няма.

Даротка: Нічога?

Шванда: Насамрэч, я грошай зарабіў дастаткова, але яны цякуць як вада скрозь пальцы, усюды хапае дзіўных людзей, той музыкант, той камедыянт, той хоча тое, гэты іншае, таму я вымушаны быў плаціць, вось чаму ў мяне грошы адразу і знікалі.

Даротка: Але Шванда!

Шванда: Але сёння ўсё будзе інакш! Цяпер я маю свайго сакратара і камердзінера.

Даротка: Ты?

Шванда: Вось гэты будзе ўсё кантраляваць. Ці не праўда, Воцылка?

Воцылка *(хутка ўстае і, наблізіўшыся, рассыпаецца ў кампліментах)*: О так! Абавязкова! Маім асноўным клопатам будзе яснавяльможны пан, буду служыць старанна і з любоўю, а калі нешта будзе не так, то маеце права мяне панізіць…

Шванда: Усё будзе добра! Я зразумеў, пра што думаеш…

Воцылка *(нізка схіляецца ў паклоне, пра сябе)*: Ну і відушчы! Я сам сябе не разумею.

Шванда: А каб ты ведаў, як сябе паводзіць, знаёмлю цябе з Дароткаю, маёю нявестаю.

Воцылка *(убок)*: Гром з яснага неба! *(гучна)* О, нічога мне навіна! *(страляе здалёк па Даротцы вачыма.)*

Шванда: Але, лялечка, я цяпер толькі ўбачыў! Вы ж галодныя і стомленыя, сядайце! Гэй, Воцылка, загадай, каб прынеслі ежу і пітво.

Воцылка выходзіць.

Даротка: Слухай, Шванда, твайму сакратару [redacted] не падабаюся! Ён так глядзіць на мяне, нібы хоча забіць.

Шванда: Ідзі ты, не вар'яцей, табе нешта здалося! Ён насамрэч добры хлопец, але ты не разумееш, што робіцца ў свеце. Зразумей мяне, пані, мы па-іншаму ўсё бачым, чым хамы.

Воцылка *(вяртаецца са шклянкамі, ежаю і пітвом)*: Гэта для горла і страўніка! Запрашаю, яснавяльможная пані, разгавецца! І няхай добраму пану будзе для здароўя таксама.

Калафуна: Так, хе-хе, я таксама разгавеюся *(сядае)*.

Шванда: Еш, Даротка, і пі, нібы ты дома!

Даротка сядае.

### З'ява X

Мікулі. Уваходзіць.

Мікулі: Панове!

Шванда: Ах, наш гаспадар дома!

Мікулі: Я толькі што з каралеўскага палаца. Адразу пасля мяне па цябе прыйдзе дваранін, каб правесці да нашай прынцэсы *(адыходзіць)*.

Воцылка: Звар'яцець можна, пра прынцэсу мы зусім забыліся!

Даротка: Да прынцэсы? Што гэта за прынцэса?

Шванда: Ох, дзяўчынка мая, гэта мае будзённыя клопаты!

Даротка: Маладая, прыгожая?

Шванда: Не ведаю, чуў, што плаксуха і што мне трэба яе трохі пазабаўляць.

Воцылка: Дзейнічайце, яснавяльможны пане, дзейнічайце, яшчэ вы зможаце паспець, але ў гэтым адзенні для пудзіла вас не пусцяць у палац, бо падумаюць, што вы збіраецеся палохаць вераб'ёў. Я сказаў, што буду пра вас клапаціцца і цяпер мушу слова стрымаць. Ідзіце! Яснавяльможная пані няхай будзе такой добрай і можа пайсці з нашым суайчыннікам, а я таксама пайду, але некуды за дзверы *(бярэ Шванду пад руку і выходзіць з ім.)*

Калафуна: Якая добрая душа гэты сакратар – хе-хе!

Даротка: Думаеце?

Калафуна: Мае нейкія клопаты! А пра сябе і не ўспамінае. Піце яшчэ, панна Даротка! Сёння ўсё добра атрымалася. Шкада, што няма са мною маіх чарцянятаў, а то наеліся б!

Даротка: Мне раптам стала так дрэнна, быццам нешта нядобрае можа адбыцца.

Калафуна: Наогул – хе-хе, яно то так, можа нешта адбыцца.

Даротка: А што?

Калафуна: Магчыма, я схаплю гарачку.

Даротка: Ах, не жартуйце! Нашая незнаёмая прыяцелька была такая ўсхваляваная і паўтарала нам увесь час, каб мы спяшаліся…

Калафуна: І нашто гэтыя незразумелыя прыхамаці – піце!

Даротка: Не-не, я не магу знайсці сабе месца. Я павінна пайсці за Швандам. Хадзем, Калафуна, хадзем, няхай у яго ўсё будзе добра!

Калафуна: І што на вас найшло! І што пакінуць цяпер жыллё?

Даротка: Бог вас узнагародзіць, пайшлі!

Калафуна: Ну толькі дзеля вас, мілая Даротка, але скажу вам, што маё сэрца застанецца каля гэтага божага пачастунка – хе-хе! Мусіце мне паверыць *(спявае)*:

Толькі ў добрай, поўнай шкляцы
Квітнее радасці кветка;
Хто ніколі не быў пад мухаю,
Той не ведае, што такое свет.

Даротка, весяліцеся! Я выпіў і мне добра. Хадзіце сюды, прыгадаем наша *(кладзе шапку ўбок, бярэ скрыпку)*. Потым пойдзем па Шванду.

ДУЭТ:

Найшчаслівейшы з усіх стварэнняў –
Гэтакі музыкант:
Робіцца не робіцца, а ён заўсёды
Шчасця свайго гаспадар.
Куды ні прыйдзе, усюды вітаюць,
Гэй, ідзе мілы госць!
А дзе яму добра,
Там заўсёды весела

*(адыходзяць)*

Калі Даротка не спявае, то можа спяваць Калафуна

ПЕСНЯ:

Даротка Трнкова,
Каханага Шванду не падганяй!
Калі вып'ем і з'ядзім,
Дык пойдзем за ім, пойдзем за ім!
У двары караля будзем з ім піць.
Калі б мяне Кордула
Тут убачыла, то быў бы канец!
Усе каркаюць
На нашым двары і нават певень!
Не магу на цябе,
Мой Шванда каханы, забыцца.
Іду за ім па свеце, а ён пайшоў да іншай.
Сярод тысяч людзей
Не бачу нават следу майго мілага.

Я сын Страконіц
Найлепшы прадстаўнік свайго краю з пустой кішэняю;
На спіне ў мяне заплечнік,
А ў руцэ велікодная булка ды поўная шклянка.
Малпа трымае мае валасы
І скача па галаве
Насыплю булак сабе ў крысо.

Пойдзем разам
Да каралеўскага двара на канцэрт;
Будзем там спяваць
Тысячы класці ў шапку;
А пазней павязем у вазку.
А мая Кордула
Як гэта ўбачыць, то звар'яцее.

***Змена дэкарацый***

Раскошная зала. У цэнтры на ўзвышэнні трон для прынцэсы, а побач крэслы для яе прыдворных. Паперадзе, з правага боку, крэсла для Шванды.

## З'ява XI

Зуліка сядзіць на троне, прыкрытая тонкай наміткай. З абодвух бакоў дамы і паны, якія сядзяць ціха. Шванда і Воцылка ўваходзяць у суправаджэнні двух прыдворных.

Прыдворны *(становіцца пасярод)*: Міласцівая князёўна, гэтага маэстра дасылае табе бацька кароль, каб пацешыў тваё сэрца *(ківае Шванду, каб сядаў, і адыходзіць.)*

Шванда садзіцца і пачынае граць. Воцылка стаіць каля яго. Праз некалькі тактаў, як толькі дамы і паны пачуюць музыку, то пачынаюць круціць галавою, з задавальненнем сябе

шчыпаць, прытупваць і гайдацца, аж пакуль нарэшце не ўскокваюць і не пачынаюць танцаваць польку. Пасля танца разыходзяцца.

Зуліка *(доўга нічога не разумее, потым уважліва прыслухоўваецца, скідвае намітку і радасна шчабеча падчас танца з двума панамі. Нарэшце ўстае з трона і падбягае да Шванды)*: О, мілы, прывабны юнак! Зуліка ўдзячная табе за тое, што ты напоўніў яе сэрца гэтай цудоўнай музыкаю. Маё сэрца было, нібы выпалены яркім сонцам луг, але гэтыя чароўныя гукі даляцелі да яго і праліліся, нібы нябесная раса.

Шванда *(кланяецца)*: О!

Воцылка *(убок)*: Халера ясна! Яна гаворыць, як турэцкі паэт.

Зуліка: Цяпер не маеш права ад мяне адыходзіць, разумееш, бо я зноў магу засумаваць.

Шванда: О!

Воцылка: Кажыце што-небудзь разумнейшае!

Шванда: Што?

Воцылка: Скажыце, напрыклад, “ах!” або “ух!”

Зуліка: Зуліка будзе за гэта вас любіць, як любіць ягня свежыя лісты і рыба свежую ваду. А калі пажадаеш тое, што табе падкажа сэрца, то Зуліка перадасць бацьку і ўсё споўніцца.

Воцылка: Прыдумайце хутка нешта жорсткае!

Шванда: О! *(да яго)* Я не разумею пра што яна кажа!

Зуліка: Ты, пэўна, Зуліцы не верыш?

Шванда: О, а як жа! А хто такая гэтая Зуліка?

Зуліка: Хто? Ха-ха-ха, мне гэта падабаецца! О, ты вясёлы чалавечак, гэта тая, якая была самотнай, а ты яе пацешыў, якая стаіць перад табою і якая не перастае дзякаваць небу за тое, што паслала ёй вызваленне. Але скажу табе, што нікуды не маеш права ісці, бо раззлуеш Зуліку. А Зуліка ўмее гневацца, але злосць доўга не трымае і хутка зноў робіцца добрай, а потым смяецца. Ну, смейся таксама!

Шванда: Хе-хе-хе!

Воцылка: Ха-ха-ха!

Зуліка: А што гэта за дзіўны чалавек? Ён мне падабаецца, бо над ім можна пасмяяцца. Гэта твой раб?

Воцылка: У вашай светласці цэлы свет рабоў.

Зуліка: Я бачу, што ён умее гаварыць! Яго не прадавай! У мяне ён будзе вар’ятам.

Шванда: Я не ведаю, славутая прынцэса, калі тут трэба быць доўга…

Зуліка: Чаму доўга?

Воцылка: Не даходзіць да яго!

Шванда: Ці маю права я тут доўга заставацца…

Зуліка: А чаму не? Павінен!

Воцылка: Трымайце язык за зубамі!

Зуліка: А ведаеш што? Так, гэта цудоўная ідэя! Ты ажэнішся са мною!

Шванда: Ажэ… *(да Воцылкі)* Тут павар’яцелі на жаніцьбе!

Воцылка: Радуйся, гэта лепш, чым…

**Зуліка**: Ці не праўда, так будзе лепей. Бацька хацеў даць Зуліцы жаніха, але той ёй не спадабаўся, і таму сумавала, але цяпер Зуліка яму скажа, што ты ёй падабаешся і што цябе возьме.

**Шванда**: Але, міласцівая прынцэса, я не сва…

**Воцылка** *(наступае яму на нагу)*: Яснавяльможны пан хоча сказаць, што ваша міласць настолькі цудоўна выказваецца, і ён вельмі ўсцешаны.

**Зуліка**: Не трэба баяцца Зулікі, мілы чалавек! Зуліку даўно навучылі, як павінна сябе паводзіць жонка, яна павінна быць паслухмянай і прыветлівай, ці не пра́ўда? О, не клапаціся! Зуліка таксама ўмее развесяліць! Яна ўмее спяваць, танчыць, і не пачвара, ці не так? Ну, цяпер радуйся, Зуліка пойдзе да бацькі і паведаміць яму пра наша шчасце *(адыходзіць з прыдворнымі)*.

**Шванда**: Я звар'яцею!

**Воцылка**: Веру! Гэтакае шчасце давядзе да вар'яцтва!

**Шванда**: Шчасце? Што ты выдумляеш? Як я магу ажаніцца са звар'яцелаю Зулікаю? Што сказала б Даротка?

**Воцылка**: Але, калі ласка. Нічога не кажыце пра Даротку! Гэта выглядае наступным чынам: мяне запрашаюць пакаштаваць фазана, а я дзякую і кажу, што не магу, бо дома ў мяне бульба.

**Шванда**: Я ўцяку!

**Воцылка**: Я разам з вамі! Але пасля вяселля.

**Шванда**: Маё сумленне!

**Воцылка**: Вось табе на! Калі Даротка вас насамрэч кахае, то павінна радавацца, што вы ажэнецеся з прынцэсаю.

**Шванда**: Чаму так?

**Воцылка**: Таму што павінна жадаць вам шчасця і вы яе таксама зробіце шчасліваю. Вы не пашкадуеце для яе некалькі чвэрцяў дукатаў і нейкага кавалера яна атрымае. А можа, я і сам падумаю.

## З'ява XII

Аленорас з пажамі. Два нясуць на падушках залатыя скрынкі, а ў іх дарункі. Падыходзяць.

**Аленорас**: Дарагі чужаземец, дазволь падзякаваць табе за тое, што змог парадаваць сэрца маёй дачкі. Прымі ад мяне як доказ маёй прыязнасці гэтыя дарункі *(ківае пажам, якія адыходзяць)*. Яны данясуць іх да твайго прыстанку.

*(Воцылка паціраe рукі.)*

**Шванда**: О, гэтага надта многа, пан кароль!

**Аленорас**: Акрамя таго мая дарагая дачка Зуліка заявіла, што цябе кахае і што ты хочаш ажаніцца з ёю. Я шукаў, безумоўна, для яе мажнага асілка, але яна з маім выбарам не пагадзілася, а я жадаю ёй толькі шчасця.

**Даротка** *(за сцэнаю)*: Пусціце мяне, я з ім павінна пагаварыць!

**Шванда**: Яшчэ гэтага не хапала! Гэта Даротка!

**Воцылка**: Трымайцеся!

**Аленорас**: Што гэта?

## З'ява XIII

Даротка, за ёю стражнік. Калафуна. Падыходзяць.

Даротка: Глядзі ты! Шванда, ці праўда тое, пра што гаворыць увесь горад? Ажэнішся з прынцэсаю?

Аленорас: Хто гэтая дзяўчына?

Воцылка: Няшчасная жанчына, ваша каралеўская міласць! Мы яе ўтрымліваем разам з гэтым чалавекам, таму што нічога не ўмеюць зарабіць, але павінны іх трымаць пад замком.

Аленорас: Чаму?

Воцылка: Таму што ім у галаву прыходзяць дзіўныя ідэі.

Даротка: Шванда!

Воцылка: Яна думае, што гэтая заклятая прынцэса збіраецца забраць у яе жаніха, а гэты дзівак лічыць, што ён добры музыкант!

Калафуна: Што ты кажаш!

Даротка: Шванда! Як ты гэта церпіш? Ты дазваляеш пра мяне так казаць? Я пакахала цябе і пакінула дзеля цябе свой дом пасля пахавання бацькі.

Воцылка: Паглядзіце, іскры так і сыплюцца! Але ёй не пашчасціць! Бо нам прыйдзецца некуды ўцячы.

Аленорас: Стража!

Даротка: Шванда, кажы, не стой тут, як асуджаны, скажы што-небудзь, супакой мяне!

Аленорас: Адвядзіце гэтых людзей і добра ахоўвайце, паклічце лекара!

Даротка: Шванда, за ўсё заплоціш!

Адзін стражнік уводзіць яе, іншыя – Калафуну.

Калафуна: Але што на вас найшло? Я музыкант.

Аленорас: Не клапаціся пра гэтых няшчасных, я даручу іх даглядаць так, нібы яны з каралеўскай сям'і. А цяпер мне трэба спяшацца, каб сказаць дачцэ, што ў хуткім часе адбудзецца вяселле *(адыходзіць з пажамі)*.

Шванда *(некаторы час стаіць, як абамлелы)*: Не, я гэтага не вытрымаю, сэрца маё сціснецца і разарвецца! Даротка! *(Выбягае.)*

Воцылка *(услед)*: Не нарабіце памылак! Куды ляціце? Ці хочаце пашкодзіць свайму шчасцю?

Шванда: Адыдзі ад мяне, гад! Я не ведаю, што са мною робіцца! Я павінен быць разам з Дароткаю!

Воцылка: Наступным разам! Сёння дазвольце, каб я вам трошкі дадаў розуму, якога не маеце.

За сцэнаю чуваць лязгат мячоў.

Шванда: Што гэта?

Воцылка: Тут нейкая тачыльня, але, каб толькі не атрымаць па карку!

Шванда: Яшчэ гэтага не хапала!

Воцылка: Ну, хто любіць рамантыку, то павінен быць заўсёды гатовы да смерці.

### З'ява XIV

Аламір са сваімі ваярамі. Падыходзяць.

Аламір: Дзе той стваральнік адурманьваючых песняў, які адважыўся кветку майго кахання, што ярка напоўніла салодкай тугою маю душу, сённяператварыць у пыл?

Воцылка: Што гэта за пагроза? Каго шукаеце?

Аламір: Дзе той чарнакніжнік, які сваёю заклятаю ігрой адбіў у мяне прынцэсу Зуліку, а цяпер і яе слабы бацька сваё слова парушыў, калі б не было майго мяча? Дзе той чэшскі дудар?

Воцылка *(хаваецца за Шванду)*: Дазвольце, я толькі бядак, а гэта той самы чараўнік з дудамі!

Аламір: Хапайце яго! Я яму дам рэзідэнцыю, дзе ўсе яго чары знікуць і дзе ў яго прападзе салодкае жаданне сарваць дзявочую ружу. Адвядзіце яго!

Шванда: Але дазвольце, пан. Гэй, Воцылка, сакратар, дапамажы!

Між тым узброеныя людзі яго адводзяць.

Аламір: А ты, значыць, узорны памочнік і раб ягоны, бяжы і вяртайся да людзей сваёй краіны і аб'яві там, што так будзе з кожным, хто адважыцца зрабіць хоць крок у бок нашай краіны. Ідзі!

Воцылка: Сеньёр, я перадам! *(адыходзіць, астатнія за ім)*

***Змена дэкарацый***

Краты ў астрозе.

### З'ява XV

Шванда адзін.

Шванда: Так, ну я і заіграўся! Цяпер вось у лужыне з тысячамі! Меў рацыю Калафуна, калі казаў, каб я заставаўся дома, але ж тупая мазгаўня не паслухала. Дома быў то адзін, то другі прыяцель, а тут я трапіўся ў рукі жартаўніку. Там я меў Даротку, – ах, нават не маю права яе ўспамінаць, – а цяпер мяне могуць павесіць або адсячы галаву. Дзяўчына мяне моцна пакахала, а я, я! Але ва ўсім вінаваты гэты мярзотнік, гэты Воцылка! Калі я яго дастану, то надаю кухталёў, але, мабыць, дарэмна спадзяюся! Тут мне рыхтуюць пятлю з ільну! І мабыць, справядліва, бо трэба было казаць: “Прынцэса, так не пойдзе!” Але д'ябал мяне спакусіў і я стаяў, як пень! Ах, я б адарваў цяпер сабе галаву! Я самы нікчэмны на ўсім свеце, нічога ніколі не меў, бацькоў не было, ах, нават не хачу ўспамінаць, пэўна, мая маці была ваўчыцаю.

### З'ява XVI

Росава з'яўляецца з падзем'я. Падыходзіць.

Росава: Устань, не насміхайся са святых рэчаў, не ганьбі памяць пра маці!

Шванда: Хто гэта? Хто вы? Чаго хочаце?

Росава: Прыйшла ад імя тваёй маці цябе вызваліць.

Шванда: Ці ведаеце яе?

Росава: Ведаю.

**Шванда**: Тады я прашу ёй перадаць, што магла б раней пра мяне ўспомніць, бо я дастаткова нацярпеўся і не ведаю, як здарылася, што мяне пастух знайшоў…

**Росава**: Устань! Калі б яна цябе чула, то ў яе сэрца разарвалася б ад болю.

**Шванда**: Болю? Чаму яна не азывалася столькі часу?

**Росава**: Не мела права. Яе сэрца рвалося да цябе, але яна вымушана была падпарадкоўвацца іншым законам, чымся любоў і не магла да цябе наблізіцца.

**Шванда**: І гэта насамрэч любоў! Я не мог таксама да Дароткі падысці, а тым не менш мы з ёю сустракаліся. Ах, каб вярнуць цяпер Даротку!

**Росава**: Вер. Маці цябе любіць!

**Шванда**: Але што я з таго маю, калі нават не адчуваю? Калі б была іншаю, то спытала б, ці здаровы я: калісьці я бачыў, як іншыя маці гуляюць з дзецьмі, і змушаны быў залезці ў хлеў для кароў і там выплакаць сваё гора, што не маю маці, якая б мяне песціла. Не трэба казаць мне пра маці! Калі б яна была іншай, то ведала б тое, што і я ведаў, што маці надзвычай шчаслівая, калі можа сваё дзіця прытуліць да сэрца.

**Росава**: Няхай жа парвуцца путы мае, выпялёхвай шчасце, здароўе маё, хай жа нап'юцца ім грудзі мае! Калі я хацела сына да сэрца прыціснуць, то помста каралевы мне пагражала… Хадзі сюды, мой дарагі, я маці твая!

**Шванда**: Пра што гаворыце?

**Росава**: Ты дзіця маё!

**Шванда**: О мой Божа! Я баюся!

**Росава**: Я твая маці! Хадзі, хадзі сюды, не пакідай маці, дай ёй хвіліну шчасця, хай маё сэрца ўзвіецца ад радасці, калі я пачую з тваіх вуснаў: "Матуля!"

**Шванда**: О, матуля! *(абдымае яе)*.

**Росава**: О маё дзіця, я дорага заплаціла за тое, што абдымаю цябе цяпер. Пра гэта я марыла доўгія гады, а сёння я трапіла ў кола лёсу *(чуюцца грымоты)*. Чуеш, дзіця? Жорсткі голас кліча мяне ад цябе, магчыма, назаўсёды! Калі аднойчы сустрэнемся, то будзе бяда і не будзеш ты мне ўдзячны, а з жахам ад мяне ты адвернешся … *(грымоты ўзмацняюцца)*

**Шванда**: О, ніколі!

**Росава**: Сыне мой, ідзі за мною, я змагу цябе яшчэ вывесці адсюль (хоча збегчы разам з ім), бяда, позна! Зямля пад нагамі тоне… Ну, коней права, жорсткасці сіла, дай маці месца ў цёмнай ночы, бо ты кубак шчасця мне наліла, а я яго прагна выпіла і цяпер скараюся табе! *(Знікае.)*

Шванда няцвёрдымі крокамі адыходзіць убок.

***Змена дэкарацый***

Цёмна-чырвоная пячора.

### З'ява XVII

Лесана. Німфы.

Дзівука: Га, ужо ляціць ганарлівая жанчына, якая думала, што няма нічога горшага за наш з сёстрамі побыт.

Мінуліца: Мы яе ўзнагародзім, шчодра адмерым і нашай сілы і нашага права адчуваць.

Росава *(з'яўляецца)*: Сілаю тваёю ахопленая, праву твайму падпарадкаваная, стаю, пані, перад табою.

Лесана: Што ты зрабіла? Зноў правінілася! Прызналася сыну.

Росава: О, на гэта была прычына! У мяне схапіла сэрца! Засудзі мяне, пані, толькі зрабі адну міласць, апошнюю, зразумей мяне! Выведзі сына майго і яго верную дзяўчыну з небяспекі, а мяне пакарай жорстка.

Лесана: За сына ты не бойся, ён сябе вызваліць сам, бо так вырашылі нашыя феі, даўшы яму магутную сілу. І яго верная дзяўчына будзе вызвалена з пераплёту. А ты, калі сіла маральнага асуджэння людзей будзе мацней за нашую сілу (што нашкодзіць як ім, так і нам), будзеш пазбаўлена спрадвечнай маладосці, цябе асудзяць жанчыны і ўся твая моц знікне.

Росава: Няхай збудзецца твой прысуд!

Мінуліца: З радасцю вітаю, шаноўная пані, цешымся сустрэчаю з вамі.

Дзівука: Ці праўда, што маеш сынка, нібы прыгожую кветку? Хі-хі! Як толькі пачне змяркацца, павінен нам тут, калі яму пашчасціць вярнуцца, падчас балю граць, тады зразумеем, што ўмее.

Росава: Пані, не дазволь!

Лесана: Гэта твае клопаты! Ты заўсёды казала пра здольнасці сына і як ты іх яму ствараеш! Ну, дык дапамажы яму.

Росава: Спадзяюся на каханне яго дзяўчыны, яно выратуе яго ад бяды.

Лесана: Думаеш? Калі так здарыцца, то сціхне і мой гнеў і я прыму цябе ў сваю дзяржаву!

Мінуліца: Няхай толькі спадзяецца, што ўсё добра скончыцца!

Дзівука: Мы возьмем хлопца ў тугія глюгі, каб не змог нават паварушыцца, убачым, чыя сіла пераможа.

Росава: Каханне мацней за ўсё! Тое, што вы робіце пасткі і ўжываеце гвалт, мізэрнае перад маёю любоўю, клічце ўсіх пачвар на дапамогу, усё роўна любоў адолее сілу пекла *(трымаецца як пераможца)*.

Здалёк чуваць польку ў выкананні Шванды. Рух сярод німфаў.

Росава: Га, мой сын ужо на волі! Дзякую табе, жорсткая сіла, сёння не будзе бяды – любоў дапаможа!

Вялікі натоўп жанчын. Заслона падае.

## ДЗЕЯ III

Шынок на вёсцы, некалькі сталоў і крэслы.

### З'ява I

Франек, Ваша, Мацей, Куба сядзяць з кубкамі. Налейвачык. Воцылка ўваходзіць з заплечнікам, яшчэ больш занядбаны, чым у другой дзеі.

Воцылка: Bonjour[3], спадарства! Salve te, carissimi[4]! Бачу перад сабою пана гаспадара?

Налейвачык: Так.

Воцылка: Сапраўды? Робіце ўсё магчымае, каб чалавек тут нічога не пакінуў?

Налейвачык *(аглядае яго)*: Вы, пэўна, мала пакінеце, бо баіцеся! Я так бачу.

Воцылка: О, не на тое глядзіце! Вы падобны на гаспадара, які не ўмее пяцёрку замест двойкі напісаць, а магчыма, мы абодва памыляемся.

Налейвачык: Чалавеча, вы звар'яцелі?

Воцылка: Яшчэ не, але гэта здарыцца *(здымае заплечнік і ставіць на стол)*, калі з маімі дарагімі рэчамі нешта будзе. Пасля гэтага сяброўскага знаёмства прашу наліць мне куфаль адчэпнага.

Налейвачык: Нічога не хачу чуць.

Воцылка: А калі маеце цяляціну або сырок за крэйцар ды паўбохана хлеба, то нясіце сюды!

Налейвачык: Пагляджу *(адыходзіць)*.

Воцылка: Калі б ты ведаў, што ў маёй кішэні зацменне сонца, дык не хадзіў бы глядзець. Але, vederemo[5]! Разумная галава заўсёды выжыве, пакуль ёсць дурасць на свеце.

Налейвачык прыносіць ежу і пітво.

Куба: Але, хлопцы, сядзім тут, як нежывыя. Давайце, нешта заспяваем!

Ваша: Хай спявае Франак, ён умее лепш за ўсіх.

Франак: Калі Мацей будзе спяваць…

Мацей: Ну, думаю, што не асудзіце!

Спяваюць народныя песні, суправаджаючы імі застолле.

## З'ява II

Шванда ў напалову гарадскім выглядзе. Уваходзіць.

Шванда: Гэй, гаспадар, куфаль піва!

Налейвачык *(выбягае)*: Адну хвілінку, я імгненна.

Моладзь: Глядзіце, Шванда! Шванда тут!

Воцылка *(пра сябе)*: Якога чорта!

Шванда: Добрага здароўя, хлопцы! Добрага здароўя, сябры, і якога д'ябла ты тут робіш, падлюга?

Воцылка: У мяне тут свой экіпаж! Я на службе...

Шванда: Хлопцы, цягніце мне той мех. Я вам за гэта буду граць цэлую ноч.

Моладзь: А чаму не, зробім *(устаюць)*.

Воцылка: Людзі, майце розум! *(цопаецца назад і хапае свой заплечнік)* Назад, у мяне тут пісталет, і я не разумею жартаў.

---

[3] Добры дзень (франц.)
[4] Жадаю здароўя (італ.)
[5] Пабачым (італ.)

Шванда *(смяецца)*: Цяпер ужо не хоча! А калісьці быў лепшай пра мяне думкі, хоць і памылкова!

Воцылка: Вось мудрыя словы! Безумоўна, я быў лепшай думкі. А што пасаг прынцэсы гэта дробязь? Але ён знік, і я змяніўся.

Налейвачык прыносіць куфаль.

Воцылка: Пан гаспадар, мне таксама яшчэ куфаль! *(падсядае да Шванды)*

Шванда *(смяецца)*: Але скажы мне, шыбенік, як ты адтуль уцёк?

Воцылка: О, надзвычай добра! Тыя людзі бясконца казалі мне кампліменты, хацелі, каб я затрымаўся, але я не пагадзіўся, таму што вам такі скандал наладзілі, і знік, як цень.

Шванда: А потым?

Воцылка: Потым я блукаў па чужой зямлі, ажно пакуль нарэшце не сустрэў кампанію вясёлых людзей.

Шванда: Сапраўдных сакратароў, ці не?

Воцылка: О, сярод іх былі таксама прынцэсы і прынцы. Паглядзіце, некалькі іх маю ў заплечніку.

Шванда: У заплечніку?

Воцылка: У мяне з калыскі нястрымная любоў да вольнага мастацтва, і таму я сабраў цэлую банду штукароў.

Шванда: Штукароў?

Воцылка: Тэатра марыянетак.

Шванда: Ха-ха-ха!

Воцылка: Напачатку мне шчасціла, але пазней, нягледзячы на тое, што былі лялькамі, адзін другому шкодзілі, таму мне стала мярзотна, і я змушаны быў кінуць тэатр і, ледзьве не трапіўшы ў астрог, збег з малым заплечнікам, дзе яшчэ маю прынцэсу Алцесту, доктара Фауста, Дона Шайна, штукара і некалькі чарцей. Але ж што гэта я кажу ўвесь час пра сябе, раскажыце мне, як вы тут апынуліся, што робіце і наколькі тут затрымаецеся?

Шванда: Я? А чаго мне тут не хапае? Ці не чуў ты пра страканіцкага дудара?

Воцылка: Чуў, але я не мог здагадацца, што гэта мой славуты музыкант.

Шванда: Дудкі музыкант! Гэтае існаванне, як кудлак з кудзелі, ніякай радасці.

Воцылка: О, каб мы былі разам, то ты пабачыў бы!

Шванда: Магчыма, што ў мяне вочы павылазілі б! Я пакінуў свету свет, а вандраваць буду дома. Каму я буду патрэбны, той мяне знойдзе, тут з дудамі не параўнаецца ніякая музыка.

Воцылка: Збіраецеся тут застацца?

Шванда: Да смерці.

Воцылка: Шкада.

Шванда: Чаму?

Воцылка: Я меў бы прыбытак.

Шванда: Ты?

**В о ц ы л к а**: Калі б вы пайшлі са мою разам. Вы маглі б грошы збіраць, а я ўкладаць. Але вы, калі не памыляюся, жанатыя?

**Ш в а н д а** *(ускочыў)*: Хочаш атрымаць па зубах? Ці не ведаеш, падлюга, што з-за твайго падману арыштавалі Даротку?

**В о ц ы л к а**: Але, магчыма, яе не трымаюць да сёння за кратамі?

**Ш в а н д а** *(смутна)*: Ах, мабыць, ведае толькі Бог, дзе яна ходзіць і не можа знайсці дарогу…

**В о ц ы л к а**: Магчыма, трэба змясціць у газеце аб'яву!

**Ш в а н д а**: Калі пра ўсё, што здарылася ўспомню, то адчуваю, што маё жыццё нічога не вартае і што будзе лепей, калі яго знішчу, часам думаю, што вырваў бы сабе вочы! Гэй, гаспадар, наліце! *(Сядае зноў.)*

Налейвачык адыходзіць з куфалем.

**В о ц ы л к а**: Дык вы ў адзіноце тады пайшлі з той індзіянскай зямлі?

**Ш в а н д а** *(смяецца)*: Вось так, я сам не ведаю, як адтуль выбраўся, было там аж занадта! Мне здалося, што мяне хацелі павесіць, але калі прыйшлі за мною, то я з адчаю граў з замілаваннем, і хлопцы, замест таго, каб мяне схапіць, сталі слухаць, смяяцца і танчыць, а я нібы праз іх ішоў усё далей і далей, пакуль не апынуўся за горадам.

**В о ц ы л к а**: Што гэта было? Няўжо толькі дуды? Не, далібог, ніколі не сказаў бы, што гэты мех і гэтая нікуды не годная свістулька нешта ўмее.

**Ш в а н д а**: Так, свістулька! Ты можаш у яе дзьмуць, аж пакуль не выцякуць вочы, але нічога не выдзьмеш, а ў мяне ўсё атрымаецца. Ага, гэтая самая, ці не так? Я таксама доўга не разумеў, што гэта, але калі мяне гадавалі на пашы, то я зразумеў сутнасць.

**В о ц ы л к а**: Ідзі да д'ябла! *(Устае.)* Каб гэта былі нейкія дзівосныя дуды з даўніх часоў, ліха іх бяры, то мне прыходзяць у галаву жарты.

**Ш в а н д а**: Ну, што так адыходзіш, нібы цябе тут нехта пакрыўдзіў? Ідзі піць! Ці табе не смакуе?

**В о ц ы л к а**: О, а як жа, калі б ты ведаў як…

**Ш в а н д а**: Пі, табе гэта карысна, і калі хочаш, то заставайся ў мяне. Я не ведаю нікога, хто б быў так мяне смяшыў, а я люблю смяяцца.

**В о ц ы л к а**: На мяне можаце абаперціся!

**Ш в а н д а**: Я ведаю…

**В о ц ы л к а**: Замкі можаце на мне будаваць!

**Ш в а н д а**: Даротка не вярнулася, а я толькі спяшаўся заўсёды да яе.

**Н а л е й в а ч ы к** *(ля акна)*: Я, пэўна, звар'яцеў! Звініць, ці мне здаецца?

**Ш в а н д а**: Што там?

**Н а л е й в а ч ы к**: Гэта было насамрэч, нібы я стаяў на ўзгорку і бачыў.

**Ш в а н д а**: Каго?

**В о ц ы л к а**: Шынкарскія мазгі з налівачкаю.

**Н а л е й в а ч ы к**: Калафуну з той дзеўкаю!

**Ш в а н д а**: Што вы кажаце? Калафуну… Воцылка, трымай мяне, а то я звалюся! Ці добра вы бачылі?

**Н а л е й в а ч ы к**: Магчыма, мне здалося.

**Ш в а н д а**: Ах, каб гэта было сапраўды!

**Воцылка:** Гэта было б амбо, а для мяне тэрна[6]!

**Шванда:** Воцылка, давай пацалуемся! Калі гэта Даротка, то я не ведаю, што зраблю, ах, ледзьве трымаюся на нагах.

**Воцылка:** Я пайду запытаюся…

**Шванда:** Э, не, я павінен гэтую радасць перажыць сам! А ты радуйся, скачы, сакратар! Гаспадар, наліце, я сёння за ўсіх плачу! Няхай усе нап'юцца – у мяне ідзе колам галава ад такой навіны. *(Адыходзіць.)*

**Воцылка:** Як бы мне цяпер выкруціцца! А я ўжо будаваў каралеўскія планы. Тыя дуды павінны быць маімі, толькі якім чынам неяк уплываць на дудара, ніхто мне не падкажа. Як толькі пачынаю нешта рабіць, то кажуць: "Воцылка, не дурыся!" Эй, як тут быць! Цяпер пануюць адны махляры. Хітрыкі гэта таямніца, у якой усё хаваецца.

ПЕСНЯ

Калі захоча прыяцель знайсці багатую дзяўчыну,
Таму збярэцца ў далёкі шлях,
То прывяду яго да нявесты,
Для якой ён будзе жартаваць і граць;
Прыяцель шчаслівы, о так, і моцна,
Сядзіць з ёю цэлыя дні, дакладна дамаўляецца,
А калі захоча насамрэч вяселле мець –
Атрымае гарбуз і можа з ім ісці –
Гэта ўсё, што можна атрымаць такім фартэлем.

Юрыст бегаючы дваццаць гадоў
Быў задаволены сваім танным заработкам;
Адышоў ад мэты на дзесяць крокаў,
І ўжо мае цёплае месца.
З радасці паведамляе пра гэта свайму прыяцелю,
Той імгненна бяжыць да кіраўніка,
І калі першы хоча ўжо грошы атрымаць,
То павінен ужо шукаць іншае месца –
Усё, што можа атрымаць ад такога фартэля.

Спекулянт абарваў вушы прыяцелям,
Што атрымліваюць вялікія грошы,
І яны куплялі акцыі, перапісвалі душы,
Мабыць, сцягнулі грошы і ў сірот.
Раптам сказаў, што не можа заплаціць,
Перавёў грошы на сваю жонку.
І калі хацелі прыяцелі атрымаць грошы,
То нічога не маглі ад банкрута ўзяць.
Усё гэта і ёсць фартэль.

---

[6] Ambo i terna (італ.) – дзве і тры лічбы ў латарэі.

З фартэлем сёння крамнік пакупніка прыгнятае,
Гандлярцы пераплаці, крамніку дай,
Усе ціснуць, нібы кішэня ўсё вытрымае,
Фартэль на свеце – самы вялікі храм.
Ужо піва нам з фартэлем вараць,
Ужо муку на паравым млыне робяць,
З фартэлем хацелася б пагадзіцца толькі ў адным:
Каб усё магло б быць танным.
Толькі не хочацца з фартэлем жыць.

Ужо і чэшская мова праз фартэль прайшла,
Многія яе песцяць для голага прыбытку.
Сям-там і надпіс на краме вісіць,
Дзе яшчэ чэх нават не піскнуў.
Многія цяпер горача ўсё чэшскае хваляць,
Ледзьве язык не спаляць,
Калі захочаш прычыну пахвалы зразумець,
Жуллё за гэта хоча кавалак хлеба мець.
А таму і размаўляе з фартэлем.

***Змена дэкарацый***

Бедная святліца

### З'ява III

Кордула з кошыкам вядзе Лідушку, Францiка, ■ Качэнка перад імі з вузельчыкам у руцэ, побач Гонзік.

Францік: Паглядзі, мне далі мукі! Цётка сказала, каб ты напякла аладак, матуля!

Качэнка: А мне хросная насыпала пшана! Гэта будзе каша, ці не так?

Кордула *(ставіць на стол кошык)*: А дзе Гонзік? Павінен мне нешта сказаць.

Гонзік *(уваходзіць з вязкаю дроў)*: Ах, хай цябе павіншуе Пан Бог, матуля! Вы ўжо з Піску вярнуліся? Я хадзіў па дровы, гэтага хопіць на два дні.

### З'ява IV

Калафуна з мехам за плячыма. Даротка з заплечнікам. Падыходзяць.

Калафуна *(адчыняе дзверы і спыняецца ў іх)*: Добрага здароўя, таварыства!

Дзеці: Татка, татка! *(бягуць да яго і кідаюцца яму на шыю.)*

Кордула: Гэта ты, пракляты... *(Раптам адварочваецца ад яго і прыбірае кошык і вузельчыкі.)* А не, не! Хоць бы мяне нехта спыніў!

Калафуна: Дзякуй Богу, вы мае дзеці, дзякуй Богу, ты мая качачка! Што робіш, Францік? Ці слухаецеся вы?

Дзеці: Слухаемся.

Калафуна: Так! Мёду я ўжо лізнуў, цяпер пайду кусаць аер! *(Набліжаецца да жонкі.)* Цалую ручкі, яснавяльможная Кордула!

Кордула на яго не глядзіць.

Калафуна: Старая, я нарабіў глупства, але цяпер усё будзе добра, і я табе нешта прывёз.

Кордула *(трасе спокладкам, які трымае ў руцэ)*: Ну, гасцінна вітаю пана! Ужо мы налёталіся? Што? Ці балелі ў нас ногі? Вярнуліся адпачыць? Тут няма месца, паночку, тут жыве бедная, забытая, але паважаная жанчына! Тут няма нават дзе прытуліцца, глядзіце гняздо дзе-небудзь у іншым месцы *(зноў паварочваецца да кошыка)*

Калафуна *(размаўляе з дзецьмі)*: Ну, як, Даротка? Сядайце, сядайце! Гэй, Францік, прынясі крэсла! Адчувайце сябе, як дома. Калі прыйдзе мая старая, яна вас нечым пачастуе.

Кордула *(раскрычалася)*: Ах ты бессаромнік! *(Прайшлася па пакоі. Зноў вярнулася на месца, глядзіць па кутках.)*

Калафуна: Ну, што са мною будзе, дзеці? Ці не дапаможаце мне зняць заплечнік?

Дзеці дапамагаюць зняць.

Калафуна: Пачакайце, адну хвіліну!

Кордула: Францік, хадзі сюды! Чуеш?

Францік: Іду, матуля, іду!

Кордула: Гонзік, я за табою павінна ісці?

Гонзік: Ужо іду.

Калафуна: Хвілінку, у мяне тут нешта ёсць для вас, і дайце мне тое старое крэсла, калі не аддалі яго габрэям – хе-хе!

Дзеці ставяць пасярод старое крэсла.

Калафуна *(зручна ўладкоўваецца)*: Як я па гэтым сумаваў! Усюды добра, а дома – лепей за ўсё, памятайце пра гэта, дарагія дзеці! І бачу матулю слухаліся, калі гэта праўда…

Дзеці: Гэта праўда! *(Аглядаюцца на маці.)*

Калафуна: Тады я павінен вас нечым парадаваць.

Францік: Дасі мне ляльку з перніка?

Калафуна: Дам, дзіцятка, нават дзве.

Качэнка: Мне таксама!

Калафуна: А цяпер паслухайце. Разумееце, калі я ад вас пайшоў, я вам нічога не казаў, каб вы не плакалі, а то мне было б вельмі балюча, і матуля таксама плакала б…

Гонзік: Яна плакала і без таго!

Кордула пакрыўджаная.

Калафуна: …альбо мяне цалавала.

Гонзік: Яна цалавала і без гэтага!

Калафуна: Гэта са страху, што са мною нешта ў свеце здарыцца, бо яна мяне вельмі кахае…

Дзеці аглядаюцца.

Калафуна: Я яе таксама кахаю, таму і пайшоў у свет, каб нешта зарабіць і ёй прынесці.

Кордула слухае.

Калафуна: Калі не памыляюся, ёй было вельмі цяжка.

Гонзік: О, так! Усё рабіла, але была надзвычай сумнай.

Калафуна: Паглядзіце, як я яе за ўсё узнагароджу, калі яна вернецца дахаты…

Качэнка: Але матуля до…

Калафуна *(закусіўшы вусны)*: Калі вернецца дахаты, то кінецеся ёй насустрач і закрычыце: "Татка тут, думае пра цябе, грае, а гэта табе прынёс *(дастае поўны мяшок алавяных манет)* торбачку талераў і нешта зашыў яшчэ ў адзенне. Бяры, матуля, будзь вясёлаю і кахай яго".

Кордула: Сціхні, сціхні, муж, а то ў мяне разарвецца сэрца! *(бяжыць да яго і абдымае)*

Калафуна: Глядзіце, матуля ўжо дома!

Дзеці *(скачуць вакол іх)*: Гэй-ху-ху!

Кордула: Не гневайся, Калафуна, што я цябе так сустрэла, бо я не мела магчымасці амаль палову лета перакінуцца з табою словам.

Калафуна: Безумоўна, безумоўна, хе-хе, штраф павінен быць.

Кордула: Але адкуль у цябе грошы?

Калафуна: Слухай, старая, навары, напякі, рабі з імі, што табе падабаецца, а калі ў цябе пры гэтым не будзе хапаць рук, то прывяду табе памочніцу, бо не бывае шчасця зашмат.

Кордула: І як разважаеш, дарагі мужанёк! Калі Даротка напакутвалася сярод чужых, то хай застанецца ў нас. Калі Бог так доўга дапамагаў, то дапаможа і цяпер. Не гневайцеся, Даротка! Ведаеце, калі ў чалавека нешта на сэрцы…

Калафуна: Кінь гэта, старая, і паслухай. Што табе людзі кажуць пра Шванду?

Кордула: Гэта чалавек, божае пакаранне! Пра тое, што мог мець, але не мае, дарэмна казаць! Але ён усё заўсёды пратаўчэ: увечары заробіць, а да раніцы прайграе.

## З'ява V

Шванда. Падыходзіць.

Шванда: Гэта праўда? Гэта ты, сапраўды, Калафуна. Але не гневайся. Дзе ты кінуў Даротку?

Калафуна паказвае галавою.

Шванда *(бяжыць да яе)*: Даротка!

Калафуна *(убок, жонцы)*: Старая, не будзем глядзець на іх чатырма вачыма! Хлопец нас уцягнуў у д'ябальскую гісторыю і павінен атрымаць за гэта, але мы шчасліва выкруціліся, і я не хачу гневацца, бо ведвеш, што сёння падзяліў бы з цэлым светам сэрца. Хе-хе, а гэтай дзяўчыне не пашкодзіць, каб злосць улеглася. Хадзем, дзеці, хадзем у пакой, убачыце, што я вам прынёс *(бярэ заплечнік і выходзіць разам з сям'ёй)*.

Шванда: Даротка, паглядзі на мяне і паслухай!

Даротка *(не ўздымае вачэй)*: Чаго ты ад мяне хочаш? Паміж намі нічога не можа быць.

Але каралевіч, калі яе ўбачыў, узяў лук і паслаў у яе калёную стралу. Трапіў, не трапіў, але ліса знікла.

У другога брата атрымалася так. Калі ён на шырокім лузе прысеў на траву і дастаў ежу, то да яго таксама прыйшла галодная ліса Рыжуха, каб нешта ёй даў. Але ён у яе стрэліў, і яна ўцякла.

Малодшы брат доўга ехаў і прыехаў да нейкага ручая. Ён быў стомлены і галодны, саскочыў з каня і сеў на беразе ў траву, каб перакусіць. Калі пачаў есці, то ўбачыў таксама лісу Рыжуху. Яна падыходзіла да яго бліжэй і бліжэй, і спынілася непадалёку:

Вельмі прашу, паночку, я такая галодная, дай мне нечага з'есці.

Каралевіч кінуў ёй кавалак каўбасы і сказаў:

– Падыдзі, не бойся мяне, ліса Рыжуха! Я бачу, што ты больш галодная чым я. Але сёння мы з табою паядзім.

Потым падзяліў ежу на дзве часткі, адну ўзяў сабе, а другую аддаў лісе.

Ліса Рыжуха паела ўволю і потым сказала:

– Паколькі ты мяне добра пакарміў, то я табе добра і паслужу. Сядай на свайго каня і едзь за мною. Калі зробіш так, як я параю, то птах Агнявы будзе тваім.

Потым яна пабегла наперад і калматым хвастом рабіла яму дарогу. Яна змятала горы, стварала даліны і праз водныя перашкоды будавала масты. Каралевіч на кані ехаў рыссю, аж пакуль раптам не апынуўся ля меднага замка.

– Птах Агнявы знаходзіцца ў гэтым замку, – сказала ліса Рыжуха. – Ідзі туды дакладна ў поўдзень, калі стражнікі будуць спаць, але нідзе не затрымлівайся. У першай зале ўбачыш дванаццаць чорных птушак у залатых клетках, у другой – дванаццаць залатых птушак у драўляных клетках, а ў трэцяй будзе сядзець птах Агнявы на курасадні. Там убачыш дзве клеткі, залатую і драўляную. Не трэба яго садзіць у залатую, а патрэбна ў драўляую, інакш будуць непрыемнасці.

Каралевіч пайшоў у гэты медны замак і знайшоў усё так, як ліса Рыжуха і казала. У трэцяй зале сядзеў птах Агнявы на курасадні, нібы спаў. Ён быў такі прыгожы, што сэрца каралевіча мацней забілася. Ён узяў яго і пасадзіў у драўляую клетку. Пазней задумаўся і кажа:

– Ну як гэта можа быць, каб такі прыгожы птах сядзеў у такой трухлявай клетцы? Птах Агнявы можа быць толькі ў залатой клетцы!

Таму ён перасадзіў птаха з драўлянай клеткі ў залатую.

Але толькі ён гэта зрабіў, птах Агнявы прачнуўся і засвісцеў, і тут распачалося ў дзвюх залах такое, так пачалі свісцець і каркаць птушкі, што стражнікі прачнуліся. Яны імгненна прыбеглі, схапілі каралевіча, прывялі да караля.

Кароль сграшна ўгневаўся і сказаў:

– Хто ты, злодзей, і як ты змог падмануць маіх стражнікаў, каб яны табе дазволілі прайсці і скрасці птаха Агнявога?

– Ніякі я не злодзей, – адказаў каралевіч, – але прыйшоў я па злодзея, якога ты хаваеш. У нашым каралеўскім садзе ёсць яблыня, на якой залаты яблык. Ён за дзень вырастае і выспявае, а твой птах Агнявы кожную ноч яго

крадзе. Кароль, мой бацька, ад гэтага хварэе. Баліць у яго сэрца, і ён не будзе здаровым, пакуль не пачуе, як твой птах Агнявы спявае. І таму прашу, дай мне яго.

– Я табе яго аддам, – сказаў на гэта кароль, – калі за гэта прывядзеш мне каня Залатагрывага.

– Чаму ты мяне не паслухаў і ўзяў залатую клетку? – гневалася ліса Рыжуха.

– Так, я памыліўся, – адказаў каралевіч, – але ўжо не гневайся на мяне, а дапамажы, можа, ведаеш што пра каня Залатагрывага.

– Ведаю, – сказала ліса Рыжуха, – і прывяду цябе да яго. Сядай на свайго каня і едзь за мною.

Зноў яна пабегла пасярод і калматым хвастом пракладала яму дарогу. Каралевіч ехаў за ёю рыссю аж пакуль не апынуўся ля сярэбранага замка.

– Тут, у гэтым замку, ёсць конь Залатагрывы, – сказала ліса Рыжуха. – Ідзі туды дакладна ў поўдзень, калі будуць стражнікі спаць, але нідзе не спыняйся. У першай стайні знойдзеш дванаццаць вараных коней з залатымі аброцямі, у другой дванаццаць белых коней з чорнымі аброцямі, а ў трэцяй якраз і знаходзіцца той конь Залатагрывы ля сваёй кармушкі. Побач з ім на сцяне ўбачыш дзве аброці, залатую і скураную, але будзь уважлівым! Не чапай залатую, няхай вісіць, а бяры скураную, бо будзе бяда.

Каралевіч пайшоў у той замак і знайшоў усё так, як ліса Рыжуха і казала. У трэцяй стайні быў конь Залатагрывы ля сярэбранага карыта і еў з яго сапраўдны агонь. Ён быў настолькі прыгожы, што на яго каралевіч не мог не наглядзецца. Пасля ён узяў са сцяны скураную аброць і надзеў яе на каня Залатагрывага. Конь стаяў, нібы ўкапаны. І тут каралевіч зірнуў на залатую аброць з дарагімі каменнямі.

– Ну як жа гэта можа быць, каб такі прыгожы конь меў такую трухлявую аброць? – запытаўся ён сам у сябе. – Каню Залатагрываму падыдзе толькі залатая аброць!

І ён скураную аброць замяніў на залатую.

Але як толькі конь адчуў, што на ім залатая аброць, то пачаў станавіцца на дыбкі і гучна іржаць. І тут распачалі коні ў тых першых стайнях скакаць і ржаць так, што прачуліся стражнікі, прыбеглі, каралевіча схапілі і прывялі да караля.

– Хто ты, злодзей, – накінуўся на яго кароль, – што асмеліўся каля стражнікаў прайсці, каб скрасці майго каня Залатагрывага?

– Ніякі я не злодзей, – адказаў каралевіч, – я не хацеў красці твайго каня, а быў вымушаны.

І расказаў, як здарылася, што кароль меднага замка не хоча аддаць птаха Агнявога, пакуль ён не прывядзе яму каня Залатагрывага. І папрасіў, каб той яму каня аддаў.

– Бяры яго, – адказаў на гэта кароль сярэбранага замка, але за гэта прывядзі мне паненку Золатавалоску з залатога замка ў чорным моры.

Ліса Рыжуха чакала ў лесе каралевіча, і калі ўбачыла, што вярнуўся без каня, вельмі на яго ўгневалася:

– Ці не казала я, што трэба было залатую аброць пакінуць на сцяне, а ўзяць скураную? Хто не слухае парады, таму не дапаможаш.

– Не гневайся, ліса Рыжуха, – прасіў каралевіч, – так, я памыліўся, але толькі яшчэ раз дапамажы мне.

– Яшчэ раз напаследак табе дапамагу, – сказала ліса Рыжуха. – І калі мяне паслухаеш, то можаш яшчэ выправіць тое, што неразумна зрабіў. Сядай на свайго каня і едзь за мною.

Потым пабегла наперад і паказвала каралевічу дарогу ажно пакуль не прыехаў да залатога замка ў чорным моры.

– У гэтым замку, – паведаміла ліса Рыжуха, – гаспадарыць каралева мора. У яе тры дачкі і самая малодшая з іх Золатавалоска. Ідзі туды і папрасі яе, каб за цябе адну з дачок аддала. Калі скажа, каб выбіраў, то вазьмі тую, што прасцей за іншых апранутая.

Каралева мора ласкава каралевіча сустрэла, а калі ён сказаў, з якою мэтаю з'явіўся, то яна прывяла яго ў пакой, дзе тры дачкі сядзелі і пралі. Яны былі такімі падобнымі адна да адной, што ніхто на свеце іх не адрозніў бы. І былі настолькі прыгожыя, што каралевічу заняло дыханне, калі глядзеў ім у вочы. Кожная павязала галаву хусткай, каб не было заўважна, якія ў яе валасы, і кожная была па-рознаму апранутая. На адной была сукенка і хустка, тканыя золатам, і трымала яна залатое верацяно. На другой былі хустка і сукенка, расшытыя срэбрам, і сярэбранае верацяно ў руцэ. На трэцяй была чыстая белая хустка на галаве і белая сукенка, прала яна звычайным верацяном.

– Выбірай тую, якая падабаецца, – сказала каралева, і каралевіч паказаў на паненку, апранутую ў белае:

– Гэтую аддай за мяне!

– Го-го! – здзівілася каралева, – гэтую ты выбіраеш не для сябе. Пачакай пакуль да заўтра.

Турботы не далі ў тую ноч каралевічу заснуць, бо не ведаў, ці пашчасціць яму, і як толькі пачало днець, ён выйшаў у сад замка.

Але ледзьве зрабіў пару крокаў, як аднекуль з'явілася перад ім белая паненка:

– Калі хочаш мяне сёння пазнаць, то звярні ўвагу, якую з нас аблятаць будзе муха.

І як з'явілася, так і знікла.

Потым пасля поўдня каралева прывяла каралевіча зноў у той пакой, дзе яе дочкі былі ўчора:

– Калі пазнаеш, якую ўчора абраў, то будзе тваёю. Калі не пазнаеш, то складзеш галаву.

Дочкі сталі адна побач з другою, усе дарага і прыгожа апранутыя. І ў кожнай з іх былі залатыя валасы, якія так свяціліся, што каралевічу засляпіла вочы. Потым, калі праз хвілінку зрок звыкся, ён убачыў, што адну з паненак аблятае малая залатая муха.

– Я выбіраю гэтую паненку, – сказаў, – няхай яна мне належыць.

Каралева здзівілася таму, што ён яе пазнаў, і сказала:

– Але пакуль ты яе не атрымаеш. Яшчэ заўтра ты павінен зрабіць тое, што я загадаю.

Раніцаю яна паказала яму на вялікую сажалку ля лесу, дала яму малое залатое сіта і сказала:

– Калі гэтым сітам да заўтрашняй раніцы вычарпаеш сажалку, то Золатавалоска будзе тваёю, калі не, то пазбаўлю цябе галавы.

Каралевіч узяў сіта і пайшоў сумны да сажалкі. Апусціў сіта ў ваду і набраў, але калі выцягваў, яна ўся і выцекла да кроплі. Калі ўбачыў, што нічога не выйдзе, сеў на зямлю, сіта каля сябе паклаў і пачаў думаць, што рабіць.

Раптам перад ім з'явілася аднекуль паненка ў белым.

– Чаму ты такі сумны?

– Як я магу быць вясёлым, – адказаў каралевіч, – калі бачу, што не зраблю. Твая маці дала мне заданне, якое немагчыма выканаць.

– Не турбуйся, – сказала паненка, – усё можна зрабіць.

Яна ўзяла сіта і кінула яго пасярод сажалкі. І тут адразу пачала кіпець вада і воблака пары ўзнялося з сажалкі, і ў хуткім часе нічога не было відаць за тры крокі.

Каралевіч пачуў грукат, і калі азірнуўся, то ўбачыў лісу Рыжуху і каня.

– Спяшайся, – сказала ліса, – пасадзі паненку перад сабою на каня і ад'язджай.

Конь ляцеў хутка назад па вызначанай дарозе, а ліса Рыжуха за ім усё знішчала. Пухнатым хвастом змятала масты, стварала даліны, уздымала горы, рабіла ўсё так, як было раней. Каралевіч быў задаволены, што знайшоў золатавалосую паненку, але яму не хацелася аддаваць яе каралю сярэбранага замка за каня Залатая Грыва. І чым бліжэй ён пад'язджаў да таго замка, тым рабіўся больш сумным.

– Пэўна цяжка табе таму, што сваю прыгожую Золатавалоску ты павінен аддаць за каня Залатая Грыва? – запыталася ў яго ліса Рыжуха. Я табе дапамагла ўжо дастаткова, але і тут нешта зраблю.

Яна пераскочыла ў лесе цераз пень, перакульнулася, і замест лісы Рыжуха стала другою паненкаю Золатавалоскаю, падобнаю на тую, якую вёз каралевіч.

– Няхай гэтая паненка застанецца ў лесе, а мяне прывязі ў сярэбраны замак, каб табе за мяне аддалі каня Залатагрывага. А потым, калі яго атрымаеш, возьмеш сваю паненку і паедзеш.

Кароль быў за гэтую паненку Золатавалоску вельмі ўдзячны і не стаў чакаць, а аддаў каралевічу каня Залатагрывага з залатою аброццю. Потым для сваёй прыгожай паненкі Золатавалоскі наладзіў слаўнае баляване і запрасіў на яго ўсіх паноў.

Калі ж яны добра выпілі і развесяліліся, запытаўся кароль у тых паноў, ці падабаецца ім яго золатавалосая нявеста.

– Прыгожая, – адказаў адзін пан, – прыгажэй быць не можа, але мне здаецца, што ў яе лісіныя вочы.

Як толькі ён гэта вымавіў у адзін момант з паненкі Золатавалоскі ўтварылася ліса Рыжуха і адным скокам вылецела за дзверы і знікла. Яна бегла за каралевічам і Золатавалоскай і знішчала за імі сваім хвастом дарогу.

Калматым хвастом змятала масты, стварала раўніны, уздымала горы, рабіла ўсё такім, якім яно было раней. Калі дагнала іх, то яны былі ўжо каля меднага замка з птахам Агнявым.

І тут кажа ліса Рыжуха:

– Як добра сядзіць паненка Золатавалоска на кані Залатагрывым! Пэўна, табе, каралевіч, шкада аддаваць каня Залатагрывага за птаха Агнявога?

– Не, я толькі не хацеў аддаваць паненку Золатавалоску, – адказаў каралевіч, – і я вельмі хацеў бы, каб быў здаровы мой бацька.

А ліса Рыжуха яму на гэта:

– Ну дык там, дзе паненка Золатавалоска і конь Залатагрывы, там і птах Агнявы. Я табе ўжо дапамагла ўсім і тут дапамагу.

Яна ў лесе пераскочыла цераз пень, перакулілася, і замест лісы Рыжухі стаяў другі конь Залатагрывы, абсалютна падобны да таго, на якім сядзела Золатавалоска.

Прывядзі мяне да караля меднага замка, – сказала ліса, – каб табе за мяне ён аддаў птаха Агнявога. І калі яго атрымаеш, то ад'язджай.

Кароль быў вельмі задаволены тым, што атрымаў каня Залатагрывага, і адразу ж аддаў птаха Агнявога ў той залатой клетцы. Потым паклікаў да сябе шмат паноў, паказаў ім каня Залатагрывага і запытаўся ў іх, ці падабаецца ён ім.

– Прыгожы, – сказаў адзін з паноў, – прыгажэй быць не можа, але здаецца мне, што ў яго лісіны хвост.

Як толькі ён вымавіў гэтае слова, як у той жа момант конь Залатагрывы ператварыўся ў лісу Рыжуху, і яна адным скокам апынулася за брамаю і знікла. Яна бегла за каралевічам і за Золатавалоскаю, знішчала за імі і сабою сваю лісіную дарогу і дагнала іх толькі ля ручая, дзе ўбачылася з каралевічам.

– Цяпер у цябе ўжо ёсць птах Агнявы, – сказала яму, – і маеш больш, чым пажадаў, і я табе больш не патрэбная. Едзь спакойна дадому, і нідзе не спыняйся, інакш будуць непрыемнасці.

І пасля гэтых слоў знікла.

Каралевіч паехаў сваёю дарогаю далей, у руцэ ён трымаў залатую клетку з птахам Агнявым, побач ішоў конь Залатагрывы з залатою аброццю, а на ім сядзела прыгожая паненка Золатавалоска.

Калі ён пад'ехаў да таго скрыжавання ў лесе, дзе развітаўся з братамі, успомніў пра галінкі, якія кожны з іх ля сваёй дарогі ў зямлю пасадзіў, як знак. Галінкі яго братоў былі сухімі, але з яго галінкі вырасла ля дарогі прыгожае разгалістае дрэва. Каралевіч парадаваўся гэтаму, але ён і паненка былі стомленыя, і таму вырашылі пад тым дрэвам адпачыць. Ён прывязаў да дрэва каня, а клетку з птахам Агнявым павесіў на галінку. У хуткім часе змарыла ўсіх дрымота, і яны паснулі.

Пакуль яны спалі, вярнуліся браты, адзін з аднаго боку, другі з другога, але абодва з пустымі рукамі. Убачылі, што іх пруткі сухія, а з прутка малодшага брата вырасла прыгожае разгалістае дрэва. Пад дрэвам яны ўбачылі брата, які спаў побач з прыгожай паненкай Золатавалоскай, каня Залатагрывага, а над ім у клетцы птаха Агнявога.

У іх нарадзілася ў сэрцы злая думка, і сказаў адзін брат другому:

– Наш брат атрымае ад бацькі палову каралеўства, а пасля смерці стане спадчыннікам. Лепш будзе, калі мы яго заб'ем. Паненку Золатавалоску возьмеш ты, каня Залатагрывага я, птаха Агнявога дадзім бацьку, каб той яму спяваў. А каралеўства падзелім на двух.

Як вырашылі, так і зрабілі. Цела брата пасеклі на шмат кавалкаў, а паненцы Золатавалосцы прыгразілі смерцю, калі скажа праўду.

Калі прыехалі дадому, то паставілі каня Залатагрывага ў мармуровую стайню, птаха Агнявога паставілі ў клетцы ў пакоі, дзе ляжаў кароль, а Золатавалосцы далі прыгожы пакой і шмат служанак.

Стары хворы кароль паглядзеў на птаха Агнявога і запытаўся ў сыноў, ці не ведаюць яны што-небудзь пра малодшага.

– Не чулі мы пра яго, – адказалі браты, – мабыць, недзе загінуў.

Бацька застаўся маркотным, птах Агнявы не спяваў, конь Залатагрывы павесіў галаву, а паненка Золатавалоска не сказала ніводнага слова, не расчэсвала свае залатыя валасы і бясконца плакала.

А ў гэты час каралевіч, рассечаны на кавалкі, ляжаў у лесе, куды прыбегла ліса Рыжуха; яна сабрала кавалкі, склала так, як трэба. Хацела ажывіць каралевіча, але не магла.

Тут яна ўбачыла варону з двума варанятамі, якія падляталі да цела. Ліса схавалася за куст у траву, і калі адна з варон села на цела, каб дзяўбці, ліса Рыжуха выскачыла і схапіла яе за крыло і зрабіла выгляд, што хоча разарваць птушку.

Старая варона ад страху за дзіця падляцела бліжэй, села на куст і сказала лісе Рыжусе:

– Кра, кра, кінь маё беднае дзіця, якое цябе нічым не пакрыўдзіла. Аддзячым табе, калі будзе патрэба.

– Тады якраз у мяне і ёсць патрэба, – сказала ліса Рыжуха. – Калі прынясеш мне з чорнага мора жывую і мёртвую ваду, то адпушчу тваё вараня на свабоду.

Варона запэўніла, што прынясе, і паляцела. Лётала яна тры дні і тры ночы, і калі вярнулася, то прынесла з сабою два рыбіныя пузыры, поўныя вады. У адным была вада жывая, а ў другім – мёртвая. Ліса Рыжуха ўзяла тыя пузыры і разарвала вараня на дзве часткі. Потым прыклала адну да другой, пакрапіла іх мёртваю вадою, і адразу яны зросліся паміж сабою. Потым пакрапіла жывою вадою, і вараня захлопала крыламі і паляцела. Ліса пакрапіла мёртваю вадою рассечанае цела каралевіча, і адразу ж яно зраслося, не засталося нават знаку. А калі пакрапіла жывою вадою, прачнуўся каралевіч, нібы спаў, падняўся і сказаў:

– Ах, як я моцна спаў!

– І сапраўды, моцна ты спаў, – пацвердзіла ліса Рыжуха, – і калі б мяне не было, ніколі б не прачнуўся! Ці я табе не казала, каб ты нідзе не спыняўся і ехаў адразу дадому?

Потым яна расказала яму, што з ім здарылася, правяла яго ажно на край лесу амаль да каралеўскага замка яго бацькі, дала яму простае адзенне, развіталася з ім і знікла.

Каралевіч пайшоў у замак і наняўся на службу конюхам. Яго ніхто не пазнаў.

Тут ён пачуў, як два конюхі паміж сабою размаўляюць:

– Шкада таго прыгожага каня Залатагрывага! Стаіць, павесіў галаву і нічога не есць.

– Дайце яму гарохавай саломы, – сказаў каралевіч, – магу з вамі паспрачацца, што адразу пачне есці.

– Го-го! – смяяліся конюхі, – такое нават нашыя коні, што пашуць, не ядуць.

Каралевіч пайшоў, узяў гарохавую салому і даў яе таму каню, што стаяў ля мармуровага карыта, потым пагладзіў яго па залатой грыве і сказаў:

– Што ж ты такі сумны, мой конь Залатагрывы?

Тут пазнаў конь голас свайго гаспадара, падскочыў, фыркнуў, весела заіржаў і са смакам паеў гарохавай саломы.

Імгненна разнеслася чутка па ўсім замку і даляцела нават да хворага караля, што адзін са слугаў вылечыў каня Залатагрывага.

Кароль загадаў прывесці слугу і сказаў яму:

– Я чуў, што ты дапамог каню Залатагрываму. Ці не змог бы ты дапамагчы птаху Агнявому, каб заспяваў! Ён сумны, павесіў крылы і нічога не есць. Загіне ён, загіну і я.

– Не бойся, светлы кароль, не загіне, – адказаў каралевіч. – Загадай, каб прынеслі трохі ячменю, ён паесць, развесяліцца і адразу ж заспявае.

– Го-го! – смяяліся слугі, калі ішлі па той ячмень, – ён будзе карміць птаха Агнявога тым, што нашыя гусі не хочуць есці!

Але вымушаны былі той ячмень прынесці, і каралевіч яго насыпаў птаху ў залатой клетцы, потым пагладзіў па залатым пер'і і сказаў:

– Што ж сумуеш, мой птах Агнявы?

Птах імгненна яго па голасе пазнаў, атросся, прыгладзіў пёры, пачаў скакаць і есці, і так прыгожа заспяваў, што ў старога хворага караля палепшала сэрца. А калі птах Агнявы заспяваў другі і трэці раз, то каралю стала так добра, што ён падняўся з ложка і з вялікай радасцю таго слугу абняў.

Пасля кароль запытаў:

– Што рабіць з тою прыгожаю золатавалосаю паненкаю, якую мае сыны з сабою прывезлі? Яна не гаворыць, не расчэсвае свае залатыя валасы, нічога не есць і бясконца плача?

– Дазволь, светлы кароль, – адказаў яму слуга, – пагаварыць мне з ёю, магчыма, я яе развесялю.

Кароль яго да яе адвёў, каралевіч узяў яе за белую руку і сказаў:

– Што ж ты сумуеш, нявеста мая?

Паненка адразу ж яго пазнала, радасна ўскрыкнула і абняла яго. Караля вельмі здзівіла, што ён назваў яе сваёю нявестаю, а яна абняла яго, і каралевіч яму сказаў:

– Што ж ты не пазнаў, мой бацька кароль, свайго малодшага сына? Не мае браты, а я знайшоў птаха Агнявога, каня Залатагрывага і гэтую прыгожую паненку Золатавалоску.

І потым ён расказаў, як усё адбылося, а паненка дадала, што яго браты забілі свайго брата, учынілі злачынства. Калі ж убачылі браты малодшага, то былі ўражаныя, трэсліся, як асіны, і ні слова не маглі вымавіць.

Кароль вельмі разгневаўся і загадаў іх пакараць. Потым ажаніўся каралевіч з Золатавалоскаю, атрымаў ад бацькі палову каралеўства, а пасля яго смерці другую.

## Тры залатыя валасы дзеда Усёведа

Было гэта ці не было: жыў калісьці адзін кароль, які любіў паляваць на звяроў. Аднойчы ён паскакаў далёка за аленем і заблукаў. Быў ён адзін, надышла ноч, і кароль узрадаваўся, што знайшоў на просецы хатку. Жыў там вугальшчык.

Кароль растлумачыў яму, што калі той зможа яго вывесці з лесу на дарогу, то добра яму заплаціць.

– Я хацеў бы вам дапамагчы, – сказаў вугальшчык, – але мая жонка можа з хвіліны на хвіліну нарадзіць дзіця, я не магу адысці. І куды ж вы пойдзеце сярод ночы? Кладзіцеся на сена, а раніцою я вас правяду.

У хуткім часе ў вугальшчыка нарадзіўся сынок. Кароль ляжаў на сене, але не мог заснуць. Ля паўночы ён згледзеў у святліцы нейкае святло. Ён зірнуў праз шчыліну ў столі і бачыць: вугальшчык спіць, жонка яго ляжыць непрытомная, а ля дзіцяці стаяць тры старыя бабулі ва ўсім белым, і кожная трымае ў руцэ запаленую свечку.

Першая кажа:

– Я таму хлопцу паспрыяю, каб ён знаходзіўся ў вялікай небяспецы.

Другая кажа:

– А я паспрыяю, каб усё добра скончылася і ён доўга жыў.

А трэцяя кажа:

– А я паспрыяю, каб ён ажаніўся з дачушкаю таго караля, які цяпер на гарышчы ляжыць на сене.

Потым згасілі свечкі і стала ціха. Гэта былі багіні лёсу.

Кароль адчуў, быццам меч яму ўдарыў у грудзі. Ён не спаў да раніцы, разважаючы, што зрабіць, каб не здзейснілася тое, пра што тут пачуў.

Калі развіднела, дзіцё пачало плакаць. Вугальшчык прачнуўся і ўбачыў, што яго жонка заснула назаўсёды.

– Ох, мая ты сірацінка, – наракаў, – і што мне з табою рабіць?

– Дай мне дзіця, – сказаў кароль, – я ўсё зраблю, каб яму было добра. А табе дам столькі грошай, што да смерці не будзеш пра вугаль клапаціцца.

Вугальшчык узрадаваўся, а кароль паабяцаў, што прышле кагосьці за дзіцем.

Калі ён вярнуўся ў свой замак, то яму паведамілі радасную навіну, што ў яго ў гэтую ноч нарадзілася прыгожая дачушка. Была менавіта гэтая ноч, калі ён бачыў тры багіні лёсу.

Кароль замаркоціўся, паклікаў аднаго са слуг і сказаў:

– Пойдзеш у лес, там у хатцы жыве вугальшчык. Дасі яму грошы, а ён табе малога сына. Гэтае дзіця возьмеш і па дарозе недзе ўтопіш. Калі не зробіш гэтага, то будзеш сам ваду піць.

Слуга пайшоў, узяў дзіця, паклаў у кошык, а калі падышоў да мастка, дзе рака была шырокая і глыбокая, кінуў кошык у ваду.

– Добрай ночы, незваны зяць! – сказаў потым кароль, калі яму слуга ўсё расказаў.

Кароль вырашыў, што дзіця патанула, але так не здарылася. Яно плыло ў кошыку па вадзе, нібы ў калысцы, і спала, нібы яму спявалі, пакуль не даплыло да хаты аднаго рыбака. Рыбак сядзеў на беразе і выпраўляў сеткі. І тут бачыць, што па рацэ нешта плыве. Ускочыў у човен і за ім, і выцягнуў з вады дзіця ў кошыку.

Ён прынёс яго сваёй жонцы і кажа:

– Ты заўсёды хацела мець сынка, ну то яго маеш. Прынесла нам яго вада.

Жонка рыбака была шчасліваю і выхавала гэтае дзіця, як сваё ўласнае. Клікалі яго Плавачак, таму што прыплыў да іх па вадзе.

Рака цячэ і гады мінаюць, і з хлопца вырас прыгожы юнак, ды такі, што не меў роўных. Аднойчы здарылася, што туды прыехаў на кані кароль, як заўсёды адзін. Было горача, яму захацелася піць, і ён зазірнуў да рыбака, каб яму далі трохі свежай вады. Калі яму яе Плавачак падаў, то кароль паглядзеў на яго і здзівіўся.

– Ладнага хлапца маеш, рыбак, – сказаў кароль, – ці твой гэта сын?

– Ну, – адказаў рыбак. – Ужо мінула дваццаць гадоў, як па рацэ прыплыў кошык з маленькім дзіцем, мы яго выгадавалі.

У караля пацямнела ў вачах, ён збялеў, нібы сцяна, бо ўбачыў, што гэта той, якога загадаў патапіць.

Але раптам прыгадаў, саскочыў з каня і кажа:

– Мне трэба некага паслаць у мой каралеўскі замак, а нікога я з сабою не ўзяў. Ці не змог бы твой юнак туды схадзіць?

– Ваша каралеўская міласць, загадайце і ён пойдзе, – адказаў рыбак.

Кароль сеў і напісаў каралеве ліст: "Гэтага юнака, якога я да цябе паслаў, трэба забіць мячом не марудзячы. Гэта мой злы вораг. Калі я вярнуся, то павінна быць усё выканана. Гэта мой загад."

Ён ліст склаў, запячатаў і прыклаў сваё пярсцёнак.

Плавачак адразу ж сабраўся ў дарогу. Ён вымушаны быў прайсці праз вялікі лес, сышоў з дарогі і заблукаў. Хадзіў з гушчару ў гушчар, пакуль не сцямнела.

Тут ён спаткаў старую бабулю:

– Куды ты, Плавачку, куды ты?

– Іду з лістом у каралеўскі замак і заблукаў. Ці не магла б ты мне, матуля, сказаць, як выйсці на дарогу?

– Сёння ты ўжо не дойдзеш, бо цёмна, – адказала бабуля. – Заставайся ў мяне на ноч, не будзеш чужым у доме, бо я твая хросная маці.

Юнак пагадзіўся, і як толькі зрабілі пару крокаў, то перад сабою ўбачылі прыгожы дамок, які нібы раптам вырас з зямлі. Уначы, калі хлопец заснуў, бабуля выцягнула з яго кішэні ліст, і паклала туды іншы, дзе было напісана:

– Гэтага юнака, якога я табе дасылаю, ажані без ваганняў з нашаю дачкою. Гэта мой суджаны зяць. Пакуль я вярнуся, усё павінна быць зроблена. Такая мая воля.

Калі каралева напісанае прачытала, то загадала рыхтаваць вяселле, і абедзьве, каралева і маладая каралеўна, не маглі на жаніха наглядзецца, так ён ім спадабаўся, а Плавачак быў сваёю каралеўскаю нявестаю таксама задаволены.

Праз некалькі дзён прыехаў дадому кароль, і калі ўбачыў, што адбылося, раззлаваўся на каралеву за тое, што зрабіла.

– Урэшце, ты мне сам загадаў, каб я ажаніла яго з нашай дачкою раней, чым ты вернешся! – адказала каралева і падала яму напісанае.

Кароль напісанае ўзяў, прагледзеў ліст, пячаць, папера – усё было яго ўласнае. Ён загадаў паклікаць зяця і запытаўся, дзе і калі той хадзіў.

Плавачак расказаў, як ён ішоў праз лес і як у лесе заблкукаў, а пазней застаўся на ноч у старой хроснай маці.

– І як выглядала?

– Так і так.

І кароль пазнаў з яго аповеду, што гэта была асоба, падобная на тую, што калісьці дваццаць гадоў таму прадвызначыла лёс яго дачкі і сына вугальшчыка.

Ён доўга разважаў, а потым і кажа:

– Што здарылася, тое ўжо не зменіш, але маім зяцем ты быць не можаш. Калі хочаш маю дачку мець, то павінен прынесці мне тры залатыя валаскі дзеда Усёведа.

Ён падумаў, што такім шляхам зможа пазбавіцца ад свайго непажаданага зяця.

Плавачак развітаўся з жонкаю і пайшоў – куды і да каго, не ведаю. Але паколькі багіня лёсу была яго хроснаю маці, магчыма, сапраўдную дарогу знайшоў.

Ён ішоў доўга і далёка, праз горы і даліны, праз ваду і перашкоды, пакуль не дайшоў да чорнага мора. Тут ён убачыў човен, а на ім перавозчыка.

– Няхай табе дапаможа Бог, стары перавозчык!

– Хай будзе Бог з табою, малады падарожны! Куды вядзе твая дарога?

– Да дзеда Усёведа па тры залатыя валасы.

– Хвала Богу, такога пасланніка я даўно чакаю. Дваццаць гадоў тут перавожу, і ніхто мяне не вызваліць. Калі дасі мне слова, што запытаешся ў дзеда Усёведа пра канец маёй павіннасці, то перавязу цябе.

Плавачак паабяцаў, і перавозчык перавёз. Нарэшце, хлопец дайшоў да вялікага горада, дзе ўсё спарахнела і было сумным. Ля горада ён сустрэў старога, які ў руцэ трымаў палку і ледзьве ішоў.

– Няхай паздаровіць цябе Бог, сівы дзядуля!

– Дай табе Божа, прыгожы юнак! Куды вядзе цябе дарога?

– Да дзеда Усёведа па тры залатыя валасы.

– Ай-яй, такога пасланніка тут мы даўно чакаем. Я цяпер павінен цябе прывесці да нашага караля.

Калі яны прыйшлі да караля, то той сказаў:

– Чуў, што цябе паслалі да дзеда Усёведа. Калісьці ў нас была яблыня, на якой раслі маладзільныя яблыкі. Калі іх з'ядаў той, хто ўжо клаўся ў труну, то станавіўся маладым і выглядаў, нібы юнак. Але ўжо дваццаць гадоў на яблыні няма ніводнага яблыка. Калі ты мне паабяцаеш, што запытаешся ў дзеда Усёведа, што нам можа дапамагчы, то ўзнагароджу цябе па-каралеўску.

Плавачак абяцаў, і кароль яго міласціва адпусціў.

Пазней падарожны падышоў да іншага вялікага горада, дзе палова жыхароў была абуранаю. Непадалёк ад горада сын хаваў свайго бацьку і слёзы, як гарох, цяклі па яго твары і падалі ў траву.

– Няхай цябе прывітае Бог, сумны чалавеча! – сказаў Плавачак.

– Няхай дапаможа табе Бог, добры падарожны! Куды вядзе цябе дарога?

– Іду да дзеда Усёведа па тры залатыя валасы.

– Да дзеда Усёведа? Шкада, што ты раней не прыйшоў! Але наш кароль такога пасланніка ўжо даўно чакае, то павінен я цябе да яго прывесці.

Калі яны прыйшлі, кароль сказаў:

– Я чуў, што ідзеш да дзеда Усёведа. У нас была студня з жывою вадою. Калі з яе піў чалавек, які амаль паміраў, то імгненна выздараўліваў. А калі ўжо памёр, то дастаткова было пакрапіць яго жывою вадою, як ён паднімаўся і ішоў. Але ўжо дваццаць гадоў, як вада не цячэ. Калі паабяцаеш, што ў дзеда Усёведа запытаешся, што нам можа дапамагчы, то па-каралеўску цябе ўзнагароджу.

Плавачак паабяцаў, і кароль яго міласціва адпусціў.

Потым хлопец доўга і далёка ішоў праз чорны лес, і сярод гэтага лесу ён убачыў зялёны луг, на якім красаваліся кветкі, а сярод іх стаяў залаты замак. Гэта быў замак дзеда Усёведа, які ярка зіхацеў. Плавачак увайшоў у замак, але не знайшоў там нікога, акрамя старой бабулькі ў кутку. Яна сядзела і прала.

– Вітаю цябе, Плавачак, – сказала яна, – я шчаслівая, што бачу цябе.

Гэта была яго хросная, у якой ён быў у лесе, калі ліст нёс.

– Што цябе сюды прывяло?

– Кароль не хацеў, каб я быў яго зяцем, і паслаў мяне сюды па тры валасы дзеда Усёведа.

Бабуля ўсміхнулася і кажа:

– Дзед Усёвед – гэта мой сын, яснае сонейка. Раніцою ён дзіця, у поўдзень – мужчына, а ўвечары – стары дзед. Я табе тыя тры валасы з яго залатой галавы вырву, бо інакш не была б табе хроснай. Але, сыночак, ты тут застацца не можаш! У майго сына добрая душа, але калі ён вяртаецца ўвечары галодны, то магло б здарыцца, што ён бы цябе спёк і з'еў за вячэраю. Ёсць тут пустая кадзь, я цябе схаваю ў ёй.

Плавачак папрасіў, каб яна задала дзеду Усёведу тры пытанні, адказы на якія ён абяцаў прынесці.

– Запытаюся, – сказала бабуля, – але ўважліва слухай, што адкажа.

Раптам падзьмуў звонку вецер і праз заходняе акно ў святліцу заляцела Сонца, стары дзядуля з залатою галавою.

– Чую, чую, чалавекам пахне, – кажа, – пэўна, нехта ў цябе, маці, ёсць?

– Зорка дзённая, хто б тут мог быць, калі ты не бачыў. Але так і здараецца: цэлы дзень лётаеш па божым свеце, а там чалавечы пах. І не здзіўляйся, што калі вяртаешся дадому, то яшчэ яго чуеш!

Стары нічога не адказаў, а сеў вячэраць. Пасля вячэры ён паклаў сваю залатую галаву бабулі на калені і задрамаў. Калі бабуля ўбачыла, што ён заснуў, то вырвала ў яго адзін волас і кінула на зямлю – ён загуў, нібы струна.

– Чаго хочаш, маці? – запытаў стары.

– Нічога, сыночак, нічога! Я цяпер драмала і бачыла дзіўны сон.

– А што здарылася?

– Здалося мне, што ёсць горад, дзе калісьці была крыніца з жывою вадою. Калі нехта хварэў і піў з яе, то станавіўся здаровым. А калі паміраў, то дастаткова было яго пакрапіць тою вадою, каб ажыў. Але ўжо амаль дваццаць гадоў прайшло, як вада перастала цячы. Ці можна дапамагчы, каб яна зноў цякла?

– Можна дапамагчы. У той студні на крыніцы сядзіць жаба і не дае вадзе цячы. Няхай жабу заб'юць, студню пачысцяць, і пацячэ вада, як і раней.

Калі стары зноў заснуў, бабуля вырвала з яго галавы залаты волас і кінула на зямлю.

– Што яшчэ здарылася, маці?

– Нічога, сыночку, нічога! Я толькі задрамала і здалося мне нешта дзіўнае. Здалося, што ў горадзе расла яблыня, якая несла на сабе маладзільныя яблыкі. Калі нейкі стары чалавек з'ядаў яблык, то станавіўся маладым. Але вось ужо як дваццаць гадоў няма на яблыні ніводнага яблыка. Ці можна дапамагчы?

– Магчыма дапамагчы. Пад яблыняю ляжыць змяя, якая адбірае ў яе сілы. Калі змяю заб'юць і яблыню перасядзяць, то будуць на ёй плады, як і раней.

Потым стары зноў заснуў, і бабуля вырвала ў яго яшчэ адзін волас.

– Чаму ты мне, маці, спаць перашкаджаеш? – спытаў стары буркліва і хацеў уставаць.

– Ляжы, сыночку, ляжы! Не гневайся, я не хацела цябе будзіць. Але надышла на мяне дрымота і ўбачыла я дзіўны сон. Прыгадала я перавозчыка на чорным моры. Дваццаць гадоў ён там працуе і ніхто яго не вызваляе. Калі ж скончыцца яго павіннасць?

– Дурны, маці, гэты чалавек! Няхай іншаму дасць вясло ў рукі, а сам выскачыць на бераг, і іншы будзе перавозчыкам. А цяпер дай мне спакой, бо павінен я раніцою прачынацца і сушыць слёзы, якія каралеўская дачка выплакала над сваім мужам, сынам вугальшчыка, якога кароль паслаў па мае тры валасы.

Раніцою падзьмуў звонку вецер і на каленях старой маці прагнулася замест старога прыгожае золатавалосае дзіця, божае сонейка. Яно сказала маці: "З Богам!" – і праз акно вылецела.

Бабуля тут жа адчыніла кадзь і сказала Плавачку:

– Вось тут трымай тры залатыя валасы, а як дзед Усёвед на тры пытанні адказаў, ты ўжо ведаеш. Ідзі з Богам, ужо мяне больш не ўбачыш, гэта не патрэбна.

Плавачак шчыра падзякаваў бабулі і пайшоў.

Калі прыйшоў у той першы горад, то спытаў яго кароль, якую ён прынёс навіну.

– Добрую! – адказаў Плавачак. – Вычысціце калодзеж, а жабу, якая на крыніцы сядзіць, забіце. Пацячэ ў вас вада, як і раней.

Кароль адразу загадаў, каб зрабілі, і калі ўбачыў, што вада пырскае і цячэ, то падарыў Плавачку дванаццаць коней, белых. Як лебедзі, і на іх было столькі золата, серабра і дарагіх камянёў, колькі яны маглі везці.

Калі хлопец прыйшоў у другі горад, то таксама запытўся кароль, якую той прынёс навіну.

– Добрую! – сказаў Плавачак. – Загадайце, каб выкапалі яблыню, знайдзіце пад карэннямі змяю, забіце. Потым яблыню зноў пасадзіце, і будзе яна вам прыносіць плады, як і раней.

Кароль загадаў, каб гэта зрабілі, і яблыня за ноч апранулася ў квецень, нібы яе нехта ружамі абсыпаў. Кароль быў шчаслівы і падарыў Плавачку дванаццаць коней вараных, нібы вораны, а на іх столькі багацця, колькі змаглі павезці.

Плавачак потым пайшоў далей, і калі быў ля чорнага мора, то запытаўся ў яго перавозчык, калі будзе вызвалены.

– Ведаю, – адказаў Плавачак, – але спачатку ты мяне перавязеш, а потым я табе скажу.

Перавозчык супраціўляўся, але бачыў, што інакш нельга, таму перавёз яго з дваццаццю чатырма коньмі.

– Калі пазней будзеш некага перавозіць, – сказаў яму пазней Плавачак, – дай яму вясло ў руку і выскачы на бераг. І той будзе за цябе перавозчыкам.

Кароль не паверыў сваім вачам, калі яму Плавачак прынёс тры залатыя валасы дзеда Усёведа, а дачка яго плакала, але ўжо не ад жалю, а ад радасці, што муж вярнуўся.

– А дзе ж ты прыгожых коней і вялікае багацце знайшоў? – спытаўся кароль.

– Заслужыў я гэта, – адказаў Плавачак і расказаў, як аднаму каралю дапамог з маладзільнымі яблыкамі, якія старых людзей ператвараюць у маладых, а другому каралю з жывою вадою, якая хворых робіць здаровымі, а мёртвых жывымі.

– Маладзільныя яблыкі! Жывая вада! – паўтараў кароль. – Калі б адно з'еў, то стаў бы маладым. А калі б памёр, то вадою б ажывіўся!

Адразу ён сабраўся ў дарогу па маладзільныя яблыкі і жывую ваду – і да сёння не вярнуўся.

Вось так стаў сын вугальшчыка зяцем караля, як багіня лёсу і прысудзіла, а кароль – той, магчыма, яшчэ доўга будзе перавозіць праз чорнае мора!

## Бажэна Немцава
## (1820–1862)

Паэтка, празаік, публіцыст, фальклярыст

Бажэна Немцава – найярчэйшая зорка на небасхіле чэшскага прыгожага пісьменства. Яе творы абуджалі нацыянальную свядомасць, дапамагалі народу зразумець гістарычную значнасць сваёй Айчыны. У самыя змрочныя часы чэхі знаходзілі ў іх маральную сілу, што дапамагала выстаяць і перамагчы.

У чэшскую літаратуру Бажэна Немцава (у дзявоцтве Барбара Панклава) прыйшла ў 40-я гады XIX стагоддзя, якія характарызаваліся нарастаннем вызваленчага руху, а асноўны этап творчасці супаў з перыядам рэакцыі. Першай публікацыяй пісьменніцы быў верш “Чэшскім жанчынам”, надрукаваны ў 1842 годзе ў часопісе “Květy”. Пазней Бажэна Немцава яшчэ неаднойчы звернецца да паэзіі, але асноўнымі жанрамі яе творчасці стануць легенда, паданне, казка, нарыс, апавяданне, аповесць. Творы яе прымаюць з захапленнем чытачы і калегі па пяру. Першая кніга “Народныя казкі і легенды” выйшла ў дзвюх частках адпаведна ў 1845 і 1847 гадах.

Бажэна Немцава з сям’ёй часта пераязджала з аднаго месца ў другое, бо так патрабавала служба яе мужа, чыноўніка фінансавай інспекцыі Ёзафа Немца. Адсюль і тэматыка кнігі нарысаў “Карціны дамажліцкіх ваколіц” (1845). Працягам гэтай працы з’явіліся выданні “Лісты з Францішкавых Лазняў” (1846), “З Дамажліц” (1847).

Сапраўдным мастацкім узлётам пісьменніцы былі апавяданні і аповесці, якія яна стварыла ў 50-я гады: “Барунка”, “Разарка”, “Сёстры”, “Карла”, “Горная вёска”, “У замку і ў падзамчышчы”, “Бедныя людзі”, “Дзіўная Бара”, “Добры чалавек” і інш.

Вядучай ідэяй культурнага жыцця чэшскага народа перыяду нацыянальнага адраджэння была думка пра адзінства народа – этнічнае, гістарычнае, духоўнае. Менавіта гэтай ідэяй прасякнута аповесць Бажэны Немцавай “Бабуля” (1855).

## Бабуля

### VII

На другі дзень каля паўдня выйшла бабуля з дзецьмі з дзвярэй.

– Паводзьце сябе прыстойна, – загадала маці, праводзячы за парог, – у замку нічога рукамі не хапайце, княгіні з павагай пацалуйце руку!

– Не хвалюйся, мы неяк справімся, – запэўніла яе бабуля.

Дзеці былі як кветачкі, бабуля таксама мела святочны выгляд: яна апранула камлотавую гваздзіковага колеру спадніцу, белы, як снег, фартух, блузку з блакітнага дамаскага шоўку, каптур з бантам, на шыі ў яе былі каралі з гранату з талерам. Пад пахай яна несла хустку.

– Навошта вы ўзялі хустку, мама? Дажджу не будзе, надвор'е добрае, – здзівілася пані Прошкава.

– Чалавеку, калі ён нічога не трымае, няма куды падзець рукі. Гэта звычка, таму трэба нешта несці, – адказала бабуля.

Звярнулі паўз садок на вузкую сцежку.

– Акуратна ідзіце адзін за адным, а то замочыце ў траве штаны. Ты, Барунка, ідзі наперадзе, Адэльку павяду я, яна яшчэ не ўмее глядзець сабе пад ногі, – павучала бабуля, беручы Адэльку за руку, а малая азірала сябе з вялікім задавальненнем. У садку скакала Чэрна, любімая курыца Адэлькі, адна з тых чатырох, што бабуля прывезла дзецям з горнай вёсачкі. Бабуля прывучыла яе браць корм у дзяцей з рук, таму, знёсшы яйка, Чэрна бегла да Адэлькі па кавалак булкі, які дзяўчынка пакідала са свайго сняданка.

– Ідзі да матулі, Чэрна, я там пакінула для цябе булку, [redacted] я іду да пані княгіні, – крыкнула Адэлька курыцы. Але тая нічога не хацела разумець, бегла за ёю і хацела дзюбнуць дзяўчынку ў спадніцу.

– Ці ты не бачыш, дурная, што на мне белая сукенка?! Кш-кш-кш! – адганяла яе Адэлька. Але курыца не адставала да таго часу, пакуль бабуля не ляпнула па яе крылах хусткай.

Прайшлі яшчэ некалькі крокаў. І раптам новая пагроза ўзнікла для белых сукенак. З узгорка імчаліся сабакі! Перабраліся цераз ручай каля млына, злёгку абтрэсліся і адным скокам былі каля бабулі.

– І вы, нягоднікі, хто вас клікаў? А ну, супакойцеся! – гневалася бабуля, пагразіўшы ім. Сабакі, пачуўшы бабулін гнеўны голас і ўбачыўшы ўзнятую руку з хусткай, спыніліся ў нерашучасці: што рабіць? Дзеці таксама на іх крычалі, а Ян кінуў каменьчык, хацеў трапіць у сабак, а трапіў у ваду. Сабакі, якія звыкліся цягаць розныя рэчы з вады, вырашылі, што дзеці з імі гуляюць, з радасцю кінуліся ў ваду і ў адзін момант апынуліся на беразе, пасля чаго пачалі весела скакаць вакол дзяцей. Дзеці крычалі, хаваліся за бабулю, а бабуля не ведала, што рабіць.

– Я збегаю дахаты, паклічу Бетку, – прапанавала Барунка.

– Не вяртайся, бо, кажуць, шляху не будзе, – спыніла бабуля.

На шчасце, праходзіў каля іх пан бацька і адагнаў сабак.

– Куды вы накіроўваецеся: на вяселле ці на танцы? – спытаў пан бацька, круцячы ў пальцах табакерку.

– Няма да каго, пан бацька, пакуль толькі ў замак, – адказала бабуля.

– Да замку, гэта нешта. А што там, у замку? – здзівіўся пан бацька.

– Нас пані княгіня запрасіла, – прызналіся дзеці, і бабуля расказала пра сустрэчу з княгіняй у альтанцы.

– Вось яно што, – сказаў пан бацька, нюхаючы табаку, – ну, ідзіце, ідзіце, а пазней Адэлька мне раскажа, што там бачыла. А ты, Янік, што будзеш казаць, калі пані княгіня спытае, у які бок берасцянка дзюбу паварочвае, га?

– Яна пра гэта не будзе пытацца, – адказаў Ян і пабег наперад, каб пазбегнуць насмешак пана бацькі. Пан бацька ўсміхнуўся, развітаўся з бабуляю і пайшоў да запруды.

Каля шынка гулялі Кудрнавы дзеці, рабілі млын, а Цылька нянчыла малое.

– Што вы робіце? – спытала ў іх Барунка.

– Нічога, – адказалі тыя, аглядаючы святочна апранутых дзяцей.

– А мы ў замак ідзем, – пачаў Ян.

– Ну і што з таго, – буркнуў Вавржынек.

– І ўбачым там папугая! – дадаў Вілім.

– Калі я вырасту, то таксама буду яго мець, так мне сказаў бацька, – тут жа адказаў яму бойкі Вавржынек, але другі хлопец, Вацлаў, і Цылька ўздыхнулі: "Калі б мы таксама маглі паглядзець!.."

– Не сумуйце, я што-небудзь вам прынясу, – сказаў Ян, – і раскажу пра ўсё, што там было.

Нарэшце бабуля з дзецьмі дайшла да парка, дзе іх ужо чакаў пан Прошак.

Княжацкі парк кожнаму быў адкрыты, знаходзіўся ён непадалёк ад Старой Бялільні, але бабуля з унукамі зрэдку там бывала, асабліва тады, калі ў замак з'язджаліся паны. Аглядала яна ўсё, што там з густам было зроблена, цудоўныя кветкі, рэдкія дрэвы, фантаны, сажалкі з залатымі рыбкамі, але найбольш ахвотна гуляла з дзецьмі на лужку або ішла да лесу. Там яны маглі смела паляжаць на зялёным мяккім дыване, там маглі панюхаць кожную кветку, а таксама нарваць кветак для букетаў і вянкоў. У полі, праўда, не раслі ні апельсіны, ні лімоны, але траплялiся густая чарэшня і дзікая грушка, усыпаныя пладамі, кожны мог іх нарваць, колькі захоча. У лесе шмат было суніц, чарніц, грыбоў і міндальных арэхаў. Фантанаў там, безумоўна, не было, але бабуля любіла спыніцца разам з унукамі каля запруды. Яны глядзелі, як хвалі вады хутка спадалі ўніз, потым уздымаліся ўгару, рассыпаліся мільёнамі пырскаў і зноў падалі ў пеністы вір, змешваліся з ім і, злітыя ў адзіную плынь, ужо спакойна плылі далей. Тут не было залатых рыбак, прывучаных да салодкіх крошак, але бабуля, калі ішла паўз сажалку, перакладвала са сваёй кішэні ў Адэльчыну хлебныя крошкі, і калі дзеці іх кідалі ў ваду, з глыбіні выплывала мноства рыб. Бліжэй за ўсіх на паверхню ўздымаліся серабрыстыя librарні плоткі, паміж імі плавалі хуткія, як стрэлы, акуні, з натапыранымі плаўнікамі, далей там і сям слізгалі тонкія вусачы з доўгімі вусішчамі, убаку можна было ўбачыць і пузатых карпаў, і плоскагаловых мянькоў.

На лужку бабуля сустрэлася з людзьмі, якія яе віталі: "Хвала Ісусу Хрысту!", або "Дай вам Бог добрага дня!" Некаторыя спыняліся, распытвалі:

“Куды вы, бабуля?”, “Як вашы маюцца? Што робяць?” Ад іх яна даведвалася навіны.

А ў замку? Там не было аніякага парадку! То бяжыць слуга ў ліўрэі, то пакаёўка ўся ў шаўках, то ідзе пан, а за ім другі, і кожны высока нясе галаву, задзіраюць нос, і выступаюць як павы, якія адны толькі маюць права хадзіць па лужку. Калі нехта з іх і вітаўся з бабуляю, то кідаў няўважна “Guten Morgen”[7] або “Bon jour”[8], а бабуля чырванела і не ведала, ці трэба ёй адказваць “Аж ад веку” або “Дай Бог”. Пазней казала дома: “Там, у замку, сапраўдны Вавілон!”

Каля замка па абодва бакі дзвярэй, сядзелі два лёкаі ў ліўрэях. Той, што быў з левага боку, склаў рукі на каленях і пазяхаў ад суму, той, што быў справа, склаў рукі на грудзях і пазіраў на вокны. Калі пан Прошак да іх падышоў, прывіталі яго па-нямецку, кожны са сваім вымаўленнем.

Падлога вестыбюля была выкладзена мармуровымі плітамі, а пасярэдзіне стаяў з густам зроблены більярд. Уздоўж сцен, на падстаўках з зялёнага мармуру, стаялі белыя статуі з гіпсу, якія ўяўлялі сабою міфалагічных герояў. Чацвёра дзвярэй вялі ў панскія пакоі. Каля адных сядзеў у фатэлі камердынер у чорным фраку і спаў. Да гэтых дзвярэй пан Прошак падвёў бабулю з дзецьмі. Камердынер уздыхнуў, пачуўшы шум, але ўбачыўшы пана Прошака, прывітаў і спытаў, якая справа прывяла яго ў замак.

– Пані княгіня пажадала, каб мая цешча з дзецьмі сёння яе наведала. Калі ласка, пане Леапольдзе, паведамце, – адказаў пан Прошак.

Пан Леапольд узняў бровы, пацiснуў плячыма і заявіў:

– Не ведаю, ці пажадаюць вас прыняць, яны працуюць у сваім кабінеце. Але магу паведаміць.

Ён узняўся і павольна схаваўся за дзвярыма, каля якіх сядзеў. Праз хвілінку вярнуўся і, пакінуўшы дзверы адчыненымі, салодка ўсміхаючыся, кіўнуў, каб увайшлі.

Пан Прошак пайшоў, а бабуля з дзецьмі апынуліся ў шыкоўным салоне.

У дзяцей перахапіла дыханне, ножкі іх слізгалі па падлозе, гладкай, як лёд. Бабуля ішла як зачараваная, раздумваючы, ці можна ступаць па гэтых узорыстых дыванах. “Як шкада, – казала сама сабе. – Але што рабіць, яны ляжаць паўсюль, і пан камердынер таксама па іх ходзіць”. Той вёў іх праз канцэртны салон і бібліятэку аж да кабінета княгіні, а вярнуўшыся да свайго фатэля, мармытаў сабе пад нос: “І што за дзівакі гэтыя паны. Прымушаюць чалавека прыслугоўваць простай бабе і дзецям”.

Сцены княжацкага кабінета былі абабіты светла-зялёнымі з золатам шпалерамі, такога ж колеру былі парцьеры на дзвярах і адзіным акне. На сценах вісела шмат партрэтаў у вялікіх і малых рамах. Насупраць акна – камін з шэрага мармуру з чорнымі і белымі прожылкамі, на ім – дзве вазы з японскага фарфору, а ў іх цудоўныя кветкі, якія напаўнялі кабінет сваім водарам. Па абодвух баках каміна знаходзіліся з густам зробленыя з дарагога дрэва паліцы, на іх былі раскладзены разнастайныя рэчы, што былі вынікам працы мастакоў,

---

[7] Добрай раніцы (*ням.*)
[8] Добры дзень (*франц.*)

каштоўнасці і цудоўныя дары прыроды, такія, як прыгожыя ракавіны, каралы, камяні і інш. Была гэта памяць пра падарожжы і падарункі знатных асоб. У адным куце стаяла статуя Апалона з карарскага мармуру, у другім – просты, але з густам зроблены стол. Каля стала, на фатэлі, абцягнутым цёмна-зялёным аксамітам, сядзела княгіня ў белым пеньюары. Яна якраз адклала пяро, калі бабуля з унукамі ўвайшлі.

– Хвала Ісусу Хрысту! – павіталася з паклонам бабуля.

– На векі вякоў! Вітаю цябе, старая, і дзяцей! – адказала княгіня.

Дзеці спачатку паводзілі сябе нясмела, але бабуля ім міргнула, і яны хутка падышлі да княгіні і пацалавалі ёй руку. Яна пацалавала кожнага ў лоб і, паказаўшы бабулі на крэсла, абабітае аксамітам, з залатымі махрамі, запрасіла прысесці.

– Дзякую, міласэрная пані, я не стамілася, – засаромелася бабуля і ўсё ад таго, што баялася зваліцца з незвычайнага сядзення або зламаць яго.

Але княгіня настойліва паўтарыла: “Сядай жа, старая”. І бабуля, засцяліўшы на крэсле белую хустку, асцярожна села, прыгаворваючы: “Каб хоць не патрывожылі вашай міласці добры адпачынак”.

Дзеці стаялі як скамянелыя, толькі пераводзілі позіркі з адной рэчы на другую. Княгіня гэта заўважыла і з усмешкаю спытала іх:

– Ці падабаецца вам тут?

– Так, – кіўнулі яны разам.

– Яшчэ б ім не пабалася! Такая прыгажосць! Пэўна, хацелі б тут застацца, – заўважыла бабуля.

– А табе тут ці падабаецца? – звярнулася княгіня да бабулі.

– Як на нябёсах, але жыць тут не хацелася б, – пакруціла галавою бабуля.

– Чаму не? – спытала здзіўлена княгіня.

– А што я тут рабіла б? Гаспадаркі ў вас няма, пер’е скубсці не трэба, калаўрота не раскладзеш.

– А ці не хацела б ты на старасці пажыць без клопату, адпачыць?

– Рана ці позна прыйдзецца адпачыць. Будзе над маёю галавой узыходзіць і заходзіць сонейка, ■ я буду бесклапотна спаць. Але пакуль жывая, дзякуй Богу, трэба працаваць. Толькі лайдакі дарэмна хлеб ядуць. А наогул без клопату не жыве ніводзін чалавек, аднаго турбуе адно, другога – другое, кожны нясе свой крыж, ды не кожнаму ён па сілах, – мовіла бабуля.

Раптам чыясьці белая рука рассунула цяжкую парцьеру ля дзвярэй і паміж імі з’явіўся прыгожы твар маладой дзяўчыны са светла-каштанавымі кучаравымі валасамі.

– Можна ўвайсці? – спытала яна пяшчотным голасам.

– Уваходзь, Гартэнзія, тут ты знойдзеш прыемную кампанію, – адказала княгіня.

У кабінет увайшла графіня Гартэнзія, як казалі, выхаванка княгіні. Фігурка ў яе была тоненькая, яшчэ не аформленая, апранутая ў простую белую сукенку, саламяны капялюшык вісеў на руцэ, у якой яна трымала букет ружаў.

– Ах, якія мілыя дзеткі! – выгукнула дзяўчына. – Гэта, пэўна, Прошкавы, тыя, ад каго вы мне прынеслі такія смачныя суніцы?

Княгіня пацвердзіла.

Графіня нахілілася, дала кожнаму дзіцяці па ружы, па адной дала таксама бабулі і княгіні, апошнюю заткнула сабе за пояс.

– Такі ж свежы бутончык, як і вы, мілая паненка, – сказала старая, панюхаўшы ружу. – Ды хай захавае вам яе Бог, васпані, – дадала яна, звярнуўшыся да княгіні.

– Гэта і маё самае гарачае жаданне, – адказала княгіня, пацалаваўшы ў лоб сваю выхаванку.

– Ці магу я ненадоўга забраць дзяцей? – спытала графіня ў княгіні і бабулі; княгіня дазволіла, а бабуля выказала асцярогу, што дзеці могуць нарабіць клопату мілай паненцы, асабліва хлопцы, сярод якіх вызначаецца сваёй няўрымслівасцю Ян. Але Гартэнзія з усмешкай працягнула дзецям абедзьве рукі, пытаючыся:

– Хочаце пайсці са мной?

– Хочам, хочам! – узрадаваліся дзеці, схапіўшы яе рукі.

Пакланіўшыся княгіні і бабулі, дзяўчына знікла ў дзвярах разам з дзецьмі. Княгіня ўзяла са стала сярэбраны званочак і пазваніла. У той жа момант у дзвярах паказаўся камердынер Леапольд. Княгіня яму загадала, каб распарадзіўся падрыхтаваць у салоне сняданак, і перадала пачак лістоў для адпраўкі.

Леапольд пакланіўся і выйшаў.

Пакуль княгіня аддавала загады камердынеру, бабуля разглядала партрэты на сценах кабінета.

– Божа мой! – сказала, калі камердынер пайшоў. – Якія дзіўныя касцюмы і твары! Вунь тая пані апранута як нябожчыца Галашкова, дай ёй, Божа, царства нябеснае. Тая таксама насіла высокія абцасы і ўздутыя спадніцы, талію перацягвала, а на галаве насіла парык. Яе муж быў суддзёй у Добрушцы, і калі мы хадзілі туды на набажэнства, бачылі яе ў касцёле. Нашы хлопцы называлі яе “макавая паненка”, у гэтых спадніцах з напудранай галавой яна была падобная да галоўкі мака. У нас казалі, што гэта французскі крой.

– Гэтая пані – мая бабуля, – сказала княгіня.

– Прыгожая пані, – адазвалася бабуля.

– Направа – мой дзед, налева – бацька, – працягвала паказваць княгіня.

– Добрыя людзі, міласэрная пані ўся ў бацьку. А дзе матуля?

– Вось мае маці і сястра, – сказала княгіня, паказаўшы на два партрэты над пісьмовым сталом.

– Прыгожыя пані, радасна на іх глядзець, – заўважыла бабуля, – але сястрычка ваша ні да бацькі, ні да маці не падобная. Часам бывае, што дзеці падобныя да каго-небудзь з далёкага калена. А гэты малады пан мне знаёмы, толькі не магу прыпомніць адкуль.

– Гэта рускі цар Аляксандр, – хутка адказала княгіня. – Ты яго, безумоўна, не ведаеш.

– Вось і не, усяго ў дваццаці кроках ад яго стаяла. Гэта быў прыгожы чалавек, тут ён маладзейшы, але я ўсё адно яго пазнала. Што ён, што імператар Ёзаф – прыгожыя людзі.

пачынае чалавек забывацца на рысы твару. Тады будзе радасцю, калі змагу я такую карцінку паглядзець".

З панскіх палёў ужо звозілі апошнюю пшаніцу. Усе ведалі, што княгіня доўга не затрымаецца ў маёнтку, бо збіраецца з графіняю ў Італію, таму і вырашыў аканом наладзіць дажынкі адразу пасля таго, як вывезуць апошнюю пшаніцу.

Крыстла была самай прыгожай дзяўчынай у наваколлі і да таго ж спрытнай, бабуля добра прыдумала, каб абралі яе падносіць вянок княгіні. За замкам цягнулася пожня, часткова парослая травой, часткова занятая высокімі стажкамі саломы. У траве хлопцы зрабілі высокі памост і ўпрыгожылі яго хваёвымі галінкамі, стужкамі і чырвонымі хустачкамі, якія луналі ў паветры, паміж галін панаўтыкалі палявых кветак і каласкоў. Вакол стагоў паставілі лавы, парабілі з хвой альтанкі, каля святочна прыбранага памоста ўтапталі зямлю для танцаў.

– Бабуля, бабуля, – казала Крыстла, – Вы мяне ўвесь час супакойвалі, я Вашымі словамі толькі жыла, Мілу дала столькі надзеі. І вось дажынкі, а пакуль не ведаем, на што спадзявацца. Скажыце мне, калі ласка, ці не было гэта суцяшальным яблыкам, якое вы нам паказалі, каб мы адвыклі адзін ад аднаго?

– Было б неразумна вас такім чынам абнадзейваць, дурненькая. Што я вам казала, тое і будзе. Заўтра прыгожа апраніся, княгіня гэта любіць. І я таксама, калі буду жывая і здаровая, прыйду паглядзець. А калі ў мяне будзеш пытаць, то скажу ўсю праўду, – адказала бабуля дзяўчыне і ўсміхнулася. Шчыра сказаць, бабуля ведала, як склаўся лёс Мілы, і калі б не паабяцала княгіні маўчаць, пастаралася б супакоіць Крыстлу.

Усе, хто хадзіў на паншчыну, і моладзь, якая працавала на панскім двары, сабраліся на другі дзень на зялёным траўніку. На калёсы паклалі снапы, грывы коней упрыгожылі стужкамі, адзін з хлопцаў сеў наперадзе; Крыстла з сяброўкамі ўзлезлі на снапы. Астатняя моладзь стала парамі за калёсамі, старэйшыя – сталі ззаду. Жняцы трымалі ў руках снапы і косы, жнеі – сярпы і граблі. У гарсажах дзяўчат былі букеты з каласкоў, валошак і іншых палявых кветак; хлопцы ўпрыгожылі кветкамі шапкі і капелюшы. Пахолак узмахнуў пугаю, пагнаў каня, жанчыны пачалі спяваць і спявалі аж да самага замка. Перад замкам калёсы спыніліся, дзяўчаты злезлі са снапоў; Крыстла паклала на рукі вянок з каласоў, падсцяліўшы пад яго чырвоную хустку, моладзь стала за ёю, і з песняю ўвайшла ў пярэдні пакой, куды тым часам выйшла княгіня. Крыстла калацілася ад страху, твар яе зачырванеўся. Апусціўшы вочы, заікаючыся, павіншавала яна княгіню з паспяховым завяршэннем жніва і багатым ураджаем, пажадала ёй сабраць не меншы і на наступны год і паклала вянок да яе ног. Жняцы, зняўшы шапкі, пажадалі княгіні здароўя і доўгіх гадоў жыцця. Ласкава падзякаваўшы, княгіня загадала аканому ўсіх накарміць і напаіць.

– А табе, мілая дзяўчына, за добрае пажаданне і вянок асабліва ўдзячная, – сказала яна Крыстле, вешаючы вянок на руку, – бачу, што ўсе па парах, а ты адна. Пэўна, лепшай узнагародай будзе, калі я знайду табе танцора!

Усміхнулася, адчыніла дзверы салона, а з іх выйшаў Міла ў цывільным адзенні.

– Езус-Марыя, Якуб! – ускрыкнула дзяўчына; ногі яе падкасіліся, і яна павалілася б на зямлю, калі б Міла не паспеў яе падтрымаць.

Княгіня ціха выйшла з салона.

– Пойдзем, пойдзем, – прыспешваў Міла, – пані княгіня не хоча, каб ёй дзякавалі.

Калі выйшлі з памяшкання, то ён узняў угару руку з поўным мяшэчкам і сказаў: “Гэта мне дала княгіня, каб я паміж вамі падзяліў. Вазьмі, сябра, раздай сам! – дадаў ён, падаючы грошы Томашу, які здзіўлена, як і астатнія, глядзеў на Мілу. Цяпер, калі выйшлі з замка, моладзь дала волю сваёй радасці, а Якуб горача абняў каханую дзяўчыну і ўсім растлумачыў, што сваім вызваленнем ад службы абавязаны княгіні. “І бабулі, – дадала Крыстла, – калі б не яна, нічога не было б”.

Пачалі рыхтавацца да танцаў. Акрамя жняцоў прыйшлі служачыя з замка са сваімі роднымі, Прошкавы, паляўнічы і млынар з сем’ямі; бабуля з’явілася раней за ўсіх. Яна хацела ўбачыць як мага хутчэй закаханых, і зразумела, чаму Крыстла і Міла яе ледзь не абдымалі.

– Мне не дзякуйце, я толькі сказала, а пані княгіня дапамагла, і Бог таго пажадаў.

– А вы, бабуля, – гразіла пальцам Крыстла, – ведалі ўчора, што Міла вярнуўся і сядзіць у Вацлава, а маўчалі!

– Я не магла. Ці не дастаткова было табе майго слова, што ты яго хутка ўбачыш. Памятай, дзяўчына, што цярплівы заўсёды выйграе.

Музыка, крыкі, спевы і смех гучалі каля ўпрыгожанага памосту. Служачыя замка запрашалі на танцы вясковых дзяўчат, а іх дочкі не саромеліся танцаваць з вясковымі хлопцамі, кожны знайшоў сабе пару. Піва, наліўкі і танцы разгарачылі ўсім галовы. А калі княгіня з графіняю прыйшлі паглядзець, і моладзь перад імі танцавала народныя танцы, радасць дасягнула найвышэйшай ступені, знікла нясмеласць, шапкі і капелюшы лёталі ў паветры, кожны крычаў: “Добрага здароўя нашай пані княгіні!” Пілі і пілі за яе здароўе безупынку.

Задаволеныя княгіня і графіня перакінуліся з адным, з другім некалькімі словамі, Гартэнзія пажадала Крыстле, калі тая цалавала ёй руку, шчаслівага замужжа, пагаварыла з млынаром і паляўнічым, а потым ласкава звярнулася да бабулі, чым выклікала злосць у аканомавых жонкі і дачкі, якія цярпець не маглі бабулю, за тое, што парушыла ўсе іх задумы. За сталом старыя пачалі лаяць пісарчукоў і аканома, а адзін з іх схапіў кубак з півам і хацеў паднесці яго княгіні, і калі Томаш яго не пусціў, то пачаў крычаць, але княгіні там ужо не было.

Праз некалькі дзён пасля дажынак княгіня з графіняю паехалі ў Італію; графіня перад ад’ездам дала бабулі для Крыстлы прыгожыя гранаты да вяселля.

Бабуля хадзіла задаволеная, усё склалася так, як яна і задумала. Але заставаўся яшчэ адзін клопат; трэба было напісаць ліст дачцэ Іаганцы. Яго магла б напісаць Тэрэзка, але ён не быў бы такім, як хацела бабуля. Таму

аднойчы паклікала яна Барунку ў свой пакой, зачыніла дзверы і, паказаўшы на стол, дзе ляжалі падрыхтаваныя папера, чарніла і пяро, сказала: “Сядай, Барунка, будзеш пісаць ліст цётцы Іаганцы”. Барунка села, бабуля побач з ёю, так, каб бачыць паперу, і пачала дыктаваць:

– Няхай будзе пахвалёны Езус Хрыстус!

– Але, бабуля, – не пагадзілася дзяўчынка, – так лісты не пачынаюць. Трэба пісаць: “Мілая Іаганка!”

– Ні да чаго гэта, дзяўчынка, твой прадзед і дзед так пісалі, і я дзецям інакш не пісала. Калі прыйдзеш да каго-небудзь, дык найперш прывітаеш: “Няхай будзе пахвалёны Езус Хрыстус!” Вось і пачні, як я кажу. Няхай будзе пахвалёны Езус Хрыстус! Сто разоў цябе вітаю і цалую, мілая дачка Іаганка, і паведамляю табе, што я, хвала Богу, здаровая. Трохі мяне прымушае пакутаваць кашаль, але нічога дзіўнага, бо хутка споўніцца мне восемдзесят гадоў. Гэта добрыя гады, мілая дачка, і Богу трэба дзякаваць за тое, што жыву з такім здароўем; добра чую, бачу яшчэ так, што і цыраваць змагла б, калі б не рабіла за мяне гэта Барунка. На ногі таксама не магу скардзіцца. Спадзяюся, што і цябе гэты ліст застане ў добрым здароўі, і Даротку. З твайго ліста я зразумела, што дзядзька хварэе, вельмі шкада, але спадзяюся, што гэта не будзе доўга працягвацца. Ён часта стогне, але кажуць, што частыя стогны не прыводзяць да скону. Таксама мне пішаш, што хочаш узяць шлюб, і чакаеш на маё блаславенне. Мілая дачка, што я магу сказаць, калі ты ўжо абрала чалавека па сэрцу, дай Бог табе шчасця і няхай блаславіць ён вас абодвух, жывіце ў пашане і хвале божай і чалавечай. Чаму б я была супраць, калі Іржы добры чалавек і ты яго кахаеш? Не мне з ім жыць, а табе. Спадзявалася я, што ты чэха знойдзеш, свой да свайго найлепш падыходзіць, ды, бачу, не быць гэтаму, я не ў крыўдзе. Усе мы дзеці аднаго бацькі і адна маці нас жывіць, і павінны любіць адзін аднаго, хоць і не ў адной краіне нарадзіліся. Прывітай Іржы, [illegible] дасць вам Бог здароўя, як наладзіце гаспадарку і ўсё будзе добра, то наведайце нас. Дзеці не могуць дачакацца, калі ўбачаць сваю цётку. Дай вам Бог усім здароўя і заставайцеся з Богам!

Барунка павінна была перачытаць бабулі ліст яшчэ раз; потым яго склалі, запячаталі, і бабуля схавала яго ў шуфляду, каб, калі яна пойдзе ў касцёл, самой аднесці на пошту.

За некалькі дзён да святой Кацярыны ўвечары збіралася ў шынку моладзь, хлопцы і дзяўчаты. Дом звонку і ўнутры быў вычышчаны да бляску; каля дзвярэй віселі вянкі з хвоі, у святліцы за кожным абразом – зялёная галінка, фіранкі ля вокнаў белыя, як снег, вымытая да белага падлога.

Доўгі ліпавы стол, накрыты белым абрусам, а па ім раскіданы галінкі размарыну, белыя і чырвоныя стужкі; каля яго дружкі, быццам нехта насадзіў руж і гваздзікоў. Яны сышліся віць вянок Крыстле, маладой нявесце, якая сядзела на куце сярод іх, самая прыгожая з усіх дзяўчат. Яе вызвалілі ад усіх абавязкаў па гаспадарцы і аддалі пад нагляд свата і сваццi. Гэтыя ганаровыя пасады выконвалі Марцінец, што вадзіў людзей на багамолле, і бабуля. Яна не магла адмовіць Крыстле, хоць, па магчымасці, падобных мерапрыемстваў пазбягала. Пані мама заняла месца старой хворай гаспадыні, а жонка Кудрны і

Цылька дапамагалі ёй. Бабуля сядзела каля дружак маладой, і хоць ад яе не патрабавалі віць вянкі або вязаць букеты, яе дапамога і парады былі вельмі важнымі. Нявеста прывязвала бант на прыгожую галінку размарына для дружкі і свата; малодшая дружка павінна была звіць вянок для нявесты, старэйшая – для жаніха; астатнія дружкі вілі вянок кожная свайму хлопцу. Галінкі размарына, якія засталіся, перавязвалі банцікамі, іх рыхтавалі для гасцей. Рыхтавалі букеты размарына і банты для ўпрыгожвання грыў і вупражы коней, што павінны былі везці нявесту.

Вочы нявесты загараліся каханнем і радасцю, калі яны спыняліся на ладнай постаці жаніха; ён праходжваўся каля стала з іншымі хлопцамі. Кожны з іх мог больш свабодна размаўляць са сваёй каханай, чым жаніх з нявестай, таму Міла хвілінамі толькі глядзеў на яе. Побач з нявестаю сядзеў дружка, а жаніх павінен быў знаходзіцца каля старшай дружкі. Усе маглі весяліцца, жартаваць, спяваць, быць дасціпнымі, найбольш гэта патрабавалася ад свата: толькі жаніх з нявестай не мелі права паказваць сваю радасць. Крыстла гаварыла мала, не ўзнімала вачэй ад стала, на якім ляжаў зялёны размарын. Калі старэйшая і малодшая дружкі пачалі звіваць вясельныя вянкі, а ўсе заспявалі:

Дзе, галубка, лётала
ах, лётала,
ты ж белае пёрка запэцкала,
ах, запэцкала, –

маладая прыкрыла твар белым фартухом і заплакала. Жаніх з трывогаю на яе паглядзеў і спытаў у свата:

– Чаму яна плача?

– Ведаеш, жаніх, – адказаў той яму весела, – радасць і туга спяць у адным ложку, таму адно цягне за сабой другое. Не бойся, сёння плача, а заўтра будзе радавацца.

Тут зноў пачалі спяваць, песня гучала за песняй, за вясёлымі ішлі сумныя; у іх славілі маладосць, прыгажосць і каханне, вольнае жыццё юнацкае; нарэшце хлопцы і дзяўчаты пачалі спяваць хвалу жыццю ў шлюбе, калі двое кахаюць адзін аднаго, як галубкі, і жывуць у згодзе, як зярняткі ў адным коласе. Іх велічальныя спевы ўвесь час перапыняў сваімі дасціпнымі жартамі сват. Калі пачалі песню пра згоду ў шлюбе, сват заявіў, што ведае навейшую песню.

– Сам на свет выпусціў, таму што зведаў на ўласным вопыце, – дадаў.

– Кукарэкайце! – крычалі хлопцы, – паслухаем, як спяваеце.

Сват выйшаў на сярэдзіну святліцы і голасам, у якім чуўся затоены смех, натуральны на вяселлі, як уздых на багамоллі, пачаў:

О, анёльская радасць,
не ў сямейнай згодзе!
Кажу: “Звары мне гароху”,
Яна зварыла пшонку,
Ці кажу: “Мяса захацеў з’есці!”
Яна зробіць з мукі.
О, анёльская радасць
не для сямейнай згоды.

– Такая песня разам са спеваком гарэлага шэлега не вартая! – засмяяліся дзяўчаты і адразу пачалі спяваць, каб не даць хлопцам радасці пачуць працяг. За спевамі і жартамі звязалі букеты, сплялі вянкі, дзяўчаты ўсталі з-за стала, узяліся за рукі і, утварыўшы кола, заспявалі:

Ужо гэта зроблена,
Ужо гэта гатова,
Каравай выпечаны,
Вяночкі звіты.

У гэты момант у дзвярах з'явілася пані мама, якая разам з жанчынамі несла розную ежу. Пан бацька і дружка неслі пітво. Зноў усе селі за стол, на якім месца размарына занялі смажаніна і печыва. Хлопцы селі каля дружак, а жаніх – паміж старэйшай дружкаю і свахай, нявеста – паміж дружкам і малодшаю дружкаю, якая разразала і падносіла ёй ежу так, як старэйшая дружка жаніху.

Сват увесь час хадзіў каля стала, дазваляючы дзяўчатам то карміць сябе, то лаяць; затое ж ім прыходзілася выслухоўваць яго жарты, якія часам былі грубаватымі. Калі са стала прыбралі посуд, прынёс сват тры міскі на стол – яго падарунак нявесце. У адной была пшаніца, якую ён дарыў з пажаданнем, каб "ўрадлівая" была; у другой было трохі попелу, змешанага з просам, каб нявеста, выбіраючы зерне, вучылася цярпенню; трэцяя міска, "таямнічая", была зачынена. Нявеста не павінна быць цікаўная, трэба прыняць місу і не зазіраць у яе. Але як жа можна вытрымаць, і Крыстла не магла супакоіцца; калі ніхто не бачыў, яна трошкі прыўзняла белую хустку, якая закрывала міску, і – фр-р-р – накрыты там верабей узляцеў да столі.

– Вось бачыш, мілая нявеста, – сказала бабуля, дакранаючыся да пляча, – так бывае з той цікаўнасці. Чалавек хутчэй памрэ, чым адмовіцца даведацца, што ад яго схавана, а зазірне пад крышку – там нічога няма.

Моладзь не разыходзілася да позняй ночы, пасля пачастункаў пачаліся танцы. Жаніх з дружкаю праводзілі сваху дахаты, нагадваючы ёй на развітанне, што заўтра трэба прыйсці раней.

Раніцаю жыхары даліны і Жэрнава былі ўжо на нагах. Некаторыя ішлі да касцёла, некаторыя – да стала і танцаў, а каго не запрасілі, той не мог з цікаўнасці не паглядзець на вяселле, бо пра яго столькі тыдняў казалі, што будзе гучным, што паедзе нявеста ў панскай карэце з панскімі коньмі да касцёла, што ў яе на шыі будуць дарагія гранаты, вышываны белы фартух, ружовая ядвабная кофта, блакітная спадніца. Пра гэта ў Жэрнаве ведалі раней, чым сама нявеста. Яны ва ўсіх падрабязнасцях ведалі, ці шмат ежы будзе на вясельным стале, у якім парадку будуць за стол садзіцца, колькі кашуль, колькі пярын і які посуд атрымае нявеста ў пасаг. Усё ведалі, нібы нявеста сама ім усё распісала. Не ўбачыць такога багатага вяселля, не параканацца, ці да твару нявесце вянок, ці шмат слёз пралье, як будуць апранутыя госці, было б недаравальным грахом. Гэта частка іх жыцця, крыніца для размоў не менш, чым на паўгады, як жа можна было такое прапусціць?

Калі сем'і Прошкавых і паляўнічага, што начавалі на Старой Бялільні, прыйшлі да шынка, то аказалася, што трэба прабірацца праз натоўп, які

сабраўся ў двары. У шынку ўжо сядзелі госці з боку маладой. Пан бацька выглядаў, як франт, боты яго блішчэлі як люстэрка, а ў руцэ трымаў табакерку з серабра. Ён быў сведкаю з боку нявесты. Пані мама апранулася ў шоўк. Шыю яе абвівала нітка дробных перлаў, на галаве быў залаты каптур. Бабуля надзела свой шлюбны касцюм, на галаве яе была святочная "галубка".

Дружак, хлопцаў, свата не было ў шынку, бо яны пайшлі да Жэрнава па жаніха, нявеста таксама адсутнічала ў святліцы, яе схавалі ў каморы.

Раптам пачуўся на двары крык: "Ідуць, ужо ідуць!" – і ад млына пачуліся гукі кларнетаў, флейт і скрыпак. Гэта вялі жаніха. Сярод гледачоў пачуўся шэпт: "Глядзіце, глядзіце! – штурхалі адзін аднаго. – Мілава Цера малодшай дружкаю, дачка Ціханковічаў – старэйшай". – "Ну, калі б Анча не ўзяла шлюб, быць ёй старэйшай дружкай". – "Томаш – сведка з боку жаніха!" – "А дзе Тамашова, нешта яе не відаць". – "Дапамагае прыбіраць нявесту. У касцёл Анча не паедзе, бо ўжо дзіцём ходзіць", – казалі кабеты паміж сабой. "Нявеста павінна ўжо нешта рыхтаваць на зубок, бо будзе хроснай, яны блізкія сяброўкі". – "Ну, зразумела". – "Але глянь, стараста ідзе; во, дзіва, што Мілавы яго паклікалі, бо па ягонай віне хлопец трапіў у салдаты!" Усе зноў здзіўлена зашапталіся: "Што ж, стараста не такі ўжо і злы чалавек; гэта Люцка яго цкавала, аканом дадаваў, чаго ж здзіўляцца". Якуб добра робіць, што не помсціць за тое, што яго пакрыўдзілі, а ў Люцкі і так пячонка пячэцца". – "Яна ж таксама заручылася", – азваўся голас. "Як жа так магло быць, каб я пра гэта не чула?" – спытала адна з жанчын. "Тры дні як з Ёзафам Нывлтовічам". – "Дык ён даўно да яе заляцаўся". – "Вядома, раней яна яго не жадала, пакуль спадзявалася, што атрымае Якуба". – "Але ж і малайчына жаніх, прыемна на яго паглядзець". – "Прыгожы шалік яму падарыла нявеста, пэўна дзесятку за яго аддала", – казалі жанчыны.

Такія і падобныя галасы чуліся ў двары, калі жаніх падыходзіў да парога, дзе яго сустрэў гаспадар з поўнаю шклянкай віна. Адшукаўшы сваю нявесту ў каморы, дзе, па звычаі, яна павінна была сядзець і плакаць, жаніх падышоў з ёю да бацькоў, сват замест яго сказаў доўгую прамову, у якой дзякаваў за выхаванне і прасіў благаславення. Усе заплакалі. Пасля благаславення дружка ўзяў пад руку нявесту і малодшую дружку, жаніх стаў побач са старэйшай дружкай, сведкі акружылі сваху, астатнія дзяўчаты падышлі да сваіх хлопцаў і пара за парай, за выключэннем свата, які ішоў паперадзе, выйшлі з дома. На вуліцы іх чакалі карэта і вазкі. Машучы хустачкамі, сяброўкі нявесты заспявалі, хлопцы падхапілі; нявеста ціха плакала, час ад часу азіраючыся назад, дзе ў іншай карэце ехаў жаніх са свахай і сведкамі. Гледачы разышліся, і шынок на некаторы час заставаўся пусты, толькі старая маці сядзела каля акна, глядзела на ад'язджаючых, малілася за сваё дзіця, якое ўжо столькі гадоў замяняла яе па гаспадарцы і з святым цярпеннем пераносіла яе капрызы, лічачы іх вынікам доўгай і пакутлівай хваробы. Між тым, пачалі ссоўваць сталы, накрываць, і хто б толькі паглядзеў, колькі сабралася кухарак і гаспадынь. Першай асобай, якой усё было даверана, была маладая жонка Томаша. Яна ахвотна ўзяла на сябе абавязкі гаспадыні, якія напярэдадні, калі вілі вяночкі, выконвала пані мама. Калі маладыя вярнуліся з касцёла разам з гасцямі, іх зноў сустрэў гаспадар на

парозе з поўным келіхам. Нявеста пераапранулася ў іншую сукенку і ўсе селі за стол. На чале стала сядзеў жаніх каля нявесты, дружка клапаціўся пра дружак нявесты, а тыя бралі са сваіх талерак самыя смачныя кавалкі і кармілі яго. Сват жартаваў з дружкі, кажучы, што таму жывецца, як у раі. Бабуля таксама весялілася і дасціпным словам абсякала свата. які ўсюды сунуў свой нос і перашкаджаў іншым сваёй вялікай нязграбнай постаццю. Дома бабуля не дазволіла б, каб гарошынка валялася на зямлі, але калі госці пачалі кідаць гарох і пшаніцу, яна сама кінула жменю гароху ў маладых і сказала: "Каб Бог быў да вас шчодрым". Але ні гарох, ні пшаніца не прапалі дарэмна: бабуля бачыла, як пад сталом іх падбіралі прыручаныя галубы.

Вячэра ўдалася; у многіх цяжкая ад пітва галава ківалася з боку ў бок, перад кожным ляжалі падарункі, калі хто сам не паклапаціўся іх падрыхтаваць, гэта зрабіла Анча. Нядобра без падарункаў вяртацца з вяселля. Усяго было дастаткова. Кармілі і паілі кожнага, хто праходзіў каля шынка. Дзеці, што прыбеглі паглядзець на вяселле, неслі дахаты поўныя кішэні печыва. Пасля пачастункаў маладой неслі падарункі "на калыску"; яна напалохалася, калі ёй на калені пасыпаліся крыжовыя талеры[11].

Калі хлопцы прынеслі ў місах ваду і белыя ручнікі і падалі дзяўчатам, каб памылі рукі, кожная кінула ў ваду манету, бо ніводная не хацела даць падставу зганіць сябе, таму так блішчэла ў вадзе срэбра. Гэтыя грошы на другі дзень хлопцы і дзяўчаты пратанцавалі і прапілі.

Пазней маладая пайшла яшчэ раз пераапрануцца, тое ж зрабіла і дружка, бо настаў час для танцаў. Бабуля скарыстала гэтую хвіліну і адвяла дадому дзяцей, якія святкавалі ў Крыстлінай святліцы; сама ж яна павінна была вярнуцца на вяселле, бо позна ўвечары быў абрад апранання каптура, без якога не абысціся.

Бабуля захапіла з дому каптур, які яна набывала разам з дачкой Тэрэзкай, – гэта ўваходзіла ў абавязкі свахі. Калі ўсе дастаткова натанчыліся і маладая з цяжкасцю пераводзіла дыханне, бо з ёю кожны павінен быў патанцаваць, бабуля падала знак жанчынам, што ўжо па паўночы і цяпер маладая належыць ім. Пачаліся сваркі і звадкі; жаніх і сват не хацелі, каб з нявесты здымалі прыгожы вянок. Але жанчыны адваявалі яе і завялі ў яе пакой. Дзяўчаты за дзвярыма спявалі сумнымі галасамі пра зялёны вянок, бо калі нявеста дазволіць яго аднойчы зняць, то ўжо не надзене ніколі.

Але ўсё было дарэмна. Нявеста ўжо сядзела на зэдліку, Тамашова расплятала ёй касу, а карона з кветак і зялёны вянок ляжалі на стале. Бабуля рыхтавала ёй каптур з аборкамі. Маладая плакала. Жанчыны спявалі песні, жартавалі, толькі бабуля заставалася сур'ёзнай; часам яна ласкава ўсміхалася, а вочы яе рабіліся вільготнымі, яна прыгадвала дачку Іаганку, якая таксама, магчыма, у гэты час брала шлюб.

Нявеста была ўжо ў каптурыку, ён ёй вельмі пасаваў; млынарыха запэўнівала, што Крыстла ў ім як "мейсенскі[12] яблык".

---

[11] Крыжовы талер – талер з выявай крыжа, самая вялікая сярэбраная манета, якую чаканілі на Чэшскім манетным двары ў другой палове XVIII стагоддзя.

[12] Мейсенскі – саксонская парцэляна.

– А цяпер хадзем да жаніха. Хто хоча яго падражніць? – спытала бабуля.

– Самая старэйшая, – вырашыла пані мама.

– Пачакайце, я яму адну прывяду, – хутка сказала Тамашова, выбегла і праз хвіліну прывяла старую папрадуху, якая мыла на кухні посуд. Накінулі на яе белы шаль, сваха узяла пад руку і павяла да жаніха, каб "яе купіў". Жаніх доўга хадзіў вакол яе, аглядаў, пакуль яму не пашчасціла сцягнуць шаль; ён убачыў стары, зморшчаны твар, увесь у попеле. Пачаўся рогат, і жаніх адмовіўся ад такой нявесты. Сваха схавалася з ёю за дзвярыма і хутка прывяла другую. Гэтую жаніх і сват ужо хацелі "купіць", але сват разважліва сказаў: "Хто ж купляе ката ў мяху! – сцягнуў шаль, і паказаўся поўны твар млынарыхі, яе чорныя вочкі хітра ўсміхаліся свату.

– Купляйце, купляйце, танна прадам, – пажартаваў млынар, круцячы табакерку, але так марудна, нібы ў яго не гнуліся пальцы або табакерка была занадта цяжкая.

– Маўчыце, бацька, – засмяялася тоўстая млынарыха, – сёння прадасце хутка, заўтра захочаце выкупіць. Хто сварыцца, той кахае.

Пайшлі па трэцюю. З'явілася тонкая, высокая постаць нявесты. Сват даваў за яе стары ламаны грош, а жаніх адразу ж насыпаў серабра і купіў яе. Жанчыны прыбеглі ў святліцу і, акружыўшы жаніха, заспявалі:

Ужо тое зроблена,
Ужо тое гатова,
Нявеста ў каптуры
Каравай даедзены і г.д.

Цяпер маладая была ўжо залічана да замужніх жанчын. Грошы, якія за яе заплаціў Міла, жанчыны прынеслі на другі дзень перад абедам, калі збіраліся "засцілаць ложак"; на гэты раз таксама шмат спявалі і жартавалі. Сват сказаў, што "добрае вяселле восем дзён павінна доўжыцца", ды так яно звычайна і было на кожным гучным вяселлі. Звіванне вянкоў перад вяселлем, вяселле, "засціланне ложка", сяброўскі абед у нявесты, другі – у жаніха, прапіванне вяночка, вось так памалу і праходзіў цэлы тыдзень, пакуль маладыя не атрымлівалі адпачынак і маглі сказаць: "Цяпер мы самі".

Праз некалькі дзён пасля вяселля Крыстліны атрымала пані Прошкава ліст з Італіі ад камерысткі, у якім тая пісала, што графіня Гартэнзія бярэ шлюб з маладым мастаком, які калісьці вучыў яе маляванню; што яна шчаслівая і зноў квітнее, як ружа, і княгіня на яе не нарадуецца. Бабуля, пачуўшы гэтую радасную навіну, паківала галавою, кажучы: "Дзякуй Богу, усё добра скончылася!"

# Юліус Зэйер
## (1841–1901)

Празаік, паэт, драматург, публіцыст, перакладчык

Юліус Зэйер нарадзіўся дваццаць шостага красавіка 1841 года ў Празе. Закончаную адукацыю не атрымаў, але ўсё жыццё займаўся самаадукацыяй. Валодаў некалькімі мовамі і быў знаўцам даўніх еўрапейскіх культур і культур Усходу, шмат вандраваў.

Першая кніга пісьменніка – паэтычны зборнік "Вышаград" (1880). У сваёй паэтычнай творчасці Юліус Зэйер звяртаўся да літаратуры Сярэднявечча і фальклору, у прыватнасці да гераічных паэм, казак, паданняў, легендаў.

У прозе пісьменнік дэбютаваў фельетонамі, пазней паспяхова звярнуўся да жанраў апавядання і рамана. Самыя значныя апавяданні пісьменніка выйшлі пад назваю "Тры легенды пра укрыжаванне" (1892). Ідэі для сваіх твораў Юліус Зэйер браў з міфаў, паданняў, казанняў розных культур і ацэньваў іх, як найвышэйшую праяву нацыянальнага менталітэту. Найбольш вядомыя з раманаў пісьменніка "Андрэй Чарнышоў" (1875), "Ян Марыя Плойгар" (1888), "Раман пра вернае сяброўства Аміса і Аміла" (1877). Звяртаўся пісьменнік і да драматургіі. Вядомасць набылі п'есы "Гнеў Лібушы" (1886), "Старая гісторыя" (1883), "Радуз і Магулена" (1896).

# Тры легенды пра ўкрыжаванне

## Інултус
## (Пражская легенда)

Было гэта, мусіць, дваццаць гадоў пасля бою на Белай гары.

Стаяў цудоўны вечар. Сонца заходзіла над Петржынам. Градчаны купаліся ў ружовым святле, Влтава здавалася ракою з цёмнага бурштыну. Карлаў мост кіпеў людзьмі, коньмі, карэтамі. Гэта была надзвычай прыгожая карціна. Колькі дваранаў у яркіх экіпажах, у багатым адзенні праязджала тут, тых, фанабэрыстых, бліскучых няпрошаных гасцей, што сёння займаюць месцы і правы абрабаваных тутэйшых радоў, а калісьці тут ездзілі іншыя, тыя, здрадзіўшыя, праклятыя, што паходзілі з чэшскай крыві, якой грэбавалі і прадалі за адзін грош. Іуды! Гэта была надзвычай прыгожая карціна. У пазалочаным цяжкім убранні сноўдаліся прэлаты, стражнікі якіх ніколі б не пусцілі ў дом Збавіцеля, калі б бедна апрануты і басаганож пастукаўся б да іх; з пагардаю глядзелі навокал прыгожыя дамы ў шаўках, галовы якіх былі ўпрыгожаны золатам, а ў пустых душах даўно не засталося нічога жаноцкага. Паміж коньмі і карэтамі туляліся мяшчане, тоўстыя, заўсёды задаволеныя, нягледзячы на тое, ці поўны іх кашалёк, ці нічога не маюць на абед. Заўсёды спакойныя гэтыя жыхары запаўнялі сабою вольныя месцы паміж карэтамі і коньмі, і тым самым дапаўнялі гэтую выдатную карціну, якая мела толькі адзін недахоп. Карціну псавала хеўра абадраных жабракоў непадалёк ад старагарадской вежы каля маста. Гэта былі тыя, хто захаваў вернасць чэшскай зямлі і сімвалізаваў сабою пэўны час, бо не пакінуць межы сваёй Айчыны мог толькі той, хто пагадзіўся быць верным, нягледзячы на гора, слёзы і прыніжэнне.

Позіркі прыгожых пані, фанабэрыстых дваранаў, тоўстых мяшчан непасрэдна не сустракаліся з гэтым натоўпам зхуднелых і збяднелых людзей, а калі часам выпадкова натыкаліся на яго, то хутка адвадзіліся ад такой непрывабнай карціны. Час ад часу толькі жабракі атрымлівалі падаўку ад сумна апранутых жанчын, што праходзілі побач. Яны сядзелі на бруку, тулячыся адзін да аднаго, старыя, сляпыя, слабыя, у лахманах, як адна сям'я, бо агульнай іх маці была нявыказаная бяда.

Непадалёк ад гэтай групы неяк спыніўся малады мужчына. Вопратка на ім была не нашмат лепшаю за іх, але намнога чысцейшаю, твар ён меў бледны і няшчасны, як і ў іх, але можа таму і быў надзіва прыгожым. Рысы яго твару былі ідэальнымі, доўгія мяккія валасы былі колеру цёмнага золата, яго прыгожыя вочы пазіралі летуценна і палілі чароўным, таямнічым смуткам, а ў глыбіні іх хаваліся слёзы. Вусны пакутніцка ўсміхаліся. Ён хвіліну глядзеў на жабракоў, потым праверыў свае пустыя кішэні, знайшоў там троху грошай, якія паклаў у далонь старога сляпага. З апушчанаю галавою ён зрабіў некалькі крокаў, абапёрся на поручні маста і заглядзеўся на Градчаны, што пачыналі ахутвацца фіялетавым змрокам. Ружовае ззянне на іх згасала. Ён глядзеў доўга

на Пражскі Град, і твар яго злёгку пачырванеў, а вусны нешта шапталі. Нарэшце сеў каля жабракоў на зямлю і закрыў твар далонямі.

Сонца даўно зайшло, і зямлю ахутаў глыбокі змрок, нячутным стаў грукат карэт, знікла іржанне коней. Мост памалу апусцеў цалкам, і жабракі пайшлі тады, калі ўжо не было спадзяваняяў на падаўку. Але малады мужчына заставаўся сядзець яшчэ доўга нерухома. Калі нарэшце ён узняўся і азірнуўся, навокал была цемра, а на небе запаліліся зоркі. Рака ўнізе жудасна гула. Ён зноў абапёрся аб поручні і глядзеў на глыбокую цёмную плынь.

“Чаму я не кідаюся ўніз, туды, дзе б знайшоў спакой, дзе б згасла нянавісць, дзе б спыніліся гвалт, несправядлівасць і ганьба?” – пытаўся ён сам сябе ціхім голасам.

Унізе ў рацэ мігцелі сярод хваляў водбліскі зорак. Ён адарваў ад іх вочы, якія ўзняў угару, дзе ўбачыў як ясна і чыста зоркі свецяцца на небе. Вялікі іх спакой напоўніў яго душу. Іх нямая прамова была нібы абяцаннем шчасця, несамавітага, але бунтарскага.

“Быць шчаслівым, – шаптаў ён, – якое гэта пачуццё? Да каго звярнуцца, каб мне растлумачыў?” Ён падумаў яшчэ хвіліну і вырашыў пайсці. І ў гэты момант выпадкова апынуўся перад двума людзьмі, што ціха ішлі па дарозе. Гэта былі мужчына і жанчына. Мужчына стары і гарбаты, а жанчына зграбная і маладая. Мужчына асвятляў шлях ліхтаром, які нёс запаленым, і промні святла выхапілі з цемры летуценны, бледны і прыгожы твар задуменнага юнака.

Жанчына злёгку ўскрыкнула ад здзіўлення. Яна вымавіла ціха і хутка некалькі слоў па-італьянску, адкрыла свій кашалёк і дала юнаку багатую падаўку.

– Я не жабрак, – сказаў ён рэзка і паглядзеў пакрыўджана і з асуджэннем на яе. Яе бледны твар быў надзвычай прыгожым і мармурова спакойным. Позірк жанчыны ахапіў яго белую вопратку і вытанчаныя рысы твару.

– Прабачце, пан, – сказала пасля, і голас яе салодкі, гучны і глыбокі дрыжаў, як музыка ночы. – Прабачце, пан, я не хацела вас пакрыўдзіць. Ведаю, што на гэтым месцы заўсёды бываюць жабракі, а цяпер цемра і я, безумоўна, не магла разгледзець. Як я магу выправіць сваю памылку?

Яна падала яму руку як мужчына мужчыне. Рука была халодная, як камень, цвёрдая і цяжкая.

– Я не крыўдую, – адказаў юнак і захваляваўся, бо яму здалося, што перад ім мярцвяк. – Гэта здань? – спытаў ён сам сябе і паглядзеў на яе больш уважліва. Яна была прыгожая, настолькі прыгожая, як ніхто, мабыць, не бачыў на свеце, але ў яе прыгажосці было нешта каменнае, як і ў яе дакрананні. Ён заўважыў, што яго руку яна працягвае трымаць.

– Пан, – сказала, – дакажыце мне, што вы насамрэч прабачаеце. Будзьце ахоўнікам і правядзіце нас дадому. Я запрашаю вас на вячэру.

Твар юнака пачырванеў, і ён вынуў сваю руку з яе рукі. Святло падала на яго твар, і прыгожая жанчына бачыла на гэтам твары сорам. Яна ўсміхнулася ўпэўнена і спакойна.

– Я донна Флавія Санціні з Медыалану, – сказала проста. – Дом мой не заплямлены. Ці не чулі вы маё імя? Многія з вядомых людзей гэтага горада з гонарам успрынялі б запрашэнне, ад якога вы так абразліва адмаўляецеся.

Яна махнула яму рукою і сказала старому:

– Ідзі і асвятляй.

– Прабачце, – сказаў разгублена і сарамліва малады мужчына. – Я вас пакрыўдзіў? Зразумейце, мяне гэтыя словы балюча раняць.

Ён ішоў побач з ёю, твар яе не змяніўся, як і раней яна была мармурова спакойная, неверагодна прыгожая, з гонарам і халодная. Але з яе вуснаў зляцела некалькі слоў.

– Ці чуў ты калі-небудзь маё імя? – запытала яна зноў, ідучы.

– Не, пані, – адказаў ён нясмела, – ці не з роду вы тых чужынцаў, што добра разбагацелі на гэтай зямлі?

– Я чужая тут, – адказала яна, – і мой род не атрымаў нічога ні на гэтай зямлі, ні дзе ў іншым месцы. Выпадак прывёў мяне сюды. Род мой усяго толькі мяшчанскі. У маіх руках малыя грошы. І гэтыя грошы ■ аддаю мастацтву.

– Ах, – уздыхнуў малады мужчына, – быць мастаком! Тварыць! Тварыць!

Ён узняў вочы да неба і пазней схіліў галаву.

– А вы, кім з'яўляецеся вы? – запыталася прыгожая жанчына.

– Я паэт, – прашаптаў ён так ціха, што словы расталі ў подыху вячэрняга ветру. Яму было сумна і тужліва. Ён увесь час думаў пра песні, што нарадзіліся ў яго сэрца, і якія, нібы птушкі ў клетцы, сумна маўчалі, і не было сіл іх выліць са сціснутых тугою грудзей, бо перашкаджала камлыга праклёнаў і цяжкіх няшчасцяў, куды больш цяжкіх, чым на ўсёй яго роднай зямлі. Тыя песні напаўняліся нянавісцю, злобнымі крыкамі, стогнамі ад гора, якім поўнілася Айчына, над пагібеллю ўласнай сям'і, але не знаходзілі форму і словы, бо ў агоніі гэтай краіны анямелі і геній і кожны звычайны чалавек, што жыў у гэты час, таму што скамянеў, змярцвеў і стаў змрочным, як і сама зямля.

Донна Флавія гэты шэпт пачула, нягледзячы на тое, што быў ледзьве чутны і сказала:

– Вы паэт! Тым лепш, бо зразумееце, магчыма, мяне. Тое, што я вам хачу сказаць, вельмі важна.

Паэт адчуваў сябе цяпер цалкам свабодна. Ён крочыў побач з прыгожай жанчынай і пачуваўся так, нібы ідзе з прыяцелем. Думка пра нейкую прыгоду, што ўзнікла не так даўно пасля запрашэння донны Флавіі, была адкінута і знікла бясследна. Яны ішлі моўчкі непрыемнай вуліцаю, якая цягнулася ўгару, пустая і ціхая, пад стрэхамі дамоў узвышаліся цёмныя абрысы градчанскіх манастыроў, палацаў і касцёлаў. Спыніліся каля невялікага дома з высокім франтонам. Стары, што нёс ліхтар, выцягнуў ключ, адамкуў дзверы, і яны ўвайшлі. Драўляныя прыступкі з багата выразанаю балюстрадаю вялі ўгару да адзінага паверха. Наверсе адамкнуліся цёмныя дзверы, прыгожа акаваныя, і выйшла жанчына з дзіўнымі, рэзкімі рысамі твару, у чорнай сукенцы, з доўгім ружанцам, які вісеў ад пояса ажно да зямлі. Яе вочы жоўтага колеру і кулатыя, як у начной птушкі, здавалася далёка зазіраюць і бачаць тое, чаго не бачыць

ніхто. У руцэ яна трымала вялікі падсвечнік з трыма вялікімі свечкамі. Моўчкі прывітала донну Флавію.

– Плацыда, – сказала Флавія, –я прывяла госця. Дай нам паесці і папіць.

Яны ўвайшлі ў вялікі пакой. Сцены пакоя былі ўпрыгожаныя фламандскім жывапісам, пасярэдзіне стаяў вялікі, цяжкі, дубовы стол з разьбою. Іншай мэблі не было, за выключэннем некалькіх вялікіх крэслаў і вялізнай шафы, што займала сцяну паміж двума вокнамі, напоўненай даўнім сярэбраным і бронзавым посудам. Паэту, як жыў у беднай каморцы недзе ў пустым квартале недалёка ад новагарадскіх бастыёнаў, гэты пакой здаўся па-каралеўску надзвычай прыгожым. Аднак сваё здзіўленне ён не паказаў, а пачаў уважліва разглядаць дыван, што закрываў вялікую частку цаглянай падлогі. Донна Флавія выйшла з пакоя, папрасіўшы яго, каб сеў у крэсла.

Плацыда моўчкі накрывала на стол, працуючы, нібы ў сне, а стары, які суправаджаў донну Флавію, пэўна, слуга ў доме, прыцягнуў крэсла і запаліў яшчэ тры васкавыя свечкі ў другім латунным падсвечніку.

Донна Флавія ў хуткім часе вярнулася, яна ўжо скінула плашч і была ў жоўтай шаўковай сукенцы, а на шыі і руках упрыгожанні са срэбра. Яе каштанавыя валасы, мяккія і багатыя, былі проста зачэсаны і ўпрыгожвалі твар, а вочы, карычневыя і вялікія, надзіва прыгожыя, здзіўлялі халодным позіркам.

– Прысядзем да стала, – сказала яна і села сама.

Паэт сеў насупраць яе, а стары, што перад гэтым выйшаў з пакоя, увайшоў зноў і таксама прысеў да стала.

– Квідо, – сказала Флавія, – ведае мяне з майго ранняга дзяцінства, як і Плацыда, яны служылі маім бацькам і з'яўляюцца маімі прыяцелямі.

Стары ласкава ўсміхнуўся.

– Ён нямы, – ціха прамовіла Флавія.

Надышло маўчанне, пасля чаго донна Флавія за ежаю сказала:

– Так вы ніколі не чулі маё імя? Я ўжо ў Празе шмат гадоў і мне казалі, што я тут маю вядомасць. А ці не чулі вы выпадкова імя Праперзе дэ Россі? Не чулі? Ну, значыць, я залішне была самаўпэўненаю. Праперзе дэ Россі была самым славутым італьянскім скульптарам. Творы яе напоўнеыя сілаю і боскаю прыгажосцю. Бачыла я іх у Італіі яшчэ ў дзяцінстве, і яны натхнялі мяне ўжо тады. Пазней яны далі мне шлях і стымул на ўсё жыццё. Я стала скульптарам, як і Праперзе.

Флавія падумала і сказала цішэй:

– Ці ўздымуся я калі-небудзь вышэй за яе? Пазней яна звярнулася да маладога паэта і спытала:

– А як ваша імя?

Ён зморшчыў лоб, і ў яго вачах з'явіўся глыбокі смутак, таму адразу не адказаў, але нарэшце ціха вымавіў:

– Называйце мяне Інултус.

– Інултус! Вось дзіўнае імя, – заўважыла Флавія, – Інултус, гэта той неадпомшчаны? Або нескароны? Думаю, што ніхто акрамя вас не мае такога імя.

– А між тым, – сказаў Інултус, – так можна было б называць кожнага на гэтай няшчаснай зямлі, бо няма тут ніводнай душы, якая б не чакала або помсты або пакарання.

– Ах, ну калі так, – сказала донна Флавія, – тым лепш.

Інултус пахмурна маўчаў. У гэты час увайшла Плацыда з вячэраю на сярэбраным блюдзе. Донна Флавія ласкава папрасіла Інултуса, каб еў. Ён не еў цэлы дзень і змушаны быў сябе стрымліваць, каб не выказаць голад. Інултус забыўся ў гэты час пра ўсё, што яго прыгнятала, і еў і піў бесклапотна, пакуль голад свой паступова заспакоіў. Донна Флавія ела толькі садавіну.. Пасля вячэры яна сказала Плацыдзе:

– Запалі лямпу ў майстэрні, .– праз хвіліну ўзнялася, адгарнула заслону, за якою знаходзіліся невысокія дзверы і дадала:

– Я пакажу вам сваю працу і скажу, чаму я вырашыла вас запрасіць да сябе. Хадзем.

Святло трох вялікіх лямп асвятляла прасторны пакой, у які ўвайшлі Інултус з доннай Флавіяй. Рэльеф з белага мармуру, які ўяўляў сабою Пуціфару, што цягнула плашч з плячэй Ёзафа, уразіў Інулта прыгажосцю абрысаў і чысцінёю камня. У гэтым творы мастацтва было столькі сілы і прывабнасці, што Інултус здзіўлена выгукнуў:

– Гэта праца вашых рук, мадонна? Якая вы вялікая, моцная і ўзвышаная!

– Не, – адказала яна, – гэта твор Праперзе дэ Россі. Я толькі капіравала яго. Я не такая вялікая, моцная і ўзвышаная, як яна, але маю на мэце стаць большаю, мацнейшаю і больш узвышанаю, і вы зможаце мне ў гэтым дапамагчы.

– Я? – здзівіўся Інултус. – Як я змог бы гэта зрабіць?

– Скажу вам, – адказала яна, – Праперзе дэ Россі была няшчасаю ў каханні і памерла ад адхіленага кахання. У гэту постаць Пуціфары яна ўклала ўсю сваю страсць, увесь свой адчай. Кахаючы чалавека пры смерці, Праперзе фатальна заставалася прыкаванай да зямлі. Я ж не ведаю, што такое каханне да мужчыны і не хачу ніколі пра гэта ведаць, бо смела ўздымаю свой позірк на зоркі, дзе прываблівы фантом без пагрозы да жыцця доўжыць славу. Слава і мастацтва – гэта адзіная мая любоў і адзіны мой Бог.

Яна падышла да вялікай белай заслоны, якую адгарнула, і Інултус убачыў высокі драўляны крыж, на якім быў укрыжаваны Хрыстос у чалавечы рост, зроблены з гліны, і ўсё было даведзена да канца, акрамя твару, рысы якога былі толькі вызначаны.

– Перад вамі праява майго найвышэйшага славалюбства і адначасова мой адчай, – сказала Флавія. – Стварыць вобраз паміраючага Хрыста ў агоніі такім, каб ад жаху сціскалася сэрца, не здолела пакуль жаночая рука ні разцом ні пэндзлем, і я думаю, што гэта не змог бы зрабіць ніводзін і мужчына. Увасобіць у ім вялікую трагедыю Галгофы і праўду жыцця, каб прабірала гледачоў да дрыжыкаў ад жаху, каб свяціўся ідэальнаю прыгажосцю мармур, – вось смелая мара майго жыцця! З прагаю рэалізаваць сваю мару жыву я ўжо два гады. Дваццаць разоў я змяняла твар свайго Хрыста і дваццаць разоў была жорстка падманутай. Я не веру ў Хрыста і таму не магу аддаць працы ўсю душу, не магу

адлюстраваць усё, што ёсць у маім сэрцы, у гэтым якраз і ёсць перавага людзей набожных, а я з вялікаю цяжкасцю павінна ўдасканальваць сваё майстэрства, тварыць і разбураць.

Інултус задрыжаў.

– Не верыць у Хрыста? – вымавіў ён, і слёзы паліліся з яго вачэй. Яму здалося, што гэтымі словамі ён параніў Збаўцу, і ў той жа час адчуваў вялікую спагаду да гэтай прыгожай, каменна халоднай жанчыны, з яе цёмнаю, няверуючаю, памерлаю душою. Вочы яе загарэліся, калі яна ўбачыла, што яе словы так яго ўсхвалявалі.

– Вы так падобна да Хрыста, як пра яго апавядаецца ў легендзе і як гэта адлюстравана ў масацтве! – сказала яна з захапленнем. – Зразумейце, я даўно і марна шукаю гэты вобраз сярод людзей, вобраз таго, каго мая душа нарадзіць не можа. Калі я ўбачыла вас на мосце, то ўскрыкнула ад здзіўлення, бо, гледзячы на вас, я бачыла вобраз свайго Хрыста! А цяпер бачу зноў, я шчаслівая, што абрала вас! Інултус, для вас я яго ствару! Ці пагодзіцеся вы стаць узорам для майго паміраючага караля яўрэяў?

– Ніколі! – адказаў Інултус пакорліва. – Я не падыду! О, як вы можаце нешта падобнае прагнуць, мадонна?

Яна ўсміхнулася і сказала:

– Вы дзіця, прыяцель!

Потым узяла яго за руку, падвяла да вялікага акна, паказала яму месца, дзе ён змог бы прысесці, і села сама на дыван, разасланы на шырокім падаконніку і перакінуты адным краем у пакой, а другім – у двор дома. Ноч была спакойнаю і поўнаю зорак. Праз стрэхі Малой Страны можна было бачыць горад далёка, ажно да таго краю, дзе ўзвышаліся цёмныя абрысы будынкаў, паміж якімі блішчэла Влтава. Шум ракі напаўняў майстэрню сваім сумным рытмам. Гэта было падобна на вялізарны, трагічны плач Прагі, што ляжала ля ног пахмурнага Града, нібы звязаная каралева, прададзеная ў рабства, заміраючая, пачуўшы цвёрдыя крокі свайго захопніка. Інултус у той момант, калі зірнуў на горад за вакном, адчуў вялікі боль за прыгнечаную краіну, імя якой было выкраслена з кнігі жывых, зорка якой знікла ў імгле смерці і бяспамяцтва. Цяжкі ўздых вырваўся з яго грудзей, і ён закрыў твар рукамі.

– Прыяцель, – сказала Флавія, – я ведаю, што адбываецца з вамі. Нягледзячы на тое, што я чужаземка, я разумею вас. Калі дапаможаце мне дасягнуць мэты, то зможаце гэтаму краю, над якім у нямым жалі плачаце, гэтаму народу, з якога паходзіце, аказаць вялікую паслугу.

Інултус паглядзеў усхвалявана на яе з запытаннем.

– Так, – працягвала Флавія, – цяпер я растлумачу вам сваю думку. Адзін з тых, самых уплывовых і наймацнейшых, у чыіх руках знаходзіцца, мабыць, лёс гэтай краіны, назавем яго донам Бальтазарам, бо ён іспанец, наведвае мой дом. Сям'я мая з даўніх часоў была з ім звязаная, і менавіта дзякуючы яму мой бацька прыехаў у Чэхію. Дон Бальтазар з таго часу і наведвае мой дом. Гэта для мяне вялікі гонар, але мала радасці, бо цёмныя, д'ябальскія яго вочы выклікаюць у мяне сапраўдны страх. Аднойчы я расказала дону Бальтазару пра сваё разуменне паміраючага Хрыста, хоць і не прызналася яму, як вам, што не

веру ў яго боскасць. Дон Бальтазар запрасіў мяне на другі дзень у свой палац, дзе ў мармуровых залах пануе каралеўская раскоша. Ён прывёў мяне ў сваю царкву, якая зіхацела ад золата і дзе цяпер знаходзіцца пусты алтар, і сказаў:

– Душу маю стамілі страсці, яе не ўсыпляюць бясконцыя малітвы, яна атупела ад бою, які я бясконца вяду ў гэтай упартай, праклятай краіне ерэтыкоў. Я не магу ўжо па-сапраўднаму маліцца, таму хачу змясціць у маім пустым алтары такога Хрыста, пра якога вы мне ўчора казалі, такога, каб агоніяй сваёю мяне працінаў, каб выклікаў у маёй застылай душы немы крык болю, і я заплачу вам золатам і ўзнясу ваша імя да зорак. Вось так, Інулт, прыяцель, казаў мне дон Бальтазар, і з таго часу я жыву ў гарачцы… Інулт, я зраблю твар Хрыста падобны да вашага, выкажу ў ім ўвесь боль, які гняздзіцца ў вашых грудзях! Немы крык ваш перад сконам, сумны твар абудзяць нешта чалавечае ў цёмнай, сатанінскай душы гэтага іспанца, магчыма выклічуць слёзы! Будзе гэта выглядаць так, нібы ўвесь час ваш змучаны край будзе пытацца вашымі вуснамі ў Бога:

– Чаму, Божа, ты мяне пакінуў?

І ведайце, выратаванне магло б прыйсці ў Чэхію! Ці чуеце вы, Інулт, плач гэтай глыбокай ракі? Ці бачыце, як Прага ў адчаі працягвае свае рукі да зорак?

Яна змоўкла, яе вочы, просячы, уперліся ў яго твар. Інултус, дрыжучы ўсім целам, узяў яе за абедзьве рукі.

– Я зраблю ўсё, што пажадаеце! – ускрыкнуў ён у экстазе. – О, прывяжыце мяне да крыжа так, як да яго прыбіта мая радзіма! Няхай пакуты, якія вы ўбачыце на целе маім, будуць на твары паміраючага Хрыста, і, магчыма, той погляд кране сэрца гэтага ката! А ці ў душы вашай не азавецца ціхі голас пад час працы, які ў вас запытае, ці Хрыстос сапраўды жыў і ці быў ён Богам?

Флавія падала яму руку.

– Магчыма здарыцца так, – сказала яна і адвяла свой погляд, каб ён не прачытаў у ім нявер'е. Пазней дадала – Цяпер ідзіце, прыяцель, і прыходзьце заўтра раніцаю. Кашалёк мой для вас заўсёды адчынены, а маё сэрца напоўнена ўдзячнасцю.

Ён павёў рукою, нібы просячы, каб яна змоўкла.

– Добрай ночы! – сказала тым не менш і паклікала старога Квідона, які Інултуса выпусціў з дому і зачыніў за ім дзверы.

Флавія некалькі хвілін стаяла ў задуменні каля адчыненага акна, пакуль не прыйшла Плацыда.

– Паглядзі, – сказала старая і паказала ёй асколкі шклянкі.

– Ну што? – запытала Флавія.

– Гэта венецыянскі бакал, з якога піў твой госць, трэснуў, як толькі я да яго дакранулася. Гэты мужчына прынясе няшчасце ў твой дом.

Флавія засмяялася.

– Ты ведаеш, – сказала яна, – я не прымхлівая.

– Калі ён увайшоў у дом, я вам сваціла, – дадала Плацыда нізкім голасам, – і бачыла самую сябе ўнізе каля лесвіцы, бачыла, як за вамі зачыняюцца дзверы склепа, бачыла, як я яго, гэтага госця, усяго ў крыві, штурхаю ў склеп.

– Ідзі спаць, Плацыда, – спакойна сказала Флавія, – ты спала ўжо ў тыя хвіліны, калі свяціла нам, і сны твае заўсёды цяжкія і страшныя.

– Амаль заўсёды прароцкія, – дадала Плацыда.

Абедзьве разышліся без далейшых слоў.

Інултус туляўся па вуліцах Прагі амаль у гарачцы, трызнячы глядзеў на зоркі, на цёмную раку, раскрываў абдымкі глыбокім ценям, клікаў у захапленні Бога, нібы мара Флавіі ўжо ажыццявілася. Раніцою, бледны і гатовы да смерці, ён пастукаў у зачыненую браму італьянскага скульптара.

Нямы слуга яму адчыніў і, усміхаючыся ласкава, правёў у майстэрню. Донны Флавіі не было. Плацыда ўвайшла і сказала Квідону:

– Пані сказала, каб ты зрабіў тое, што яна табе ўвечары загадала.

У той жа момант пайшла, а Квідон павярнуўся да Інулта. Ён так хутка зняў з юнака адзенне, што Інултус здзіўлена ўбачыў, што стаіць да пояса голы. Квідон зняў з яго абутак, пазней падвёў да ляжанкі, якую ўчора малады мужчына не бачыў і якая ўяўляла сабою пусты драўляны крыж на подыуме. Квідон узняў Інулта, як дзіця, паставіў на высокую прыступку пад крыжам, узяў вяроўкі, прывязаў моцна яго рукі да доўгіх перакладзін крыжа, пасля вызваліў ногі і прыбраў прыступку. Інултус вісеў на крыжы, падобны да Хрыста. У гэты момант увайшла донна Флавія. У свабодным, цёмным, падперазаным толькі поясам адзенні яна была яшчэ прыгажэйшаю, чым учора, яшчэ халаднейшаю, і выраз яе твару быў строгі і важны. Флавія паглядзела на Інулта, як на прадмет, а не як на чалавека, і без слоў распачала працу і аддалася ёй цалкам. Праз гадзіну Інулт страціў прытомнасць і не разумеў, што з ім адбываецца. Калі свядомасць да яго вярнулася, донны Флавіі ў майстэрні ўжо не было. Квідон і Плацыда развязвалі вяроўкі, якія трымалі юнака, дапамагалі яму апранацца і прынеслі віно і ежу. Ён змог трошкі з'есці, задыхаючыся піў і потым доўга ляжаў на дыване, разасланым на падлозе, паклаўшы галаву на падушку, якую яму Квідон прынёс. Калі ён змог устаць на ногі, то нямы дапамог яму сысці з прыступак і давёў да маста.

Падобным чынам гэта доўжылася ўвесь час; Інултус праходзіў праз сапраўдныя пакуты. Цяпер голы, прывязаны моцнымі вяроўкамі, ад якіх у яго ўтварыліся ацёкі, бо да крыві ўпіваліся ў цела, ён вісеў штодзень па некалькі гадзін на крыжы, адчуваючы голад і смагу, бо не мог нічога ні есці ні піць, вісеў у хваравітым экстазе, які ўзнік ад уяўлення пра пакуты Хрыста, што ён праходзіў целам і душою. Яго ахапіла нейкае шаленства. У гарачцы ўяўленне падказала яму думку, што Бог паслаў яго ў няшчасную краіну чэхаў, каб пакутаю на крыжы яе выратаваў. Яму здавалася, што дух самога Збаўцы чалавецтва пераносіўся ў яго цела, якое вісела прывязанае да крыжа, сам дух Божы жыў у ім, пранізваючы смяротна яго цела, каб святло часам узнікала ў цёмным кутку душы, пра якую яму апавядала Флавія, у душы таго іспанца, што трымае лёс чэшскай зямлі ў сваіх руках. Ён паміраў шчаслівы з думкаю, што яго радзіма будзе выратавана яго смерцю, бо адчуваў, што такое вялікае шчасце каштуе жыцця.

Інултус быў шчаслівы, але донна Флавія штодня рабілася больш пахмурнаю. Пакуль яна працавала, ёй здавалася, што справа яе ідзе паспяхова, а

калі Інултус ішоў з дому і яна заставалася адна, то адчувала цяжар і горыч расчаравання.

– Гэта зусім не тое, чаго я хачу! – казала яна страсна. – Калі цела спакутванае, здранцвелае, змардаванае абуджае спачуванне і жах, я задаволеная, але твар! Ён цудоўны і смутны. Смутны, чысты, натхнёны, і гэта праўда. Але для мяне гэтага недастаткова! Я не бачу агонію ў гэтай простай стомленасці і непрытомнасці. Дзе таемны выраз, што яднае цела і душу?

І раптам у адчаі яна ўзяла кінжал, які заўсёды насіла за поясам, і спаласавала прыгожы, сумны, натхнёны і чысты твар свайго Хрыста. Пазней яна села пад крыжом і заплакала. Флавія не ўмела плакаць, таму слёзы прыносілі ёй боль, а не палёгку, і яе ахапіла пачуццё, нібы яна забіла чалавека.

Плацыда ўвайшла ў майстэрню, паглядзела на сапсаваны твар, на Флавію ў слязах, са здзіўленнем падышла і сказала:

– Ты плачаш над ім? Няшчасная!

– Над кім? – запыталася Флавія, раптам пабляднеўшы.

– Над Інултам, – адказала смела старая.

Флавія адчула, нібы яе ўдарыла маланка. Сэрца яе так моцна стукала, што яна чула грукат у грудзях. Пазней яна ашалела кінулася з кінжалам у руцэ на Плацыду.

– Ілжэш! – крыкнула.

– Тым лепш, – адказала Плацыда, халодна абараняючыся.

Флавія раптам паспакайнела. Яна ўзняла велічна руку.

– Ідзі! – сказала. – Я ненавіджу яго..

Плацыда пайшла. Флавія ўпарта патрэсла галавою і пачала папраўляць спаласаваны твар свайго Хрыста. На другі дзень, калі Інултус з'явіўся, яна зноў пачала цярпліва, вытрымана працаваць, нібы нічога не здарылася.

Яна ненавідзела прыгадваць тую імгненную слабасць, якую ніколі ў жыцці не ведала і якую Плацыда падлавіла, пранікаючы ў яе сваімі вялікімі, жоўтымі савінымі вачыма. Ненавідзела Інулта і мацней любіла свой твор, які атрымліваўся ўсё лепш і лепш. Было незразумелым, ці шукала Флавія цень смерці на чалавечым целе, але знайшла яго на твары беднага Інулта, які адчуваў набліжэнне смерці, ахоплены сваімі думкамі так, як іншыя каханнем або віном. У тым пекле, у якім ён жыў, нашчадак некалі слаўнага, але знішчанага роду, ён, паэт, які не мог выказаць тыя словы, што ў ім выспявалі, ён, чэх, які бачыў здраджаную сваю айчыну затаптанаю, закіданаю крывавым і мярзотным брудам; у гэтым пекле жыццё не мела нічога прывабнага, а смерць, якая магла быць збавеннем не толькі для яго, але і для цэлага края, для ўсяго народа, здавалася яму самым прыгожым, самым узвышаным, што чалавек у гэтай даліне слёз і працы можа напаткаць. А як ззяла тады яго выратаванне, якое ён так ясна і насамрэч перад сабою бачыў, нібы карону з зорак на сваёй галаве, што Флавія магла быць задаволенаю, бо знак таго скону не быў звычайным, а меў арэол вызвалення!

Аднойчы ён прыйшоў, ззяючы шчасцем, бо нейкі таямнічы голас яму сказаў: "Сёння ты атрымаеш тое, чаго прагне твая душа!" Донна Флавія ўвайшла, калі ён быў ужо прывязаны да крыжа. Быў ён як заўсёды голы, і ад

усяго яго цела зыходзіла нейкае святло. Яна паглядзела не без здзіўлення на яго твар, і, убачыўшы на ім бязмежнае шчасце, якое пасля доўгіх пакут на імгненне яго разгладзіла, насупілася. Гэта не быў выраз яе Хрыста ў агоніі – шчасце знішчала яе твор.

– Не ўсміхайцеся так салодка, – сказала яна няласкава, – гэты бляск шчасця ў вашых вачах супярэчыць напружанню вашых рук, што ацяклі і абдзертыя да крыві.

Пазней дадала больш мякка:

– Мне дзіўна, што ў такім стане вы можаце яшчэ цягацца па вуліцах. Чаму вы не пажадалі, каб я па вас паслала людзей з насілкамі або карэту? Я зусім забылася пра гэта.

Інултус узняў вочы да неба і шчасліва ўсміхнуўся. Ужо не трэба будзе яму карэта, ужо не патрэбна будзе яму рабіць цяжкія крокі па зямлі! Ён усміхаўся яшчэ больш шчасліва і нічога не казаў.

Донну Флавію ахапіла нейкая злоба.

– Хоча зрабіць мне ўсё напоперак? – падумала яна. Паклікала Квідона.

– Прывяжы яго больш шчыльна, – загадала цвёрда. – Ці не бачыш, што вяроўкі свабодныя?

Квідон паслухаўся.

– Больш шчыльна, больш шчыльна! – загадвала Флавія ў нейкай гарачцы, назіраючы, як боль адбіваецца на твары Інулта, як пачала цячы кроў з яго рук і ног. Калі яна глядзела на кроў, то вочы яе свяціліся крывашэрна, як у тыгра. Флавія паківала Квідону, каб адышоў, узяла вялікі цярновы вянок і паклала яго на галаву Інулта, наступіўшы на яго ляжанку. Яна дыхала цяжка, і калі ён паглядзеў на яе з нейкім дакорам, то яна адчула як полымя апаліла ёй сэрца. Нейкая імгла на адзін момант легла на яе вочы, яна ўпарта затрэсла галавою, з нялюдскаю сілаю перамагла сябе і прымацавала жорсткую карону з церну на яго скронях. Ён задрыжаў ад болю ўсім целам, слабы крык прыгучаў з яго вуснаў і ручайкі крыві пацяклі з яго твара на бедныя голыя яго грудзі. Ён быў смяротна бледны.

– Вось так будзе лепш, – сказала донна Флавія ў нейкім нялюдскім захапленні злобаю і любоўю, гневам і хваравітым задавальненнем і паспяшала ад ляжанкі да сваёй працы.

Інулт страціў прытомнасць, галава яго схілілася і вочы патанулі ў змрочнай містэрыі, у імгле паміж жыццём і смерцю. Гэта была апошняя агонія! Дзіўнае натхненне ахапіла Флавію, сэрца яе грукатала, але рукі не дрыжалі. Яна цалкам аддалася працы, і ёй здалося, што пад яе пальцамі нараджаецца цуд мастацтва! У майстэрні было ціха, як у труне, толькі моцнае яе дыханне і яго слабыя ўздыхі азываліся ў глыбокай немаце. Але свядомасць паступова вярнулася да Інултуса, ён расплюшчыў вочы і ажыў.

– Божа, – сказаў, – што гэта са мною адбываецца?

Донна Флавія гучна абурылася.

– Яшчэ паўгадзіны, – усклікнула, – і я б дасягнула мэты! Чаму вы апрытомнелі?

У яе сапсаваўся настрой.

– Мадонна, – сказаў Інултус, – мне здаецца, што я паміраю.

Яна тузанулася, узяла свой кінжал, яе першая думка была чалавечая, бо хацела вызваліць яго з путаў. Яна ўскочыла на ляжанку, і ён, якога ахапіла прадчуванне блізкай смерці, ужо нічога добра не разумеў, толькі падумаў, што яна хоча яго забіць.

– Так, – сказаў ён слаба, – вашая праўда. Што значыць маё жыццё, калі вы ўсадзіце кінжал у маё сэрца і ўбачыце той сапраўдны выраз твару, які так доўга шукалі, прынёсшы мяне ў ахвяру.

Ён глядзеў на яе трызнячы. Яна адчула, што нібы лава цячэ ў яе жылах, у вушах звінела, а ў скронях білі малаткі. Крыважэрнае шаленства, падобнае дзікунскай асалодзе, ахапіла яе, і яна імкнулася ўдарыць кінжалам у яго сэрца.

– За цябе, мой народ, – сказаў яшчэ больш слаба Інултус, – я аддаю кроў! Божа, дай мне збавенне!

– Ты спакушаеш мяне? Змрочна спытала Флавія, і яе жудасныя вочы ўпіліся ў гэты пасінелы твар, з якога выходзіла святое ззяне.

Яна адышла на крок, узяла кінжал і ўдарыла яго ў грудзі. Ён задрыжаў, аж затросся ўсім целам і паглядзеў на яе здзіўлена. Імгненна ён пазбавіўся трызнення. Яму так сцебанула па галаве, што сціснула сэрца. Інултус пашкадаваў жыццё, якога не ведаў і якое цяпер губляў, шкада стала маладосці, у якой ніколі не бачыў ніякаў салодкай красы і якая цяпер раптоўна згасала, шкада стала таго слова, якое так і не прагучала горача, а цяпер навекі знікла! Буйная сляза памалу сцякала па яго твары. Але ён узняў вочы на Флавію і ўсміхнуўся ёй.

– Божа, прабач ёй, – прашаптаў, цень лёг на яго твар і ён, схіліўшы галаву, з ціхім уздыхам сканаў. Кроў з яго грудзей капала цяжкімі кроплямі на падлогу і цёмны жудасны грукат, падобны на стук гадзінніка, абудзіў збляднелую Флавію, якая акамянела ад жаху. Яна памалу саступіла з ляжанкі, нібы ў сне прайшлася па майстэрні, як самнамбула падышла да свайго твора і ў непрытомным стане стала працаваць з захапленнем. Час ішоў, а Флавія не стамлялася. Калі сонца зайшло і крывавым сваім ззяннем заліло майстэрню, Флаія скончыла укрыжаванне. Яна адышла на крок, ззянне шчасця, якое немагчыма выказаць, лілося з яе вачэй. Яна ўкленчыла, узняла над галавою рукі і ўсклікула:

– Я – геній, таму што несмяротныы твор –гэта справа маіх рук! Я ўзнялася вышэй, чым марыла!

Пазней яна паглядзела на свій крывавы твор, і раптам знікла захапленне і шчасце, а Флавія жахнулася таму, што забіла чалавека. Яна павалілася а падлогу і доўга там ляжала. У майстэрні было цёмна, калі яна ўзнялася. Паглядзела зноў на Інулта. Ёй здалося, што ён шырока развёў рукі ёй насустрач, нібы па ёй засумаваў. Валасы яе заварушыліся, бо адчула, што прагне пацалунка тых бледных вуснаў.

– Нявеста мерцвяка! – прашаптала яна і на каленях падпаўзла да закатаванага Інулта. Флавія дакранулася сваім ілбом да яго ног. Іх мармуровы холад вярнуў ёй развагу.

Яна ўстала і запаліла лямпу, адчыніла дзверы і паклікала:

– Плацыда! Квідон!

Абодва з'явіліся ўсхваляваныя, бо здзівіліся, што яна так доўга працавала, а голас яе быў глухі, сціснуты і не падобны на сябе. Яны глядзелі на яе з жахам, бо яна стаяла жудасная ў змрочным святле, абапершыся аб сцяну, а на яе бледным ілбе быў крывавы знак таго, што дакранулася да яго параненых ног. Яны агледзелі пакой і ўбачылі мёртвага Інулта з акрываўленымі грудзьмі. Без руху і гуку яны стаялі ціха, пакуль не азвалася Флавія. Яна нарэшце сказала, паказаўшы пальцам на Інулта:

– Аднясіце яго, – голас яе быў глухі.

– Ты забіла яго? Спыталася Плацыда.

Флавія кіўнула галавою.

– Бог мяне прабачыў, – сказала праз хвіліну.

– Ты кажаш пра Бога? – здзівілася Плацыда. – Пачынаеш у яго верыць?

– Я не магла скончыць сваю працу без забойства, – ухілілася ад адказу Флавія. Пазней дадала: – Ён хацеў памерці.

Яна закрыла твар рукамі.

– Што цяпер? – спыталася Плацыда.

– Не ведаю, – адказала нясмела Флавія.

– Я ведала, што яго некалі прыйдзецца цягнуць у той склеп, раней ці пазней, – сказала Плацыда і сумна ўсміхнулася. Потым яна павярнулася да Квідона, што ціха плакаў.

– Аднясеш яго, пакуль ніхто не спахапіўся, а вы, мадонна, пасвяціце!

Яны вынеслі Інулта і акрываўлены яго крыж, валочачы па прыступках, а Флавія, адставіўшы ўбок лямпу, адчыніла цяжкія дзверы склепа, які ўяўляў сабою частку старога будынка або хутчэй пячору, выбітую ў склепе, куды вялі жахлівыя, паламаныя, слізкія прыступкі. Хадзіць па іх было небяспечна. Плацыда і Квідон узнялі мёртвае цела, патрымалі яго хвіліну над безданню і кінулі. Калі яно звалілася ўніз, то азвалася з цемры такім страшным, своеасаблівым гукам, што Флавія, Плацыда і Квідон нібы скамянелі і доўга аслупянела стаялі без руху, а калі нарэшце паглядзелі адзін на аднаго, то ўбачылі толькі пасінелыя ад жаху твары і разышліся, каб больш не знаходзіцца ў кашмары.

Ніхто не заўважыў, што Інулт знік, ніхто пра яго не пытаўся і не шукаў, і донна Флавія магла спаць спакойна. Плацыда задумалася, калі ўбачыла яе праз два дні спакойнаю, як заўсёды, без знаку шкадавання, з усмешкаю на твары.

– Будзе бяда, – сказала яна Квідону, – я не веру гэтаму спакою. Убачыш, што загіне ад адчаю.

Донна Флавія паўтарыла укрыжаванне ў мармуры і над тварам Хрыста прыцавала вельмі старанна. Калі праца была скончана, то яе ўзялі ў прыгожы палац аднаго з дваранаў, які яе замовіў. Слава пра донну Флавію неслася па Празе. Дон Балтазар наладзіў вялікае свята ў сваім доме, дзе донне Флавіі падаравалі залаты венец. Яна трымала яго ў руцэ, а вочы яе глядзелі на твар мармуровага Хрыста, створаны ёю, і дзве вялікія, цяжкія слязы пацяклі з вачэй. Сумная і бледная яна вярнулася дадому.

Яна ўвайшла ў сваю майстэрню і села побач з рэльефам Праперзе дэ Россі. Флавія глыбока задумалася. Калі ўвайшла Плацыда, то яна сказала старой:

– Калі б я ведала, як мала насычае слава прагу душы! Калі б я ведала, як мала насычае поспех яе голад!

Плацыда ўзяла вянец з яе рукі і апранула на яе скроні.

– Ты больш таленавітая за Праперзе дэ Россі, – сказала ёй, цяпер я ўпэўнілася.

– Праперзе дэ Россі! – усклікнула страсна Флавія. – О, якою яна была шчасліваю і якая няшчасная я!

Яна закрыла рукавом твар і пазней дадала, паглядзеўшы зноў на Плацыду:

– Яе забіла каханне, а я забіла каханне!

Яна гучна ўсхліпнула, але ў яе вачах не было ніводнай слязы.

– Маўчы, – сказала Плацыда строга і паклала руку на вусны, – маўчы і забудзь!

Флавія зноў паспакайнела, зняла залаты вянец з галавы і працягнула яго Плацыдзе.

– Ідзі, – сказала, – і кінь гэты вянец за ім у склеп.

– Ты звар'яцела? – спыталася Плацыда.

– Ідзі і выконвай! – загадала Флавія так рэзка і з такою сілаю, што старая паслухмяна пайшла. Калі яна вярнулася ў майстэрню, то ўбачыла, што рэльеф Праперзе дэ Россі ляжыць на падлозе, разбіты на дзве часткі, а на самым моцным круку, на якім калісьці вісеў ён, цяпер вісіць донна Флавія, задушаная сваім поясам.

У гэтую самую ноч знікла ўкрыжаванне, зробленае Флавіяй, з царквы таго іспанскага двараніна, на цёмную душу якога мармуровы Хрыстос так мала мог паўплываць, як і жывы Збаўца. Уцёк той прыгожы крыж з дому грахоў і пыхі ў касцёл, які найчасцей наведвалі бедныя людзі. Гэты цуд нарабіў вялікі шум па ўсёй краіне і разам з тым казалі пра незразумелае самагубства донны Флавіі. Гэтую загадку разгадала Плацыда. Яна была знішчаная і расказала пра ўсё. Яна адчыніла забітыя дзверы склепа, Квідон спусціўся ўніз і вынес астанкі беднага Інулта, а за ім у труну паклалі выкінуты вянец.

Калі вялікая колькасць людзей ішла за беднаю трунаю Інулта, здарылася нешта дзіўнае. Па ўсім шляху стаялі на камянях бедныя і няшчасныя, схіліўшы галаву ажно да бруку, і гэта не магло не здзіўляць заможных паноў і пані, што ехалі конна і ў прыгожых карэтах, і вымушаны былі назіраць праяву такой незвычайнай і неабмежаванай павагі.

Адзін надзвычай багата апрануты італьянскі кардынал, які ў той час жыў у Празе, вельмі злаваўся, што яго прыгожы экіпаж быў на хвіліну спынены постацямі на каленях. Яму захацелася трохі змякчыць свае словы, калі з невысокага дома непадалёку выйшаў стары святар, бедны і проста апрануты, каб дапамагчы людзям і прынесці ім суцяшэнне. Як толькі ён убачыў труну Інулта, то расправіў плечы, вочы яго заззялі і ён схіліў галаву. Кардынал нецярпліва выскачыў з карэты, падышоў да яго і дакрануўся да пляча.

– Чаму яны ўкленчылі і што гэтая ваша павага значыць? – запытаў ён важна.

Святар паглядзеў на яго, апранутага ва ўсё шаўковае.

– Ці ж вы, пан, не бачыце? – здзівіўся ён і адвёў вочы ад крыжа на залатым ланцугу, які зіхацеў ізумрудамі, а пазей зноў стаў глядзець на святую труіну.

– Я не бачу нічога, акрамя пахавання нейкага жабрака. Кім ён быў? – пытаўся кардынал.

– Не ведаю, – адказаў святар, – але гэта быў чалавек, вызначаны Богам! Вы што не бачыце, што за яго труною крочыць кароль Давід з арфаю ў руцэ, а за ім сам Збаўца, з каронаю з цёрну на галаве? І ён нізка да зямлі нахіліўся.

Што маглі бачыць гэтыя ганарыстыя, ап'янелыя ад фанабэрыі, пустой славаю гэтага свету асляплёныя? Не, не для іх, а для няшчасных і пагарджаных, для смутных і прыгнечаных, для бедных і простых прыйшоў Хрыстос і заснаваў сваё каралеўства, якое не мае нічога агульнага з тымі, у чыіх руках сіла і ўлада гэтага свету. Пра тых, хто з'яўляецца першымі сярод людзей, Бог не ведае, але заўсёды, калі яны плацяць за апошніх, то з'яўляецца Збаўца для таго, каб даць доўгачаканае выратаванне для змардаваных, паказаўшы ім свой славуты ясны твар.

## El Cristo de La Luz[13]
### (Таледская легенда)

У адной з найбольш даўніх сінагог у Таледа, менавіта ў той, якая пазней стала хрысціянскім касцёлам, а сёння мае назву se Santa Maria La Blanca, аднойчы па вясне сабраліся яўрэі ў даўнім Сярэднявеччы, каб славіць свой Вялікдзень. На ўсіх пяці караблях святыні, ля кожнага з магутных васьміграных слупоў, аздобленых візантыйскімі капітэлямі, стаяў вялізны, сямібаковы латунны кандзелябр, на якім было шмат васкавых свечак Іх жоўтае святло асвятляла свята і лёгкі дым уздымаўся ўгару да прыгожых арак і фрызаў, вызначаных іудзейскім стылем, у якім з'ядналіся арабская грацыя з сімвалічнай значнасцю Старога Запавета. Дзверы сінагогі былі адчыненымі, бо не трэба было сцерагчыся тых, хто мог патрывожыць, паколькі вакол святога дома рос вялікі сад, поўны міртавых дрэў і кедраў, агароджаны высокаю сцяною, што ахоўвала храм і яго сад ад гарадскіх ваколіц.

Вячэрняе паветра было насычана золатам суклону і пахам фіялак, шапаценне дрэў злівалася з ціхім шумам малітваў, што несліся з храму, а празрысты плёскат вады аб камяні, якая вычэрпвалася з дзвюх глыбокіх студняў і якой вернікі ачышчаліся падчас абраду, змешваў свае серабрыстыя гукі з працяглым мармытаннем чалавечых галасоў і шолахам дрэў.

Абапершыся на вялікі кедр з цёмназялёнаю кронаю, уды прасочваліся сонечныя промні і птушкі, лётаючы, сцвярджалі жыццё, стаяў Абісаін.

[13] Хрыстос святла (іспан.)

Надзвычай прыгожы малады мужчына. Ён паходзіў з сям'і таледскіх яўрэяў, адной з найбольш вядомых і заможных, і пра яго казалі, як пра самага адукаванага і набожнага чалавека, што ўвабраў у сябе традыцыі свайго даўняга народа і быў ён для гэтага народа надзеяю. Абісаін сёння глядзеў угару на дрэвы, але не бачыў ні птушак, ні сонцам пазалочаныя галіны, яго вочы летуценна і ўсхвалявана імкнуліся ўбачыць высока над дрэвамі, пад воблакамі, у глыбіні блакіту, нейкі прывід ідэальнага Сіона, прарокамі ўбачанага Іерусаліма ў бурштынавым ззянні, поўным божых зарокаў: брамы горада былі адчыненыя, на вуліцах квітнелі кветкі, звінела ісана, бо кароль Сіону, месія, памазанік Божы, славіў сваё ўваходжанне! Народ Ізраіля быў абноўлены, карона зіхацела на яго скронях, ён садзіўся на трон, што быў для яго падрыхтаваны ад веку, паабяцаны яму тады, калі ён яшчэ не быў народам, калі качаваў вялікаю сям'ёю па пустыні, падчас першага світання чалавецтва! Люд ізраільскі сядзеў на троне ў святым Сіоне і трымаў жэзл у руках, а народы свету прыходзілі схіляцца перад ім!

Вочы Абісаіна сталі вільготнымі ад шчасця. І тут нехта пацягнуў яго за рукаў шаўковага каптана. Перад ім стаяў стары.

– Будзь здаровы, Мерыбал, – сказаў Абісаін, нібы прачнуўшыся.

– Як доўга ты тут стаіш нерухома! – сказаў Мерыбал. – Служба ўжо скончылася, усе выходзяць з сінагогі. Пайшлі. Калі ты не запрошаны нікуды, то наведай мой дом.

Абісаін перакрыжаваў рукі на грудзях, усміхнуўся і, дакрануўшыся далонню да ілба, спакойна схіліўся перад старым.

– Няма дома ў Таледа, – сказаў ён, – дзе б мне было б так добра, як пад тваёю.

Абодва мужчыны ўзялі адзін другога даверліва пад руку і выйшлі з саду праз адчыненую браму на шэрыя, вузкія, гарбатыя вуліцы. Цёмныя постаці яўрэяў у доўгіх жупанах і белыя іх жанок і дачок, загорнутыя ў белы вэлюм, разыходзіліся, нібы вялікія чароды птушак, цёмных і светлых, і разыходзіліся па горадзе.

Абісаіну і Мерыбалу не прыйшлося ісці далёка. Яны прайшлі ў бок гарадскога вала, за якім шум Тайі быў добра чутны, павярнулі ў вузкую, да сёння цёмную вуліцу, утвораную высокімі змрочнымі дамамі амаль без вокнаў. Ля аднаго з іх спыніліся перад дубоваю брамаю, традыцыйна прабітую цвікамі з вялікімі прыгожымі чэканнымі плешкамі, зробленымі арабскімі майстрамі. Мерыбал стукнуў малатком, і цяжкая брама імгненна адчынілася. Яны ўвайшлі. Мерыбал быў адным з найбагацейшых купцоў у горадзе і жыў у сараўдным палацы. Ён прывёў свайго госця ў залу, дзе сцены былі ўпрыгожаны па-майстэрску зробленай працай арабскіх мастакоў, здзіўлялі тонкім густам малюнкі, якія зіхацелі золатам, срэбрам і фарбамі, што іх пакрывалі. Столя з кедравага дрэва з Лівана была падобная на цёмныя карункі, настолькі багатаю, дасканалаю, тонкаю была разьба. Праз вузкія вялікія вокны можна было ўбачыць цёмную паміж высокімі берагамі раку, над якою на жоўтым небе памалу з'яўляліся, мільгануўшы то тут то там серабрыстаю іскраю зоркі.

Зала была асветлена вялікаю вісячаю латуннаю лямпаю, яе трынаццаць языкоў полымя павялічвала ззянне месяца і распаўсюджвала салодкі і прыемны пах бальзаму. Пад ёю стаяў цяжкі дубовы стол, проста, але багата накрыты. Абісаін не быў адзіным госцем, зала шумела размовамі шматлікіх запрошаных. Усе ўселіся за стол павячэраць. Мерыбал ламаў няквашаны хлеб, наліваў віно і прамаўляў малітву. Калі пасля ежы Мерыбал блаславіў гасцей, калі ўгару ўзнялі сярэбраныя кубкі, ён дрыжачым голасам сказаў:

– Сёння мы тут выгнанцы на чужой зямлі, у будучым, магчыма, будзем у Іерусаліме.

І калі пасля гэтых слоў надышла глыбокая цішыня, а вочы ўсіх неяк летуценна набожна заблішчэлі, раптам раздвінулася, нібы пад уздзеяннем чараў цяжкая зялёная заслона пры канцы залы, на якой былі вышытыя срэбрам разрэзаныя гранаты, поўныя семак, і прамень белага святла заліў цалкам святочную залу. Усе здзіўлена паглядзелі ў той бок, і тое, што яны ўбачылі, іх проста зачаравала: дваццаць жанчын у белым сядзела ў паўкола пад вісячаю лямпаю з срэбра, сапфіравага і рубінавага шкла, што стварала ансамблі на доўгіх і кароткіх ланцугах, усё гэта нагадвала ззяючыя канселяцыі. Дзяўчаты, надзвычай прыгожыя, былі ў падобных пакрывалах, іх чорныя валасы, якія свабодна падалі на плечы, былі надушанымі і пераплеценымі галінкамі мірта і фіялкамі. Яны сядзелі на нізкіх услонах, і кожная трымала пазалочаную арфу. У цэнтры сядзела дачка Мерыбала Рыспа. Яна пакідала ўражанне белай ружы, яе цёмныя вочы ззялі, валасы былі падобнымі на расплаўленае золата. Сярод цёмнавалосых дзяўчат яна здавалася налітаю сонцам. Рыспа пацягнула струны і іншыя дзяўчаты зрабілі тое ж самае. Гукі ліліся ў зале, нібы гучанне велізарнай плыні, нібы шум глыбокай крыніцы, нібы шэпт ветру ў аліўкавым гаі, і з гэтай аднастайнай, працяглай, цьмянай музыкі вырваўся спеў Рыспы, нібы з шолаху поўных каласоў песня жаўрука. Яна ўслаўляла значнасць і бляск Сіона ў будучым, тое асяроддзе шчаслівага народа, дзе будуць панаваць дабро і справядлівасць, дзе не будзе слёз і крыўд! Яна ўслаўляла Бога, які будзе з'яўляцца, як зорка на небе, ён, прарок і кароль, пастыр народа! Ён прыйдзе ў сваёй славе, памазанік Божы, галінка на дрэве Давіда, большы, чым Давід, большы, чым Саламон, ён, узнёслы Богам, як сум над чалавецтвам! Ён уздымецца на вяршыню Сіона і аднойчы адкрые Ягве сваёю рукою і збярэ рэшткі свайго вызваленага народа, які прыйдзе з Асуру і з Місраіма, з Патру і з зямлі Куш, з Эламу і Сенаару, з Гаммуту і з астравоў у шматлікіх марах, каб стаць сведкаю славы Сіона!

Так спявала Рыспа, і сэрцы ўсіх прысутных дрыжалі і хваляваліся ў грудзях. Гукі арфаў і яе салодкага голасу дрыжалі і заміралі ў зале і азываліся ў многіх ціхім, празрыстым хваляваннем, захапленнем, радаснаю надзеяю, бо Рыспа сваімі словамі і сваім мастацтвам іх абудзіла. Абісаін быў уражаны не так глыбока, як астатнія, бо яго нядаўняе трызненне зноў паўстала перад ім, ахапіла сэрца чароўным ззяннем.

Дзяўчаты між тым узняліся, адклалі ўбок інструменты, знялі з галоў вянцы і ўвайшлі ў залу. Яны хутка спялі маленькія букеты з фіялак і галінак мірта, што да гэтага моманту ўпрыгожвалі іх, і раздалі гасцям. Мерыбал узяў за

руку сваю дачку і пацалаваў яе ў лоб. Цёмны агонь схіленых уніз вачэй закрылі доўгія вейкі, якія кінулі цень на мармурова белы з прыгожымі рысамі твар. Містычны змест яе спеваў пакінуў у летуценнай яе ўсмешцы сляды невыразных чараў. Яе рукі, у якіх яна трымала букет фіялак, дрыжалі.

– Мой бацька, – прашаптала яна, – каму мне даць гэтыя кветкі?

– А каму б ты хацела? – спытаў Мерыбал. Яна хвіліну падумала. Яе апушчаныя ўніз вочы ўзняліся і сустрэлі погляд Абісаіна, які свяціўся захапленнем. Ён працягнуў руку дзяўчыне, нібы хацеў сказаць: “Мне належыць гэты букет!”

– Каму б я хацела даць гэтыя кветкі? – паўтарыла дзяўчына пытанне бацькі. – Таму, хто ўмее больш за іншых любіць сваіх братоў!

Яна працягнула букет Абісаіну, які хутка пацягнуўся за ім, але Мерыбал быў больш шпаркім і, стаўшы паміж дзяўчынаю і маладым мужчынам, сказаў, гледзячы на яго з выклікам:

– Не, Рыспа, не гэтаму, які ўмее найбольш любіць сваіх братоў, кветкі свае дай, а таму, хто ўмее найбольш ненавідзець смяртэльных ворагаў свайго народа!

Вочы Абісаіна палалі, а дзяўчына збялела.

– Але гэтыя кветкі належаць мне! – усклікнуў малады мужчына, – інакш я ўзненавіджу настолькі таго, каго называюць Збаўцам, як вы не зможаце ніколі! Няхай будзе пракляты той ілжэпрарок, успамін пра якога ў гэтыя святочныя хвіліны з'яўляецца блюзнерствам!

– Ці зможаш даказаць, што кажаш праўду пра сваю нянавісць? – запытаўся Мерыбал.

– Абяцаю табе, што гэтыя кветкі будуць тваімі, як і рука, што іх трымае.

Абісаін агледзеўся імгненна навокал з асцярогаю і сказаў:

– Тут нельга казаць пра мой намер.

Яго прыгожыя вусны гідліва скрывіліся і ўвесь твар стаў куды менш прывабным.

– Бацька, – прашаптала дзяўчына, – адвядзі мяне.

Абодва мужчыны паглядзелі на яе і ўбачылі, што яна настолькі бледная, што можа страціць прытомнасць. Абісаін хваравіта ўсклікнуў. Усе сталі пытацца, што здарылася з Рыспаю.

– Я толькі стамілася, – сказала, перамагаючы сябе, дзяўчына і нацягнута ўсміхнулася. – Калі ласка, адвядзі мяне, – паўтарыла яна бацьку сваю просьбу.

Госці хутка пачалі разыходзіцца, а Мерыбал з Абісаінам павялі Рыспу доўгім калідорам у яе пакой. Яна абапіралася на іх, бо была вельмі слабою. Каля дзвярэй пакоя Абісаін спыніўся, а Мерыбал яму кіўнуў на развітанне.

– Калі цябе ўбачу? – спытаў ён.

– Праз гадзіну, у святочнай зале, – прашаптаў Абісаін і развітаўся з усмешкаю поўнаю замілавання з Рыспаю.

– Паведамлю табе пра дзіўныя справы, – прашаптаў яшчэ Мерыбалу, адыходзячы. Калі за Мерыбалам з дачкою зачыніліся дзверы пакоя, Абісаін ужо выбег на вуліцу.

Абісаін хацеў пайсці дадому, але яму здалося, што ў зачыненым пакоі яму не будзе чым дыхаць, сэрца яго так моцна калацілася, аж перацінала дыханне. Ён блудзіў па горадзе, і дайшоў ажно да вялікай плошчы Закадовер, дзе пад аркадамі, што цягнуліся з усіх бакоў, усё насельніцтва Таледа прагульвалася, дыхаючы свежым вячэрнім паветрам. Але вясёлыя твары хрысціян, якіх ён ненавідзеў, іх усмешкі і бесклапотныя размовы яго абуралі, і калі загучаў звон і ўсе на плошчы агалілі галовы, у яго памутнела ў галаве і ён пабег, як ашалелы, у цемру бліжэйшых вузкіх вуліц.

Іх цішыня і прывід золатавалосай Рыспы вярнулі спакой у яго душу і напоўнілі яе нібы пахам бальзама з Ерыха. Вочы яго блудзілі па фасадах дамоў і палацаў, пад брамамі якіх узвышаліся магутныя гербы, высечаныя з каменю, якімі ганарлівыя рады жыхароў пра сябе апавяшчалі; блудзілі па вокнах, каваныя жалезныя краты якіх уяўлялі сабою пераплеценыя лісты і кветкі; блудзілі па скульптурных фрызах і карнізах, уздымаліся да фантастычных сцёкаў, якія нагадвалі сабою напалову звяроў, напалову дэманаў. Абісаін не разумеў, што бачыць, не бачыў, дзе ходзіць, пакуль не апынуўся ля гарадской брамы. Ён прайшоў яе паспешліва, але яго спакусіў шум ракі. Абісаін спыніўся на даўнім мосце дэ Алкантара. Вячэрняе паветра авявала яму твар, зоркі ўжо ва ўсю сваім бляскам асвятлялі неба над Таледа, а гэты гранітны помнік славы, нібы каралеўскі трон на крутых скалах, уздымаўся да цёмнага блакітнага неба, падпяразаны поясам сваіх высокіх валоў, у падножжа якіх каціў свае воды Тайо і з глыбіні спяваў. Квітнеючая на другім беразе флора ап'яняла пахам садоў, а палі былі падобныя на кадзіла, што святочна дыміцца перад алтаром. Узрушаны ўсім гэтым значным і велічным Абісаін зноў прыгадаў ідэальны Сіон, які ён бачыў у сваіх марах у сінагозе і як пра яго спявала каралева ягонага сэрца Рыспа. Добрая ўсмешка асвятліла яго твар, а ногі, якія імкнуліся вярнуць яму памяць, каб вярнуўся пад страху дома, дзе яна жыве, ішлі самі сабою зноў у горад. Абісаін ішоў, трызнячы пра арэол Сіону і пра падобную да лілеі чароўную дачку Марыбала, па схіле ўгару ён прайшоў Вальмардонскаю брамаю, потым вузкаю вуліцаю на малую плошчу і там раптам спыніўся. Спевы жаночых галасоў даносіліся да яго слыху, салодкія, ціхія і ўзвышаныя, натоўп людзей заліў плошчу, пранёс яго некалькі крокаў і прыціснуў да сцяны дома, дзе Абісаін нават не мог варухнуцца. Ён глядзеў перад сабою і мімаволі дрыжаў. Абісаін апынуўся насупраць манастыра Крыжа, перад касцёлам Хрыста Светлага. А цяпер тут з'явіліся жанчыны, якія спявалі, у белых намітках, пад белым вэлюмам, кожная з палаючаю свечкаю ў руцэ. Гэта было шэсце манашак. Сярэбраны гук звону касцёла змешваўся з іх яснаю, ціхаю, святою песняю. Псалмы іх несла бальзаміцкае паветра вечара, прасякнутае пахам дрэў, якія шумелі так, як перад сінагогаю, дзе маліліся дзеці ізраілевыя, і падобна як Рыспа спявала пра Сіон і яго караля, так абвяшчалі цяпер манашкі вялікасць Бога і славу вызваленага караля: "З'явілася галінка на дрэве Ізаі, сын з роду Давіда народжаны! А Бог яго ўзвысіў, як сцяг з пурпуру і народы ўсяго свету схіляюцца перад ім! Асана! Спявайце славу каралю Сіона, Хрысту Езусу, Збавіцелю, Сыну Божаму!"

Абісаін заскрыгатаў зубамі, гэты спеў здаўся яму насмешкаю над яго ідэаламі, над яго надзеямі, над усім, што хаваў як самае дарагое ў глыбіні свайго сэрца, над яго набожнасцю, над яго малітваю, над яго марамі! І не мог зрабіць крок, каб уцячы, што было адзіным яго жаданнем, бо народ стаяў перад ім, справа, злева, паўсюль і не выгінаўся, стаяў, як тая сцяна, на якую ён абапіраўся. Абісаін хацеў стаць глухім, каб не чуць, сляпым, каб не бачыць, але вочы яго, як бы насуперак, шырока расплюшчваліся і самавольна па-за яго жаданнем, глядзелі ўсярэдзіну асветленага касцёла, бо дзверы былі расчыненыя ў цемру вуліцы. Абодва малыя караблі храма зіхацелі ад запаленых лямпаў, што віселі са скляпення, іх простыя каменныя дугі перакрыжоўваліся, спачываючы на чатырох слупах арабска-візантыйскага стылю. Паміж лямпамі вісеў шчыт,. На якім свяцўся залаты надпіс: "Мяне меў кароль Альфонса VI і павесіў мяне ў гэтым святым месцы, калі вызваліў Таледа ад няверных і калі тут, у гэтым склепе адслужылі першую ў горадзе святую імшу".

Абісаін адарваў свой погляд ад гэтага надпісу і паглядзеў на белае полымя тых палаючых свечак, што трымалі маахіні, якія памалу набліжаліся да цудоўнага, слаўнага крыжа, на якім была статуя Збавіцеля, вядомая пад назваю Хрыста Светлага, якая дала назву касцёлу. І цяпер пачуліся зноў песні манашак: спявалі гэтыя бледныя паненкі з вачыма палаючымі містычным агнём гімны свае як бальзам, што пах ля ног скульптуры Хрыста, гэты бальзам між тым, гэты цудоўны пах здаўся Абісаіну скрадзеным у святочным садзе паэзіі габрэйскай, каб у далейшым быць скарыстаным мярзотна на не святым месцы! Шэсце спынілася перад груба выцесаным крыжам, з якога глядзеў Хрыстос, скульптура была зроблена няўмела, але твар быў поўны дабрыні, на ім можна было ўбачыць пакуты і спачуванне. Манашкі ўкленчылі ў пясок, пасля чаго адна за другою з віншаваннем каралю Сіона цалавалі нагу ў скульптуры, прабітую цвіком. Абісаін адчуваў сябе так, нібы страчвае прытомнасць, пад уздзеяннем заглушанай шалёнай злосці, яму здалося, што ён задыхнецца, калі не зможа выкрыкнуць нейкі страсны праклён гэтым укленчаным дэманам і мёртваму ідалу. Ён шукаў у памяці моцныя цудадзейныя праклёны, дадзеныя яму таямніча, схаванымі ад іншых ведамі, і імкнуўся знайсці такі праклён, каб гэтыя манашкі і ўсе, хто маліўся ў касцёле і а вуліцы, ператварыліся ў мёртвы камень. Нарэшце ўдалося яму заплюшчыць вочы, а кроў, якая ўдарыла яму ў галаву, яго аглушыла. Так ён стаяў хвіліну ў непрытомнасці, а калі расплюшчыў вочы, то зноў убачыў, як народ цалуе нагу Хрыста, і тут у яго з'явілася раптам дзіўная думка, яго горкая ўсмешка поўная злосці змянілася пераможнаю ўхмылкаю і вочы загарэліся злосцю і дзікунскай радасцю. Абісаін угледзеўся ў твар Збавіцеля, яму здалося, што вочы таго звярнуліся да яго, таду ён узняў палец незаўважна і прашаптаў: "Да пабачэння, ілжэпрарок, да пабачэння! Так, мы ўбачымся!"

Ці было гэта магчыма? Прашаптаныя гэтыя словы здалося яму знайшлі водгук у касцёле і вярнуліся Абісаіну, і ён пачуў: "Так, мы ўбачымся!" – гучала ў яго вушах гукам ціхім і таямнічым, а вусны скульптуры, таго драўлянага Хрыста, здалося, што здрыгануліся! Абісаін зрабіў спробу вызваліцца, але змог павесці плячыма і зразумеў, што гэта быў толькі падман ад раздражнення.

Нарэшце яму пашчасціла адштурхнуцца ад сцяны дома, знайсці ў натоўпе свабоднае месца, схавацца ў ценю, хоць сам быў цямнейшы чым цень, выйсці з плошчы і завярнуць на першую вуліцу, якая яму сустрэлася на шляху. Пазней ён паспешна ішоў па апусцелым ужо горадзе, гарбатаю вуліцаю без перашкод дайшоў да дома Мерыбала.

Калі Абісаін увайшоў у святочную залу, там панавала бязладдзе, крэслы былі перавернутыя, на стале стаялі напалову пустыя бакалы і міскі, рэшткі квасу, на адным з кандэлябраў гарэла адзіная свечка і ва ўсіх кутках панавала цемра.

Стомлены Абісаін прысеў непадалёку ад напалову адгорнутай зялёнай заслоны, за якой раней знаходзіліся дзяўчаты з арфамі.

У гэты момант увайшоў Мерыбал.

– Як адчувае сябе твая дачка? – спытаўся паспешліва Абісаін.

– Думаю, што спіць, – адказаў Мерыбал, – нічога не было акрамя таго, што гэта вынік паста і хвалявання перад спевамі. Пагаворым пра важнае, што прывяло цябе зноў сюды.

– Гэтая важная справа тычыцца і яе, – сказаў малады мужчына. Я хачу з ёю ажаніцца. Ты павінен ведаць, што я даўно думаю пра Рыспу. Ты ведаеш, што я, пэўна, такі ж багаты, як і ты, ведаеш, што я заўсёды адносіўся да цябе, як да бацькі. Мне здалося, што ты не супраць маіх планаў. Чаму ставіш мне раптам умовы?

– Таму што не маю сына, – адказаў Мерыбал, – а хто можа палаць палымяаю нянавісцю да нашых ворагаў, як не мой зяць? Рыспа? Жанчыны не ўмеюць ненавідзець – хіба толькі, яе не ўмееш кахаць.

– Ты ведаеш, што я ўмею ненавідзець так, як мала хто, – адказаў Абісаін, – А Рыспа даведаецца, як я ўмею кахаць.

– Я думаю, што ты ўмееш ненавідзець, – сказаў Мерыбал, падаючы яму руку, – і калі б я паставіў умовы і патрабаваў ад цябе доказу тваёй нянавісці, то гэта сведчыла пра тое, што я наліў алею ў агонь, скіравана на тое, што твая нянавісць толькі б павялічвалася ў будучым.

– Гэта зусім не патрэбна, – адказаў Абісаін, – аднак твае дзеянні паспяховыя. Ты падштурхнеш мяне, як кажаш, і скіруеш на дарогу, што вядзе да дзеяння з простых цьмяных намераў. Ты будзеш задаволены. Паслухай. Я нібы сляпы хадзіў па вуліцах горада. Ногі мае прывялі мяне да так званага манастыра Крыжа. Пад націскам натоўпу я змушаны быў стаць сведкаю мярзотнага малення гэтых праклятых. Яны цалавалі нагу драўлянаму ілжэпрароку. У момант, калі я іх праклінаў, Бог навучыў мяне, як адпомсціць. Ты станеш сведкаю таго, як яны самі адарвуць свайго Хрыста з крыжа і праклянуць яго.

– Памыляешся, – сказаў Мерыбал халодна і недаверліва. – Ты захапляешся сваімі словамі. Аднак растлумач.

Абісаін перадыхнуў хвіліну, потым пачаў казаць:

– Ведаеш, што я старанна вывучаў таямнічыя навукі, што люблю магію, што займаюся алхіміяй. Я шукаю эліксір жыцця і спрабую вырабляць золата. Пакуль не змог авалодаць ні адным, ні другім, але па дарозе да вялікай мэты

зразумеў я проста выпадкова шмат значных рэчаў. Эліксіру спрадвечнай маладосці, жыцця не ведаю да гэтай пары, але добра ведаю эліксір смерці. Вынайшаў я ў працэсе змяшання жахлівую атруту. Адной поўнай невялікай пасудзіны хапіла б, каб атруціць палову Таледа. Дзейнічае яна, калі ёю дыхаюць, проста бліскуча. Парадуйся са мною!

Мерыбал трымаў яго за руку, яго вочы гарэлі.

– Кажы, як, дзе? – шаптаў.

– Я не ведаю, як і дзе, – адказаў Абісаін. – Калі ты сказаў мне: дакажы сваю нянавісць, то я хацеў прынесці табе гэтую атруту. Але расказаў табе, што я доўга блудзіў па горадзе, што бачыў, як маліўся гэты народ. Я чуў яго спевы, здзек над сапраўдным царом Сіона, і бачыў пасінелы твар гэтага ілжэзбаўцы. Ну як, ці не сказаў я табе, што Бог сам падказаў мне, як адпомсціць? Анёл прывёў мяне да касцёла Хрыста Светлага, як яго называюць. Яны цалавалі ногу гэтага ідала: я прапітаю яе атрутаю. Смерць стане побач з крыжом, будзе выкошваць, мор распасцярэ страшныя сае крылы, і тыя, хто ўбачыць, як іх браты і сёстры, нібы ад маланкі будуць падаць перад крыжом, адарвуць ідала ад алтара і кінуць на зямлю, праклінаючы! А я, я буду стаяць у баку ад іх і буду смяяцца, смяяцца, смяяцца!

І ён зарагатаў так страшна, шалёна і гучна, што ў Мерыбала заварушыліся ад жаху валасы. Зялёная заслона, вышытая срэбрам, задрыжала мацней, але абодва мужчыны глядзелі адзін на другога так прагна, што не заўважылі. Мерыбал абняў Абісаіна і сказаў:

– Ты нясеш пагібель, як Сатана! Ты напоўнены высакароднай нянавісці, і я схіляюся перад табою! Ты – сын майго сэрца! Ідзі і дзейнічай! Не трэба табе казаць, што ўсе мае багацці будуць тваімі, усё, што маю, разам з Рыспаю, жамчужынаю майго дома.

Ён правёў яго праз браму на вуліцу, дзе яго пацалаваў і пажадаў поспеху, і яны разышліся.

У гэты час Рыспа выйшла са сваёй схованкі, трымаючыся дрыжачаю рукою за зялёную заслону, якая зіхацела вышыванымі сярэбранымі гранатамі. Яна была белая, як здань, прыгожая, як зорка, да гэтага часу апранутая ў святочную намітку, расшытую жэмчугам. Яна глядзела на дзверы, праз якія выйшлі яе бацька з Абісаінам, і яе вочы былі напоўненыя слязьмі.

– Божа, ты гэта не дапусціш!? – шапталі яе вусны.

Яна апусціла галаву і задумалася, перапляла рукі і сказала ціха, гледзячы ў прастору перад сабою:

– Хрыстос, я думала пра цябе сёння, калі спявала славу Сіону. Я веру ў цябе, закатаваны Божа! Мне казалі, што ты сама міласэрнасць. Прабачыш мяне? Хрыстос мой, я кахаю таго мужчыну, але ён прыводзіць мяне ў жах… Кахаю яго. Што мне зрабіць, каб ты прабачыў яго?

Яна маўчала, нібы чакала адказу. Было ціха. Раптам звалілася адна з палаючых свечак з вялікага латуннага кандэлябра, разбілася на тры кавалкі і згасла. Рыспа задрыжала і закрыла твар. Потым узняла галаву, выцерла слязу, што цякла па твары, і з болем сказала:

– Хочаш маёй смерці? – Яна раптам супакоілася і дадала: –Не, ты не хочаш маёй смерці, але патрабуеш ахвяру! – І пайшла ў цемры залы да сябе.

Касцёл Хрыста Светлага быў адчынены цэлую ноч, бо многія не спалі і ішлі да Збаўцы за суцяшэннем і палёгкаю для сваіх неспакойных душ. Абісаін мог свабодна страшны свой намер здзейсніць. Ён пайшоў позна ўначы, калі цэлы горад ужо спаў, да святыні, знайшоў момант, калі ні ў касцёле, ні паблізу не было жывой душы, і пры слабым святле адзінай запаленай перад алтаром лямпы наблізіўся, загорнуты ў цёмны плашч, да вобразу божага. Правая нага Хрыста закрывалася другою і яму было дастаткова прапітаць атрутаю адну, а да левай, схаванай за праваю, ні адны вусны дацягнуцца не маглі.

Абісаін хутка выканаў сваю несвятую працу і выйшаў з касцёла. Ён да світанку хадзіў па вуліцах, бо быў вельмі ўсхваляваны і шукаў палёгкі, а калі ўзышло сонца, вярнуўся ў касцёл, схаваўся ў самы цёмны кут, схіліўся нібы ў глыбокай малітве аж да зямлі, але яго палаючы погляд неадрыўна сачыў за укрыжаваннем, між тым у глыбіні сэрца блюзнерскія праклёны не прамаўляў.

Касцёл напаўняўся паступова, фігуры жанчын у цёмных вэлюмах выразна вымалёўваліся ў прасторы, чуліся гучныя крокі мужчын па бруку, але іхто не набліжаўся да ўкрыжавання. Згодна правіла пасля імшы малітва заканчвалася, калі ксёндз выказваў народу віншаванні.

Абісаін чакаў нецярпліва, але супакоіўся, калі раптам убачыў, што з'явілася жанчына, якая вылучалася прыгажосцю і больш шчыльнымі вэлюмам і плашчом сярод іншых, і спакойна пайшла да крыжа. Жанчына схілілася перад крыжом і ў Абісаіна здрыганулася сэрца, бо настолькі яна была маладою і прыгожаю! Цяпер яму здалося, што яна дакранецца да атруты на назе скульптуры, але жанчына ўкленчыла перад вобразам і засталася так ляжаць без рухаў, як мёртвая. Абісаіну стала лягчэй. У гэты час пачуўся звон, свечкі на алтары ўжо пагаслі , і ксёндз з келіхам, закрытым парчовым пакрывалам, з'явіўся. Пачалася імша.

Абісаін перамог сябе і скрыгатаў зубамі, бо вымушаны быў стаць сведкам ўсяго святога хрысціянскга абраду. Ён чуў і бачыў усё, нібы ў гарачцы і ўздыхаў спакойна, калі ксёндз ад алтара адыходзіў. У тое імгненне, калі касцёл асвятліўся і зазіхацеў, пачуліся святыя спевы і шэсце манашак з'явілася ў касцёле, як і мінулы вечар. Спяваючы хвалу каралю Сіона, панны набліжаліся з палаючымі свечкамі да здзіўляючага зрок цудоўнага ўкрыжавання, каб яго цалаваць. Унутры Абісаіна гучаў д'ябальскі рогат. Яны ўжо стаялі перад крыжом, і абатыса ўзняла вэлюм, а вусны яе шукалі пранізаную цвіком нагу Збаўцы. Тут раптам узнялася цёмная жаночая постаць, што цэлую імшу ляжала, як мёртвая, на зямлі і стала паміж абатысаю і ўкрыжаваннем, высокая, стройная, поўная ціхай годнасці, яна кіўнула абатысе, каб тая саступіла, зрабіла крок наперад, абняла крыж абедзьвюма рукамі, схіліла галаву і хацела пацалаваць адну з ног. І тут загучаў крык у касцёле, нібы ўсе, хто прыйшоў, крычалі адным горлам, а потым людзі акамянелі, калі абедзьве жанчыны наблізіліся да скульптуры і ўжо хацелі дакрануцца да яе, як раптам драўляны Хрыстос дрыгануў сваёю нагою, цвік выпаў і нага ўзнялася так высока ўгару, што з зямлі да яе немагчыма было дацягнуцца і так, сагнутая ў калене,

засталася нерухомая ў сваёй задзервянеласці. Рэха крыку ўляглося, стала ціха, і, раптам пачуўся ўсхваляваны покліч: "Цуд! Цуд! Цуд!"

Тыя, хто стаяў бліжэй да крыжа, крычалі: "Так, цуд! Але што гэта значыць? Што тая, якая хацела пацалаваць нагу Хрыста, не заслугоўвае яго міласэрнасці! Гэта вялікая грэшніца і хацела зняважыць Бога! Хапайце яе! Хапайце яе! Рукі схапілі яе, сарвалі з яе плашч і вэлюм, і яна спакойна і велічна стала ва ўсёй сваёй прыгажосці ў ззянні палаючых свечак. Гэта была Рыспа. Яе белае пакрывала мігцела жэмчугам, залатыя ўпрыгожанні з сапфірамі ззялі ў светлых валасах, а цёмныя вочы палалі, нібы чорныя зоркі.

– Жыдоўка! Жыдоўка! – крычаў народ поўны нянавісці і жаху. – Яна прыйшла насміхацца з Хрыста! Кідайце ў яе камянямі!

Рыспа не напалохалася, і яе цёмныя вочы звярнуліся да крыжа. Усмешка салодкая і пяшчотная асвятліла яе твар, а вусны шапталі: "Божа, ці чуеш мяне?" Абатыса абняла рукю дзяўчыну і сказала: "Няхай будзе ціха ў храме божым! Не маеце права судзіць!Гэтая дзяўчына не можа быць грэшніцаю. Я буду яе ахоўваць. Вось рукі мае яе абдымаюць, а ў маіх абдымках яна знойдзе прытулак, як і ў маім манастыры! Ніхто не зможа да яе дакрануцца!"

Надышло магільнае маўчанне, вакол абатысы і габрэйкі ўтварылася вольная прастора. Абедзьве жанчыны стаялі поўныя чароўнай прывабнасці, нібы ў садку выраслі дзве лілеі, надзвычай абаяльныя, бо абатыса, старэйшая за Рыспу, была прыгожаю і светлавалосаю.

Манахіня паглядзела сур'ёзна на дзяўчыну і спытала:

– Ці прыйшла ты з блюзнерства?

– Не, – адказала дзяўчына, не адводзячы вачэй, чыстым, ясным голасам, цвёрда і так пераканана, што тыя, хто чуў, насамрэч паверылі.

– Растлумач свой учынак, – папрасіла абатыса.

Рыспа ўздыхнула, хвіліну памаўчала і потым адказала:

– Не судзіце мой народ жорстка за аднаго вінаватага. Ці няма злачынцаў сярод вас? Вы павінны паверыць, што знайшоўся чалавек сярод сыноў Ізраіля, які настолькі асляпёны нянавісцю, што не зразумеў, што Бог-бацька з'яўляецца таксама і вашым Богам! Адчуваючы нянавісць, ён нацёр нагу гэтай скульптуры страшнаю атрутаю. Пацалунак азначаў бы імгненную смерць. Я даведалася пра ўсё гэта і прыйшла, каб вас ад гэтага выратаваць. Сваёю смерцю я хацела вас перасцерагчы. Сваім жыццём я хацела выкупіць грэх гэтага чалавека. За яго нянавісць я аддавала сваю любоў. Але Бог злітаваўся нада мною і не прыняў як ахвяру маё жыццё. Цяпер вы ведаеце ўсё.

– А чаму ты не назвала таго чалавека, таго мярзотніка? – азваўся голас з цёмнага кутка касцёла. Гэта сказаў сам Абісаін. Гэта былі першыя словы, якія ён змог вымавіць. Ахоплены жахам, калі пазнаў Рыспу, ёнператварыўся ў нерухомы слуп, бяздумны і амаль бездыханны. Дзяўчына імгненна пазнала яго голас, задрыжала, закрыла твар і збялела.

– Так, чаму ты яго не назвала? – пачуліся галасы.

Дзяўчына павярнула заліты слязьмі твар да крыжа і адказала:

– Я прасіла Хрыста, каб ён дазволіў мне захаваць гэтага мужчыну. Я не хацела і не хачу, каб вы помсцілі яму.

– А чаму трэба яго берагчы? – крычалі горача з усіх бакоў.

– О, вы мяне мучыце, – задыхалася дзяўчына і, тулячыся да абатысы, сказала: – Я кахала яго!

– Бедная! – адказала абатыса і абняла яе мацней.

– А цяпер ужо не кахаеш? – спытаў змрочна зноў Абісаін, які хутчэй здагадаўся, чым пачуў, што шапнула дзяўчына абатысе.

Дзяўчына выпрасталася.

– Я вагалася паміж ім і Хрыстом, – адказала пазней, – паміж нянавісцю і любоўю. Выбрала я любоў. Іду я да Хрыста, яму я хачу належаць. Цябе, мая сястра, – звярнулася яна да абатысы, – Цябе паслаў Бог, як галубку міру! Вядзі мяне ў свой святы дом, бо я не маю ўжо даху над галавою. Мой народ і мая сям'я мяне адрынуць. Але Бог мяне прыме. Няхай дзверы твайго дома за мною зачыняцца навекі!

– Няхай будзе пахвалёны Бог! – сказала абатыса і, вітаючы, пацалавала дзяўчыну ў лоб.

Абісаін упаў на калені знішчаны. Зноў пачуліся галасы з асяроддзя людзей, галасы тых, хто вагаўся.

– А ці гаворыць гэтая дзяўчына праўду, – казалі, – а ці не адвярнуўся ад яе Хрыстос з агідаю?

Усе глядзелі на крыж, і вось, новае дзіва! Нага скульптуры была на сваім старым месца, прыбітая цвіком да дрэва крыжа. Абатыса ўзвысіла голас:

– Людзі, мала веры! – усклікнула. – Чаму вагаецеся? Якіх вам патрэбна новых доказаў? Я не маю ніякай віны, бо сёння спавядалася і прыняла прычасце ў кельі манастырскай. Ці адвернецца Хрыстос ад мяне з агідаю, калі я пакорліва схілюся перад ім?

Яе вусны наблізіліся і пацалавалі статую, і вось цуд паўтарыўся, паўтарыўся і трэці раз, калі стары ксёндз, адразу па імшы, таксама да статуі наблізіўся, каб яе пацалаваць.

Тут усе людзі ўспыхнулі ад захаплення як шалёныя. Вестка пра тое, што здарылася, разышлася па горадзе, усе званы званілі як у вялікае свята; атруту з нагі статуі змылі святым алеем і святою вадою і насілі як вельмі значнае па цэлым Таледа. Кветкамі былі ўпрыгожаны ўсе вокны, дзяўчаты і жанчыны кідалі свае ўпрыгожанні на дарогу і ўвесь горад патануў у радасці.

Габрэі між тым глядзелі на ўсё з сваіх дамоў, сыпалі попел на галаву, і Мерыбал незвычайна напалоханы сабраў свае багацці і з'ехаў у вялікім страху з Таледа, праклінаючы сваё дзіця і шукаючы сабе прытулак сярод магамецянаў у Андалузіі. Рыспа між тым знайшла свой дом у ціхім манастыры, дзе чакала хрышчэння і вопратку манашкі.

У атупенні, знішчаны, зломлены вярнуўся Абісаін дадому, упаў на свой ложак у гарачцы падобнай на шаленства і так ляжаў цэлы месяц.

Выздараўліваў ён памалу, а калі ўстаў, то хадзіў нібы без душы. Свет здаўся яму такім пустым! Ён нават не разумеў, што з ім здарылася, але адчуваў, што яго сэрца стала крываваю ранаю, нешта там паліла непагашаным жарам. Гэта была нянавісць, якую не мог знішчыць помстаю. Праз некаторы час ён пачаў ясней разумець, што адбылося.

Рыспа была назаўсёды страчаная, была ў манастыры, яна больш не верыла свайму народу, свайму Богу, адраклася ад свайго бацькі, адраклася ад свайго кахання. Як яе за гэты ўчынак той раз у касцёле забівалі, знішчалі! Але цяпер ён пры ўспаміне пра яе ўсміхаўся з пагардаю, яна была для яго мёртвай. Тады ў касцёле ён хацеў памерці, цяпер дзякаваў Богу, што не памёр, бо калі памерла яго каханне, нянавісць і прага па помсце ўзраслі, вастрэй калолі, мацней штурхалі да нейкага дзеяння поўнага жорсткай страсці. Прычынаю яго болю, яго пакут быў Хрыстос. О, бой паміж Абісаінам і ілжывым прарокам на крыжы яшчэ не скончыўся! А калі бачыў вобраз Ісуса, які так ненавідзеў усёю душой, то зноў і зноў паўтараў даўнюю пагрозу сваю: “Мы яшчэ ўбачымся!..”

Аднойчы пайшоў Абісаін на далёкі, далёкі шпацыр па ўзбярэжжы Тайі, у кірунку да Талавержэ дэ ля Рэйна. Ён радаваўся таму, што яму прыбывала сіл. Калі падышоў да стромага, голага схілу, убачыў пячору, якая цямнела перад ім, нібы клічучы да адпачынку ў сваім ценю. Яна знаходзілася ў баку ад дарогі і вакол была скалістая пустэча. Ад парогу пячоры адкрывалася незвычайная карціна: паміж дзвюма спадзінамі далёка расціляліся палі, за якімі ўдалечыні бачыліся вежы і купалы горада Таледа. Абісаін увайшоў у пячору і хутка там заснуў. Прачнуўся ён у глыбокім змроку і адчуў холад. Ён сабраў сухое галлё і запаліў вогнішча. Праз дымавую заслону ад палаючага галля глядзеў ён на змрочнае неба, на якім з’явілася некалькі зорак.

Ён не памятаў добра, што дакладна яму здалося, бо меў туманнае пра гэта ўяўленне, бо сон быў поўны вялікіх прывідаў са Старога Запавету. Абісаін заглыбіўся ў свае думкі, і гарачка, якая на ўсім працягу хваробы яго так трэсла, пачынала вяртацца, пачынала ім памалу зноў авалодваць. Думкі яго набывалі недакладныя абрысы, але надзвычайную ўзвышанасць. Нібы ў імгле забытага, а цяпер убачанага сну, з’явілася гіганцкая постаць прарока Еліаша. Ён убачыў вялізарную звышчалавечую постаць у цёмным целе, падобную на нейкую гару, і адчуў сябе ў гэтай пячоры, нібы апынуўся ў Гарэбу. Зоркі глядзелі на Еліаша так, як сёння на яго, і ад таго, што прарок быў так блізка, калацілася сэрца і кроў кіпела і бушавала ў жылах, а ўнутраны голас сказаў, што Ягве ва ўсёй сваёй велічы пройдзе каля Гарэбу! Еліаш выйшаў з пячоры, і раптам распачалася страшная бура з моцным дажджом і грукатам. Гара трэслася, скалы разрываліся, гром грымеў, але Бога не было ў гэтай буры! Раскрывалася зямля, нібы надышоў канец свету, і здавалася, што калі ўсё скончыцца, нічога вакол не застанецца, але Бога не было ў гэтым катаклізме! Нарэшце з нябёсаў паваліў агонь, нібы хацеў усё знішчыць на зямлі, але ў гэтым пажары Бога не было! Тут пачуўся ціхі, ціхі голас, Еліаш задрыжэў, а жах большы, чым перад бураю, перад землятрусам ахапіў Абісаіна, ён закрыў твар плашчом, каб не загінуць, і ў тым шэпце незямным пазнаў тое, што хаваў Ягве! Абісаін перажыў увесь гэты жах у некалькі імгненняў, нібы пракрокам быў сам, і глядзеў, дрыжучы, бяздумна ў пустэчу. Агонь згасаў, дымавая заслона паўстала паміж ім і ўваходам у пячору, і праз яе ён бачыў, як зоркі танулі ў хмарах. Ён чуў гук і свіст ветру, і свет вакол здаваўся незямным. Абісаін адчуў дыханне чалавека на сваім твары, валасы яго падняліся, і мароз, як лядовая іскра, прайшоў па яго целе. Абісаін вырашыў, што звар’яцеў, бо воблік Хрыста, які ён ведаў з касцёла

Светлага Крыжа, з'явіўся перад ім, як прамень, ён быў бледны, слаба ззяючы, як за хмарамі месяц, плечы яго былі распрамленыя, ён набліжаўся ўсё бліжэй і бліжэй, салодкія чары ліліся з яго смутных вачэй, іх погляд пранікаў глыбока ў сэрца Абісаіна, вусны цяпер дакраналіся ўжо да яго вуснаў у пацалунку, а гучанне звонку ветру, як подых набліжаючайся буры, было ціхім, ціхім, як на Гарэбу, і таемны голас у ім казаў: "Ідзі ў абдымкі мае, я закрыю цябе плашчом любові маёй! Спачуванне маё глыбей за мора і за бездань неабсяжных нябёсаў! Я ціхі, нібы галубка, але гук майго голасу, голас маёй любові пераадолеюць грукат ветру і гоман буры і страснае віраванне пекла!"

Вусны Хрыста прыціскаліся да вуснаў скамянелага ад жаху Абісаіна. Ён сабраў усе свае сілы іі закрычаў, нібы звар'яцелы: "Зноў, пракляты! Зноў, кашмар пекла, да мяне дакранаешся!"

Абісаін паваліўся на зямлю і дакрануўся ілбом да скалы. Ускочыў. Прывід знік. Ён аддыхаўся, але валасы яго яшчэ дыбарам стаялі на галаве. І Абісаін пабег з пячоры. Неба было чорным, як яго нянавісць, бліскавіца з'яўлялася час ад часу, і ў яе святле ўсё бялела, а ўдалечыні чуўся гром. Абісаін уцякаў, як шалёны. Бег па ўзбярэжжы гучнай ракі і не спыніўся раней, чым ля самага моста дэ Алкангара, дзе, як нежывы, паваліўся. Неба насцеж раскрылася, фіялетавае ззянне заліло ў адзін момант далягляд, і Абісаін убачыў у страшным полымі зары Таледа з яго вежамі і валы на небасхіле маляваліся як гіганцкі прывід.

Ён узняўся, як у сне, і пайшоў, нібы паслухаў нейкае незнаёмае ўказанне. Хутка дайшоў да горада, ішоў вуліцамі, якімі не памятаў, і быў п'яны гукам ветру, грукатам буры, якія гучалі ўсё бліжэй і бліжэй. Была ноч, на вуліцах нікога не было, дамы былі зачыненыя і нідзе не было святла. Раптам нешта бліснула яму ў вочы, калі ён павярнуў за рог на малую плошчу. Абісаін ускрыкнуў і сцяў рукі: ён стаяў перад касцёлам Хрыста Светлага.

Лямпа гарэла перад цудоўным укрыжаваннем, і Хрыстос бледны адкрываў яму свае абдымкі, як у жахлівым сне ў пячоры. Здавалася, што вочы яго напоўніліся слязьмі, а бледныя вусны шапталі: "Прытуліся да майго сэрца і закрыю я цябе плашчом любові сваёй!"

– Манюка з Назарэта, – вымавіў Абісаін, – Ты думаеш, што пераможаш мяне сваёю крывадушнаю ўсмешкаю? Я не такі слабы духам, як Рыспа! Клічаш мяне да сябе? Ну, я іду!

Ён увайшоў у касцёл і быў настолькі ўзлаваны, што не заўважыў, ці ёсць там яшчэ хто-небудзь; падышоў адразу да ўкрыжавання, дастаў свой кінжал і ўдарыў ім у бок статуі. Тут прагучаў хваравіты крык, статуя задрыжала, павалілася з грукатам на алтар касцёла, а з яго на брук. Лямпу яна пацягнула за сабою, тая разбілася і згасла. Цемра ўзмацніла цяжкае паветра і было ціха, як у труне.

Абісаін сеў на зямлю за слупом і цясней захутаўся ў плашч. Да гэтага ён адчуваў страх, потым дзікунскую радасць перамогі. Ён раскалоў гэтага назарэтца і ператварыў яго ў пыл! Забіў яго!

Пазней задрыжаў. Ці сапраўды ён забойца? Яму хацелася скінуць ідала, а цяпер адчуваў сябе так, нібы забіў чалавека, і ўсе жахі здзейсненага злачынства

авалодалі яго душою. Цела яго трэслася, зубы скакалі, і гэта не быў страх. Ён адчуваў, нібы раптам у глыбіні душы яго адкрылася незнаёмая яму бездань, свет, Бог, людзі, яго ўласнае я, усё ён раптам убачыў у іншым святле, што надзвычай здзівіла яго душу. Кім ён быў раней у гэтым свеце? Нікім! А цяпер ён адчуваў сябе, як злачынца, які ўзняўся на п'едэстале высока да нябёсаў, і кожны, хто яшчэ ўчора праходзіў каля яго без усялякай цікавасці, цяпер здзіўляўся, быў узрушаны, глядзеў прагна на яго! Ніколі жыццё, смерць, людзі, Бог не мелі для яго такога значэння, як у гэты момант, у такім канкрэтным контуры, такую здзіўляючую праўдзівасць! Тое імгненне, калі ён ударыў нажом у бок Хрыста Светлага, быў цэлым яго жыццём! Тое, што было перад гэтым, было нічым, як дзіцячаю гульнёю, а што магло б яшчэ здарыцца пасля? Нічога ўжо, нічога! Забойства! Грэх! Грэх! Што гэта? Праклянцце або віншаванне? Абісаіну здалося гэта самым лепшым, самым вялікім цудам, нават больш значным, чым малітва. Ніколі не паставіў яго так блізка перад самым тварам Бога, як гэтае злачынства! Ён сёння перад самім Богам! Грэх нішчыў яго перад тварам Бога, як агонь паліў Еліаша зажыва ў самыя нябёсы. Здзіўляла, што той, каго Бог кліча да сябе, павінен цяжка саграшыць і гэтым вылучыцца сярод астатніх людзей, стаць на асобным месцы!..

Так разважаў Абісаін і не адчуваў, што не грэх, не злачынства, але вялікае пакаянне пасля граху, злачынства паўшага чалавека прыводзіць да Бога. Гэтае пакаянне пакуль не азывалася ў ім. Унутры яго грукатала бура.

Але і звонку вар'явалася бура. Дождж ліў, нібы ў час патопу, бліскавіцы асвятлялі горад блакітным, фіялетавым і чырвоным святлом, вецер скуголіў, выў, вар'яваўся, ікаў. Нарэшце сціхнуў вецер, перастаў дождж. Хмары разышліся, і зоркі пачалі паміж імі мігцець.

Абісаін устаў, развага і спакой пачалі ў ім ажываць, хваляванне яго супакойвалася, нібы тая бура або той вецер. Абісаін зрабіў крок і зачапіў нагою паваленага Хрыста. Не ведаў, чаму, але ўжо не здавалася, што цэлы свет на яго глядзіць. Ён адступіў ад слупа, але праз хвіліну, наадварот, у ім узнікла цікаўнасць, паглядзець на гэты спакутаваны твар. Але было абсалютна цёмна і нічога нельга было разгледзець. Ён выйшаў з касцёла. Усюды пуста, бязлюдна, ціха. Вецер абсушыў вялікія камяні бруку.

– Я пайду дадому, – сказаў сам сабе Абісаін. Але вярнуўся ў касцёл. Хадзіў па ім вобмацкам у цемры і разважаў: калі статуя тут будзе ляжаць, яе зноў паставяць на алтар з вялікаю славаю, і ці не будууць мае дзеянні дарэмнымі? Як мог я быць такім неразумным і думаць, што ўчыніў злачынства? Ці можна забіць дрэва? Яго можна спаліць, калі хочаш знішчыць, вось гэта ўчынак. Гэта цудоўная думка. І ён засмяяўся. Вобмацкам ён шукаў статую, пакуль не знайшоў, узяў яе на спіну, прыкрыў яе і сябе плашчом і выйшаў на вуліцу. Нідзе нікога не было. Абісаін крочыў хутка, статуя не была цяжкай. Без прыгод ён дайшоў да плошчы Вал дэ Калерас, адчыніў дом ключом, які быў у яго схаваны, узлязеў па прыступках наверх і нарэшце ўвайшоў у свой пакой. Вось цяпер ён адчуў, наколькі ён стомлены. Паклаў статую на падлогу, прыкрыў яе плашчом і, не распальваючы святла, часткова распрануўся і лёг на

ложак. Павекі яго закрыліся ў адно імгненне, і цяжкі сон пазбавіў яго свядомасці. Ён ляжаў, як камень.

Не прачнуўся, нават калі промні сонца праз незачыненае вакно асвятлілі пакой і калі гучанне здалёку разбуджанай вады даляцела да яго слыху. Ён не мог успомніць, што з ім адбылося, але адчуваў, што нешта незвычайнае было ў паветры, што нешта нязвыклае ў ім адгукалася. Гоман на вуліцы далятаў да яго ўсё бліжэй і бліжэй, нарэшце пад самымі вокнамі, як прыбой падчас разліву, з незразумелага шуму пачуліся крыкі: "El Cristo de La Luz! El Cristo de La Luz!" Як бліскавіца свядомасць вярнулася да яго і ўвесь учарашні дзень раптам ясна прыгадаўся яму, ён ускочыў з ложка ад нейкага малазразумелага страху.

– Чаго хочуць гэтыя падонкі? – прашаптаў. Між тым лесвіца была ўжо залітая натоўпам, дзверы ў пакой расчыніліся і сто вачэй, поўных нянавісці, жаху, пагроз уперлася ў яго бледны твар.

– Чаго вы хочаце? – спытаўся ён у тых, хто быў наперадзе і ўжо рабіў спробу схапіць яго за грудзі, каб раздзерці.

– Адкрыйся ў сваім злачынстве! – роў натоўп, і тысячы рук у пакоі, на лесвіцы, у калідоры, на прыступках, унізе на вуліцы ўзнялося ўгару, яму насустрач.

– Не разумею, – заікаўся Абісаін.

– Дык высветлім, – сказаў пракурор таледскі, які праз натоўп прадзіраўся, бо яго разбудзілі тады, калі ўвесь горад бурліў.

– Я прыйшоў, каб цябе арыштаваць і аддаць пад суд. Чаму? Ты добра ведаеш. Алтар у касцёле Хрыста Светлага патануў у крыві, і святая статуя знікла з крыжа. Ты, блюзнер, яе параніў і знёс. Не адмаўляйся, вораг самога Бога! Ад алтара крывавы след вядзе проста ў твой дом, прыступкі твае залітыя крывёю, як і ганак твайго дома і твае рукі, як і твая вопратка, як гэты плашч!

З гэтымі словамі ён узняў плашч, што ляжаў на падлозе, і ўбачыў, што ў вялікай лужыне крыві ляжыць Хрыстос Светлы, а вусны і рана ў баку губляюць кроплі крыві, як яркія рубіны!

Абісаін адкрыў свой твар і зразумеў, што асуджаны. З вялікімі намаганнямі яго выратаваў пракурор ад гневу людзей і адвёў у астрог...

Святую статую працэсія несла праз увесь горад пад гучанне ўсіх званоў, тысячы свечак і лямпаў, пах якіх далятаў да блакітных нябёсаў, і ўсе жыхары горада ўкленчылі падчас гімну, калі ўкрыжаванне ўрачыста вярнулася на старое месца. У гэты самы дзень Абісаіна правялі праз нечуваныя пакуты. Усё яго цела ўяўляла сабою рану, і толькі адна косць была цэлаю. Пакутуючы ад страшнага болю, Абісаін узняў вочы да нябёсаў, і з яго вуснаў пачуўся толькі покліч: "Еліашы! Еліашы!"

Тут мільганула нешта, як іскры найбялейшых зорак і перад яго вачыма пранесліся аблокі, поўныя ззяння і з святла выступіў Хрыстос, заліты крывёю, з усмешкаю нязвыкла салодкаю, бясконца добры і поўны найвышэйшага спачування, а вакол яго вірыліся мільёны анёлаў у бязмежнай прасторы і закрылі ўвесь блакіт нябёсаў сваімі празрыстымі, сонечнымі, трапяткімі крылцамі.

– Ты прыйшоў святкаваць перамогу і насміхацца з маіх пакутаў? – спытаўся Абісаін.

– Я прыйшоў заспакоіць твой боль і загасіць тваю нянавісць, – адказаў боскі прывід і схіліўся над пацярпелым чалавекам, і кроў, якая з боку пакутніка лілася, зляпіла пакуты яго ў салодкае адчуванне. Нешта незвычайна добрае авалодала душою і целам паміраючага Абісаіна.

– Ты заліўся крывёю, – сказаў ён Богу, – хто параніў цябе зноў?

– Той народ, які радуецца тваім пакутам і імем маім прымусіў цябе мучыцца! Пакуль будзе на свеце нянавісць, не перастануць раны мае крывавіць. Кожнае слова, праклінаючае бліжняга свайго, – гэта рана у маім сэрцы, кожная новая нянавісць забівае мяне! Твая дзікунская злоба і гнеў твой паранілі мяне так, што кроў пацякла з мяне той раз у касцёле, гэта не рана ад твайго нажа у выяву маю. Ах, колькі крыві выцякла з мяне ад пачатку стагоддзя! Любоў мая крывавіла раней, чым мяне прыбілі да крыжа. Гасподзь Бог даў любоў раней, чым з'явілася зямля, горы, мора залілося вадою! Яна была з ім, калі ствараў Бог нябёсы над безданню, калі даў магчымасць узняцца аблокам на вышыню, была з ім, калі даваў рэкам кірунак! Калі ўдыхнуў душу Адаму, была з ім! А любоў мая ад веку да веку крывавіць! Цэлы свет ёю затоплены! Паглядзі вакол сябе, ты ляжыш у крыві!

Погляд Абісаіна набыў сілу архангелаў і херувімаў і бачыў, што ўсё святло свету ў крыві Хрыстовай, што ў ёй сонца і ўсе зоркі, што зямлю яна напаіла, каб цвіла, і ўвесь свет бясконца ў ёй патануў!

– А я ненавідзеў, ненавідзеў спрадвечную любоў! – шаптаў Абісаін і слёзы неверагоднага пакаяння, палячыя, як пекла, цяклі па яго твары. – Як можаш ты злітавацца з мяне? – спытаў. – Як можаш мне даравацъ?

– Твая нянавісць была таемнаю любоўю, – адказаў Збаўца, – любоўю, якую ты не разумеў і якая цябе панічна палохала. Ты змагаўся з ёю, бо яна табе здавалася грахом. Твая нянавісць перапаўняла любоў тым, што табе здавалася праўдай самай светлаю, а нянавісць твая была для цябе святою! Такая нянавісць абуджае любоў і Бог яе любіць больш, чым тупую ілжывасць да вялікага! Абісаін, ты аднойчы сказаў: “Мы ўбачымся!” Я табе адказаў: “Мы ўбачымся!” І вось мы ўбачыліся, не ты мяне знайшоў, а я прыйшоў цябе наведаць. Ты ведаеш сёння, што ўся нянавісць твая – гэта памылка! Прамень яе бруіцца так блізка з промнем любові! Ідзі са мною ў рай гэтай любові, твая бедная душа так доўга блукала ў цемры!

І прывід, як раней у пячоры, наблізіўся блізка, як прамень месяца і вусны яго шукалі вусны паміраючага Абісаіна. Ён адчуваў яго райскае дыханне і задрыжаў ад шчасця. “Я цябе люблю, – прашаптаў у бясконцай тузе Абісаін, а пацалунак Хрыста ў знак міру ўпаў на яго вусны, як ціхая кветка. Асалода, глыбейшая, чым мудрая бездань нябёсаў схапіла душу Абісаіна, узнесла яе ўгару з шэсцем анёлаў, а між тым разбітае яго цела ў крыві ляжала на зямлі, а народ вакол, даведаўшыся, хто гэта, помсліва яго праклінаў.

# Самко Птах
## (Славацкая легенда)

Ноч была цёмнаю, як лёс славацкага краю, навальніца грукатала ўдалечыні, нібы лютая злосць мангольскай арды, якая і сёння прыгнечаны народ той душыць. Цемра была густою настолькі, што немагчыма было ўбачыць горы. Лясы стагналі, горная рака пралятала паміж скал, панурая, халодная, варожая. Толькі ў адным месцы яна была поўная чырвонага бляску, нібы нехта высыпаў у яе скарб золата і рубінаў. Гэта святло з адчыненых дзвярэй аднаго з дамоў побач падала на яе. Велізарны агонь узнімаўся ўгару ў каменным ачагу: у прасторнай кухні пяклі ў ім цэлага барана на рашотцы.

Мужчыны з светлымі вычыма і цвёрдымі тварамі сядзелі побач на драўлянай лаўцы і пілі з гліняных жбаноў. Дзверы былі адчынены насцеж, было горача, а да таго ж весела трашчаў агонь, асвятляючы раку і сцежку, што вяла паўз бераг. На гэтай дарозе з'явілася высокая худая постаць маладога мужчыны. Ён быў у разарванай кашулі і босы. Яго светлыя, мяккія і доўгія валасы падалі на кашчавыя плечы, вочы меў, нібы кавалак блакітнага неба, былі яны летуценнымі і пакорлівымі. Твар меў бледны, горам хмучаны, і ў той сумны момант ён ледзве пазбегнуў смерці, бо меў крывавую паласу ад вуснах аж да левага вуха. Небарака спыніўся за некалькі крокаў ад дзвярэй, не адважваючыся ісці далей. Вусны яго задрыжалі ў цёмнай начы, і цяжкое перад навальніцаю паветра панесла песню шчыгла, ціхую, салодкую і сумную. Музыка гэтая даляцела да пабеленай, азоранай агнём кухні, і гаспадар выйшаў на ганак. Гэты птушыны гоман у цёмнай начы перад навальніцаю надзвычай здзіўляў. Ён стаў шукаць птушку, а ўбачыў чалавека.

– Хто гэта? – запытаў грубым голасам, потым прыкрыўся рукою і стаў назіраць. Бледны небарака з крывавым следам на твары тузануўся хваравіта, азірнуўся навокал, нібы хацеў пераканацца, што знаходзіцца менавіта там, дзе патрэбна, і вочы яго напоўніліся слязьмі. Так, тут калісьці стаяў яго дамок, ■ тут калісьці было яго поле! Яму было зусім не смешна, калі пачуў:

– Усё, што было калісьці тваім, цяпер належыць іншым. Прыйшлі з Германіі чужынцы, і пан твой і наш ім аддаў ўсё, што было тваім.

– Хто гэта?–паўтарыў зноў грубы голас з чужым акцэнтам.

Бледны чалавек у цёмнай начы выцер слязу, нейкае падабенства ўсмешкі асвяціла яго твар, ён хацеў нешта сказаць, але з яго вуснаў зляцеў сумны, салодкі і жаласлівы шчэбет дразда. Ён зрабіў крок наперад, і святло цалкам асвятліла яго ўбогую постаць.

– Дурань! – сказаў немец цвёрда і недаверліва. – Прэч!

Між тым падышоў да гаспадара другі мужчына і сказаў са смехам:

– Гэтага баяцца не трэба! Гэта прыдурак. Яго клічуць Птахам, ён з будоўлі крэпасці. Сёння мы разбурылі там тую хаціну, якая перашкаджала будаваць валы. Людзі, што там жылі, зніклі, і мы не ведаем, што з імі. Не трэба яго крыўдзіць, гэтага Птаха, але дадому яго не пускай. Гэта, пэўна, злодзей.

У руцэ ён трымаў вялікі кавалак хлеба, які адрэзаў гэтаму жабраку, праявіўшы такім чынам спачуванне. Ён кінуў гэтую скібу далёка, нібы сабаку.

Яна звалілася ля ног жабрака, і той, вырашыўшы, што гэта камень, адскочыў на крок, замест таго, каб прагна яго схапіць. Мужчына, які кінуў хлеб, раззлаваўся ад такой няўдзячнасці.

– Не хоча хлеба! – пакрыўдзіўся, – хацеў, каб дом яму аддалі! І ўзяўшы камень, кінуў яго ў жабрака і трапіў яму ў спіну. З вуснаў беднага чалавека вырвалася нешта падобнае на крык параненай птушкі, чым чалавека. Паступова ён растварыўся ў цемры. Між тым мужчыны, што чулі лаянку і праклёны свайго сябра, выйшлі напалову п'яныя, пачалі пагражаць, некаторыя са смехам, некаторыя злобна, шукалі камяні і груды зямлі і кідалі ўслед бедаку, цяпер хутка ўзляцеўшаму Самко Птаху, сапраўдны дождж назбіраных стрэл. Ён уцякаў праз раку, пакуль мог дыхаць. Пазней азірнуўся і ўбачыў, што яго не праследуюць. Ноч схавала яго ад злых людзей. Затым распачалася навальніца і дождж ліў з нябёсаў, як з вядра. Самко грымоты здаліся куды больш прыемнымі, чым лаянка тых лютых людзей. Ён ведаў, дзе знаходзіцца, што непадалёку ёсць пячора не вельмі глыбокая ў скале. Ён яе ведаў добра. Ведаў, што там ёсць мяккі мох і ўвайшоў. Так ён быў цалкам захаваны ад дажджу і ветру. Ён сеў на зямлю, абапёрся галавою аб скалу, рукі яго ляглі на калені. Доўга не мог аддыхацца, нават не задумваючыся пра свой стан, пакуль кроў яму не стала гучаць у вуснах, а сэрца біцца аб рэбры, нарэшце ён сумна вымавіў: "Куды пайду?" Але ніякага адказу не мог знайсці ў сваёй душы. Усё яго разуменне пра шчасце, жыццё-быццё і свет зводзілася да самотнасці ў лесе, дзе нарадзіўся ён, і яго бацька, і бацька яго бацькі, гэта такая ж самотнасць, як самотнасць ракі, дзе паабапал растуць тысячагоддзямі дрэвы, напоўненыя птушынымі гнёздамі, поўныя музыкі і пахаў, іх вялікія цені падалі на мяккую траву, расквечаную белымі і жоўтымі зоркамі. Гэта для Самко была ўся зямля. На мяжы паміж дрэвамі і нябёсамі ўзвышаліся вяршыні Татраў, пад якімі плылі воблакі, якія трапаў жорсткі вецер магутнымі маланкамі, і ў глыбіні аблокаў зіхацелі сярэбраныя праменні. За Татрамі, магчыма, не было ўжо нічога, але нават калі свет там быў нашмат большым, Самко любіў свой прыгожы куток, дзе ўпершыню ўбачыў святло сонца і твары сваіх бацькоў. Гэты куток быў для яго гняздом.

На беразе ракі стаяла белая хата, а за ёю хваляваліся два невялікія палі, падзеленыя ручаём і альшанікам. Адно поле было сінім, дзе квітнеў лён, а другое залатым, дзе выспявала жыта. Ля дзвярэй хаты заўсёды ўсё лета сядзела яго прабабка і прала. Вясною Самко старанна клапаціўся пра поле, запрагаўся ў плуг, як яго бацька да гэтага, і прабабка, адклаўшы ўбок прасніцу, арала. Яе доўгія, белыя, як малако, валасы вецер трапаў, як конскую грыву, а яе моцны і гучны голас вітаў багровую зямлю, якая дыхала свежасцю і давала хлеб.

Прабабка была мудраю і святою. Яна разумела мову лясных птушак і таму шмат пра іх даведалася таямнічага. Самко пачынаў гэтую мову разумець таксама і навучыўся адказваць ім, умеў спяваць, як дрозд, клякатаць, як салавей, свісцець, як жаўна. Ён мог клякатаць, як арол, бо часта ўздымаўся аж на вяршыні Татраў, а калі вісеў часам, рызыкуючы жыццём, сярод прорваў, на дне якіх гучала вада, і сярод аблокаў, дзе гукі, што чуліся ад арлоў, і былі

выражэннем трывогі за сваю моладзь, і яны калацілі крыламі са страху, калі Самко гладзіў іх у гнёздах. Але не трэба было баяцца, бо Самко не пакрыўдзіў нікога жывога: ні жука, ні мушку, ні птушку, – і цёмны лес, і сонечная ніва яго ведалі і любілі. Птушкі былі яго сябрамі, ніводная не баялася, калі Самко набліжаўся да яе, наадварот, з радасцю прыляталі да яго, дзе б ён ні быў. Калі ён ішоў цемраю, то да яго падляталі берасцянкі і дразды, калі сядзеў на ганку дома і еў, то да яго падляталі чорныя дразды і елі з ім з адной міскі, калі на пятлі цягнуў плуг, то падлятаў жаўрук і, суправаджаючы яго, спяваў для яго. Самко любіў жаўрука больш за ўсіх сваіх крылатых сяброў, але мацней за ўсіх любіў ён Пана нашага, Хрыста, пра жыццё якога ён ведаў ад прабабкі да дробязей. Калі Хрыстос устаў з мёртвых, узрадаваліся птушкі, а калі ляжаў у труне, то з сумам маўчалі, і цяпер прасілі Збаўцу, каб дазволіў з ім застацца назаўсёды. Пан ім сказаў, што адказ прачытаюць у небе. Яны ляцелі, ляцелі, але паступова стаміліся, калі Хрыстос уздымаўся ўсё вышэй і вышэй з неверагоднаю хуткасцю да славы нябеснай. Яны падалі на зямлю адна за другой, аж пакуль не застаўся адзін жаўрук, які працягваў сваё падарожжа нават тады, калі арлы стаміліся. Гэтае кволае стварэнне адчувала такую тугу па Сыне чалавека, што стала мацнейшым за арла і ў палёце яго перамагло. Калі жаўрук даляцеў да сонца, то настолькі аслабелі ад жорсткасці нябёсаў яго крылы, што бядак зваліўся паранены на зямлю, схаваўся ў траве, адкуль заспяваў сваю даўнюю песню, светлую, як срэбра, што прабівалася да нябёсаў, як прамень. Калі жаўрук сеў Самко на руку, то той пацалаваў аслабелыя крылы птушкі, і шчыгол, з якім Самко пра свае пачуцці размаўляў, глыбока ўспрыняў салодкую, набожную, натхнёную песню жаўрука. Туркаўку Самко асабліва любіў, бо з ёю Хрыстос-немаўля гуляўся у сваёй калысцы. Аднойчы Маці Божая прывязала яе сваім поясам за грудку, каб нікуды не паляцела ад дзіцяці Бога, вось і застаўся след на горле птушкі, і таму смяецца туркаўка так прыгожа, так радасна, бо прыгадвае хвіліны, калі ружоваю грудкаю магла дакрануцца да яшчэ ружовага караля свету, таго цела, якое пазней будзе аддадзена на катаванне.

А яшчэ ведаў Самко ад сваёй прабабкі, якая разумела мову лясных птушак, што яна спазнала таямніцу спрадвечнага жыцця. Таямніцу таго, што сама скарыстаць не хацела б ніколі, а думала раскрыць бацьку Самко, але разважала залішне доўга пра тое, чым з'яўляецца спрадвечнае жыццё на зямлі: шчасцем або цяжарам, разважала так доўга, што аднойчы ўвечары дзікунскія коннікі пад'ехалі да самотнай ля леса белай хаты і гаспадара, бацьку Самко, проста забілі. Жонка яго звар'яцела ад жаху, калі ўбачыла, што гарачая кроў сцякае па твары мужа, і блукала, нібы палахлівая лань па гарах і далінах, і галасіла, прабіваючы неба. Галасіла яна так доўга, пакуль у яе не разарвалася сэрца. Самко быў тады кволым дзіцем і застаўся прабабке адзін з усёй яе сям'і. Падрастаў ён з птушкамі на дрэвах далёка ад людзей, якіх зрэдку бачыў нібы прывіды. Прабабка вучыла яго шмат чаму, але таямніцу спрадвечнага жыцця не адкрыла, бо са смуткам адчувала: не вытрымае яе душа цяжар зямнога побыту, і ведала яна надзвычай добра, што для кожнага з нас наканаваны чорны дзень

лёсу, калі цяжкі цень закрывае святло ў нашым жыцці, і ад гэтага ніхто не зможа выратавацца і да канца з сумам будзе прыгадваць яго.

Чорны дзень лёсу! Як і для кожнага, надышоў ён і для Самка. Яму тады споўнілася пятнаццаць гадоў. Тады пад вечар знянацку з'явіліся зноў дзікія коннікі ў лясной самоце ля ракі і сказалі Самко, што не толькі ён, але і гэты божы лес на мілю, залатое поле, гэты белы дом і наогул усё, на чым тут можа затрымацца вока, належыць нейкаму пану. Гэтаму пану Самко патрэбны сёння, і ён з імі пойдзе. Пакуль размаўлялі, пад'ехалі яшчэ коннікі, што гналі перад сабою, як статак, звязаных паміж сабою людзей, над галовамі якіх ляскалі бізунамі. Адзін з коннікаў злез з каня і падышоў да Самко з вяроўкаю. Самко, здзіўлены, заклекатаў, нібы арол і схапіўся за сякеру, гатовы да абароны, як ад ваўка, але яго перамаглі груба са смехам, і калі прабабка пачала лаяць і праклінаць разбойнікаў і кінулася на іх з шалёным адчаем, то падпалілі хату, кінулі старую ў полымя, дзе бедная загінула, а разам з ёю ўсе ластаўкі, якія гняздзіліся на драўляным карнізе дома, ўсіх горлінак, што сяліліся ў сенцах. Звязаны Самко глядзеў скамянелы з жахам на страшную гэту сцэну.

Другі дзень распачаўся ў таго, што пачалі высякаць лес на ўзбочынах, і Самко разам з тым, да каго яго прывязалі, павінен быў сячы камлі старых ясеняў і соснаў, хвой і дубоў, тых замшэлых ахоўнікаў зялёнай святыні, сярод якой вырас. Напалоханыя птушкі лёталі вакол дома,ператворанага ў попел, а іх сябар, менш шчаслівы, павінен быў цягнуць дрэвы на круты адхіл, адкуль іх кацілі глыбока ўніз аж на раўніну. Ён чуў, як гэтыя стогадовыя веліканы дрымучага лесу стагналі ад болю, чуў, як трашчалі іх галіны, ламаліся, чуў, як з грукатам ляцелі ўніз, дзе засталіся ляжаць, нібы мерцвякі. Сэрца яго стукала. Ён глядзеў на птушак, што ўзляталі высока, на вяршыні сініх гор, глядзеў на попел дома, дзе бялелі косці яго прабабкі, глядзеў на затаптанае поле, дзе пасвіліся коні гэтых дзікіх гвалтаўнікоў. І ў галаве яго была цемра. Чаму Бог так яго пакараў? Ці, можа, зямля, на якой ён нарадзіўся, была праклятая ад веку? Ці кожны яе сын частка гэтага праклёну? Так яму здавалася. Рабаўнікі яго аднак не далі яму шмат часу для роздуму. Яны пагналі яго разам з іншымі людзьмі перад сабою, нібы статак, сцябаючы бізунамі. Хутка ён зразумеў, навошта ён спатрэбіўся пану, якому належаў. Будавалі велізарную моцную крэпасць, адкуль пагроза павінна была ісці ў іншыя куткі краіны. Яна павінна была стаяць на высокай скале, каб народ гэтай занядбанай краіны ўжо здалёк яе бачыў і ведаў, перад кім патрэбна схіляцца. Самко разам з іншымі небаракамі быў прыгнаны сюды, каб будаваць. Людзі паміралі, стомленыя працаю або ад бізуноў. Пяць гадоў зведаў на сабе гэтае гора Самко, будуючы валы і ламаючы камяні ў каменяломнях. І ўвесь гэты час працаваў, нібы асёл. Сваю юнацкую смілу, сваю вясну жыцця, зямныя радасці пахаваў ён у тых каменяломнях, у тых сценах і валах.

Самко працаваў больш, чым усе астатнія, бо не ўмеў абараняцца, а таварышы мучылі яго так, як іх тыранілі паны, і перакладалі частку сваёй працы на яго плечы. Да таго ж бясконца з Самко смяяліся. Ён не ўмеў добра гаварыць, бо больш жыў сярод птушак, чым сярод людзей, і свой сум выяўляў у ціхім шчабятанні дразда, якое ўзмацнялася сярод нямых камянёў і скал, на якіх

засталіся сляды яго крыві, бо нічога не мог знайсці ў сэрцах людзей, жорсткіх ад несправядлівасці і крыўд. З пагардаю называлі яго Самко Птах, але ён і такому звароту быў рады, бо бясконца сніў пра шчасце ў мінулым, пра сваіх верных сяброў дзяцінства ў пер'і з дрымучага лесу, і ўспаміны гэтыя дапамагалі яму пераносіць гора, якое цяпер спазнаў. Яны, спяваючы ў сонечнай прасторы, былі заўсёды вольнымі і шчаслівымі! А хто ведае, ці не вернецца ён калі-небудзь да іх? І шмат разоў ён шчабятаў у сне, калі, здавалася, што ў яго ёсць крылы, і ён ляціць да сініх вяршынь Татраў, уздымаючыся да неба, да сонца, да тых вяршынь, дзе гняздзяцца арлы і адкуль льюцца сярэбраныя тыя промні, якія п'юць дразды і вяхіры! Але нягледзячы на тое, што яго будзілі грубымі словамі і гналі да цяжкай стамляючый працы, было ў мянушцы "Птах" нейкае салодкае суцяшэнне, а разам з тым слова гучала груба і жорстка.

Так прайшлі для яго пяць доўгіх, страшных гадоў і крэпасць была пабудаваная. І што рабіць з гэтым народам, які яе будаваў? Нічога не прыдумалі, акрамя таго, што разагналі яго. Хай шукаюць месца, дзе галодны можа памерці. Раз'юшаныя гайдукі з доўгімі бізунамі на дзікіх конях давілі народ, што сабраўся ля крэпасці і чакаў загаду свайго пана. Коні білі людзей капытамі, а бізуны, лётаючы ў паветры, наносілі глыбокія раны. Самко атрымаў жорсткі ўдар па твары і на памяць пра рабства яму застаўся крывавы след.

"Чаму мяне б'е гэты чалавек?" – пытаўся Самко, звіваючыся ад болю і выціраючы кроў і слёзы. Ён узняў вочы да нямога неба, і тут прыгадаў Хрыста і яго дарагія раны і супакоіўся. І пазней нават адчуў нейкую радасць. Яго выгналі! Значыць можа ісці, куды хоча? Пойдзе туды, у тую самотную мясцовасць, дзе нарадзіўся. Яму сказалі, што на старым месцы стаіць іншы дом і ўсё, што належала яму, пан аддаў іншым людзям. Але ці магло так быць? Безумоўна, хацелі сказаць яму нешта жорсткае і ўбачыць, як ён напалохаецца. Ён дайшоў да месца, дзе стаяла белая хата, дзе яго прабабка сядзела і прала, слухаючы размовы лясных птушак. Дайшоўшы, знайшоў двор, ад брамы якога яго прагналі камянямі! І цяпер ляжаў, схаваўшыся ў пячоры, і пытаўся: "Куды пайсці?" І на гэтае пытанне не меў адказу! У яго галаве была імгла і толькі як бляск ён бачыў вяршыні Татраў, вакол якіх кружылі арлы, а з гор лілася сярэбраная вада. "Туды!" – сказаў ён, слаба ўсміхнуўшыся. Шум дажджу скончыў сваю аднастайную музыку, і Самко ціха заснуў. Слова "туды" прагучала з яго вуснаў нібы кароткі, слабы свіст хворага птаха.

Першыя ружовыя промні сонца абудзілі Самко ў яго парослай мохам пячоры. Ён устаў і ўмыўся ў рацэ. Пазней знайшоў некалькі спелых чарніц у траве, а так асабліва есці яму не хацелася. І пайшоў туды, куды неслі ногі. Ішоў ён паўз чорнай рэчкі ў супрацьлеглы бок ад сядзібы, дзе ўчора ў яго шпурлялі камяні. Ішоў доўга, цэлы дзень, ноч ён правёў пад квітнеючым кустом, а на другі дзень, калі сонца было дастаткова высока, убачыў невялікі горад, над якім узвышаўся магутны касцёл з высокімі прыгожымі вежамі, дзе калоны ўтваралі паветраны паверх; чым вышэй ад зямлі, тым танчэйшымі былі калоны, што трымалі аркі, а тыя, што знаходзіліся на самай верхатуры, пад самым дахам, утваралі велізарную нейкую клець, дзе віселі званы, якія ў тую хвіліну якраз і адзначалі свята, напаўняючы сваімі магутнымі гукамі чыстае, залатое паветра.

Самко, напэўна, абышоў бы гэтае месца, ведаючы, што там, дзе людзі, будуць насмешкі, гвалт і несправядлівая сляпая нянавісць, але гэтыя гукі, што чуліся ў сінім небе, яго клікалі. Для Самко звон быў, нібы велізарны металічны арол з голасам анёла, звон быў для яго нібы птах, што высока ўзвышаецца над людской нянавісцю, суседам аблокаў, сябрам ветру, і быў няшчасным птахам, бо быў падвешаным, прывязаным, і песня яго, глыбокая і сумная, была вялікаю скаргаю. Самко накіраваўся да горада, куды клікаў яго голас звона. Ён увайшоў у касцёл і там убачыў выяву Хрыста ў белым на ззяючым залатым фоне, Хрыста з вялікімі і цёмнымі вачыма, якія глядзелі са светлай вышыні ўніз на яго, без насмешкі, з дабрынёю, без пагарды, без жорсткасці. Вусны яго ўсміхаліся кожнаму і Самко таксама, а Самко не памятаў, каб нехта пасля смерці яго прабабкі яму ўсміхаўся! І ў той руцэ, якой Хрыстос вітаў яго, не было бізуна! Погляд быў напоўнены любоўю, напоўнены суперажываннем! Як стала цёпла сэрцу Самко ад гэтай думкі. І ён пайшоў у горад.

Вуліцы былі запоўненыя людзьмі па-святочнаму апранутымі, дамы былі ўпрыгожаны вянкамі, а з высокіх дахаў калыхаліся доўгія сцягі. Самко ніхто не заўважаў, і без здзекаў, без сваркі, без грубых слоў дайшоў бядак, надзвычай здзіўлены такою нязвыклай ласкавасцю, да вялікай плошчы, дзе знаходзіўся той чырвоны касцёл, які бачыў здалёк, і спыніўся. Таўкатня там была такая, што праз хвіліну Самко трапіў у цесны натоўп, што не мог зрабіць нават крок і ледзьве дыхаў. З размоў людзей навокал ён зразумеў, што гэта ўсё азначала. Візантыйскі імператар і дзесяць каралёў з Усходу прыедуць туды пасля візіту да рымскага імператара, бо шлях іх ляжаў да Дуная, па якім яны паплывуць на пазалочаных караблях з пурпуровымі сцягамі, расшытымі срэбрам і жамчугом. Праз гадзіну яны павінны з'явіцца ў горадзе, і ўжо бачылі пыл з-пад капытоў іх коней. Кароль венгерскі ехаў наперадзе са сваімі прыдворнымі. У храме будуць служыць імшу і будуць дзякаваць Богу за тое, што магутныя валадары дзяржаў праехалі праз іх горад. На памяць пра гэты візіт на дошцы ў касцёле залатымі літарамі будзе пазначана гэтая падзея. Так апавядаў народ і весяліўся.

Аднак гэтая весялосць хутка змянілася на страх.

Венгерскія дзікуны на шалёных конях раптам запоўнілі плошчу і прыбілі народ да зямлі. Іх кароль ехаў па гэтым жывым дыване з сваіх рабоў, пасцеленым для сябе і сваіх гасцей, каб коні не датыкаліся да пылу і бруду ў горадзе. Памазанік Божы і яго прыдворныя і па мосце па чалавечых спінах даляцелі да партала храма. Страшныя раны ад плоскіх мячоў і доўгіх бізуноў, з жалезным дротам, падалі на спіны і галовы тых, хто сваім целам брукаваў дарогу важным асобам, якія аказвалі Богу гонар тым, што наведалі яго дом. Надрыўны плач жанок, праклёны мужчын зліваліся з гучаннем званоў, поўным жалю і велічы. Ад гарадской брамы ўжо ляцела на ўпрыгожаных конях калона коннікаў. Наперадзе ехала стража венгерскага караля, уся ў брудзе і золаце, цюркскія, напалову звярыныя твары гэтай шляхты былі дрэнна ўмытыя, але вусы іх былі пераплецены жамчугом і з разрэзаў іх шаўковай вопраткі сыпаліся каштоўныя камяні. За імі ехаў венерскі кароль з вялікім жэзлам у руцэ, а далей на белых, як малако, конях рыцары візантыйскага імператара, відовішча выключнае і прыгожае, падобныя ў сваіх даспехах са срэбра на хоры анёлаў;

пазней паказаўся візантыйскі імператар сам, вакол якога ехала дзесяць каралёў у пурпуры.

Быў ён срэбрагаловы і меў ціару на галаве, усыпаную брыльянтамі і ізумрудамі. Самко, што ляжаў на зямлі ў пыле, бачыў усё перад сабою так, нібы перад ім прамільгнулі каметы, прыгожыя і небяспечныя. Бачыў ён усё гэта нібы ў сне, бо хутка пагрузіўся ў цемру ад удара каня. Прабудзіўся ён у цудоўным холадзе, навокал разліваўся пах ад кадзіла. Дзе-нідзе ззялі зоркі: гэта было полымя залатых лямп і шматлікіх васковых свечак, высокіх, нібы калоны.

Самко быў у касцёле. Ён не ведаў, як сюды трапіў, пэўна, людская хваля яго сюды зацягнула, нібы мора, якуе амывае бераг. Ён ляжаў сярод жабракоў і калекаў ля высокай бронзавай брамы. Далёка ад яго, ля самага алтара, дзе служылі імшу, ён зноў убачыў візантыйскага імператара з бліскучаю ціяраю на галаве. Сярод дзесяці каралёў з Усходу, яны сядзелі на ўзвышэнні з бронзы. У велічнай песні спевакоў, у гучанні срэбраным аргана патануў плач жабракоў і калекаў, параненых конскімі капытамі. Самко таксама адчуваў боль у баку і ў плячах, але пераносіў яго ціха, бо быў звыклы да гэтага. Ён глядзеў на алтар. Погляд яго прагна шукаў вобраз Хрыста, тое салодкае суцяшэнне пры кожнай пакуце. Але не бачыў яго. Святая гэтая постаць была закрыта цяжкаю пурпуроваю заслонаю, чырвонаю, як кроў, на якой бліскучым золатам і срэбрам былі знакі прысутных гасцей. Перад гэтаю заслонаю з правага боку зіхацела, як сонца, захавальніца дароў, і ў святле яе промняў залатых і дыямантных, як бледны месяц, была белая святая просвірка, бясспрэчна велічная ў сваёй снежнай прастаце сярод гэтых людзей, якім дадзена гэтая раскоша. Самко не адрываў ад яе вачэй, узняўся на калені і схіліў галаву. Да яго вялікага смутку далучаўся прамень салодкага пажадання. Ён узняў галаву і зноў глядзеў на захавальніцу дароў. І тут убачыў, анямеўшы, што яна раптам пачала расці, ператварылася ў нейкі дым у месяцовым святле, хрысціянская брама адчынілася ціха і знутры таго зоркападобнага стану, як вядзьмарка, неслася белая просвірка і вось з'явіўся сам Хрыстос! Ён быў апрануты ў грубае адзенне, але чыстае, нібы са снегу, твар яго быў бледным, чорныя вочы яго былі поўныя міласэрнасці, а ўсмешка сонечнага святла і любові. Самко падумаў, што ён сядзе побач з візантыйскім імператарам, але ён ішоў, не гледзячы на ўзвышэнне, памалу па касцёле, узносіўся ўвысь разам з воблакам ад кадзіла, дымам васкавых свечак і накіраваўся туды, дзе сядзелі жабракі і калекі, і там сеў сярод іх. У гэты момант Самко ўжо не бачыў яго. Але адчуваў дакладна суцяшэнне ад яго святой прысутнасці, душа яго нібы была прасякнута святлом. І твары ўсіх небарак каля яго шчасліва асвяціліся. Ніхто не адчуваў болю ад ран, святло лілося з вачэй усіх і кожнаму здавалася, што нібы ў яго выраслі крылы. Самко ад шчасця быў нібы п'яны. Ён з удзячнасцю ўзняў вочы да неба. У гэты момант на кафедры з'явіўся стары і проста апрануты ксёндз. Ён трымаў у руцэ крыж і віншаваў найперш напачатку імператара і каралёў, а потым і народ. Яго задачаю было ўславіць гасцей. Але ён анямеў, не знайшоў слоў, нейкі страх яго апанаваў, хоць не разумеў чаму. І тут пачулася ў касцёле слабое шчабятанне дразда, гэта Самко ўздыхнуў, напоўнены салодкім шчасцем і ўздых яго быў падобны малітве. Здзіўлена паглядзеў ксёндз па баках, адкуль неслася

гэтае птушынае віншаванне, якое, як яму здалося, дадае яму адвагі, і здзівіўся ён яшчэ больш, калі ўбачыў, што ўсе жабракі і калекі асветлены нейкім незямным святлом. Смуткам раптам асвяціўся яго твар, прыгадаў ён іх гора, а пасля захапленне змяніла смутак. Бо зразумеў, што падобных людзей любіць Бог. Ён адчуваў, што Збаўца прымушае яго схіліцца перад веліччу людскіх пакут і за гэта яму аддзячыць. Ён схіліў галаву перад тымі, пра каго ведаў, што па іх праехаліся коні, і голасам поўным слёз, гледзячы непасрэдна ў вочы Самко, якія ззялі, нібы зоркі, і калі анёлы заспявалі "Мір людзям добрай волі," – ксёндз ціха сказаў: "Шчаслівы той, хто крочыць па цярновай дарозе, бо дойдзе да раю!"

Самко ўсміхаўся, нібы надышоў світанак. Ужо не было цемры ў яго галаве, ужо не было пытання "Куды пайсці?", таго неакрэсленага жаху, таго велізарнага цяжару! Загадка ўсяго яго жыцця была разгадана! Самко ўзняў галаву і доўга дзякаваў Богу.

Самко не кранаўся з месца да таго часу, пакуль касцёл не апусцеў. Потым ён ціха пайшоў у рызніцу, бо хацеў убачыць старога ксяндза, каб падзякаваць яму за яго казанне і параду. Ён знайшоў яго ў рызніцы ў кампаніі некалькіх людзей, з якімі той размаўляў. Самко падышоў проста да яго.

– Чаго ты хочаш? – гучна спытаў ксёндз, наўрад ці ён яго пазнаў.

Наіўны Самко не ведаў, як дзякаваць і што насамрэч казаць, таму ціха сказаў:

– Я пайду да неба.

Пачуўся стрыманы смех прысутных, і адзін з іх спытаўся:

– А як, вар'ят?

– Па цярновым шляху, – наіўна адказаў Самко.

Смех ужо не быў стрыманым, а Самко надзвычай здзівіўся, бо аказалася, што і тут, у гэтым святым месцы, у прысутнасці добрага ксяндза ён сустрэўся з абразлівымі насмешкамі. Вялікі смутак асвятліў яго твар, ён паглядзеў на ксяндза, вочы якога былі настолькі летуценнымі і праніклёнымі, што нібы бачылі да дна яго душу. Ён паклаў руку Самко на галаву і сказаў шчыра:

– Веру, што дойдзеш да неба! Цябе любіць Бог! Успамінай пра яго ў сваіх малітвах.

Цяпер смеху не было.

– Я так і зраблю, – сказаў Самко проста, пацалаваў вопратку ксяндза і выйшаў праз адчыненыя дзверы на плошчу, напоўненую сонцам і рухам.

За горадам няцяжка было знайсці дарогу, што парасла калючым кустоўем і чартапалохам, паўсюль бедная славацкая зямля цяпер памалу вярталася да жыцця, бедная славацкая зямля, якую тапталі азіяцкія захопнікі, пад ярмом якіх яна пакуль і знаходзілася. Не так даўно пачалі вяртацца людзі са сваіх прытулкаў у скалах да закінутых, наўсцяж зарослых палёў, і распачыналі зноў працу, плады якой належалі і працягваюць належаць туркам.

Самко не цяжка было знайсці дарогу, дзе буялі калючае кустоўе і чартапалох, якія ранілі яго ногі, і гэтаю пакутніцкаю дарогаю хадзіў ён шматлікія дні і ночы, цярпеў голад і смагу і на павыпаленых сонцам скалах пакідаў крывавы след. Харчаваўся ён карэннямі і ажынаю, і толькі аднойчы

знайшоў ля нейкай закінутай людской сялібы, схаванай у гушчары лесу ля ўзгорка кавалак чорнага хлеба. Людзі давалі яму магчымасць пажыць побач з імі, бедныя і галодныя, як і ён, як міласць, але заўсёды яго адказ на пытанне, з якою мэтаю ён выбраўся ў доўгую і цяжкую дарогу, выклікаў у іх смех. Самко гэта не крыўдзіла, не выклікала ў яго злосць і не збівала са шляху. Вера хавала яму ўпэўненасць і суцяшэнне, бо сёння ён меў тое, пра што так горача тужыў, свабоду! Над ім шумелі дрэвы сваёю пышнаю лістотай, яго авяваў моцны вецер, і атрымліваў асалоду ад салодкага, летуценнага, прыяцельскага спеву птушак, верных сяброў яго маладосці! Шматкроць шчабятанне драздоў выводзіла яго аж на край лесу! Шматкроць віталі яго жаўрукі, трапечучыя крыламі высока пад самымі аблокамі, радаснымі спевамі! Шматкроць суцяшалі горлінкі, якія гняздзяцца ў скалах, радасным, мілым смехам сваім! Дробяззю здаваўся боль яго сэрца ад людскіх насмешак ў параўнанні з шумам дрэў, свістам ветру і спевамі гэтых стварэнняў, якіх несла паветра, якія купаліся ў залатым святле, гэтыя гукі выклікалі вялікую ўдзячнасць, што ў сваю чаргу нараджала салодкія, гарачыя, тужлівыя мары! Праўда, кроў лілася з яго ног, пот цёк з яго ілба, але ўяўляў сябе ён нібы ў раі, які шукаў і дайсці да якога спадзяваўся.

Аднойчы ўвечары ён быў настолькі стомлены, што ледзьве перастаўляў ногі. Самко спыніўся на крутым схіле, якім скончыўся малады бярозавы гай. Унізе пад сабою ён убачыў у наступаючай імгле нешта падобнае на белы замак, толькі без валоў і бастыёнаў, вакол якога нягуста раслі старыя дрэвы, а іх вяршыні, азораныя сонцам, калыхаліся. Імгла была светлафіялетавая, прасякнутая вялікімі прамянямі ружовага святла, і белыя сцены будынкаў былі нібы апырсканыя золатам у змярканні. Гэта была надзвычай чароўная карціна. Самко, трымаючыся за куст, з цікаўнасці нахіліўся над далінаю пад нагамі, і тут глеба пад ім пахіснулася, галінка, за якую трымаўся, зламалася, і ён паляцеў кубарам глыбока, глыбока ўніз, прычым настолькі хутка, што ў галаве пацямнела, а з вачэй паляцелі іскры. Нарэшце недзе зваліўся і застаўся ляжаць непрытомна. Дзіўна, што не забіўся. Калі ачомаўся, ужо было даволі цёмна. Перад ім была высокая сцяна, дзе ў некалькіх кроках ад яго зеўрала адчыненая брама. За ім быў высокі схіл, па якім у чароўным святле зорак серабрыліся ствалы бяроз. Ля самай яго галавы бубніў ручай, нібы нешта яму шаптаў. Самко выпіў трошкі вады і ўзняўся на ногі. Яны трэсліся, але трымалі яго. Усе канечнасці ў яго балелі, але нічога не было зламана. Абапіраючыся на сцяну, Самко падышоў да брамы і ўвайшоў. Цяпер ён знаходзіўся ў цудоўным садзе, дзе чуліся прыемныя пахі, што несліся ад кветак, зёлак, дзе душыца разносіла свой водар у ціхай начы! Пырскі белай вады ўзляталі ўгару, нібы хацелі ляцець да зор, і зноў падалі ўніз на бардзюр са светлага, бліскучага каменя. У непралазных кустах заліваліся салаўі. Самко памалу ішоў і пытаўся сам у сябе: "Ці дасягнуў я сваёй мэты? О так, гэта сапраўдны рай!" Сэрца яго грукатала, ён чакаў, што на адной са сцежак сустрэне Госпада, Хрыста або Дзеву Марыю. Але сад быў абсалютна пустым, і Самко дайшоў да вялікага будынка, які бачыў з узгорка. З велізарных вокнаў яго на адным баку святло лілося, нібы з месяца. Самко зазірнуў унутр. Ён убачыў вялікую залу, белыя калоны трымалі столь у

залатых зорках, сярэбраныя лямпы гайдаліся там на доўгіх ланцугах і ззялі, нібы зоры; прыступкі з белага каменя былі шырокімі, нібы гасцінец, на іх з таго ж белага каменя скульптуры анёлаў на балюстрадзе, белыя, як снег, з залатымі крыламі, прыступкі вялі некуды ўгару, у іншую залу ўглыбіні, шырокую, як лес, яркую, нібы вясёлка, і з той таямнічай прасторы лілася арганная музыка. Далёка ля супрацьлеглай сцяны ў той зале, сцяны, якая зіхацела золатам, сядзела на троне са слановай косці вялікая постаць багародзіцы ў белым адзенні, у блакітным плашчы, з зоркаю на плячах, з зоркаю ў кароне, з вачыма, вялікімі і цёмнымі, з рукамі, узнятымі ў прывітанні. І па прыступках хадзіла шмат старых і маладых мужчын, аднолькава апранутых у белае адзенне, на нагах іх былі чорныя сандаліі, рукі іх былі счэпленымі, а вочы, нахіленымі ўніз у малітве.

– Гэта святыя, – прашаптаў Самко. Але больш не здолеў падумаць. Яго перамагла слабасць, і ён адчуў, як пахіснуўся і ўкленчыў. Выпадкова ён схапіўся за рэмень, што вісеў побач з ім ля дзвярэй, і ўжо не разумеючы, што падае на падлогу, пачуў моцны звон. Нібы ў сне бачыў, што адчыніліся дзверы і адна з тых постацей у белым схілілася над ім. Потым ён, знясілены голадам і смагаю, патануў у глыбокай цемры.

Самко не ведаў, што паваліўся на парозе багатага манастыра, і не чуў, як яго занеслі ўнутр і заняліся яго бедамі.

Прыйшоў у сябе Самко толькі на другі дзень раніцою. Ён убачыў, што ляжыць на ложку з пахучага сена, накрыты грубаю покрыўкаю, але белаю, нібы снег, у простай і чыстай каморцы, праз расчыненае акно яму ўсміхалася неба і шумелі дрэвы. Пахі і птушыны шчэбет пранікалі з саду ў пакой. З ложка ўзняўся адзін з блажэнных, якога ўчора бачыў на прыступках. Ён паглядзеў на хворага з дабрынёю і спачуваннем. Калі Самко яму ўсміхнуўся, тот ўсміхнуўся яму ў адказ, узяў чашу з явару, напоўненую віном і нахіліў да вусаў хворага. Па целе Самко нібы прабег сонечны прамень. Манах падаў яму нейкую ежу, і Самко, паеўшы, адчуў сябе мацнейшым. Потым манах пачаў пытацца, хто ён, адкуль прыйшоў і куды вядзе яго дарога. Самко адказаў яму каротка, прызнаўся, што напакутваўся, і нарэшце паведаў яму параду старога ксяндза.

– І бачу, – сказаў прыканцы, – што знайшоў я тут рай. Ці не выганяць мяне з яго?

Манах паглядзеў на яго здзіўлена, а потым усміхнуўся яму добраю ўсмешкаю.

– Цябе не выганяць, – адказаў пасля. Ён пайшоў і пакінў шчаслівага Самко спаць.

Манах расказаў іншым манахам, якія сабраліся ўсе ў трапезнай, усё, што ведаў пра Самко, і ўсе пагадзіліся з ім з усмешкаю, што Самко са свайго раю выгнаны не будзе. Было вырашана, што ён будзе працаваць у садзе, і паколькі сілы яго вычарпаны, праца яго будзе лёгкаю. Так застаўся Самко ў тым раі. Не было нікога больш шчаслівага за яго! Ён мог хадзіць па манастыры з асалодаю, мог гуляць па садзе і ў лесе, а няцяжкая яго праца давала яму задавальненне. Ён не лайдачыў. Акрамя саду, ён працаваў таксама і ў лесе, прыносіў адтуль дровы і разводзіў агонь там, а таксама ўвечары ў трапезнай, калі было холадна або

вільготна. Ён любіў слухаць гучанне агню, а калі глядзеў на полымя, то здавалася яму, што гэта вялізны птах б'е сваімі чырвонымі з золатам крыламі і высякае іскры. Пасля абеда манахі абыходзілі вакол стала са сваімі міскамі і накладалі яму ежы, якою ён з птушкамі ў садзе і ў лесе дзяліўся. Які шчаслівы быў Самко! Ён ужо забыўся на тое, што такое гора, бо ў вачах у белае апранутых манахаў ён ніколі не бачыў злосці, з іх вуснаў ніколі не злятала злых насмешак, ніколі не чуў ад іх крыўдных слоў. Як жа яму не верыць, што жыве сярод блажэнных? Яго наіўнасць часам была для іх прадметам весялосці, але ён не крыўдзіўся, бо ніхто яму не даваў адчуць, што ён смешны. Яны глядзелі на яго, як на недаразвітае стварэнне, якому спачувалі, і ніколі б не прымусілі пакутаваць, але за чалавека з яго несмяротнай душою, за чалавека, роўнага ім, яны яго лічыць не маглі. Яны былі перакананыя, што ўзнесліся высока, магчымасці іх розуму былі значна больш высокімі, чым яго. Але яны бачылі і ацэньвалі наіўнасць яго ўспрымання, якая дазваляла яму ва ўсім бачыць рай, да таго ж сэрцы іх увабралі ў сябе шмат свецкай фанабэрыі, але ў манастыры высокая сцяна і глыбокая самотнасць не давалі магчымасці яе праявіць. Так, прыяцеля сярод іх Самко знайсці не мог, быў для іх цацкаю, нямою асобаю, якую яны цярпелі ў сваім коле, акружылі ласкавасцю і міласцю, але любіць яго, ім нават у сне не прыходзіла такая думка. Аднак душа Самко не засталася шэраю, яна знайшла прыяцеля, пра якога ніхто з гэтых людзей не мог нават падумаць!

Здарылася так, што Самко аднойчы ўвайшоў у нейкую келью, дзе ляжала шмат закінутых рэчаў, і сярод смецця ён убачыў стары, напалову спарахнелы крыж. Самко пачаў яго выграбаць і ўбачыў, што гэта драўлянае ўкрыжаванне. Гэта была даўняя, простая рэч. Самко пашкадаваў гэту пашкоджаную выяву Бога. Ён паставіў укрыжаванне каля сцяны, вымыў і вычысціў яго, ■ потым і ўсю келью.. Прынёс туды хваёвых галінак, зрабіў з іх вянкі, якія развесіў па сценах, упрыгожыў каменную падлогу кветкамі, і пакой стаў нагадваць нейкую лясную святыню. Ён адчыніў акно, адтуль палілося святло, і імгненна прыляцелі птушкі, селі і зашчабяталі салодка, нібы Хрыста ўзрадаваць хацелі, што надзвычай Самко спадабалася. Ён укленчыў і страсна глядзеў на скульптуру. Твар Хрыста быў пасінелы, смутны, змучаны, вочы патухлыя, на ілбе вялікія кроплі крыві, цела было ўбогім, усе рэбры можна было бачыць, а з кален цякла кроў. Твар быў надзвычай выразны, і было ў ім, як і ва ўсім укрыжаванні надзвычай многа страсці, але вызначыць сапраўдны ўзровень і цану гэтага мастацтва было складана ў той час, як і манахі, Самко з яго наіўным сэрцам не мог.

Гэтая вялікая прастата была Самко даступнай, што сведчыла, як пра яго глыбокія пачуцці, так і свецкую недасведчанасць. Ён плакаў над пакутамі Хрыста і плакаў ад таго, што ўкрыжаване апынулася ў сметніку і забытае. Скульптура нібы зазірала ў душу Самко. Ён ужо не мог ні пра што думаць, акрамя гэтага вобраза Бога, і падчас працы ў садзе або калі хадзіў па дровы ў лес. Пасля абеду манахаў ён прыйшоў аднойчы туды з міскаю і сеў на падлогу. Але ад жалю не мог есці. Ці не церпіць ад голаду Хрыстос на крыжы? Самко ад болю анямеў. Ён узняўся і пайшоў праз пакой, нібы ў сне. Узняў свае

сарамлівыя вочы на Збаўцу, вочы напоўніліся слязьмі, а вусны прашапталі нясмела:

– Бедны, на цябе забыліся! Ці не пакутуеш ты ад голаду? Ты такі бледны, такі бледны! І, рыдаючы, узняў сваю міску да Збаўцы і сказаў:

– Дарагі госць, ці не будзеш ты есці?

І тут схіліў драўляны Хрыстос свой змучаны твар, які раптам пасвятлеў ад невыказна прыгожай усмешкі, вусны яго дакрануліся да ежы, і Гасподзь паеў. Самко быў шчаслівы. З таго дня ён ведаў, што такое поўнае, вялікае, неабсяжнае шчасце. Сэрца яго раскрылася, як цудоўная ружа, душа яго расла як бязмежнае неба і была, як і яно, поўнае зорак! Кожны дзень ён кленчыў перад крыжом і раскрываў скарб сваіх пачуццяў, невядомых людзям, перад нагамі Збаўцы, як дарагі бальзам Усходу. Словы, якія ніколі ніхто не чуў, вырываліся з яго вуснаў, спявалі прыгажэй за пошчак салаўя, звінелі ў грудзях, ён знайшоў не чалавечыя выразы, а тое магутнае, што можа параўнацца з сілаю арла і віхуры, што ўзносіла яго да лазурных вышынь з дыямантавым ззянем, і ўся глыбіня гэтых нябёсаў знайшла месца ў душы чалавека, прыяцелем якога быў Хрыстос! А Хрыстос, што трымае на сваіх далонях свет, пра веліч якога людзі не ведалі, быў штодзень госцем наіўнага Самко, штодзень еў з усмешкаю з яго міскі. Цяпер Самко ўжо і не здзіўляўся, што ён у раі, і ўсюды: у садзе, у лесе, у манастырскіх калідорах бясконца паўтараў з захапленнем:

– Цярністым быў шлях мой, але дайшоў, дайшоў я да нябёсаў!

Калі б людзі гэта пачулі, то смяяліся б з яго чым далей, тым больш, але ён гэтага не ведаў.

А тут завіталі аднаго дня тры чужыя біскупы ў манастыр, дзе добра пагасцявалі. Кожны дзень была вялікая бяседа, і аднойчы, разгарачаныя віном, расказалі ім манахі пра Самко, пра тое, што той думае, што жыве ў раі, і што лічыць, што яны блажэнныя. Смяяліся доўга, а адзін з біскупаў пажадаў убачыць наіўнага Самко. Яны ўзняліся ад стала і пайшлі ў сад пашукаць цень пад шумлівымі дрэвамі і халадок ля фантана. Праходзілі яны каля келы, дзе Самко з Хрыстом размаўляў пра сваю ежу і дзяліўся з ім ёю.

Адзін з манахаў прыслухаўся і пазнаў голас Самко, падаў знак, каб усе змоўклі, і ўсё таварыства наблізілася са стрыманым смехам да дзвярэй пакоя, дзе быў скразняк. Самко, павярнуўшыся да ўкрыжавання тварам, не бачыў дзвярэй і не ведаў, што за імі робіцца. Але біскупы і манахі, настроеныя на смех, паглядзелі на твар, ахопленыя жахам, бо ўбачылі Хрыста на старым крыжы, вакол якога было ззянне, а сам ён, схіліўшыся да Самко, казаў:

– Я ў цябе, у тваім раі, быў доўга госцем, мой Самко, цяпер будзеш госцем у мяне ты, у маім раі, дзе застанешся назаўсёды са мною.

Самко ўсміхнуўся, а пачуўшы за сабою шум, азірнуўся, то ўкленчылі манахі і біскупы. Усе ўбачылі, як папрыгажэў Самко, вочы ў яго свяціліся, як зоркі, валасы былі, нібы промні сонца, а адухоўлены твар выражаў бясконцую дабрыню і меў тую бледнасць, якая з'яўляецца ў людзей праз адрачэнне ад жыцця і доўгіх пакут. Ва ўсіх на вачах былі слёзы, і здзіўляліся манахі, наколькі былі сляпымі! Бяльмо знікла з іх вачэй, і яны зразумелі, як высока ўзняўся над імі ўсімі гэты просты, набожны, горача і наіўна любячы Бога Самко. Яны

ўвайшлі ў келью, кланяліся яму і падалі перад цудоўным укрыжаваннем на калені. Але Самко іх не разумеў, вочы яго блудзілі, душа яго імкнулася да раю, куды клікаў яго Хрыстос, вялікі Гасподзь. Біскупы падтрымалі Самко, а прыёр манастыра сказаў урачыста:

– Ты паміраеш і не можаш ужо быць сярод нас! Інакш мы б цябе насілі на руках! Душа твая адыдзе ад нас да Бога! Цела тваё застанецца тут, і будзь упэўнены, што паставім табе помнік з мармуру і бронзы на тваёй магіле.

Паміраючы Самко затрос галавою.

– Пахавайце мяне на скрыжаванні, – сказаў ён, – гэта апошняя мая просьба.

І заціх. З вуснаў яго сарваўся ціхі свіст. Гэта быў яго апошні ўздых. Больш не зварухнуўся. Сцяна за ім знікла, і манахі ўбачылі там неба цёмна-блакітнае, амаль чорнае, падаў негусты дождж з надзвычай прыгожых зорак, і сярод гэтых зор можна было ўбачыць белы прывід Збаўцы, з нечым падобным на светлую ўсмешку, і гэты прывід кінуў жменю пазалочаных зорак, і ўжо не сцежкаю, поўнаю пакут, а лілеямі ўзнеслася душа Самко, поўнымі выключных пахаў, белымі, як промні, лёгкімі, як птушкі!

Цэлую ноч правялі манахі ў малітвах. Раніцаю апранулі цела таго, чыя душа была з Хрыстом, у белае адзенне і пахавалі на перакрыжаванні, як пажадаў Самко. Прыгадвалі яго нябесна чыстую ўсмешку, сумную і даверлівую, з якою выказаў сваё апошняе пажаданне, і дарэмна пыталіся адзін у другога, чаму гэты чалавек, якога любіў Бог, быў непазнаны светам. Не здагадаліся. Не здагадаліся, што ў апошнія імгненні свайго зямнога быцця, нібы адразу ўбачыў сваё жыццё і яго вынік зразумеў. Ён хацеў, каб пасля смерці па ім тапталіся так, як па яго сэрцы, па яго жыцці. Заўсёды яго білі, таптаді, прыніжалі, жорсткія ўдары высякалі іскры з яго сэрца, а ў выніку высеклі іскры любові, якія асвятлілі яму пакутніцкую дарогу ўначы, што і прывяла яго ў рай.

## Алоіс Ірасэк
## (1851–1930)

Празаік, драматург, заснавальнік гістарычнага рамана ў чэшскай літаратуры

Алоіс Ірасэк нарадзіўся ў Гронаве 23 жніўня 1851 года. Творчы шлях пісьменнік распачаў вершамі, якія пісаў пад уздзеяннем творчасці Карэла Гінэка Махі і Карэла Яраміра Эрбэна. Першы зборнік прозы пад назваю "Апавяданні з гор" выйшаў з друку ў 1878 годзе. Паступова Алоіса Ірасэка ўсё больш і больш вабіць гістарычная тэматыка, і ён ад апавяданняў на гістарычную тэму пераходзіць да жанру рамана і раманных хронік, якія прысвечаны гусіцкім войнам і тэме нацыянальнага адраджэння. Найбольш вядомыя з іх "Скалы" (1886), "Псаглаўцы" (1884), "На ваяводскім двары" (1877), "Скарб" (1881), "Супраць усіх" (1893) і інш.

Вядомасць пісьменніку прынеслі і драматычныя дворы, напісаныя ў асноўным на гістарычную тэму. Сярод якіх "Калыска" (1891), "Ян Жыжка" (1903), "Ян Гус" (1911), "Ян Рогач" (1914) і інш.

Асаблівае месца ў творчасці Алоіса Ірасэка належыць кнізе "Даўнія чэшскія паданні" (1894), дзе змешчаны таленавіта апрацаваныя мастаком слова матэрыялы старажытных чэшскіх хронік, твораў вуснай народнай творчасці. "Паданні" падзяляюцца на тры цыклы: даўнія чэшскія паданні, паданні пра старую Прагу, старажытныя паданні і легенды.

# Даўнія чэшскія легенды і паданні

## Пра чэхаў

### I

За Татрамі, на раўніне, на якой працякае рака Вісла, ад векапомных часоў існавала харвацкая краіна, частка даўняга вялікага паселішча славян. Жылі ў гэтай харвацкай краіне некалькі плямёнаў, аб'яднаных мовалю, звычаямі, ладам жыцця.

І здаралася, што ўзнікалі паміж імі звадкі і крывавыя бойкі за тэрыторыю і спадчыну. Ішлі год за годам, сваякі ваявалі са сваякамі і знішчалі адзін аднаго.

У гэты час два браты з моцнага роду, абодва ваяводы, Чэх і Лех, разам прынялі рашэнне пакінуць родную зямлю, ахопленую крывавымі бойкамі. Яны сказалі: "Пашукаем сабе новыя месцы для жыцця, каб наш род жыў у міры і займаўся справамі".

І былі яны звыклымі да таго, каб добра клапаціцца пра зямлю, вырошчваць розныя гатункі зерня, даглядаць коней і гурты дробнай і буйной жывёлы.

Як вырашылі, так і зрабілі. Сабраўшы сваё племя, далі клятву багам, вынеслі выявы дзядоў, і развітаўшыся з бацькоўскаю зямлёю, пайшлі на захад сонца, у незнаёмы бок. Ішлі з імі побач род за родам, выхадцы з паважаных сем'яў, усе сябры і радня. Наперадзе вопытныя і ўзброеныя мужчыны, пасярод ваявода Чэх, сівабароды, але статны і моцны, яго брат Лех, а вакол іх кіраўнікі, старасты роду, усе конна. За імі – старыя, жанчыны і дзеці на дрэнна апрацаваных драбінах або конна, гурты жывёлы, а прыканцы – зноў узброеныя мужчыны. Яны ехалі каля селішчаў плямёнаў, сваіх сваякоў, пакуль не перайшлі мяжу харвацкай краіны, потым перабраліся на другі бераг ракі Одра і ўступілі на незнаёмую ім гарыстую мясцовасць.

І тут яны знайшлі паселішча, дзе жыхары размаўлялі на блізкай ім мове, а далей убачылі іншыя сялібы ў мясцовасці ўздоўж ракі Лабы. Калі ж яны перайшлі і гэтую раку, то зразумелі, што тут мясцовасць пусцейшая, бо паселішчаў убачылі няшмат. Сялібы былі раскіданы далёка адна ад другой, а жыхары іх размаўлялі на іншай мове, апраналіся ў скуры, іх было няшмат, але яны былі смелымі і адважнымі і моцна трымалі зброю ў руках. Чэх і Лех гэты люд пабілі, знішчыўшы іх бедныя хаціны і выкапаныя ямы, і пайшлі далей, пераходзячы з лесу ў лес.

Цяжкая дарога вяла праз дрымучыя лясы, праз лугі і балоты, парослыя асакою і чаротам, па зямлі, парослай імхом і непралазным кустарнікам. Увечары яны запальвалі вогнішчы і палілі іх аж да ранку, каб полымя, асвятляючы лясны гушчар, палохала злых, падступных вядзьмарак.

Такім чынам яны падышлі да трэцяй вялікай ракі Влтавы, якая дзіўна цякла. Калі перайшлі раку, то ўсе па чарзе пачалі скардзіцца на тое, што няма канца і краю гэтай цяжкай дарозе і нідзе пакуль не было добрага адпачынку.

Тады ваявода Чэх паказаў рукою на высокую гару, якая ўзвышалася над шырокай раўніннай мясцовасцю і сказаў: "Пойдземце да той гары, там дадзім дзецям і гуртам жывёлы адпачынак".

Яны дайшлі і паклаліся спаць пад гарою, якую назвалі Ржып. Ваявода і старшыні роду аглядалі глебу вакол гары і заўважылі, што яна ўрадлівая. Раніцаю на золку Чэх накіраваўся на вяршыню гары пад назваю Ржып праз прыціхлы лес, запоўнены начной вільгаццю.

Калі ўзняўся на гару, ужо развіднела, ён паглядзеў і ўбачыў: перад ім на недасяжную шырыню аж да сінеючых удалечыні гор раскінулася зямля, роўная і вольная, а на ёй лес, нівы і лугі. Буйная зяляніна адкідвала на раку цень, нібы разлітае срэбра.

І ўзрадаваўся прабацька Чэх, убачыўшы цудоўную мясцовасць і падзякаваў багам за тое, што атрымаў для свайго роду і будучых пакаленняў.

Калі спусціўся ўніз, то расказаў пра ўсё, што ўбачыў. На наступны дзень многія пайшлі ўздоўж гары, каб даведацца як мага больш пра наваколле. Тое, пра што яны даведаліся, прыйшлося даспадобы: у вадзе шмат рыбы, глеба ўрадлівая. Такім чынам, мясцовасць, з якой людзі азнаёміліся, здалася ім вельмі прыгоднай для сталага жыцця.

На трэці дзень, калі сонца ўзышло над лесам, паклікаў Чэх брата і старэйшын і загадаў сабраць народ. Прывёўшы людзей на месца, адкуль зямля была бачна ад края да края, сказаў ім наступнае:

– Вы ўжо не будзеце скардзіцца, бо мы знайшлі мясцовасць, дзе застанемся і пабудуем свае сялібы. Бачыце, што гэта менавіта тая зямля, якую мы шукалі. Я часта казаў і абнадзейваў вас, што прывяду на такую зямлю. Гэта багамі абраная зямля, тут багата птушак і звяроў, тут поўна мёду. Мы будзем жыць заможна і зможам добра абараняцца ад ворагаў. Вось гэтая зямля для нас. Яна толькі не мае назвы, але павінна яе мець.

– Тваім! Няхай тваім імем завецца! – закрычаў нібы прасветлены багамі, стары з доўгай белай барадою, самы стары з усіх старэйшын. І тут усе старэйшыны і просты люд закрычалі нібы адзіным голасам:

– Тваім! Тваім імем!

– Няхай будзе названа ў твой гонар!

Ваявода Чэх, усцешаны воляю ўсяго народа, укленчыў і пацалаваў зямлю, новую радзіму свайго племені. Пацалаваўшы, узняўся з калень, і, працягнуўшы руку, каб паказаць шырыню зямлі, выказаў сваю волю і пажаданне:

– Жыві і красуйся, святая зямля, нам дарагая! Захавай нам здароўе, ратуй нас ад хвароб, і хай нас будзе цэлы народ, і народ ад народа на стагоддзі!

Радасна паставіў на зямлю выяву продка, што людзі беражліва неслі са сваёй далёкай айчыны і запаліў вялікі агонь. Усе радаваліся і прыносілі ахвяры дзеля будучага дабрабыту.

## II

І пачалася цяжкая і руплівая праца. Калі падзялілі зямлю, то пачалі яе апрацоўваць. Лес або высякалі або выпальвалі агнём, пні выкарчавалі, лугі і палі ўскапалі, на наступны год іх узаралі.

Хутка будавалі жыллё, узводзілі сцены і крылі іх саломаю. Кожны род сяліўся на асобным надзеле зямлі.

Сады, ралля і лугі былі спадчынаю, сумеснай маёмасцю кожнай сям'і і аднаго роду, а лясы, пожні, рэкі і азёры агульнымі. Што вёска – то род.

Дамы і хлявы, стайня, дрывотня, гумно былі агароджаны плотам, сплеценым з прутоў або з ссечаных брусоў. Штогод каля сяліб павялічвалася поле і штогод зямля давала лепшы ўраджай. Жытам, пшаніцаю, ячменем, аўсом і просам хваляваліся шырокія палі, побач зелянелі калівы гнуткага ільну і высокіх канопляў, а на гародчыках стракацелі кветкі мака.

На лугах і ў ліпавых гаях чулася гудзенне пчол, якіх трымалі не толькі ў лясных борцях, але і ў саламяных вуллях або ў калодах, зробленых з камлёў дрэў. Штогод павялічваліся гурты дробнай і буйной жывёлы, а на выганах ля агароджы за вёскай хутка праносіліся коні.

Вызначаны стараста правяраў кожнага прадстаўніка роду і яго маёмасць. У гонар роду пачыналася і завяршалася малітва, даваліся абеты. Жыхары вёскі запрашалі да сябе гасцей, у вёсцы існаваў суд і размяркоўвалася праца. Перад кожным ставілася задача, і кожны выконваў сваю справу. Жанчыны займаліся хатняй гаспадаркай, пралі, рабілі палатно і сукно, шылі сукенкі, кашулі, мужчынскія і жаночыя спадніцы, каптаны і кажухі. Мужчыны даглядалі жывёлу, змагаліся з вядзьмаркамі, працавалі на полі, у лесе заганялі дзікіх звяроў і забівалі іх тым, што травілі, кідалі стрэлы, дзіды, рабілі сілкі і выкопвалі ямы, куды траплялі найчасцей ваўкі, самыя небяспечныя забойцы жывёлы.

Жыццё кіпела як на вёсцы, так і за яе межамі. З пашы чуўся голас пішчалкі або доўгай пастушай трубы, у палях, на лугах і ў садах чуліся спевы моладзі. Толькі пасля абеду ніхто не спяваў у хвіліны глыбокай цішыні, калі выходзілі вядзьмаркі, што выкрадалі дзяцей апоўдні, і нясліся ў белых вопратках як светлыя цені над палямі да людскога жытла, каб пакараць непаслухмяных дзяцей; калі выходзілі дзіўныя, жудасныя жанчыны з вялікімі галовамі і рознымі вачыма, якія дасылалі людзям страшны плач, калі з'яўляліся чароўныя залатавалосыя лясныя панны з вяночкамі на галаве і ў белай вопратцы.

Гэтых вельмі баяліся, але баяліся і злых лясных феяў з вырачанымі вачыма, і заблукалых душ, якія блакітнымі агеньчыкамі мільгацелі на балотах, і ў страху абміналі возера або лясны вір, дзе ў ценю старых дрэў і кустоў падпільноўваў вадзянік, змяняючы сваю знешнасць, і дзе заманьвалі на пагібель вадзяныя бледныя панны ў зялёным.

Але найбольш людзі баяліся Перуна, гаспадара навальніцы і бляску маланкі, "пасланага багамі", і іншых магутных шэльмаў, якія рабілі слабым цела чалавека, яго косці, а розум затуманьвалі. Таму і прасілі зміласцівіцца багоў, асабліва Вялеса, прыносілі ім у якасці ахвяры чорную курыцу або голуба, забівалі казла, каб ахоўвалі гурты жывёлы ад мору і дапамагалі ім.

Менш праблем было за агароджаю вёскі. Хаты ахоўвалі дамашнія багі, прадзеды, душы продкаў, іх статуі стаялі на пачэсным месцы каля агню. Шчасце дому прыносіў і бажок, які заўсёды пасміхаўся, такі маленькі ідал з

кіпцямі на руках і нагах; і гном, што клапаціўся пра статак, наглядаў і карміў жывёлу, але затое людзям перашкаджаў спаць уначы. А пакуль жыў пад печчу або пад ганкам вужака, стары гаспадар, у доме захоўваліся шчасце і дабрабыт.

Калі ж ападалі восенню лісты з дрэў і густая імгла апускалася на палі, калі зямля пакрывалася снегам і прырода засынала, сем'і збіраліся разам у вялікіх дамах з драўлянай столлю і зачыненымі вокнамі.

Вялікая каменная печ была запалена, і агонь асвятляў памяшканне. Рудыя водбліскі жару мігацелі на сценах, дзе віселі світкі, упрыгожаныя цёмнымі скурамі, цеціва і лук, драўляныя трубы ў мяхах са скуры барсука, кароткі меч, магутная дзіда і цяжкі каменны шчыт. Каля парога віселі рогі аленя і зубра, адкідаючы на сцены крывыя цені.

У мільгаценні святла жанчыны пралі, а мужчыны выпраўлялі гаспадарчыя прылады, зброю, або пасля цяжкага палявання адпачывалі. Шмат было размоў і старых песень. Паляўнічыя апавядалі пра засаду на мядзведзя і зубра або пра лесуноў, якія могуць пры дапамозе чароўнага кораня настолькі заблытаць паляўнічага і завесці яго ў непраходныя нетры, што ён ніколі не вернецца дахаты з дрымучага лесу.

А стары з белымі валасамі і белаю барадою ў сваіх думках лунаў па далёкіх краях сваёй сапраўднай радзімы, прыгадваў свае першыя сутычкі і бойкі, статных волатаў, моцнага ваяводу, успаміналася яму, як ён прачнуўся апоўначы перад боем, апрануўся адпаведна і пачаў выць, як воўк, а воўк азваўся воем і распачала выць цэлая зграя.

І ішла далей гутарка пра розных прывідаў у цёмнай начы, на балотах, у шырокім полі і лясных нетрах, пра агніва, якое нясецца ў цёмнай начы, пра злую каргу, якая сцеражэ жывую і мёртвую ваду, пра белых прадракальнічак, што з'яўляюцца ля калыскі немаўляці, пра чарадзейных вядзьмарак, пра злыя і добрыя знакі, і з жахам слухалі тыя, хто сабраўся ў хаце, таемныя прароцтвы роду і племя.

Калі агонь згасаў, то людзі клаліся на ложкі, засланыя скурамі, памаліўшыся продкам, душы якіх беражліва ахоўвалі нашчадкаў. Жыла і квітнела еднасць крыві, любоў сям'і да кожнага пакалення, якая яднае жывых з мёртвымі, сённяшні час з тым, які даўно мінуў.

Вёска, агароджаная плотам, заваленая снегам, сціхала ў начы, толькі чуўся брэх сабак, якія адчулі ваўка, што прыйшоў, бліскаючы зялёнымі вачыма, або недзе кароткім піскам азвалася выдра.

Часам снегу і ільду, доўгага змроку і ночы апекавалася Маржэна, аж пакуль бог сонца не пачынаў усё магутней і цяплей глядзець на твар зямлі. І ператвараўся ў ваду лёд, весяліліся ва ўсіх вёсках, ва ўсім племені. З песнямі ішлі людзі да вады, да вольных ад ільду рачулак і рэк, кідалі ў іх сімвалы зімы і смерці і раднаснымі крыкамі гукалі Вясну, добрую багіню абуджанай прыроды.

Калі сонца ўздымалася высока, на шырокіх палях і лугах буйна зацвіталі кветкі, услаўляючы паўсюль новае кола сонцавароту.

Ноч перад самым доўгім днём была напоўнена дзівосамі. Кветкі, напоеныя расою, набывалі чароўную сілу, вяшчунскую і гаючую, і ратавалі як чарнабыль, маці ўсіх зёлак, ад бесаў і злых духаў, надзвычай моцных асабліва ў

таямнічыя ночы, і ад вядзьмарак, якія раіліся на халмах і ў цёмных норах. У змрочныя гэтыя ночы свяціліся на ўзгорках вялікія агні з вогнішчаў. Іх жар разыходзіўся далёка, і далёка чуліся спевы заручаных юнакоў і дзяўчат, якія, танцуючы вакол іх, усхвалялі сілу божага сонца, што дае жыццё і каханне, сонца жыцця.

Пасля летняга сонцазварота пачыналася жніво, затым прыходзіла халодная восень, і надыходзіў час зімы. Год ішоў за годам. Род павялічваўся, множылася племя чэхаў. Народ пачалі вабіць новыя паходы, бо зямлі ўсім не хапала. І разыходзіліся роды, плямёны ішлі ў розныя бакі, на поўнач і поўдзень, усход і захад, праз рэкі і горы і засноўвалі новыя сялібы.

І вежы і крэпасці будаваліся як рэзідэнцыя стараст, для абароны межаў і для аховы наогул, у прыватнасці, каб там маглі схавацца жанчыны, старыя і дзеці, каб туды можна было загнаць гурты жывёлы, каб вораг не мог уварвацца на тэрыторыю. Гарадзішчы будавалі на астравах каля рэк або ў раўніне паміж лясамі, паміж вадою і балотам, дзе не было дарогі і можна было прайсці толькі вузкаю грэбляю. Вакол гарадзішчаў насыпалі высокія валы, часта трайныя, з магутнымі сценамі, зробленымі з велізарных бярвенняў, а наверсе ўмацоўвалася зброя.

Малодшы брат Чэха, ваявода Лех, з вялікай групай людзей пайшоў далей на ўсход сонца. Ваявода Чэх з неахвотай іх адпусціў, але браты развіталіся па-сяброўску, старэйшы прасіў, каб малодшы далёка ад яго не адыходзіў, бо толькі ў такім разе ён са сваім родам можа прыйсці на дапамогу, калі распачнецца бой з ворагамі.

І сказаў, звяртаючыся да сваякоў Лех:

– О мае дарагія браты і сыны зямлі чэшскай! Я ніколі не забудуся, што я з вашага племені. Таму і не хачу далёка ад вас адыходзіць, бо трэба, каб ведалі вы пра мяне і я пра вас. Я дам вам знак, паведамлю пра тэрыторыю, дзе мы спынімся. На трэці дзень пасля нашага адыходу ўздымiцеся на Ржып, калі будзе добрае надвор'е. Я запалю ў лесе вялікае вогнішча, і калі ўбачыце бляск агню і дым, то ведайце, што мы знаходзімся там.

Калі ў вызначаны дзень перад світаннем людзі ўзышлі на Ржып і азірнуліся па баках, то ўбачылі паміж усходам і поўднем у імглістай далечыні рудое полымя, якое па небу разлівалася густым дымам.

А калі развіднела, то ўсе ўбачылі ў тым баку чорныя хмары над азораным небам, то быў дым ад вялізарнага вогнішча, якое ваявода са сваім родам запаліў. У тым месцы Лех застаўся і пачаў будаваць крэпасць, якую ахоўвалі вялікія валы, а ад таго курэння дымам назвалі гэтае месца Коўржым.

### III

Прайшло трыццаць год з таго часу, як ваявода Чэх заснаваў чэшскую краіну. І калі яму споўніўся восемдзесят шосты год, то надышоў час яму адысці на пакой, і ён памёр. Народ цяжка перажываў такую страту. Чэха аплакалі як свайго бацьку, кажучы:

– Ты быў для нас ваяводам і бацькам, ты прывёў нас на гэтую зямлю, ты быў справядлівым і верным кіраўніком свайго народа і свайго племені. Але прыйшло гора, хто цяпер будзе намі кіраваць і хто будзе пра нас клапаціцца!

І не было нікога, хто не смуткаваў. Людзі верылі, што душа ваяводы адышла да раю, месца, дзе заўсёды вясна, каб быць там заўсёды ў пашане, якую нябожчык меў на зямлі. Таму і апранулі Чэха ў новае адзенне, у светлы плашч, у спадніцу падперазаную шырокім поясам, што блішчэў ад ланцужкоў і металічых аздоб, у прыгожа афарбаваныя панчохі і чаравікі. На галаву з сівымі доўгімі валасамі і доўгаю сівою барадою апранулі сабаліную шапку.

Такім чынам апранутага перад змярканнем нябожчыка пасадзілі на высокую кладку дроў, якую накрылі вышыванымі покрыўкамі, пасадзілі ў гаі, цёмным ад разгалістых ліп і дубоў, бліжэй да дарогі, што разыходзілася ў тры бакі, каб адпачывала душа. Перад ім паклалі каравай хлеба, мяса і цыбулю, прынеслі зброю; дзіду, меч, молат і чорны шчыт і ўсё паклалі збоку.

Калі забілі пеўня і курыцу і паклалі на кладку дроў, то самы блізкі сваяк ваяводы запаліў кавалак дрэва і, трымаючы яго ў правай руцэ, паступова набліжаў агонь да кладкі, пакуль не падпаліў яе, левую пры гэтым трымаў за спінай. Калі дрэва загарэлася, то падыходзілі астатнія і кідалі запаленыя лучыны ў вогнішча.

Як толькі падзьмуў моцны вецер, полымя ўзнялося высока, затрашчала дрэва, дым узняўся яшчэ вышэй і ахутаў цела мёртвага ваяводы, які апошні раз сядзеў перад сваім народам. Вакол гаравалі і плакалі, жанчыны спявалі тужлівыя песні.

Калі вогнішча пагасла, людзі сабралі косці, попел у папельнічку, зброю і ўпрыгожанні і паклалі ўсё ў труну, і, засыпаўшы труну зямлёю, зрабілі высокую круглую магілу. Калі з пахавання вярталіся з цёмнага гаю ў час змяркання, то збіралі камяні і лісце і кідалі іх праз галаву назад, і ніхто не азірнуўся.

Пазней да магілы часта прыходзілі людзі, плакалі, кланяліся свайму ваяводзе, а яго імя перадавалася з пакалення ў пакаленне.

## Дом Фауста

*Прага!*
*Гэтае імя як песня. Гэты просты гук*
*хвалююча кранае струны чэшскай*
*душы, і сэрца радасна трапеча.*

*Сватаплук Чэх*

Той стары дом стаяў на Скалцы прыканцы Дабытчыга кірмашу, на рагу, насупраць манастыра На Слованах. Ніхто ў ім даўно не жыў, і таму будынак здаваўся трухлявым і пахмурным. Чырвоная калісьці страха ад часу пацямнела, сцены патрэскаліся, вокны зацерушыла пылам, і ад дажджоў яны сталі сляпымі, пакрыліся павуціннем. Цяжкія дубовыя вароты з моцнымі цвікамі ніколі не адчыняліся, як і невялікая брамка ў іх, ніхто не спыняўся, каб пастукаць жалезным, па-мастэрску зробленым малатком.

За варотамі было пуста і ціха; сабака там не брахаў, певень не спяваў. А перад варотамі расла паміж камянёў трава.

Пахмурна таксама выглядаў гарод за домам, з таго боку, дзе праходзіў шлях, насупраць манастыра На Слованах. Ніхто яго не даглядаў. Не былоградак, кветнікаў і зеляніны. І сцежкі паміж імі пазнікалі, зараслі травою. Паўсюль толькі трава, буйная, высокая трава, у якой патанулі камялі старых явараў, ліп і садовых дрэў, камялі і галіны дрэў зараслі лішайнікам і мохам.

Толькі вясною, калі ўсё пакрывалася квеценню, калі ў буйнай траве, нібы золата, узышлі дзмухаўцы, калі ад казінага бляяння балела галава, здавалася весялей. Затое восенню, калі падала лісце, калі яно засыпала ўсё навокал, калі неба было пахмурным і цяжкім, а вецер нізка нагінаў голыя кроны, ад самай раніцы змрочна было ў цэлым доме!

Смутак ішоў і ад гарода і ад будынка, і дзіўная туга находзіла на людзей. Гэта месца было праклятым, а ў начы яго абыходзіў дух доктара Фауста, які не меў пасля смерці спакою, як і пры жыцці. Доктар Фауст жыў у гэтым доме калісьці. Займаўся чараўніцтвам, даследаваў чарадзейныя кнігі, а аднойчы паклікаў чорта і аддаў яму сваю душу. За гэта чорт яму служыў і выконваў усё тое, чаго доктар жадаў і пра што думаў. Але калі надышоў час, д'ябал сказаў: "Дастаткова, пайшлі!"

Доктару Фаусту гэтага не хацелася, таму бараніўся, як мог і ўмеў. Чытаў заклёны, загаворы, але нічога не дапамагала. Чорт схапіў яго і моцна трымаў, і калі Фауст яшчэ дасылаў праклёны, вывалак яго з дома, але не праз дзверы, а праз столь. Такім чынам, Фауст атрымаў тое, што хацеў: чорту ён прадаўся і чорт яго забраў.

А тая дзіра, праз якую яго забралі, засталася. Некалькі разоў ад яе пазбаўляліся, але пасля гэтага кожны раз як на дзіва з раніцы ўсё высыпалася і чорная дзіра заставалася такою ж, як і раней. Пазней здзіўленне прайшло, ■ з'явіўся страх, асабліва пасля таго, як ля дома пачаў з'яўляцца дух Фауста. Кожную ноч ён з'яўляўся, палохаў, і ні адзін з гаспадароў не мог пераадолець страх і застацца жыць у яго доме.

Пазней ніхто туды не засяляўся і стары будынак заставаўся пустым. Усё прыйшло ў запусценне, састарэла. Ніхто нават не зазіраў, кожны імкнуўся абысці, асабліва ўвечары і ноччу. Аднойчы тым не менш, было гэта восенню, рана цямнела, спыніўся ля брамы Фаўставага дома малады мужчына, студэнт. Пра тое, што быў ён бедны, можна было здагадацца па яго пацёртым трохвугольным капелюшы, па зношаным сурдуце, па сцёртых да бляску штанах да калена, па шматразова рамантаваных панчохах, па зношаным абутку.

Быў бедны, амаль жабрак, як валацужны сабака. Не было ў яго ніякага жылля. Плаціць не мог, і таму яго адусюль выганялі. Ён хадзіў па Празе ў пошуках прыстанку, прасіў, каб далі яму магчымасць пераначаваць, але паўсюль яго не хацелі чуць, ніхто яму не дапамог. Так ён правёў цэлы дзень і смяротна стомлены спыніўся перад домам Фауста. Як ён сюды трапіў, нават не ведаў.

Змяркалася, імжыла, і дзьмуў напоены вільгаццю пранізлівы вецер. На ім быў зусім зношаны студэнцкі сурдут, які ён не мог зашпіліць аж да шыі, а

бедныя чаравікі набраклі вадою. Студэнт да жудасці баяўся зімы. Дождж рабіўся шпарчэйшым, цямнела, дзе ж пераначаваць у гэты восеньскі вечар?

Не было месца, дзе б ён мог прытуліць галаву. Студэнт агледзеўся па баках і спыніў позірк на старым пахмурным доме. "Сюды цябе не пусцяць", – падумаў ён, і горыч ахінула маладога чалавека. Хвіліну вагаўся, потым узяўся за ручку, дзверы расчыніліся, і ён апынуўся ў скляпеністым праходзе. Было суха і не дзьмуў вецер. І калі ён адважыўся, то пайшоў далей. Па лесвіцы, парэнчы якой былі з правага боку ўпрыгожаны дзіўнымі скульптурамі, ён трапіў на калідор. Ён быў доўгім і канец яго быў не бачным у шэрым змроку. Па абодвух баках калідора быў цэлы шэраг цёмных дзвярэй, якія вялі ў пакоі. Было ціха і пуста, з двара і запусцелых гародаў даносіўся грукат ветру.

Студэнт хвіліну разважаў, потым смялей націснуў ручку найбліжэйшых дзвярэй і ўступіў у пакой. Пад скляпеністаю столлю цямнела, вакол было шэра, толькі сцены былі да паловы абліцаваныя дубам, а амаль уся мэбля (стары стол, скрыня і лавы ўздоўж сцяны) была з цёмнага дрэва. Ля стала чарнела крэсла з высокаю спінкаю.

Студэнт пастаяў хвіліну ля дзвярэй, потым увайшоў далей і сеў у крэсла. Ён агледзеўся, пачакаў, паслухаў. У доме ніхто не азваўся і ніхто не з'явіўся. Толькі звонку свісцеў вецер ды дождж грукатаў і плёскаў у вокны. Студэнт у крэсле чакаў, прыслухоўваюся, аж пакуль стомленасць не перамагла яго і галасы ветру і дажджу не сціхлі. Заснуў.

Ён спаў да адзінаццаці, праспаў поўнач, спаў аж пакуль не развіднела, і нічога, абсалютна нічога яго не патурбавала. Раніцаю ён не зразумеў, дзе апынуўся, а калі ўспомніў, дзе правёў спакойную ноч, задумаўся. Студэнт не ўцёк з дома, а з цікавасцю зазірнуў у суседні пакой. Пакой быў абсталяваны мэбляю, і акрамя таго на сценах, некалькі збляклых, віселі зчарнелыя ад часу карціны, дзе на найбольш ясных можна было ўбачыць твары барадатых мужчын. А ад былога гаспадара, доктара Фауста, пра якога цяпер ён пачаў думаць, не было ніякага ўспамінку.

Потым наведаў трэці пакой. Тут стаяў стары ложак, пакрыты вылінялай блакітнаю тканінай, на падлозе ляжалі збляклыя падушкі, дзе паваленыя, пакрытыя пылам лавы і расчыненая старая кніга, у пажаўцелым, некалі белым пераплёце. А ў столі дзіра! Зеўрала, нібы нехта прабіў яе адразу і з вялікай сілаю.

Гэта студэнта ўразіла. Успомніў, што чуў, а цяпер убачыў, што ў пакоі ўсё, пэўна, так, як было тады, калі чорт панёс Фауста. Гэтую лаву, магчыма, ён паваліў, а гэтаю кнігаю, пэўна, шпурляў у д'ябла. Студэнт не адважыўся за ёю нахіліцца і доўга ў пакоі не затрымаўся. У пакоі побач не заўважыў нічога асаблівага, акрамя таго, што ад столі вісела драўляная лесвіца. Ён стаў на яе, узняўся па ёй, пакуль не дастаў да адтуліны ў скляпенні, якая вяла далей. Калі стаў на апошнюю прыступку, пачуў за сабою шум. Ён застыў ад жаху. Лесвіца, па якой узышоў, сама сціснулася, нібы папяровая, і знікла ў столі, а студэнт апынуўся ў іншым памяшканні, большым за папярэднія. З жахам прыгадваў лесвіцу і тое, як сюды трапіў.

Пакой быў прасторны, на створкавай столі былі намаляваны сонца, месяц, разнастайныя зоркі і нябесныя знакі. Ля сцен стаялі цёмныя шафы, поўныя кніг, па-даўняму пераплецены, малых і тоўстых; сталы з рознымі ўпрыгожаннямі з жалеза і шкла, пустыя бутэлькі і з настоямі чырвонага, залатога, блакітнага і светла-зялёнага колеру. Пасярод гэтага вялікага пакоя стаяў доўгі стол з перакошанымі палкамі паміж ножкамі, накрыты зялёным сукном. На стале блішчэў посуд з латуні і медзі, усялякія прыборы для вымярэння, побач ляжалі пажаўцелыя пергаменты і паперы, чыстыя і напісаныя, раскрытая кніга пад алавяным падсвечнікам з васкавою свячою, трохі абгарэлаю. Усё выглядала так, нібы нехта тут быў даволі даўно.

У гэтым пакоі студэнт затрымаўся надоўга. Калі зноў падышоў да адтуліны, праз якую ўзняўся, і дакрануўся да яе краю, адразу спусцілася драўляная лесвіца аж да падлогі, каб ён мог свабодна сысці. У наступным пакоі студэнт ужо не падыходзіў да ложка Фауста. Праз другія дзверы ён выйшаў у папярэдні пакой, там ён убачыў скульптуру прыгожага юнака з барабанам на плячах. Калі студэнт падышоў і дакрануўся да барабана, хлопец сагнуўся, нібы жывы, і пачаў біць у барабан. Палачкі толькі мільгацелі і барабан грукатаў, але дзіўна, што не трэслася вакно. Хлопец біў і біў у барабан, а студэнт напалохана выбег у калідор.

Адтуль ён дабег да ўваходу на пусты двор, дзе на самым краі сада стаяла студня. Засыпаныя пяском пліты, што яе акалялі, зараслі жоўтым лішайнікам і зялёным мохам, на іх нападала лісце явару і ліп, жоўтае і чырвонае, якое засыпала студню і даўнюю каменную скульптуру дзіўнай пачвары.

Студэнт прайшоў праз сад, але доўга тут не затрымаўся.

Пад старымі дрэвамі, паміж глогам і густым зараснікам пахмурным асеннім днём было нявесела. Ён вярнуўся дадому. Тут было ціха. Барабаншчык дабарабаніў. Але да яго студэнт ужо не падышоў, а вярнуўся ў вялікі пакой пад спічастым скляпеннем і прагледзеў тут пергаменты і паперы. Пад імі знайшоў гладкую бліскучую міску з чорнага мармуру, а ў ёй сапраўдны сярэбраны талер, які блішчаў, як новы.

Студэнт узрадаваўся і напалохаўся. Хвіліну падумаў аб тым, што рабіць з ім. У кішэні не было ані граша, а голад ажываў. А калі з'явіцца Фауст, або сам д'ябал!...

Ён вагаўся, баяўся, але ўсё ж узяў талер і пайшоў у горад. Увечары вярнуўся сыты, але са страхам, ці не з'явіцца ўначы нейкі дух. Студэнт зноў сеў у тое ж крэсла, як і ўчора, каб выспацца. Але заснуць як мінулым вечарам не ўдавалася, і сярод ночы ён прачынаўся. Не прыйшоў між тым ні дух Фауста, ні чорт.

Калі зноў праглядаў бібліятэку і прыборы на стале, то знайшоў у чорнай мармуровай місцы яшчэ адзін талер. Учора там быў толькі адзін-адзіны, які ён узяў, у горадзе размяняў, і нейкія дробныя грошы засталіся яшчэ ў кішэні, а цяпер, дзе ўзяў, тут і зноў ззяў мігатлівы, нібы малако, белы талер на чорнай місцы. Гэта, безумоўна, яму. Магчыма доктар Фауст яму спрыяе. Такім чынам студэнт разважыў і грошы ўзяў.

Да абеда ён пайшоў з дома і вярнуўся толькі пад вечар, несучы рэшту ад другога талера ў кішэні. А пасля пераначаваў у доме, але цяпер спакайней, чым учора. Раніцаю ён адразу пайшоў у бібліятэку, а ў ёй да стала. Ён там быў, сапраўдны талер быў там, нібы толькі адчаканены, і ляжаў зноў у чорнай місцы. Студэнт ужо не сумняваўся, што гэта для яго, і ўзяў без усяго.

І так кожную раніцу ён знаходзіў талер. Студэнту на дзень столькі не патрабавалася грошай. Што заставалася, складаў на тое, каб набыць новае адзенне, плашч, капялюш, новы абутак. Жылося яму добра. Пра жыллё не думаў. Ужо перастаў баяцца дома Фауста, звыкся з цішынёю ў ім, і калі нейкі дух пра яго клапаціўся, то ніколі не паказваўся. На зіму хапала дроў на двары і ў садзе. Ён паліў, падкідваючы дровы, каб агонь добра разгарэўся і патрэскваў у печках, што былі ў пакоях унізе і наверсе ў бібліятэцы, дзе быў камін. Студэнт чытаў і чытаў кнігі з бібліятэкі Фауста, што знайшоў на вялікім стале, і тыя, якія ляжалі ўнізе ў спальні. На апошнія адважыўся пазней, але таксама ў іх знайшоў шмат дзіўных слядоў, чароўных знакаў і заклёнаў. Са страхам ён пачаў чытаць і часам валасы паўставалі дыбарам ад гэтага чарадзейнага чытання.

Часам яму ў гэтай самоце было сумна. Але выходзіць нікуды не хацелася. Меў тут пакой і дастатковы камфорт, і яшчэ талер кожны дзень без працы!

Сябры з высокай вучэльні, дзе з'яўляўся ўсё радзей і радзей, заўважылі, што з ім адбываецца нешта дзіўнае, бо змяніўся, стаў сапраўдным франтам. Зразумелі, пачуўшы, дзе жыве, але не хацелі да яго ісці, калі запрашаў. Нарэшце цікаўнасць некаторых перамагла. Ён паказаў ім усё, ад аркі да верхняга паверху, бо ўжо сам там спаў, дзіру ў столі, пакрытую дываном, прайшоўся з імі па садзе ўсё, на што сам падчас побыту ў старым будынку патрапіў.

І апавядалі з жахам пра дзіўны таямнічы дом, пра хлопца, які сам б'е ў барабан, пра дзіўныя скульптуры, што ціха спяваюць, пра металічную паненку, якая абліваецца вадою, пра цудоўны ключ у адным з пакояў, які страляе іскрамі і раніць таго, хто да яго дакранаецца, пра пакой, у які вядзе лесвіца, што сама спускаецца і сама зноў уздымаецца да скляпення, пра дзіўныя інструменты і чарадзейныя кнігі. І пра жалезныя дзверы даведаліся, што вядуць уніз у доме да падзямелля, да доўгага, цёмнага калідора.

Толькі пра чорную міску з белым талерам студэнт не пахваліўся. Але смяяўся са знаёмых, калі яго папярэджвалі, каб тут доўга не затрымліваўся, бо ўсё да часу, што можа нешта здарыцца, што злы дух рыхтуе яму пастку.

І казалі нс дарэмна. Пастка якраз і была ў чорнай місцы.

Студэнт кожны дзень меў талер, яму не трэба было ні пра што клапаціцца, нічога рабіць. Прывык да камфорту, пачаў нешта выдумляць, паляпшаць сваё жыццё, апранацца, выдаткі павялічваліся, але ў місцы не прыбывала. Талера ўжо не хапала.

Студэнт адвык ад сціплага жыцця. Забыўся, як яму жылося, калі трапіў сюды. А працаваць яму не хацелася. Ён спадзяваўся на кнігі, на тую, што ляжала на стале ў вялікім пакоі, і на тую, якую забраў са спальні. У іх было напісана, як заклінаць і як клікаць духаў. Самі духі да гэтага часу не з'яўляліся, ён жыў у спакоі, і сам да гэтай хвіліны іх не клікаў, бо баяўся. Аж пакуль прага

золата не пачала яго штурхаць і прымушаць. Срэбра яму было ўжо недастаткова. Нават поўнай міскі талераў ужо не было б дастаткова, хацеў золата, а да таго ж меў кнігу, якая магла дапамагчы.

Аднойчы ён цэлы дзень у Празе гуляў і патраціў пазычаныя грошы; на той гулянцы ўгаворваў сваіх сяброў, прыяцеляў па папойках, каб пілі, каб не эканомілі, бо заўтра будзе ён мець грошай нашмат болей, і золата, сапраўднае золата, і не пазычанае, а сваё ўласнае, бо прымусіць таго духа, які яму дагэтуль служыў, каб даваў дукаты, а не простыя талеры...

Познім вечарам ён вярнуўся ў дом Фауста. Некалькі п'яных прыяцеляў хацела быць побач з ім. Але ён не дазволіў, бо сёння павінен быць у самоце, бо ўночы яго чакае важная праца. Яны назіралі, як ён увайшоў, як за ім зачыніліся дзверы ў цяжкай браме. І больш яго не бачылі. Ні яны, ні хто іншы. Не з'явіўся ён больш ні ў калегіі, ні сярод сваіх прыяцеляў па гулянках.

Калі некаторыя з яго знаёмых, якія ў доме Фауста ўжо былі, прыйшлі яго наведаць, то не знайшлі. У доме панавалі цішыня і закінутасць. Ад студэнта не засталося ніякіх успамінаў. Толькі ў спальні ўбачылі рассцелены ложак, падушку на зямлі, раскіданую вопратку, парваны плашч, паваленае крэсла, на падлозе раскрытую старую чарадзейную кнігу, а побач падсвечнік з абгарэлаю свячою...

Усё выглядала так, нібы нехта тут змагаўся. А ў столі! Дыван ляжаў ўнізе парваны на кавалкі, а чорная дзіра зеўрала свабодна. На яе краях, на столі людзі ўбачылі плямы, нібы туды далятала кроў. І не чорная, ■ свежая, нядаўна пралітая.

Усе перахрысціліся і напалоханыя ўцякалі з дома Фауста. Зразумелі нарэшце, як жудасна сканаў іх прыяцель. Ён хацеў выклікаць злога духа, напышліва яго паклікаў, і злы дух яму праспяваў. Знік з ім праз тую дзіру ў столі, праз якую перад гэтым выляцеў з доктарам Фаустам.

Які вялікі скарб даўніх паданняў Ты маеш, матуля Прага! Пра Цябе нашыя першыя ўспаміны. Ты – галава і сэрца Айчыны. Твая слава і Тваё прыніжэнне былі славаю і прыніжэннем усяго народа. Мілая Ты і дарагая ўсім верным чэхам. Ад веку стаіш, маці нашых гарадоў, і стагоддзі Табе надавалі прыгажосці. Чароўная Ты і надзвычай прыгожая ў сонечным верасні, чарадзейная нібы з казкі, як цудоўны сон пры святле месяца, а калі стагоддзі Твае прамаўляюць, ажно замірае сэрца.

Ну з Богам! Будзь здаровай, Ты – рэзідэнцыя нашых каралёў!

Мы пойдзем далей, да іншых мясцін, па слядах стагоддзяў, каб паслухаць іх галасы ў старых звестках.

Будзь здаровая, матуля Прага!

Залатая, славянская Прага!

## Прароцтва Сібілы

### I

Сібіла, каралева з Сабы, дасціпная і адукаваная, дазналася, што паўсюль славяць караля Саламона за яго розум. Яна затужыла па ім, і захацелася ёй яго пабачыць і пачуць. Таму і вырашыла, што паедзе да яго ў Ерусалім.

Падрыхтаваўшы вялікую колькасць апранутых у дарагую вопратку дзяўчат і ваяроў для суправаджэння, яна даручыла слугам пакласці на вярблюдаў шмат каштоўных падарункаў і рушыла ў дарогу.

Каралеўства Сібілы і горад Саба знаходзіліся ад Ерусаліма на адлегласці дзвесце сарака адной мілі на поўдзень, у Афрыцы. І шлях падарожнікаў з горада Сабы і негрыцянскай краіны пралягаў праз Егіпет паўз бераг Чырвонага мора праз арабскую пустыню, пакуль яны не трапілі ў каралеўства Саламона.

Калі каралева дасягнула Ерусаліма, то сышла са свайго паланкіна і пайшла басанож, тым самым паказваючы, што гэтае месца для яе святое. Яна дайшла басанож аж да ручая Цэдрона, праз які ляжала дрэва. Каралева з Сабы не стала па ім пераходзіць, як рабілі да яе, але ўкленчыла і пацалавала, а праз ручай перайшла ў іншым месцы.

Калі пазней яна спынілася каля гары Кальварыі, то павалілася на зямлю ад гора і ляжала, сашчапіўшы рукі, ажно тры гадзіны.

Калі нарэшце ўзнялася, то паглядзела на гару Кальварыю і, заплакаўшы, сказала:

– Вітаю цябе, о святое месца! Святое ёсць і святым будзеш спрадвеку, аж да сканчэння свету!

Саламон, даведаўшыся пра каралеву з Сабы, выйшаў да яе ва ўсім бляску са сваімі прыдворнымі і прывітаў яе з мілаю ўсмешкай і вялікаю пашанаю, сказаўшы:

– Вітаю цябе, міласцівая госця!

Сібіла пайшла з ім у двор, і там адчыніла свае скарбонкі, дзе ляжалі падарункі каралю: золата ў вялікай колькасці, каштоўныя камяні і цудоўны посуд па-мастацку выраблены, былі таксама там вострыя прыправы і кавалкі духмянага дрэва, што пацела бальзамам.

І засталася каралева ў Ерусаліме дзевяць месяцаў, а кароль, пасяліўшы яе ў самых прыгожых пакоях палаца, напоўненых паветрам і цудоўнымі пахамі, заходзіў да Сібілы, калі адпачываў у Садзе Раскошы, каб з гэтаю незвычайнаю каралеваю пагаварыць.

З частых размоў даведаўся кароль, што каралева надзвычай разумная і мудрая, а калі зразумеў, што яна можа прадбачыць будучыню, то пажадаў, каб яна яму нешта адкрыла.

Яны сядзелі ў садзе, напоўненым пахамі старых кедраў, аліў і кіпарысаў. Сібіла зазірнула ў цёмную будучыню караля і пачала аповед.

Найперш яна сказала каралю пра яго дзяржаву, пра тое, што пасля яго смерці каралеўства будзе падзелена на дзве часткі, што люд і каралі аслухаюцца Госпада, пасля чаго прыйдуць чужынцы і ўсіх зробяць рабамі і пагоняць на вавілонскую зямлю. Знікне ерусалімская слава, а храм, які ён, Саламон, пабудаваў, будзе разбураны, як і ўвесь горад. Праз шмат гадоў, калі

народ ізраільскі, бядуючы, будзе асыпаць сябе праклёнамі і звяртацца да адзінага Бога, то настане лепшы час: народ вернецца на радзіму, адновіць Ерусалім і яго храм.

– Але ўласных каралёў ужо мець не будзеце, толькі чужынцаў, а пазней рымлян. Тады, ведаеш, кароль, народзіцца Месіаш, які будзе здзіўляць і рабіць цуды. Свае яго не прызнаюць, ён будзе асуджаны на смерць. І памрэ ён на драўляным крыжы, які сам панясе на Кальварыю, журботную гару. Той крыж будзе з дрэва Адама, якое расло ў раі, а цяпер гэтая дрэва ляжыць праз ручай Цэдрон. І будуць пасля смерці Месіаша многія месцы святымі, як гара Кальварыя, на якой Збаўца аддаў Госпаду свой дух. Пасля пакутніцкай смерці Месіаша прыйдзе на Ерусалім помста Бога, а дарагі посуд, які ты паставіў у храме, будзе адвезены ў Рым. Але паганскі Рым пераможа Хрыстос, а яго вучні разыдуцца па ўсім свеце і так будзе працягвацца аж да скону.

Сібіла змоўкла з таго дня і больш нічога не сказала. Кароль, калі яна пайшла, нагадаў у памяці ўсё, пра што яна казала, загадаў паклікаць свайго пісара і пераказаў яму аповед Сібілы, а пісар запісаў. Кароль схаваў гэтыя запісы ў сваіх кнігах.

## II

Калі на другі дзень кароль Саламон зноў сядзеў з Сібілаю ў Садзе, ён папрасіў, каб яна яму сказала, што будзе з рознымі краінамі, калі настане судны дзень.

І апавядала Сібіла, як пашырыцца хрысціянства, як складзецца лёс імператараў і каралёў, што яўрэяў стане менш і ўлады ў іх не будзе, што хрысціяне з цягам часу сапсуюцца і аддадуцца распусце.

– Не будзе паміж імі веры і даверу, вусны будуць па-іншаму казаць, а сэрца – па-іншаму чуць. Права будзе прадажным, бедны чалавек прыніжаным, закатаваным і самотным. І пашле Бог шмат знакаў людзям, каб палепшалі! Калі не паслухаюць, то трэцюю частку бязбожнікаў Гасподзь знішчыць з твару Зямлі, – і Сібіла паведаміла, якія гэта будуць знакі, а калі скончыла аповед, пайшла ў свае пакоі. Саламон зноў загадаў усё, што пачуў, запісаць і схаваць.

На трэці дзень прыйшла Сібіла ў Сад Раскошы і сустрэла там караля Саламона пад тамарыскамі, кіпарысамі і алівамі. Была раніца, сонца ўзыходзіла з-за гор. Кароль зноў пачаў размову пра будучыню, і тут Сібіла сама папрасіла, каб ён паклікаў свайго пісара, і той запісаў усё, што пачуе, і гэтыя запісы хай будуць захаванымі на вечныя часы.

Калі пачала апавядаць, то змяніўся твар маладой каралевы, ён стаў белым, а вочы на ім свяціліся рознакаляровымі агнямі. Стоячы на прыступках палаца пад дрэвамі, яна натхнёна казала:

– Кароль! Гасподзь адарыў цябе мудрасцю, і да цябе і пасля цябе не будзе чалавека, роўнага з табою, колькі б ні было імператараў і каралёў. А новыя дзяржавы будуць створаны. Адна з такіх краін будзе каралеўствам славутым і моцным, урадлівая хлебам. Гэта краіна чэхаў, і будзе ў ёй у дастатку хмелю і віна. Народ гэтай краіны пабудуе шмат гарадоў, адзін з якіх будзе настолькі вялікім, што ў ім будзе звыш тысячы дамоў.

Будзе гэты горад славутым, і будзе сталіцаю гэтай краіны, таму што ў ім будуць знаходзіцца каралі. Але ад яго разыдуцца бясчынствы і шматлікія грахі. Так доўга будзе чыніцца несправядлівасць, пакуль Бог не забярэ караля, а іншага, чужынца, пасадзіць на трон. Той будзе правіць так, каб нарэшце зразумеў народ у пакутах, што патрэбна мець свайго караля.

На чэшскую зямлю ўладары прывядуць чужынцаў, якія шмат зла з сабою прынясуць. А кароль за каралём будуць работамі катаваць люд, на прыслужнікаў караля народ будзе працаваць чатыры дні на тыдзень, а на сябе толькі два дні. Адзін з каралёў пачне нечуваныя абнаўленні, якія спачатку будуць падабацца заможнаму люду, але пад абалонкаю законаў будзе знішчана старое права. Вясковы люд караля за гэтыя абнаўленні будзе хваліць, але гараджанам гэта зусім не будзе падабацца. За час яго кіравання краінай будзе агучана, што кожны мае права выбіраць сабе веру, а ён не будзе падтрымліваць духавенства і шмат духоўных каштоўнасцяў і касцёлаў за яго панаваннем будзе знішчана.

Кароль гэты загадае ўсю зямлю перамераць, і людзям будзе зроблена палёгка ў працы. Караля ў хуткім часе спасцігне смерць, памрэ ён на сваім ложку, а не ў баі. Смерць будзе людзям дзіўнай, таму што мёртвы будзе правіць за жывога.

Пасля яго прыйдзе кароль, які многае з папярэдніх нававядзенняў знішчыць. Пасля кароткага яго панавання прыйдзе кароль малады, на час праўлення якога прыпадуць вялікія войны. І будзе вясковы люд прымушаны задарма аддаваць збожжа і амаль увесь сабраны ўраджай. Будуць забіраць народ на вайну, у краіне будуць размешчаны чужыя арміі, і люд будзе змушаны карміць іх і апранаць.

У гэты час пачнуцца на чэшскай зямлі неўраджаі і Бог пашле на яе шмат агню, буры, град, шмат снегу і вялікую ваду.

Год ад году будзе ўсё горш і горш, і не захочацца старому і маладому жыць на свеце, а больш за ўсё тады, калі прыйдуць вялікія войны, і многіх гаспадароў возьмуць на вайну, аж да апошняга сына.

Але ўсё гэта жыццё народа не палепшыць. Застанецца ў сваіх пароках і адсталасці і пачнуцца вялікія перамены ў норавах. І тут Гасподзь гневам сваім напалохае і пакарае так, што ўсе гарады загінуць. Толькі Табар, Усці, Сабеслаў і Мельнік пазбегнуць разбурэння, калі за праўду і закон будуць змагацца. Кутна Гора прападзе. Плзень, Жацец, Градзец Кралове, Коўржым і Часлаў і іншыя гарады каралеўства будуць ворагамі знішчаны.

Найбольш сваім гневам Гасподзь пакарае Прагу. Агонь і вялікае навадненне пачнуць, а вораг знішчэнне завершыць. Яе развалiны зарастуць сасоннікам і глогам, куніцы і лісы будуць рыць тут свае норы. Славуты горад спусцее настолькі, што калі туды заедзе фурман на кані і спыніцца на каменным мосце, то бразне бізуном ад мёртвай цішыні і скажа свайму сыну:

– Тут быў вялікі горад Прага, а тут – старагарадская ратуша.

Пра тое, што да такога канца дойдзе і сумны той час настане, укажуць наступныя знакі: дні стануць кароткімі, сонца не будзе свяціць, як свяціла, адна зіма будзе горшая за другую, так што народ у кажухах будзе збіраць ураджай.

А як пачнуцца войны, то вырастуць настолькі падаткі, што людзі будуць не ў стане заплаціць. Уладарыць будзе тыран, які арыштамі і катаваннямі прымусіць народ закрычаць:

– Пан, мы аддалі вам усё, што мелі. Цяпер нічога не маем, усё вы ў нас забралі, а пакінулі нам столькі, каб мы сваімі дзецьмі нарэшце наеліся.

Але размова не зможа адбыцца, гаспадары і надалей будуць вымагаць без міласці падатак. Нарэшце народ заенчыць: "Паны, пабойцеся Бога, ад нас засталіся толькі мазалі. Мы не можам плаціць, бо нічога не маем". На гэта прыдворныя кінуць у астрогі шмат мужчын, і просты люд паўстане. Пачнецца крывавы бой, у якім будуць чуцца заклікі "Лепш памерці ў баі, чым прымусіць сваіх дзяцей паміраць з голаду".

Так пакарае Гасподзь паноў, якія прыгняталі сваіх падданых вялікімі падаткамі і цяжкаю працаю.

Калі гэтая краіна будзе ахоплена хваляваннямі, бунтамі і баямі, яе з усіх бакоў акружаць моцныя ворагі, якія адначасова з чатырох бакоў увойдуць на яе тэрыторыю. І пачнецца бітва абаронцаў з непрыяцелямі на ўсіх напрамках. Ад сталіцы крывавы след павядзе да гары Бланік, дзе армія стане паміж Бланікам і Начэрадцам каля вёскі Бейковіц. І тут бой пачнецца.

Перад гэтым вораг прыгоніць да Бланіка столькі бязбожнікаў, што мала людзей застанецца ў жывых, мабыць толькі тыя, што схаваюцца пад вазамі.

Дзе тая бітва будзе, пакажа сажалка. Перад боем палятуць ад яе буслы, а іншыя птушкі схаваюцца ў калючыя кусты і чарот, і за некалькі гадоў перад бланіцкім боем сажалка высахне і будзе пустою. А за час бітвы настолькі напоўніцца крывёю, што кроў за край будзе пераліваццa. Будуць чутны жудасныя крыкі і іржанне коней, гук бубнаў, а таксама гучная і менш гучная страляніна ды так, што ўсё гэта будзе чутно за дваццаць чатыры мілі. Бой будзе доўжыцца аж дванаццаць дзён. На трынаццаты дзень Бог пашле вернікам дапамогу: з гары Бланік выйдзе войска, якое Бог прыхаваў. А калі тое войска з'явіцца, нападзе страх на ворага і кінецца ён наўцёкі. Войска Бога будзе здзіўляць сваёй мужнасцю і перамогуць непрыяцеля, які, уцякаючы, настолькі знішчыць Прагу, што застанецца толькі памяць. Ворагаў пагоняць з краіны, і спыняцца яны толькі на рацэ Рэйн каля Коліна. Менавіта там знікне і бланіцкае войска, але куды будзе ведаць толькі Бог. Ніхто з ваяроў да Бланіка не вернецца і ніхто не будзе высвятляць іх лёс. Пасля бланіцкага бою зноў высахне тая сажалка, і праз шаснаццаць дзён пачнуць вяртацца вернікі, якія засталіся ў жывых. І будуць людзі радавацца, абдымацца і здзіўляцца, што Гасподзь іх збярог. Усе разам пойдуць да сажалкі, дзе жахнуцца, убачыўшы шмат забітага народу і коней; частку нябожчыкаў разнясуць птушкі, таму што не будзе хапаць людзей, якія б маглі мерцвякоў і падаль закапаць. Пасярод сажалкі каля пня ксёндз адслужыць імшу, і будзе грамада вернікаў славіць Бога.

Пасля кожны вернецца дахаты і будзе паміж людзьмі згода, любоў, усе будуць нібы адно сэрца: паны і звычайныя людзі. І будуць наступныя пяцьдзесят гадоў у Чэхіі добрымі і ўрадлівымі, і нарэшце ў каралеўстве ўсё стане танным: корац жыта – 7 грошаў, корац пшаніцы – 12 грошаў, старая

чэшская пінта піва будзе каштаваць крэйцар, а фунт мяса аленя – 2 крэйцары. Ва ўсім будзе дастатак і ўсюды мір і божае бласлаўленне".

Сібіла змоўкла. Саламон, зацікаўлены ведаць прароцтвы, хацеў, каб каралева яму растлумачыла, калі будзе судны дзень. Сібіла яму адказала:

– Кароль, я сказаць не магу, таму што Бог не паведаміў пра гэта сваім анёлам. Але адкажы мне, кароль: калі маеш слуг добрых і дрэнных, ці плаціш дрэннаму столькі, колькі добраму?

– Добрыя атрымаюць дабро, а дрэнныя будуць пакаранымі, – адказаў цар.

На гэта Сібіла сказала:

– Добра адказваеш, кароль. Калі людзі будуць рабіць дабро, то Гасподзь дапаможа. Калі будуць яго гневаць, то ўкароціць гады і дні, што ўстанавіў ад стварэння свету. Мне толькі вядома пра судны дзень тое, што будзе шмат знакаў і дзівосаў, шмат на сонцы і на месяцы, на небе і на зямлі, пакуль не прыйдзе Гасподзь. – Змоўкла і дадала: – Гэта маё прароцтва, о кароль Саламон! Складзі і захавай. Калі пройдуць стагоддзі, збудуцца мае словы і будучыя пакаленні пацвердзяць, што Сібіла не памылілася ў сваім прароцтве.

І кароль Саламон, мудры і вопытны, схіліўся перад маладой каралевай, якая стаяла перад ім на прыступках, пад тамарыскамі, кіпарысамі і алівамі ў Садзе Раскошы, і толькі веяў лагодны ветрык, чуліся цудоўныя пахі, пачынала днець.

## Каментарый

У вучэбны дапаможнік па чэшскай літаратуры XIX стагоддзя ўвайшлі творы, якія заклалі падмурак для развіцця нацыянальнага прыгожага пісьменства. Творы, перакладзеныя на беларускую мову, даюць уяўленне пра тэматычнае і жанравае багацце чэшскай літаратуры XIX стагоддзя, пра канкрэтныя этапы ў яе развіцці.

### Ёзаф Каетан Тыл

**Страконіцкі дудар (с. 11 )**

Пераклад зроблены па выданні: Josef Kajetan Tyl. Strakonický dudar aneb hody divých žen: narodni pohadka ve třech jednánich. Praha. Statni pedagogické nakladatelstvi. 1956/

### Карэл Ярамір Эрбэн

**Казкі (с. 56 )**

Пераклад казак зроблены па кнізе: Konzelné české pohadky Axióma. Praha, 2007.

### Бажэна Немцава

**Бабуля (раздзелы, с. 83 )**

Пераклад зроблены па выданні: Božena Némcová. Babička: obrazy venkovskeho života vydavá nakladatelství. Bystrov a synoví. Praha, 1995.

### Юліус Зэйер

**Тры легенды пра ўкрыжаванне (с. 114 )**

Пераклад зроблены па выданні: Julius Zeyer. Tři legendy o krugifixa.

### Алоіс Ірасек

**Даўнія чэшскія паданні (с. 157 )**

Пераклад зроблены па выданні: Alois Jirásek. Starí pověsti české. ALBATROS. Praha, 2003.

# Змест

